

# 5

МАЙ

МІНСК. 1973

ШТОМЕСЯЧНЫ ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ІЛЮСТРАВАНЫ
ЧАСОПІС



# МАЛАДОСЦЬ

ОРГАН ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТА ЛКСМБ І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ



Заснаваны ў 1953 годзе



Выдавецтва ЦК КП Беларусі

## У НУМАРЫ

Вокладка **В. Шрамякова.**

Шмуцтытулы **П. Драчова** (стар. 3) і **В. Баранава** (стар. 87).



# ПАЭЗІЯ

- Юрась СВІРКА
- Уладзімір КАРАТКЕВІЧ
- Рыгор БАРАДУЛІН



- Яўгенія МАЛЬЧЭЎСКАЯ
- Міхась РУДКОЎСКІ
- Андрэ МАРУА

# ПРОЗА





юрась свірка

*

ПАЭЗІЯ

*

## Лозунг веку

У бітвах незлічоных
Ён клікаў на змаганне.
Ён —
Воля Ільічова
І заклік да паўстання.

Ён,
Як вясна паводкай,
Пазносіў малавераў,
Каб не было ў зародку
Калоній і імперый.

Аголены,
Як праўда,
Прабіў ён часу коснасць,
Скіраваны у заўтра,
Нібы ракета ў космас.

З адсталасцю нязгодны,
Не ведае прынукі.
Павек ён будзе родны
І ўнукавым унукам.

Для іх ён, заклік, будзе,
Як песня, неабходны,
Пакуль патрэбны людзям
І зброя і паходні.

Шляхі ён вызначае
Галодным і пакутным.
Усе яго пазнаюць
Па зорцы пяцікутнай.

Па той,
З якой Кастрычнік
Да нас прыйшоў Чырвоны,
Якая гераічна
Вядзе у бой мільёны.

Усім ён ясна свеціць,
Як самы яркі розум.
Ці варта жыць на свеце,
Калі твой іншы лозунг?!

## Пасля салютаў Перамогі

Пісаць кляліся кожны дзень,
Як святкавалі Перамогу...
А пісьмы ўсё ішлі радзей,
Як да акружаных падмога.

І сталі пісьмы астываць,
Як адстраляныя патроны:
Адно і тое ўспамінаць —
Нібы стаяць у абароне.

І прападалі адрасы,—
Нібы рассеяны фугасам.
І фота грознай паласы
Пацягнуты туманам часу.

Відаць, даводзілася жыць
Не толькі славаю медаляў.
Былі другія рубяжы,
Іх, хоць не штурмам,
Але ж бралі.

І рэдка бачылі сваіх —
(Не ўсе сыходзяцца дарогі).
Былі ў іх мірныя баі
Пасля салютаў Перамогі...

Заўсёды ім успамінаць
Ваенныя былыя далі
І як нялёгка утрымаць
Вышыні, што заваявалі.

## Адчуванне вышыні

### ПЕРАД УЗЛЁТАМ

Да ўсяго прывыкнуць можна,
Да ўшчуванняў і авацый...
Як нязвыкла і трывожна
Ад зямлі мне адрывацца.

Самалёт устрапянуўся,
Аж узвыў перад узлётам.
Мне здалося, адпіхнуўся
Не з вялікаю ахвотай.

Можна ўсё жыццё пралётаць,
І пабачыць не паспееш,
Як цвіце вясною лотаць,
Як улетку бэры спеюць,

Як стагуюць людзі сена,
Як збіраюцца у сваты,
Як ідзе з работы змена,
Як румяняцца дзяўчаты...

Узлятаю над планетай
Толькі з думкамі аднымі:
Найвялікшыя паэты
Заставаліся зямнымі.

### У ПАЛЁЦЕ

Ад мяне зямля далёка,
На палосы ўся разбіта.
Пада мной вісяць аблокі,
Нібы выхлапы зенітак.

Можа, тут яны заснулі,
Цішыня іх паланіла.
І калі не з войн мінулых,
То з Айчыннай — палавіна.

І плывуць яны павольна,
Свой маршрут абралі самі,
Мне напомнілі бавоўну,
Што выцягваюць часальні.

А здалёк яны сінеюць,
Як арктычныя ільдзіны.
Там, няйначай, качанеюць
Мешкаватыя пінгвіны.

І зямля прапала недзе.
А з-за гурбаў, мне здаецца,
Выйдуць белыя мядзведзі,
Каб ляцець у Крым пагрэцца.

Каб у моры акунуцца,
Паглядзець яго бязмежжа
І да гурбаў зноў вярнуцца,
Дзе і холадна і снежна.

### ПРЫЗЯМЛЕННЕ

Мне не страшна прызямленне,
Не сціскаю рамяні.
Прызямленне — не падзенне,
Апусканне з вышыні.

Мне не страшна прызямліцца,
Здрыгануўшыся ледзь-ледзь.
Толькі б так не апусціцца,
Што не зможаш узляцець.

Адчуваць, што ты зямлянін
І яшчэ патрэбен ты
І някошанай паляне,
І працягу дабраты.

Так і цягне на збліжэнне,
Падзяліць з людзьмі бяду.
На такое прызямленне
Толькі з радасцю іду.



## Жывыя ручайкі

Хадзіў па лесе, слухаў цішыню,
Быў дзень такі засушлівы, гарачы.
Узгорак мне прыўзняў далечыню,
І я дзялянку светлую убачыў.

Тут бор шумеў.
Цяпер тут ціха так,
Аж крышыцца сасновая ігліца.
Мурашкі перацягваюць сушняк,
Прыходзіцца адсюль перасяліцца.

Паўзуць яны, чырвоныя значкі,
Туды,
Дзе елкі выпрамляюць хібы.
Лясной крыві жывыя ручайкі,
Бягуць з гары на новую сялібу.

## Свая песня

Песня
        раніцаю роснай,
Як дыханне, салаўю.
Нехта выдумаў, зайздроснік,
Што спявае не сваю.

Не ўзлятае ў паднябессе,
На шпакоўні не цвірчыць.
Пра сябе спявае песню,
Без якой не можа жыць.

Песня чуецца жывая,
Задушэўны, мяккі спеў.
Аднаму сабе спявае,
А, выходзіць, не сабе.

Я стаю ля песні блізка,
Гукі чыстыя лаўлю.
Сярод ціўкання і піску
Пець нялёгка салаўю.

Ён не ўмее голас песціць,
Сілы ведае свае:
Не абы-якую песню —
Салаўіную пяе!

## Дзе прадаюць жывёл і птушак

Не купляю калматых, чубатых
(Не ад сквапнасці так я раблю).
Ім хапіла б і корму і хаты,
Толькі ўсё ж я іх вольных люблю.

Ім туды б, дзе зацішны застрэшак.
Гнёзды самі, як хочуць, саўюць.
Без нашыйнікаў злосна не брэшуць,
І без клетак салоўкам пяюць.

Мне шкада іх зімою і ўлетку.
І па-свойму усіх я люблю —
Не саджаю нікога у клетку
І не цісну нікога ў пятлю.

■

Прыеду зблізку ці здалёк —
Іду к сястры, нікім не прошаны.
У хаце кожны ёй куток
З гадоў ваенных абгалошаны.

У сорак трэцім прывязла
З траншэі мужа нежывога.
І, плачучы, з сынком жыла,
Не выйшла замуж за другога.

Сын партызана...
Аддала
Усё яму, хоць ела поснае.
Як сцерагла! Не зберагла,
Як тое каліўца апошняе...

Там, дзе за вёскай жоўты схіл,
Дзе заімшэлае каменне,
Стаіць яна між дзвюх магіл
Сасной з падсечаным карэннем.

Якія дáлі перад ёй?
Куды пайсці і з кім параіцца —
З магілай першай ці другой?..
Маўчыць, хоць сэрца разрываецца...

## Імгненнае захапленне

Ты паглядзела на мяне,
І я, дзівак, падумаў,
Што тут любоў не абміне,
Бывай, душэўны суме.

Ты усміхнулася,
І я
Душой адчуў раптоўна,
Што ты мая, павек мая
Дарожная князёўна.

Ты засмяялася
(О страх!)
Твой смех любога спляжыць:
Я не адбіўся у вачах —
Не твой, напэўна, княжыч...

Вадзіцель, цісні на педаль,
Гані, гані аўтобус.
Няхай зямля ляціць удаль
І круціцца, як глобус.

Гані праз дождж,
Гані праз ноч.



Мінай мае няўдачы,
Каб гэтых губ,
Каб гэтых воч,
Пакуль жыву — не бачыць.

## Дзякуй!..

Было мне балюча, і крыўдна, і горка,
І ты узышла, нібы яркая зорка.
І стала паміж адзінотай і мной.
Нядоўга са мною вялася згаворка,
Яна захлынулася вернай слязой.

Дзякуй, што ты асвятляла мне ночы.
Дзякуй, што ты не адводзіла вочы
Ад крыўднай і страшнай бяды.
Дзякуй! Як вернасць, ты мне неаднойчы
Падносіла кубак гаючай вады.

Дзякуй табе адрасую за веру.
Яна, нібы водар пахучы аеру.
І сёння і заўтра патрэбна яна.
Яна пахіснула сцяну недаверу,
І паміж намі не ўстала сцяна.

Дзякуй за ласку, за слёзы, за словы.
Крыўднае ўсё адляцела паловай.
І я адчуваю, што зноўку жыву.
Спагады не трэба. Карай жа сурова,
Бяры, нібы водкуп, маю галаву.

Дзякуй...









*уладзімір караткевіч*

# ЛІСЦЕ КАШТАНАЎ

## АПОВЕСЦЬ

Мал. **Г. Бурачэўскага**

### I

Чалавек можа сказаць, што ён не любіць мора, сіняга, ласкавага, цёплага,— і яму не павераць. Чалавек можа сказаць, што ён не любіць светлай-светлай срэбнай поўні над цвітучым садам, у якім вішні купаюцца ў зеленаватым месячным святле, стаяць, як мары, як белыя прывіды — і з яго толькі пасмяюцца, падумаюць, што ён арыгінальнічае, асабліва калі ў кампаніі ёсць прыгожыя дзяўчаты. А я веру, калі такое здараецца, таму што...

...Нехта можа не паверыць мне, але я і сам не люблю адной з самых прыгожых з'яў на зямлі. Не люблю лістоты каштанаў. Жоўтай, асенняй, залацістай пад сонцам, лапчастай (а за ёй сіняе-сіняе неба залатой восені).

Прыгажэйшай за яе няма на зямлі. Вулкі ў залатых каштанах ныраюць то ўгору, то ўніз. Наводдаль цьмяна, як праз ваду, плавяцца ў няяркім сонцы залатыя купалы цэркваў. Лістота звініць, калі яе зграбаюць у купы, у якіх так добра куляцца дзецям і закаханым юнакам. Замілаванне такое, што глянь на ўсё гэта — і памры, бо сэрца разрываецца ад прыгажосці ўвядання.

І, адначасна, ад балеснай тугі, ад незваротнасці ўспамінаў, ад спозненых шкадаванняў, ад непапраўнасці, ад... нянавісці.

І няхай з гэтай прычыны ніхто не лічыць мяне дурнем. Не, не дурнем, а вар'ятам.

Пах, фарба, прадмет, пейзаж, ус-

памін накладаюць часам на наша жыццё такі цень, такую пячаць, наносяць нашай душы такі ўдар, што, напэўна, успамінаюцца пасля нават у хвіліну смерці.

Я насцярожана стаўлюся да татарнікаў. Здаецца, што можа быць прыгажэй: гордая моцная расліна ў малінавай шапцы, уся натапыраная дзідамі, калісьці сімвал нашай зямлі. Але я памятаю, як раслі яны на чыгуначным насыпе і як пасля налёту на эшалон чырванелі на іх кроплі крыві.

І я ніколі ў жыцці не завяду ў хаце вавёрку. Я люблю сядзець у загарадным доме і сачыць праз акно, як яна бегае ў заснежаных дрэвах — зыркі, жывы язычок агню,— люблю, калі яна раніцай цакоча і стукае ў шыбу (просіць арэхаў або проста хлеба), але — не завяду.

Калі я быў у «ястрабках», атрадах садзеяння міліцыі, якія дапамагалі ёй пасля вайны змагацца з бандамі, то ў нашым напаўдзіцячым атрадзе быў хлопец і ў яго была ручная вавёрка. Вечна ездзіла ў яго на плячы, забіралася спаць у кішэнь гімнасцёркі. Харошая была. Мы ўсе яе дужа любілі, падгадоўвалі.

А потым даведаліся, што рэшткі банды Боўбута прарываюцца на паўдзённы захад, на Палессе, і нас паставілі ў самае бяспечнае месца, ледзь не ў тыл, на ахову хлебных складаў — і хто ведаў, што Боўбут пойдзе гэтым, самым нязручным шляхам? Самым, здавалася, складаным для яго...

Некалькі гадзін страляніны. З усяго майго «аддзялення» засталося два чалавекі.

Дык вось, той ляжаў дагары, і трава пад галавою намокла і пацямнела, і вавёрка цакатала ў яго на грудзях. Куля трапіла яму ў рот (відаць крычаў нешта) і разнесла патыліцу. Калі хлопцаў хавалі, яна, вавёрка, таксама ўсё яшчэ сакатала на краі ямы.

Не, я ніколі не завяду сабе вавёрку.

Але гэта было годам-двума пазней, на паўночнай мяжы Палесся.

А тады, калі было лісце,— тады мы былі проста хлопцы, якія часам яшчэ гулялі ў вайну. Нам было яшчэ мала! А мы ж сербанулі яе, вайны, вышэй глоткі,— напалову падлеткі, напалову юнакі, у характары якіх часам прарываліся нават дзіцячыя рысы. Нам было па чатырнаццаць-пятнаццаць-шаснаццаць гадоў. І мы проста недагулялі ў галодным нашым дзяцінстве.

Пра іншых з нашай групы я раскажу пазней. Што ж датычыцца мяне, то мой лёс склаўся — у двух словах — так.

Эвакуіравацца не здолелі. Пайшлі ў пушчу. Бацька — партызанскі разведчык, я — партызанскі сувязны. Пазней, калі прыляцеў з Вялікай зямлі першы самалёт, чатырох дзяцей з нашага атрада вырашылі адправіць з ім, далей ад небяспекі. Я хацеў перасядзець у лесе — выдала сучка нашага «бацi». Адправілі сілком. Адзінае было суцяшэнне, што ніхто з гэтых дарослых, нават «бацьа», не бачыў, як прыгожа выглядае зверху лінія фронту, асабліва калі б'юць зенiткі.

Інтэрнат на Урале, некалькі беспаспяховых уцёкаў. Урэшце ўцёк зусім і некалькі месяцаў беспрытульнічаў. Краў, штопраўда, толькі ў чужых гарадах. Даходзіла да таго, што пасвіў у паўночным Казахстане вярблюдаў — хочаце верце, хочаце не. Дзівам адшукаў бацькоў (бацька быў дужа патрэбны спецыяліст, і яго перакінулі «на мацярык» адным з наступных рэйсаў).

Пасля былі вызвалены два невялікія лапікі Беларусі, і бацьку майго паслалі на вызваленую тэрыторыю, некуды пад Лёзна. Браць нас з сабою ён не хацеў і мы разумелі, чаму, па эзопаўскіх намёках у лістах: «Матылі лётаюць, ды толькі высока...»



Якраз у гэты момант праязджаў праз наш горад мой дзядзька, якога перавялі з Далёкага Усходу на фронт, і ўзяў нас з сабою ў вялікі паўдзённы горад, ад якога немцы адкаціліся куды далей, чым ад Лёзна.

Дык вось гэты вялікі паўдзённы горад быў Кіеў.

Там у вялізным прасторным двары знайшлася кінутая хата, флігель, што ўвесь патанаў у зарасцях бэзу. Было пэўна вядома, што гаспадары загінулі. І мы занялі флігель. І сталі жыць.

Горад быў не той, што зараз, багаты, людны, звонкі ад галасоў і смеху, ад шолахаў фантанаў і гулу машын, а ціхі, нібы прыглушаны, нібы ледзь ачухаўся ад страшнага сну, зразумеў, што ўсё мінула, і пацягнуўся насустрач сонцу, але яшчэ не смяецца, бо не можа да канца паверыць у радасць, і толькі нясмелай, харошай усмешкай сустракае неба і сінь Дняпра, і цвіценне белай акацыі.

Рэдка-рэдка сустракаліся на вуліцах людзі: можна было прайсці вулачку і не сустрэць ніводнага прахожага. Тры разы на дзень праходзіў былым Бібікаўскім, а цяпер Шаўчэнкаўскім бульварам трамвай. Дацвітаў язмін, і перад трамваем узляталі белыя матылі.

Разбурэнні віднеліся галоўным чынам на Хрышчацiку і на тых частках іншых вуліц, што прыляглі да яго. Нібы вялікая рака ў страшэнным разліве панішчыла не толькі свае берагі, але і берагі ў вусцях тых рэк, што ўпадалі ў яе.

Гэта было лета поўнай, нічым не закаламучанай волі. Такога не здаралася ў мяне ні дагэтуль, ні пасля, і, відаць, ніколі не будзе. Гароду мы не мелі — позна прыехалі, і позна было заводзіць. Дзядзька паехаў на фронт. Хатнім было не да мяне. Нечага было нават рыхтавацца да вучобы: Беларусь вызвалялася, і восенню мы меліся ехаць туды.

Заставалася толькі біць лынды, што я і пачаў рабіць з пераменным поспехам, падлетак, якому быў аддадзены на гэта лета свабодны, амаль увесь пусты горад.

Вулка над вулкай — можна з тратуара ступіць на дах дома,— вузкія жалезныя сходы вядуць з верхняй на ніжнюю, а ў дворыках цвіце акацыя, надзімаецца на ветры латаная бялізна, варыцца на цаглінах убогі абед.

Паўсюль сляды нядаўняга страшнага сну. Вось на доме, адзін над адным, шэсць масіўных тоўстых квадратаў шакаладнага колеру. На кожным літара, таксама масіўная, белая.

К-а-ľ-ľ-е-е.

Пазней лацінскія літары збілі, тым болей, што і кавы ў горадзе днём з агнём было не знайсці. І цяпер шыльда гаварыла па-украінску «Х-л-і-б», а два шакаладныя квадраты віселі дарэмна, так сабе.

Дужа хацелася хлеба. Урэшце, і яго ў горадзе было не на шмат болей за каву.

За горад я не дужа хадзіў. Там было яшчэ шмат мін. Амаль кожны дзень можна было чуць: «У Галасіеўскім лесе, у Бучы, у Пушчы-Вадзіцы, на Цялічцы падарваліся адзін... два... пяць... сем чалавек».

Хапала і горада. Я адчуваў сябе шчаслівым. І толькі зрэдку — хаця я і не асабліва пакутаваў гэтым — рабілася сумна, што няма ў мяне таварыства. Але равеснікаў не было. Падлеткаў увогуле было мала ў толькі што вызваленым горадзе.

Наш двор быў вялізны — цяпер на яго месцы два шматпавярховыя будынкі з садкамі вакол іх,— досыць шчыльна абкружаны чатырох-пяці-двухпавярховымі дамамі, цаглянымі і драўлянымі флігелямі. Але гэта толькі здавалася, што вакол — муры. Садкамі, памыйкамі,

сям-там цераз платы, можна было выйсці на кожную з навакольных вуліц.

Адна палова двара — уздоўж — была значна вышэйшая за другую. Узгорак, што яднаў адну з другой, то стромы, то спадзісты, зарос дзікімі вішнямі, рэдкімі абламанымі акацыямі, нейкімі іншымі хмызамі і травамі і паслёнам, які на Паволжы і ў Аранбургу, з якога я прыехаў, вельмі недасціпна называюць бзнікай.

І вось калі аднойчы я ішоў пад адхонам, аднекуль зверху, з-за стромы, вылецела страла і, слабая пры канцы лёту, упала ў пыл ля маіх ног. Я падняў яе. Страла была хоць куды: пярэстая, крыж-накрыж апераная, перацягнутая ў гэтым месцы жылкай... Амаль адразу наверсе зашапацеў бур'ян.

— Гэй, аддай стралу!

Я ўзняў галаву. Над урвішчам на кукішках сядзелі тры — аж тры! — хлопцы майго ўзросту. Гаварыў адзін, моцны, досыць высокі, з круглай галавой. Усмешка ў яго была белазубая і прыгожая, вочы — пераспелыя чорныя вішні. Калі яны мокрыя і ў іх іскрачкамі адбіваюцца то акно, то лямпа, то проста прамень.

— На,— кінуў я яму стралу.— Толькі ж вочы трэба мець, хлопцы. Куды пуляеце?

Другі, танклявы і цыбаты, дужа ладны тонкім інтэлігентным абліччам, з сінімі вачыма і тонкім, са згорбінкай, носам, сказаў круглагаловаму:

— Я ж казаў, Ролік, каб глядзелі. А раптам — даросламу ў галаву? Міліцыянеру?

Трэці, цельпукаваты і каржакаваты, з тых, каго нават у дзяцінстве завуць «мужыкамі», «дзядзькамі» і «старымі» — ён-та і трымаў у руках доўгі, з яго велічынёю, лук,— паглядзеў на мяне невялічкімі дрымучымі вочкамі. Сказаў басам:

— Міліцыянеру? — І пацісnуў плячыма.— У галаву?

— Калі, скажам, дзіцёнку,— сказаў я,— дык, значыць, можна ў галаву, галовы яловыя?

— Ну, занадта разумны,— прабасіў мужычок.— Лезь сюды.

Я палез на строму, з карэннямі выдзіраючы бур'ян.

Калі нарэшце, увесь абсыпаны пылам і калючкамі, я ўскараскаўся наверх, сеў і, зняўшы тапачкі, пачаў высыпаць з іх пясок, круглагаловы Ролік спытаўся:

— Адкуль такі? Нешта мы цябе не бачылі.

— Не з вуліцы Чкалава? Не з яўбаза? — спытаўся гожы.

— Што такое?

— Яўбаз. Яўрэйскі базар... Ясна, не адтуль,— сказаў «мужычок».

— Не з Падвальнай? — пытаўся Круглая Галава.— Не з Фундуклееўскай?

Ведаў я гэтыя конікі: спецыяльна называюць вуліцы старымі назвамі, каб дазнацца, карэнны ты або так, збоку-прыпёку, з дзесятага ветру. Сам колькі разоў так рабіў.

А яны, відаць, хацелі выпытаць яшчэ, ці не з другога я канца горада, ці быў тут калі...

— Не з Банкаўскай? А што, на былой Адольфгітлерштрасе таблічкі паўсюль ужо збілі?

— Кіньце, хлопцы,— сказаў Ролік,— ясна, нетутэйшы. Адкуль?

— Я з гэтага двара.

Хлопцы пераглянуліся. Гэта ўжо была як бы іншая справа. Я нібыта рабіўся прыналежным да іхняга двара, сваім.



— А-а, новенькі,— сказаў «інтэлігент».— Гэта не таго палкоўніка, які тыдзень таму назад прыехаў?

— Угм... Пляменнік.

— А ён куды адразу з'ехаў? Ён хто?

— На фронт. Ён начштаба пэўнага роду войск аднаго з франтоў. У вачах новых знаёмых нарадзіўся цень павагі.

— Фф-ю-у. Якога? — спытаўся Ролік.

— Зашмат ведаць хочаш. Гэтага казаць нельга.

— Ваенная тайна? Задавака,— сказаў прыгожы і ўстаў.

— Кінь яго, Жэнька,— сказаў «гожаму інтэлігенту» Ролік.— Кінь яго, Багдане. Не хоча — не трэба.

І тут раптоўна для мяне засакатаў з бур'яноў паўдзённай гаворкай галасок дзеўчаняці:

— А я вось і ведаю. Яката іхнім суседзям прыносіла. «Мышы, кажуць, заелі».

— Дык ты гэта і ведаеш? — з пагардай спытаўся «мужычок» Багдан.

— Не,— азваўся галасок з бур'яна,— я, як прыносіла, чула. Веставы ягонага дзядзькі, татарын, ці бурат, ці алтаец... Патракоў прозвішча...

— Не тарахці,— сказаў Ролік.— Дзела кажы.

— Казаў... Першага Беларускага фронту.

Хлопцы зарагаталі.

— Ну вось,— адсмяяўшыся, сказаў Ролік,— ...ваенная тайна. Адкуль?

— Беларус.

— Браты ёсць?

— Былі. Многа. І родных, і стрыечных, і ўсялякіх. Па чутках, мала хто застаўся.

— Фашыстаў ненавідзіш?

— Пытаешся яшчэ.

— На фронт уцякаў?

— Два разы. Адзін раз — у сорак другім яшчэ, вярнулі аж з-пад самага Мажайска.

— Я таксама,— уздыхнуў Ролік,— тожа мне яшчэ, выабражалы, лішнія рукі ім не патрэбныя. Як быццам мы горшыя. Ідуць — хвігай носа не дастанеш. А ў нас толькі ўсяго і няшчасця, што гадоў не дабралі.

Ён у час выказаў свае пачуцці і выліў горкую сваю крыўду. Таму што мне пачалі ўжо брыднуць гэтыя пытанні і адказы. Як на допыце ў міліцыі. А я гэтых допытаў за гады беспрытульных бадзянняў меў болей, чым ён лупцовак ад бацькоў.

— Цябе як клікаць? — спытаўся круглагаловы.

— Васілька Стасевіч,— адказаў я.

— Ну вось. А я Раланд Дзмітрэнка. Па-украінску хаця разумееш?

— А чаго тут не разумець?

— Гарна. А оцэ мая гвардыя. Гэты, з лукам, палтаўскі.

— Багдан Цар,— назваўся «мужычок».

— А гэта наш ідэолаг. Бацька мой за Махном ганяўся, то казаў, што ў таго ціла тачанка була з ідэолагамі. Вось і мы яму завядзем. Жэнька, адрэкамендавацца паслу дружняй дзяржавы.

— Яўген Кульба,— ляснуў босымі пяткамі прыгожы.

Пяткі былі хаця і босыя, але не парэпаныя, белыя. Відаць, хадзіць босым — гэта было нешта накшталт уніформы на час гульні.

І тут я здзівіўся яшчэ больш. З зарасцяў выбралася, нават скочы-

ла, як тыгр, бо «джунглі» на добрую чвэрць складаліся з крапівы, дзяўчо гадоў пятнаццаці. Схілілася, пачухваючы вельмі доўгія, падрапаныя ногі шакаладнага колеру, пасля пацерла каленам аб калена, ускінула галаву — чорна-бурыя валасы цяжкай хваляй шыбанулі назад — і ўсміхнулася мне, і я ўбачыў цёмна-сінія вочы з ненатуральна велічэзнымі, вясёлымі чорнымі зрэнкамі.

— Здароў, хлопцы, здароў, новенькі! А божа ж мой, белы які! Ну, белы які...

— Зноў ты тут,— з прыхаванай пагрозай сказаў Багдан.— Зноў чэпішся.

— І не да цябе. І зусім-зусім не да цябе. Мне унь на гэтага, пляменніка, зблізу паглядзець хочацца. А месца ты тут не купіў, не купіў, кажу.

Багдан цяжка ўздыхнуў. Хлопцы паціснулі плячыма, нібы пакрыліся лёсу. А яна села насупраць мяне, абхапіла падрапанымі рукамі падрапаныя калені і стала бессаромна разглядаць, схіляючы галаву то на адзін бок, то на другі. Засталася, відаць, збольшага задаволеная.

— Я Нонка Юніцкая.

Калі Ролік і Багдан гаварылі на гарадской украінскай, а Жэнька — на рускай мове, хоць і з прыкметным украінскім акцэнтам, то ў гэтай быў той паўднёвы жаргон, на якім гамоняць вялікія чарнаморскія партовыя гарады. Я не маю ні сілы, ні ўмення, ні, шчыра кажучы, жадання перадаваць усе гэтыя тропы, ідыёмы, усю безліч жывых інтанацый. Ды гэта і немагчыма, таму што больш за словы гралі тут жэсты, міміка, рухі ўсяго цела. Гэта было жах як «па-малдаванску», жах як прыгожа.

Дый тып яе, калі разабрацца, быў дзіўны. Тут табе і ўкраінская, і малдаўская, а, можа, і кропля цыганскай крыві. (Я пераканаўся ў гэтым, калі пазней убачыў, як яна танцавала).

— Гэты самы, замучыў ён цябе пытаннямі,— сказала яна. І з чыста дзявочай логікай адразу ж спыталася: — Біцца ўмееш?

— Нонка,— пагрозліва ўзвысіў голас Раланд.— Глядзі-і! Хто тут атаман?

— Хе! Тэж мне, Раланд — атаманд...

— Цыц! — Ролік ліхаманкава стараўся ўтрымаць у руках свой скіпетр.— Тут я пытаюся. Страляць, бегаць умееш?

— Угм.

— Плаваць?

— Збольшага.

— То ходімо на Дніпро,— Ролік устаў, пакінуўшы, такім чынам, апошняе слова за сабой.

## II

Мы ішлі вуліцамі пустога горада, і рэдкія прахожыя здзіўлена глядзелі на нас: цуд боскі, такая вялікая група падлеткаў. Мусіць, так, са здзіўленнем і лёгкім пабойваннем, глядзелі мірныя жыхары Парыжа на вясёлых мушкецёраў, якія вярталіся з начной папойкі.

Усю гэтую мушкецёрскую баладу псавала толькі Нонка. Ніхто, вядома, і не падумаў узяць яе з сабою, але ніхто і не падумаў забараніць цягнуцца за намі. Гонару зашмат — звяртаць увагу на дзяўчо. І вось яна цягнулася за намі кроках у дзесяці і насвіствала нешта «старарэжымнае», накшталт: «Алёша, ша! Возьми полтоном ниже...»



Мяне заўсёды здзіўляла, адкуль Чарлі Чаплін узяў гэты матыў, каб на яго аснове стварыць музыку для сваіх «Агнёў вялікага горада»? Можа, ад нейкага п'янага марачка-адэсіта ў партовым шынку?

Мы не звярталі на Нонку ўвагі. Ролік усё яшчэ быў ва ўладзе сваіх цяжкіх думак:

— На фронт цяпер трапіць — і думаць няма чаго. Зловяць, адправяць назад пад цёплы радзінны дах. Гэта яны ўмеюць...

— Так,— сказаў я,— абклалі, як мядзведзяў. Выйсця, бадай-што, і няма.

— Чаму няма? — загадкава ўсміхнуўся Ролік.— Як пашукаць, то заўсёды яго знойдзеш, выйсце.

І раптам кінуў:

— Варочай, хлопцы, на Уладзімірскую. Пройдзем паўз універсітэт.— І толькі тут нібы заўважыў Нонку.— Чаго ты цягнешся? Чаго цягнешся, кажу?

— А я не з вамі, сокіл ты мій,— Нонка ўсміхнулася краёчкам рота, паказаўшы некалькі снежных зубоў.— Я гуляю. Вуліца не твая. Куды хачу — туды іду.

Багдан шумна ўздыхнуў:

— Такая ўрэдная, зараза. Вось спаймаю неяк.

Нонка, відаць, слухала. Таму што амаль адразу пачала нешта ціха мармытаць, прыстукваць падэшвамі сандаляў, а потым перайшла на лёгкую, вельмі спрытную чачотку:

Ох, яблучко,  
Та з Гапонії,—  
Дівкі з нашого двора,  
Як півонії.

— Тожа мне півоня,— буркнуў Багдан.— Пустазелле ты. Піво-о-оня!

— А нягож!

— Ды кінь ты яе, хай хваліцца,— сказаў Жэнька.

Ох, яблучко,  
Та з Гамерики,—  
Хлопці з нашого двора,  
Як вареники.

І растлумачыла:

— Такія тоўстыя, лянівыя, белыя, бы ў смятане.

— Ой, вушы надзяру,— сказаў Ролік.

— А ты спачатку дагані.

Я ачухацца не паспеў, як Ролік нечакана вертануўся і кінуўся на гэтае злашкоднае стварэнне. Гэта было так нечакана, так бліскавічна, што я раз і назаўсёды зразумеў, якая імгненная рэакцыя, які імпэт тояцца ў гэтым нязграбным на выгляд целе.

Ён ужо выцягнуў руку, каб схапіць, але Нонка таксама крутанулася, выслізнула, і тут яе нібы з цецівы пусцілі: ляцела стралой, велізарнымі скачкамі, закінуўшы галаву, выпнуўшы ледзь абазначаныя грудзі. Шакаладныя ногі мільгалі з такой хуткасцю, што рухі іхнія, здавалася, цяжка было заўважыць. І хаця Раланд таксама бег так, як рэдка бегаюць хлопцы,— амаль адразу стала ясна, што гэтую казу яму не дагнаць. Урэшце ён гучна затупаў нагамі на месцы і пайшоў назад.

— Чорта яе дагоніш,— прысаромлена сказаў ён.— Ляціць, як ку-

ля. І на Падвальную адна ходзіць, і на яўбаз. Не баіцца. І ніводнаму з тамтэйшых хлопцаў яе ані разу спаймаць не ўдалося.

...У густых шатах каштанаў стаяў пахмуры бронзавы Тарас і глядзеў на чырвоную каробку ўніверсітэта. Толькі каробка ад яго і засталася. Агонь злізаў месцамі новую, даваенную фарбу, і з-пад яе праступала старая, якой Мікалай І калісьці загадаў пафарбаваць універсітэт «за мяцежны дух»: яскрава-чырвоная, нібы мокрая, сапраўды, як кроў.

Праз пустыя вачніцы вакон мірна і ласкава ззяла сіняе неба канца ліпеня.

Дзверы, правал дзвярэй, і вокны ніжняга паверху былі густа заплецены калючым дротам.

— Мы сюды прыйдзем міны шукаць. І бомбы,— сказаў Ролік.— Яны ўжо такія, без стабілізатараў, без усяго. Але корпус і іншае ёсць. Мы выбухоўку выплавім у кіпені, сфармуем, запалы ёсць. Мы ім уначы, каб ахвяр не было, учынім лазню... Яны, гады, на нашым участку схілу сабе штаб-пячору выкапалі. Вартавыя ўвесь дзень стаяць.

А тут мы пачулі ззаду тупат. Азірнуліся і ўбачылі Нонку, якая ва ўсе лапаткі лупіла ў бок бульвара. Пасля да нас даляцеў скрыгат, дробны звон, нейкае брынчанне.

— Трамвай! — крыкнуў Жэнька.— Во пашанцавала!

Мы прыўдарылі за Нонкай. Сапраўды, злева, страшна гайдаючыся, калоцячыся дробнымі дрыжыкамі, падыходзіў брынклівы, аблуплены трамвай. Нонка ўжо стаяла ў тамбуры і прадавала нам зубы.

Мы беглі за трамваем, даганяючы яго, хапаліся за поручні, набіралі хуткасць і скакалі на падножку. Апошняму, Багдану, давялося памагаць, падцягваючы яго за каўнер.

Трамвай гайдала так, што брала дзіва, як ён не зляціць з рэек. Мы крыху адсапліся.

— Хто пячору выкапаў? — спытаўся я.

Ролік хмыкнуў.

— А чаму мы пыталіся, з якой ты вуліцы? — насмешліва спытаўся Жэнька.— Тут навокал усе нам ворагі. І з Падвальнай, і з Пірагоўскай, і з яўбаза. Мы тут адны. Як гусіты. С у п р а ц ь  у с і х.

— Культурна,— сказаў я.— І часта яны вам у косці даюць?

— Чаму? — прабасіў Багдан.— Мы часцей.

— Іх жа шмат. Столькі вуліц.

У Роліка быў крыху заклапочаны выгляд:

— Нас шэсць было. Іх дзесяць. Цяпер двух бацькі з Кіева звезлі. Адзін у бальніцы. Крыху-крыху падарваўся. Ну, трох супраць дзесяцёх — малавата. Яшчэ завербаваць аднекуль трэба. Хоць пару. Ваенны тэрмін: «роўныя сілы».

Трамвай набліжаўся да Храшчаціка, які ў гэтым месцы не быў разбураны. Нонка стаяла ля пярэдніх дзвярэй. Яна, дый усе мы і не падумалі браць білеты. У нас проста не было грошай, але мы рабілі выгляд, што грэбуем такой умоўнасцю, як білет. Кандуктары даўно і безнадзейна змірыліся з гэтым. А можа ім проста было прыемна, што вось і падлеткі ў горадзе з'явіліся, што горад ажывае.

— Слухайце, хлопцы,— сказаў раптам Жэнька,— ёсць прапазіцыя, як спаймаць тую выжлачку. Прабіваемся наперад, і як пачнуць выходзіць, у штурханіне ўзяць пад руку, скандаліць у тлуме не будзе. А як выйдзем — тут ужо яна наша.

Мы з абыякавымі мінамі пачалі праціскацца наперад. Трамвай замаруджваў свой бег: закалаціліся, зазвінелі ацалелыя шыбы. Унутрана мы трыумфавалі. Ну і дамо мы зараз ёй дыхту. Не балюча, а так, каб ведала, як смяяцца з вышэйшай пароды.



Угу, так яна нам і далася!

Трамвай яшчэ ляцеў ваўсю, але яна, відаць, заўважыла наш дэмарш, спакойна адсунула дзверы, узялася за парэнчу і, спінаю назад, як хлопец, як сапраўдны ас гэтай справы, скочыла на брук. Прабегла метраў дзесяць і, па крывой, выскачыла на тратуар, адкуль і паказала нам ружовы язык.

Нас пранесла ўжо метраў на трыццаць, і скакаць цяпер не было сэнсу. Усё адно не дагоніш. А Нонка кінулася бегчы, каб не адстаць ад трамвая, не згубіць нас з вачэй.

— Во чорт! — бурчэў Багдан.— Во, халера! Змяюка гэткая!

— Так,— сказаў Ролік.— Што ні кажыце, хлопцы, а нешта ў гэтай заразіне ёсць. Хаця і дзяўчо.

Мы вылезлі — Нонка была па-ранейшаму метрах у трыццаці ад нас.

І тут здарылася тое, чаго я ні дагэтуль і ні пасля не дазваляў сабе. Стараўся, ва ўсякім разе, рабіць тое, што зрабіў тады, але не такімі метадамі.

На рагу бульвара і Храшчаціка — я яшчэ здалёк, носам учуў гэта — быў хлебны магазін. Цёплы, добры, самы прыемны на свеце пах гарачага свежага хлеба ляцеў адтуль. Пахнула спелай нівай пад сонцам, млынам, калі з-пад жорнаў зграбаюць гусіным крылом у мяхі рэшткі мукі, боханамі, што астываюць пад ручнікамі,— і так прыемна падлезці пад ручнік і адкалупнуць збоку шорсткую гарачую скарынку, якая драпае дзясны, або і адрэзаць скібку, пасаліць яе шэрай, буйнай сырой соллю, што храбусціць на зубах. І з'есці.

Нам па картачках належала чатырыста грамаў хлеба на дзень. Гэта было мала, дужа мала. І ўсё ж ніхто з гэтай прычыны не ныў. Ведалі: даць болей проста немагчыма, калі хочам дабіць гэтую нянавісную брыду, давесці справу да сапраўднага канца.

Але тут здарылася тое, што абразіла нас, падлеткаў, да глыбіні душы. Дарослыя, праходзячы, усміхаліся або паціскалі плячыма, а мы стаялі, як саляныя слупы, уражаныя, пакрыўджаныя. З нас нібы насмяяліся, абняславілі, зганьбавалі. І галоўнае, не толькі з нас, а і з усіх гэтых нясытых людзей, якія мужна, аддана рабілі сваю справу і не скардзіліся. Паабапал дзвярэй віселі дзве вялізныя рэкламы на шкле. На абедзвюх былі тоўстыя румяныя пекары ў белых халатах і каўпаках. Яны прытанцоўвалі, і раты іхнія былі расцягнуты ў ідыёцкай усмешцы, а на расстаўленых пальцах правай рукі яны неслі падносы з пляцёнкамі, рагалікамі, плюшкамі, франзолямі, батонамі і іншым. А пад пекарамі было напісана:

«Качество хал выше похвал».

І яшчэ:

«Пополнеть скорее чтобы, надо есть побольше сдобы».

— Т-так.

Я зірнуў на Роліка і ўбачыў, што ў таго дрыжаць ноздры.

— С-свалата!

У руцэ ягонай я заўважыў досыць вялікі ўламак цагліны. І тады я, сам не ведаючы нашто, нахіліўся і падабраў другі.

— Ты ў левую,— праз зубы сказаў Дзмітрэнка.

...Дзынкнула, пасыпалася на тратуар шкло. Сівы мужчына на пратэзе кінуў погляд у наш бок і ўбачыў, як мы схаваліся ў бліжэйшым пад'ездзе.




З дзвярэй магазіна выбег дзядзька, падобны на пекараў. Кінуўся да сівога, нешта загаварыў, зажэстыкуляваў.

— Выдасць зараз,— сказаў Жэнька.— Цікаемо, хлопцы.

І тут чалавек... паказаў рукою на праспект і павёў ёю направа.

«Пекар» кінуўся туды, а дзядзька накіраваўся проста да нашага сховішча. Дыбаў, як жораў. Стаў, углядаючыся ў паўцемру:

— Гэй, шалапуты, вісусы, вылазь!

— А што мы? — забубнеў Багдан.

— Канчай,— сказаў Ролік,— мы, мы. Ясна, што мы.

І выйшаў на святло.

Сівы доўга разглядаў яго, нават узяў за патыліцу, закінуў галаву і паглядзеў у вочы. Потым пасварыўся пальцам і раптам... усміхнуўся:

— Ну што, наваявалі? Майно дзяржаўнае пабілі, бандзюкі.— Закурыў.— А ўвогуле нішто. Толькі, хлопцы, гэта ўсё ж не метад. Словам трэба, дзеяннем дурасць біць. Маладыя вы, нецярплівыя. Ну, бяжыце сабе.

Мы пабеглі. І толькі калі ўскочылі ў руіны, зразумелі, што магло з намі здарыцца.

— А ты... малайчына,— буркнуў Багдан.

— А я ж казаў, хлопцы, што рашучы,— загарэўся Жэнька.— Чаго б ён да нас на адхон лез? Маглі ж бы і карак натаўчы ўтрох. А камень як схапіў!..

— Камень я схапіў па дурасці. Гэта не работа. А ты чаго так азвярэў, Раланд?

І пашкадаваў, што спытаўся. Вочы новага сябра, чорныя, бліскучыя вочы, былі каламутна-шызыя ад ярасці. Нібы дымка засцілала іх. Такая, якая бывае на чорным вінаградзе.

— Хлусню ненавіджу! — выціснуў ён.— Калі брэшуць — ненавіджу.

— А яшчэ чаго ты ненавідзіш? — іранічна спытаўся Багдан.

— Несправядлівасць ненавіджу,— хлопца нібы крыху адпусціла, і нечакана ён усміхнуўся ранейшай, добрай, белазубай усмешкай.— Хопіць ужо. Занадта хлеб добра пахнуў. І людзі ідуць і глядзяць. Не, хлопцы, гэта мы добра зрабілі. А і сапраўды, пад'есці б чаго.

— Съешьте эти тартинки, мистер Дмитренко,— сказаў Кульба.— И выпейте стакан этого доброго старого кларета. Это подкрепит ваши силы.

Мы зарагаталі.

— Кларэт кларэтам, а падмацавацца б трэба,— сказаў Багдан.

— Стоп! — узняў руку Ролік.— У руіны, хлопцы.

Праз нейкую хвіліну мы сядзелі ў былым двары разнесенага ўдруз дома. Двор увесь зарос вялізным, у паўтара чалавечых росту, лопухам, які даўно пайшоў у сцябло. На вяршынях сцяблін вожыкамі прымасціліся дзяды, якія так зручна ляпіць знаёмым у спіны, здаравенныя дзяды, з малінавымі шапачкамі.

Мы лупілі гэтыя ствалы з самага нізу, здзіралі з іх скуру і агалялі белую пругкую мякаць.

— Гэх, солі б,— уздыхнуў Жэнька.— Каб яшчэ соль, дык гэта ўвогуле было б поэзі. Наслаждзец суцэльны.

Ролік выцягнуў з-пад сто разоў мытай футболкі бруднаваты вузельчык.

— Знойдзем і соль.

Праз хвіліну мы мачалі лопухавыя сцябліны ў буйную соль і аплятаі так, што за вушамі пішчэла.

— Эх, каб гэта яшчэ хлеба,— уздыхнуў Багдан.

— Распанеў! — пырснуў Жэнька.— А мо вашамосць з'ела б труфеляў з анчоўсамі?

— Ну вось,— сказаў урэшце Ролік.— А цяпер дэсерт. Той, што за гумном.

Вылезлі мы з руінаў толькі тады, калі напалову абдзерлі шаўковіцу, якая расла тут жа, у закутку між муроў, што зберагліся дзівам. Раты ў нас былі чорныя, але не так ужо смактала ў жываце.

— Набарабаніліся,— залупіўшы футболку і ляскаючы сябе па загарэлым пузе, сказаў Ролік.— Ну, цяпер і ў дарогу можна. I ведаеце, якую мы яшчэ даброту атрымалі? Га?

— Нонкі няма! — з захапленнем гікнуў Жэнька.

— То ж бо! Як да камянёў, так іхняга племя з сабакамі не знойдзеш.

Мы падышлі да трамвайных рэек. Пасярэдзіне Хрэшчаціка была ачышчана вузкая палоска дарогі, амаль сцежка. I на рэйках стаяў куртаты трамвайчык, «запрэжаны» ў платформу. Платформа была загружаная бітай цэглай, брыламі гэтай самай цэглы і крыгамі бетону, з якога змеямі тырчала іржавая пакручаная арматура.

— Хлопцы,— сказаў Дзмітрэнка,— як толькі зазвоніць — чапляйся. Чаго нам аж да плошчы Калініна пеша тупаць?

...Трамвай крануўся з месца. I паплылі, паплылі, паплылі перад намі віды, адзін жахлівей за другі.

Дамы, падобныя да выветраных скалаў у пустэльні, страшныя, нямыя, як пачварныя старажытныя замкі. Бетонныя брылы хістаюцца на арматуры, ледзь наляціць вецер. Патокі друзу, жвіру і пяску сплываюць між іх. Дамы, разбітыя ўшчэнт, і дамы, разрэзаныя, як пірог, і таму яшчэ больш страшныя, з рэшткамі шпалераў на сценах, з перакінутым разбітым раялем. Дамы, яшчэ зусім нядаўна жывыя і цёплыя, а цяпер — мёртвыя шкілеты былога дабрабыту, радасці, любові да дзяцей.

Мы маўчалі. Нам было кепска, як ніколі.

— А кандзіцерскую на тым рагу памятаеш? — спытаўся Жэнька.— Дзве трубачкі і вады з сіропам колькі хочаш: і апельсінавай, і яблычнай, і...

— Змоўч,— глухім голасам сказаў Ролік.— Тут жыць болей немагчыма. Не таму, што немагчыма, а... з сораму потым здохнеш, вось што. I калі сорам гэты ў нас яшчэ не зусім прапаў, то чым хутчэй мы задуманае зробім, тым лепей.

Памаўчаў.

— Наконт шаўковіцы. Трэба і яе набраць ды насушыць у запас. На лопухах не выедзеш. У лаўры, ля падземнага ходу, яе — гай! Дарослыя туды не лазяць. А мужыкоў нашага ўзросту там, відаць, чорт ма! На даху сушыць будзем.

— Нішто прыдумка,— буркнуў Багдан.

Платформа раптам спынілася, і не паспелі мы спахапіцца, як над яе краем з'явілася, нібы выплыла поўня, круглае чырвонае аблічча з рудымі запарожскімі вусамі.

— Т-та-ак,— сказала поўня.— А я вязу дый думаю — а хто гэта ў мяне, а што гэта за вераб'і на платформе цывікаюць? Аж гэта паны ракфелеры надбалі ўласны трамвай. Міла. Ну і куды паедзем? На звалку, куды я гэты друз адвожу? Або проста ў КПЗ?

Мы злезлі з платформы і пачалі пераступаць з нагі на нагу.

— Гм... Чаго вы топчацеся? Чаго? Вы што, мядзведзі ў клетцы? Я ж чалавечай мовай кажу: надбалі трамвай, то куды везці?



Першы акрыяў Жэнька. Ступіў крок наперад і гжэчна пакланіўся:

— Прабачце, мілорд. Але не біць жа нам пяты па такім дрэнным бруку? Ну, мы і скарысталіся гэтай карэтай, якая дзяржаўная, а, значыць, і наша.

Важаты літаральна анямеў ад гэтага нахабства.

— Вы... Вы... Акыш!

Невядома, чым бы ўсё гэта скончылася, але тут з-за брылы скочыла даўганогая запыленая істота, крутнулася пад рукамі важатага, прабегла паўз нас і спынілася на бяспечнай адлегласці.

— Божа! — толькі і сказалі ў адзін голас важаты і Ролік.— Божа!

— Што ж вы думаеце, я не ведала, як вы дабірацімецеся? — хіхікнула Нонка.— Раз на Дніпро, то іншай дарогі вам няма.

Важаты махнуў рукой. Мы змрочна папляліся да Купецкага саду.

— Слухай,— сказаў Ролік.— Што ты цягнешся за намі? Хто цябе прасіў? Сумленне ты маеш?

— Маю,— нявінна сказала яна.

— Не,— сказаў Жэнька,— я ўжо ніколі ад яе не адвяжуся. Я пайду ў кіно — яна будзе зіркаць на мяне з экрана. Буду чытаць кнігу — гэта будзе кніга пра яе. Я буду паміраць — яна будзе абціраць мне лоб і чытаць нада мною малітвы. А калі я здохну і буду стаяць перад уваходам у пекла — першая, каго я там убачу, гэта зноў будзе яна. I яна возьме мяне пад руку, каб праскочыць са мною і не адвязацца ўжо ніколі-ніколі...

Мы мінулі кінатэатр «Паўлін» (гэта мы яго так называлі) з яго вясёлкавай мазаікай і паныла папляліся алеямі. Ролік убачыў, што войска ягонае павесіла нос і мае страшэнную патрэбу ў нечым такім, што ўзбадзёрыла б яго. Патрэбны быў жарт.

Наводдаль сядзеў на лаўцы нейкі афіцэр. Ролік пачухаў патыліцу.

— Вось што, хлопцы. Выпрабуем, якія нервы ў дарослых? А то ваяваць мы для іх — маленькія, помсціць — маленькія, подзвігі рабіць — маленькія. Вялікія мы толькі цэглу на суботніках цягаць. То што, зробім?

— Як? — спытаў Багдан.

— А вось так. Як толькі мы падыходзім да лаўкі — вы па маім сігнале строга ў адну секунду выкрыкваеце кожны адно слова. Ты, Багдане, «Ачы», ты, Жэнька, «Пічы»... Э-э, хлопцы, стоп! Аднаго чалавека не хапае.

— Ды, можа, і без аднаго? — спытаўся я.

— Не, брат, эфект не той будзе.— Ролік насуплена ўзважваў нешта і раптам крыкнуў Нонцы: — Гэй, хадзі сюды! Ну хадзі, каму я кажу?! Не бойся, лупцаваць не будзем. Ну, я табе кажу — не будзем. Слова!— I, нібы просячы прабачэння, ціха сказаў: — Усё адно ж не адчэпіцца, чума гэтая. Хай ужо ідзе побач, дідько лысы з ёю...

Нонка падышла.

— То вось. Тады зробім перастаноўку. Ты, Жэнька, кажы: «Ачы». Я кажу — «Пічы». Ты, Нонка,— «Спічкі», ты, Васілько,— «Яшчыкі». А Багдан, як самы басавіты, хай крычыць — «Хр-рашч!»

— А што будзе? — спыталася Нонка.

— Усё гэта сальецца ў адно. А ў што — самі пабачыце.

Мы параўняліся з лаўкай. Ваенны, лейтэнант, сядзеў і чытаў газету.

— Раз... Два... Тры!..

І тут здарылася дзіўнае. Як удар перуна, над паловай саду грымнула жудаснае, нібы гэта зрабіў Гарганцюа:

— Апы-чы-хі-хр-і-ашч!!!

Смачны чох, ад якога як не разрываюцца барабанныя перапонкі і ў таго, хто чхае, і ў тых, хто побач. Толькі чох пасілены ў тысячу разоў.

Ваенны здрыгануўся, і тады Ролік пакланіўся і высокім урачыстым голасам, з халаднаватай перабольшанай ветлівасцю сказаў:

— Будзьце здаровы.

Мы гатовыя былі задаць лататы, але нечакана для нас ваенны зарагатаў.

З яго з вачэй цяклі слёзы, і ён толькі паўтараў:

— Ну, архараўцы! Ну, хуліганнё!

Нельга не зарагатаць самім у адказ на такі смех.

...Калі адсмяяліся, Жэнька, асмеліўшыся, сказаў:

— Таварыш лейтэнант, пакажыце наган.

Лейтэнант здалёк паказаў.

— Гэта і не наган зусім, а «вальтэр»,— сказаў Раланд.

— Правільна,— сказаў лейтэнант.— «Вальтэр». Трафейны.

Мы паселі вакол яго на траве.

— Слухайце, таварыш лейтэнант,— сказаў Ролік,— вось мы тут спрачаліся, ці патрэбныя на фронце рукі? Якія страляць умеюць?

— Яшчэ як.

— То чаму тады...

— Ясна. Чаму маці-Радзіма грэбуе такімі магутнымі рукамі, як вашы? А таму, што і без вас рук хопіць.

— Я ў партызанах быў у сорак першым,— сказаў я.— Тады, значыць, не хапала, а зараз...

— Тады нявыкрутка была. Проста трапіў ты ў такое становішча. А цяпер нашто ж?

Руіны ляжалі пад намі. Як воку сягнуць, мёртвы лес руін.

— Мы шмат хто яшчэ памром,— раптам сказаў лейтэнант.— Калі, скажам, і вам аж да нямогі таго самага хочацца — хто ж тады гэтую праказу, лішаі гэтыя з зямлі саскрабе, хто яе прыкрасіць? І потым. Вы думаеце, мы іх пад корань звядзём? Будзем старацца, але... Так што хто будзе сачыць, каб у гэтага раку метастазаў не было?..

Ролік махнуў рукой.

— А-а, зноў тая самая песня. А нам каб толькі да іх дарвацца.

— Ну і чаго ж бы гэта ты так хацеў дарвацца?

— У кожнага з нас тут свае прычыны. У мяне бандыты брата павесілі, але тут... Ну, пра сябе не буду... Унь няхай скажа... ну хаця Васілька.

— У мяне гэтых прычын сотня,— буркнуў я.— Ну, я таксама толькі адну скажу. Брата́ву маю немцы ў лесе спаймалі з вядром солі. Ясна, куды соль. Лупілі тыдзень. Не спіна, а... А яна ціхая была, стрэлаў баялася, кіно з пацалункамі любіла. Аж плача, бывала. Але тут ані слова... Цётцы спатканне дазволілі. І даведалася яна, што ніхто іх, вязняў, не лячыў, а брата́ву лячылі. Спіна — адна рана. І ў ране гэтай чэрві завяліся. То гэтыя «дзеля дэзінфекцыі» ёй спіну соллю пасыпалі, той, што яна ў лес несла... На наступнае спатканне цётка прынесла ёй сарочку, а тыя кажуць: «Сваячкі вашай няма, вывезлі...» Ведаем мы, куды яны яе вывезлі.

Лейтэнант узяў мяне за падбародак, паглядзеў у вочы.



— Ну вось, хлопец, і адказ. Такія, як ты, страшэнна патрэбныя будуць. Як памяць. Сёй-той можа і забудзе, бо на свае вочы не бачыў. А ты не забудзеш. І ўжо ніколі спакойна не заснеш. Цень гэтага пабачыш — у званы біць пачнеш. А ты кажаш...

Устаў.

— Канец глупства. Вам, магчыма, для жыцця больш мужнасці спатрэбіцца, чым нам для смерці.

## III

Мы ляжалі на гарачым пяску, і мяне ўсяго калаціла. Не ад холаду, а ад страшэннага нервовага напружання, якое я толькі што перажыў. Ногі ледзь не курчыла, жывот сутаргава ўздрыгваў.

Дняпро каціў ля нашых ног сваю плынь, а непадалёк узвышаліся з вады каменныя быкі старога ланцуговага моста, знішчанага вайной. І вунь з таго быка я толькі што скокнуў.

Мяне аж пацепвала, калі я ўспамінаў, як я лез, чапляючыся за кожную няроўнасць, за кожную выбоіну ў каменнай кладцы. І як стаяў наверсе, і калені дрыжэлі, і я разумеў, што злезці не ўдасца. А пада мною Дняпро імклівa рухаў зялёную, шкляную, цяжкую плынь, і хлопцы ўнізе былі з напарстак... ух ты, божа мой!

І як зразумеў, што яшчэ хвіліна — і я ніколі не скочу і не злезу... І скочыў салдацікам, і, праз стагоддзі, увайшоў у ваду, і адразу падкурчыў ногі, і ўсё адно мяне так доўга несла да паверхні і паветра, што я ледзь не захлынуўся, а Дняпро цягнуў мяне за ногі, заносіў убок, кідаў.

Я і скочыў толькі таму, што хлопцы глядзелі. Такое са мною ўжо было. На Урале. Там рака Ірэнь бегла, сціснутая высачэзнымі скаламі, як мурамі, і са скалы на скалу быў перакінуты канатны мост. Я пайшоў у заклад, што скокну з яго. Дваццаць пяць метраў. І ўзлез. І зразумеў, што не здолею скокнуць. І збіраўся ўжо злезці. Але тут з абодвух канцоў падышлі да моста дзве нашыя дзяўчачыя брыгады. І з аднаю была выхавацелька. А мы купаліся, ясна ж, без ніякіх плавак. Я ўявіў сабе, як яны сыдуцца ля мяне і што з гэтага будзе, і скокнуў, бо ганьба была страшнейшая нават за смерць. Вось так і тут.

— Малайчына,— сказаў Ролік.— Я чатыры разы спускаўся, пакуль не наважыўся.

— А я з другога разу,— выскачыла Нонка.

— Ну, ужо выхваляцца пайшла,— сказаў Багдан.— Вечна свае тры грошы...

— Чаму? Яна праўду кажа,— сказаў Ролік.

— Гэта таму, што дзяўчо бязмозглае. Небяспекі яны не разумеюць.

Нонка раптам брыкнула Багдана нагою і, калі ён схапіў яе, пачала малаціць яго кулакамі па грудзях, па галаве, паўсюль. Багдан зніякавеў.

— Кінь яе,— сказаў Раланд.

— Ды ўжо... сам кінуў.

— Малайчына ты,— паўтарыў Дзмітрэнка.— І трэба нам — як вы думаеце, казакі-малойцы? — прыняць яго ў наш курінь.

— Прыняць, прыняць!

— А раз так, то можна яму і таямніцу раскрыць. План такі... Спачатку іхнюю штаб-пячору падарваць. Пасля іх, гадаўцаў, раскалашмаціць. А то заганарыліся занадта, аднаму праз іхнюю зону хоць

і не хадзі. Паставіць іх на месца, загартавацца, вопыт прыдбаць, а пасля,— ён зрабіў эфектную паўзу,— уцякаць на Заходнюю Украіну. Там па лясах яшчэ паліцаі блукаюць... Гадоў прыбавім, дый...

— Не возьмуць.

— Самі возьмемся. Свой атрад. Ды ты зразумей. Ну, сорам жа глядзець, ну, гэта ж усё жыццё сябе паважаць не будзеш, калі прыйдзеш на гатовенькае.

— А зброю што, з калена выламіш?

— Ёсць зброя. Ведаю, дзе. Не даходзячы да Цялічкі, амаль ля Дняпра, яры і слупы пясчанікавыя. Там нямецкія кропкі былі. Абарона. Думалі, відаць, што нашы могуць і там фарсіраваць раку. А пасля давялося ім уцякаць... Я ўжо там сёе-тое знайшоў... Пакуль што мы туды хадзіць не будзем — гэтыя гады з Падвальнай валакуцца за намі, як хвост. А за пару дзён да ўцёкаў пойдзем, возьмем, дагледзім, і хай яны нам тады солі... І гэта яшчэ лепей, што самі, сваім атрадам.

Гэта была не проста спакуслівая прапанова. Гэта было спаўненне той мары, якою я жыў тры гады.

— Я з вамі, хлопцы,— сказаў я.

— Дабрача,— сказаў Раланд.— Займелі, значыцца, і беларуса. Я думаю, цяпер трэба і іншых завербаваць, каб, значыцца, інтэрнацыянал.

— У Вялікай Айчыннай вайне дружба народаў сыграла выключную ролю,— паважна сказаў Жэнька.

— Прахвесар,— сказаў Ролік.— Ясна, што ўсёй хеўрай каго хочаш біць лягчэй. Дружба народаў, як дзядзька кажа... рашаючы фактар.

## IV

Мы прабіраліся «ў разведку». Ішлі па дахах, спускаліся пажарнымі лесвіцамі ў вузкія цясніны між глухіх муроў, караскаліся на змарнелыя без сонца каштаны і скакалі з іхніх галін на нейкія дрывотні і пунькі. Краліся асцярожна, бо гэта ўжо была «дзяржава» хлопцаў з Падвальнай.

Перад апошняй перабежкай селі крыху адпачыць між штабялямі нейкіх звaленых дроваў.

— То нашто ўсё ж іх біць? — спытаўся я.— Можа лепей з сабою ўзяць?

Хлопцы пераглянуліся. Багдан нават гыгыкнуў.

— Фашысты,— неахвотна сказаў Ролік.

— Ды вы што, хлопцы,— падурнелі?

— А вось хадзем, паглядзіш.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Некалькі разоў у жыцці мне даводзілася бачыць расстрэлы. Калі быў сувязным. Розныя, яны былі ў нечым страшэнна падобныя. Я нават ведаў, чым: пачуццём страшнай безнадзейнасці, адчуваннем уласнага бяссілля, калі нянавісць, здаецца, вось-вось задушыць цябе. Крывёю, якой захлынаюцца тыя, моташнасцю і нудотай, што горка і ядуча падступаюць да тваёй глоткі.



...Пад Дубішчам людзі стаяць на самым краі каркаломнага ўрвішча над Дняпром. Зараз грымнуць стрэлы, і нават толькі параненыя будуць шмат разоў грукацца аб выступы стромы і ўпадуць на жвір унізе ўжо мёртвыя.

...Вось барак дарожных рабочых — яўрэяў. Гэткі невялічкі філіял гарадскога гета. Нехта зрабіў дыверсію ў пяці кіламетрах адсюль. І, зрываючы злосць, урываюцца на пляцоўку перад баракам матацыклы, і б'е кулямёт, і людзі падаюць, падаюць...

А вось цяпер — шэры двор. Тры глухія муры ў выглядзе літары «П». У іх адны дзверы і пара забраных кратамі акон у сутарэнне. Ля дзвярэй — пажарная лесвіца. З чацвёртага боку двара — узгорак, зарослы акацыяй, глогам і бур'яном.

Такі сабе змрочны, моцна затравелы двор. Толькі каля аднаго мура невялікі кавалак асфальту з канаўкай (відаць, зрабілі калісьці, каб вада з даўно не існуючай рыны не плыла ў падвальныя вокны). І на гэтым лапіку стаіць чалавек, дзяўчынка-падлетак. А некалькі крокаў ад яе чацвёра невысокіх чалавечкаў са стрэльбамі ў руках.

— Імем закона,— далятаюць да мяне словы,— прысуджаецца... за злачынныя...

У мяне пачынаюць гарэць шчокі. У вочы нібы пяску нехта насыпаў. Я столькі разоў бачыў такое, стоячы ў натоўпе, які сагналі на месца страты, або, калі спазніўся, седзячы ў кустах, без сілы, а галоўнае, без права дапамагчы.

Тая, каго расстрэльваюць, дастае нешта з кішэнькі дарослай кофты і пачынае есці.

— Хопіць табе жэрці, швайн! — крычыць бялявы начальнік канвою.

— Я хлеб з маргарынам,— адказвае з-пад мура галасок.

Дзяўчо пакорліва паварочваецца тварам да мура. Канвой бярэ карабіны на руку і падраўновае штыхі. Усё, як трэба. Усё, як належыць рабіць такое ў жыцці.

— Аддзяленне-е!..

Кулакі мае сціскаюцца... Я ўжо не магу, не магу яшчэ раз бачыць гэта...

...І тут на маё плячо кладзецца рука.

— Бачыў? — пытаецца Ролік.— Вось гэта ў іх заўсёды падобныя гульні. На свае вочы такога не бачылі. Акупацыі не нюхалі, адседзелі недзе... Шыбеніц не бачылі, Бабінага Яру не бачылі. Каб у жыцці. Смажаны певень іх яшчэ ў азадак не дзюбнуў... М-мам-чыны сынкі!

«Начальнік канвою» не паспеў апусціць руку. Праз зарасці, праз бур'ян з крыкам «ур-ра-а!» пасыпаліся на месца пакарання падлеткі. Чалавек восем. Наперадзе бег невысокі хлопец з шалёнымі вачыма і рудаватым чубам.

— Гнат,— з нянавісцю сказаў Жэнька,— дрэнь паскудная! — Гніляк!

— Каб жа яшчэ толькі дрэнь,— сказаў Ролік.— Шкодная дрэнь. Дрэнь, якую хлебам не кармі, а дай іншага ў паняверцы патрымаць.

На пляцоўцы двара кіпела бойка. Мы ляжалі на даху дрывотні і назіралі. Біліся і тыя і другія някепска, але неяк занадта ўжо... ну, па правілах, ці што. Занадта па-гарадскому. Хай сабе б'юцца.

Не біўся толькі адзін высокі хлапчына. Белы бландзін з правільнымі, крыху можа занадта суровымі рысамі аблічча. Як убачыў, што робіцца ў двары,— так і адышоўся, сеў на нейкую скрынку, глядзеў.

Урэшце супраціўленне «карнікаў» было зломана, і яны кінуліся ўцякаць. Два «інсургенты» кінуліся за імі ў пагоню. На пляцоўцы засталіся Гнат, чацвёра яго ваякаў, бялявы хлопец і дзяўчынка.

Расхрыстаны Гнат, відаць, ашалеў ад бойкі. Вочы блішчэлі, твар быў узнёсла-радасны, шалёны.

— Мы цябе адбілі, Лізка. Але не думай, што дзеля тваіх гожых вачэй. Па дадзеных нашай разведкі, ты пайшла на чорную здраду, выдала нашы планы і намеры ворагу.

Ён, відаць, яшчэ не астыў пасля бойкі; шал усё яшчэ жыў у яго ў вачах. Дзе там было нешта меркаваць, узважваць, стрымлівацца.

— Смерць!

І ён рэзка штурхнуў дзяўчынку прыкладам «карабіна» між худзенькіх лапатак. Тая ўсё яшчэ трымала ў руцэ хлеб, і ад штуршка хлеб гэты выпаў. Упаў на зямлю.

І тут дзяўчо заплакала. Бязгучна. Толькі трэсліся худзенькія лапаткі. А я глядзеў на гэта і не разумеў, што я ўжо стаю на ўвесь рост.

— Не чапай,— шапнуў Жэнька.— Пасля. Іх замнога.

— Нічога не замнога,— кінуў Ролік.— Ты што ж, кожны раз вось так будзеш?

Мы скочылі з даху дрывотні. Затрашчаў пад нашымі нагамі бур'ян. Мы бачылі, што ў іх «карабіны», якія хаця і не страляюць, але б'юць някепска... па галаве, але мы не зважалі на гэта.

Вярталася пагоня — нам і на гэта было напляваць. Уся нянавісць, якую мы гадамі запасілі і таілі ў сэрцы,— уся яна нібы адразу выплюхнулася ў прыпадку шалёнага гневу супраць гэтых... што гуляюць у гульні, якіх не павінен дазваляць сабе нават дзесяцігадовы мужчына, калі ён прадчувае ў сабе чалавека. Ужо не кажучы пра пятнаццацігадовых.

Мы былі здатныя на ўсё, і яны, відаць, зразумелі гэта. Калі вораг здатны на ўсё — аж да зубоў,— мужнасць можа падупасці нават у самага загартаванага. Што ўжо казаць пра гэтых?!

Толькі непакой і няўпэўненасць у іхніх вачах крыху зраўнялі нашы сілы: чатырох супраць сямёх (бялявы хлопец па-ранейшаму стаяў збоку).

Мы ўдзерліся ў іхні «строй», зусім бяспамятныя, ашалелыя ад ярасці. Амаль адразу ж я атрымаў касы ўдар карабінам па галаве. Усё паплыло ў маіх вачах, але я паспеў выдраць гэтую «зброю» з рук праціўніка і аперазаць яго па спіне. Пасля — другога, пасля — зноў першага, які на гэты раз зваліўся. Праз чырвоны туман, што засцілаў вочы, я ўбачыў, як Ролік б'ецца з трыма, кінуўся яму на дапамогу, зваліў цераз калена аднаго з ворагаў, навесіў другому. Не ведаю, як іншыя, але я не адчуваў удараў, якія падалі на мяне. Я ператварыўся ў машыну, якая малоціць.

І ўсё ж нам давялося б дрэнна. Я ўбачыў, што Жэнька ўжо ляжыць, трымаючыся за нос, што Ролік, на якога зноў населі трое, знемагае, што Гнат ірвецца да яго, махаючы доўбняй-карабінам.

Нам давялося б дрэнна, каб не раптоўная дапамога. Бялявы раптам устаў, крэкнуў і, плюнуўшы ў далонь, кінуўся ў самую гушчу бойкі.

Прарваўся да Гната, захапіў у лакцявы згіб ягоную шыю, ірвануў назад, выдзер з рук карабін. У наступны момант — мы ахнуць не паспелі — бялявы ўпаў на спіну, а Гнат узляцеў, перакуліўся ў паветры і цяжка, як мех, гэкнуўся аб зямлю. Але яшчэ раней, чым ён упаў, нечаканы саюзнік быў на нагах і рассыпаў удары так, што за ім цяжка было сачыць. Не ведаю, як хто, але я ажыў душой. Думаю, што і астатнія таксама. Таму што праз пару хвілін мы ўжо, цюгакаючы, гналі ворага праз бур'ян і хмызы, душачы ў зародку ўсе спробы супраціўлення.

Бялявы бег за Гнатам і часам паддаваў яму хуткасці спрытным, усёй падэшвай, выспяткам у мяккае месца.

— Цю-га! Цю-га!

Поле бою засталося за намі. Вораг спыніўся здалёк, на ўзгорку, і адтуль сыпаў бяссільныя пагрозы, нібы дзяўкаў. Мы вярнуліся на пляцоўку двара. Стаялі і разглядалі бялявага. Вельмі насцярожана. Дый ён, па ўсім відаць, нічога добрага не чакаў.

Агрэсіўны Багдан нават узняў руку, намерваючыся «прываркць», але бялявы перахапіў яе і сціснуў запясце:

— Н-ну!

— Кінь яго,— сказаў Ролік.— Ты з Падвальнай?

— Угу.

Зноў нядобрая дуэль вачэй. Неасцярожнае слова, і...

Лізка падышла да незнаёмага і стала побач з ім. Яна ўжо не плакала, а толькі перарывіста ўздыхала. Як дзеці пасля слёз. І, дзіўна, гэты яе ўчынак і ўспамін пра бутэрброд з маргарынам нібы прыглушылі варожасць.

— То чаго тады за іх біцца не стаў? — спытаўся я.

— Абрыдла. Гуляць мне з імі не выпадае. Як з маленькімі. Ну, і гульні іхнія. Крыві не бачылі... І Лізку пакрыўдзілі... Не плач, дурнічка.

— А яшчэ?

— А яшчэ па-нямецку брыду розную гавораць. Каб жа хаця ўмелі.

— Цябе зваць як? — спытаўся Ролік.

— Карл Канецкі.

— Карло? — на ўкраінскі манер спытаўся Раланд.

— Караль? — спытаўся я.

— Не, Карл. Маці звала Карлхен.

— Ты што?..

— Ну, — сцвярджальна сказаў Карл.— Немец.

Мяне — і, думаю, не толькі мяне — аж скаланула. Першы знайшоўся Ролік:

— Ф'ю!.. Брэшаш. Адкуль прозвішча такое — Канецкі? Немец мне, таксама яшчэ. Фарсіш? Непадобным быць хочаш?

— Гэтая непадобнасць можа задорага абысціся, каб ёю фарсіць. А прозвішча... Ёсць і ў немцаў такія прозвішчы: Канецкі, Ранцоў, Бюлоў. Немец. Так.

Навісла цяжкае маўчанне. І тут Ролік зрабіў тое, на што, прынамсі на вачах у старонніх, наўрад ці наважыўся б нехта з нас. Ён зрабіў крок наперад і працягнуў руку.

— Ну што ж, лапу!

І гэтым звычайным жэстам ён не толькі замацаваў сваё права быць галоўным, але і канчаткова прымусіў нас усіх паважаць сябе.

## V

Ішлі дні. На каштанах і ліпах рэдка-рэдка ўспыхвалі першыя жоўтыя агеньчыкі. Хлопцы з Падвальнай і Чкалава прыціхлі, і па іхніх вуліцах можна было хадзіць нават удвух, а Карл, якога мы ўзялі у наш хаўрус і якому, ясна ж, адкрылі сакрэт уцёкаў, хадзіў і адзін.

Уцякаць пакуль што не было як. Трэба было страціць апошняе сумленне, каб напаследак не памагчы бацькам на «прыгарадных індывідуальна-ўстаноўскіх гародах» (гэтае слова-пачвара азначала, што кожная ўстанова атрымлівала кавалак зямлі і дзяліла яе на ўчасткі між сваімі работнікамі, а таму ўчастак нельга было назваць «індывідуальным» — крый божа! — а толькі «індывідуальна-ўстаноўскім»).

У нас свайго ўчастка не было, і таму я па чарзе хадзіў памагаць усім нашым хлопцам. Мае на гэта згаджаліся ахвотна, бо гэта «дужа карысна — фізічная праца на свежым паветры». А я радаваўся.

Працавалі, у вольныя хвіліны лавілі ў пратоках смугастых зеленаватых джгіроў, елі дымны, страшэнна смачны кулеш з рэдкімі кубікамі сала, а вечарам цягнулі ў горад вазок, нагружаны ліловымі бліскучымі баклажанамі і цьмяна-зялёнымі кабачкамі.

У гэтыя дні «інтэрнацыянал» наш ледзь не разваліўся. Таму што Жэнька пазнаёміўся недзе з Навумам Фінеесам.

Высокі, худы ад шматгадовага недаядання — калі галадаеш некалькі гадоў, пасля вельмі цяжка, нават пры добрай ежы, увайсці ў норму,— жылаваты. Нічога асаблівага ў ягоным твары не было: нос просты, вусны — тонкія і прыгожыя, валасамі — цёмны шатэн, вочы — светла-карыя. Можа гэта і дапамагло яму выжыць у вайну.

І вось Жэнька прывёў яго ў наш атрад, і ён усім адразу спадабаўся, і выявілася, што дурань Кульба ўжо загадзя адкрыў яму нашу таямніцу, і той даў згоду. Жэньку за доўгі язык на цэлы тыдзень пазбавілі права хадзіць з намі ў руіны па тол, прымусілі не выходзіць за межы двара, а Навума — прынялі.

І вось гэтая «пятая нацыя» ледзь не развяліла, ледзь не загубіла наш магутны саюз і ўсю святую нашу справу. Даведаўшыся, што Карл — немец.

— Немец? Я з ім на адным полі... не сяду...

— Ну і мне невялікая ахвота з табой на адным полі сядзець. Таксама мне яшчэ — шчасце, на адным полі ён са мной не сядзе. Пакараў!

— І праўда,— сказаў Ролік.— Што ж яму, немцу гэтаму беднаму, зараз рабіць?

І загадаў не сварыцца. Але сэрцу і забабонам чалавечым не загадаеш. Фінеес, харошы хлопец, смелы чалавек, які ведаў цану жыцця і смерці, шчодры, кампанейскі, здатны пайсці за любога з нас у агонь і ваду, ненавідзеў Карла глухой, цьмянай нянавісцю, якая не разважала, якая проста — жыла.

Сёй-той з нас стаў на адзін бок, сёй-той — на другі. З такой цяжкасцю скляпаны хаўрус развальваўся на кавалкі, трашчаў па швах.

І, дзіўна, нам дапамагла малая, слабенькая Лізка, якую ніхто з нас не браў усур'ёз.

Справа пачалася з таго, што запалы нашы, як выявілася, былі нікуды не вартыя. Тол быў, але толам, як вядома, можна хоць печ паліць. Адзін тол — глупства.

Мы не асабліва засмуціліся. Па нядзелях на яўбазе можна было купіць усё — ад рыбалоўнага кручка і ледзь не да буйнакаліберпай гарматы. Мы ведалі там аднаго дзядзьку, у якога можна было дастаць і запалы, ён прадаваў іх тым, хто глушыў рыбу. Але грошы ў нас павінны былі з'явіцца толькі праз два тыдні (мы, нягледзячы на ўсю нашу пагарду да такіх людзей, памаглі аднаму «фраеру» перавезці ягонае багацюшчае абсталяванне — мэблю, карціны, бронзу — на новую кватэру: старая яму, бачыце, не зусім спадабалася, а кватэр у горадзе было — хоць носам жары). А чакаць два тыдні было нельга: «пад-





вальныя» скааперваліся з Пірагоўскай вуліцай і пачалі падымаць хвост. Было вырашана іхнюю штаб-пячору проста разбурыць. А для гэтага трэба было ўзяць у Карла, праўдзівей, у кульгавага дзядзькі Тараса, у якога Карл быў на выхаванні, лом і дзве рыдлёўкі.

І вось калі мы праходзілі паўз Карлаў флігялёк, Лізка раптам сказала мне і Навуму:

— То зойдзем? Зойдзем-зойдзем. Ты што, Навуме, баішся?

Навум успыхнуў і рашуча пайшоў за намі.

...Два пакойчыкі былі абстаўлены вельмі сціпла, каб не сказаць — бедна. Самаробныя тапчаны, табурэткі і стол (дзядзька Тарас быў і сталяр, і цясляр, і шавец, і жнец, і ў дуду ігрэц). У кутку ля дзвярэй нізенькі столік, і на ім — шавецкія нажы, капылы, лапа, тэксікі ў бляшанках і ўсё такое. А на сценах два ўпрыгожанні: алеем пісаная аблупленая карціна — відаць, вельмі старая, бо на ёй амаль нічога нельга было распазнаць, так нейкія рукі і ногі — і павялічаная картка ў светлай рамцы. А на ёй светлавалосы хлопчык у ватоўцы са «шмайсэрам» на шыі. А на ватоўцы два медалі. Нахмураны, значна больш дарослы, чым цяпер, Карл.

Мы стаялі крыху ашаломленыя. Лізка, штопраўды, і раней спрабавала была заводзіць гаворку пра «партызанку», але Карл заўсёды яе перабіваў: «гэта не да справы», «змоўч, Ліза», або «гэта іх не датычыцца». Урэшце, што было дзівіцца? І я быў сувязным у атрадзе, і Ролік выконваў у горадзе сякія-такія даручэнні. Але тут...

— Што за мядалі? — хаваючы вочы, спытаўся Фінеес.

— «За адвагу»,— нядбала сказаў Карл, выносячы нам начынне. І ён не прыкідваўся. Ён сапраўды сказаў гэта нядбала, як аб нечым не вартым асаблівай увагі.

Мы выйшлі і, адышоўшыся крыху, селі ў бур'яне, як пабітыя сабакі.

— Расказвай,— сказаў я Лізцы.

— Я не дужа ведаю,— тоненька і вінавата сказала яна.— Ён аднекуль уцёк, прабраўся праз фронт. Прыстаў да партызанаў... А пасля рэйд быў. І ён з гэтым рэйдам быў і ў тваёй Беларусі. А за што мядалі — ён не расказвае...

— Пэўна ж было за што, калі далі,— сказаў я.

— А пасля, як нашы прыйшлі, дзядзька Тарас узяў яго. У дзядзькі ўсю сям'ю немцы пабілі.

У мяне ў сэрцы накіпала злосць на Навума і — яшчэ больш — на самога сябе.

— Т-так, Навуме,— сказаў я.

Я рос у невялікім гарадку, і мы, дзеці, гулялі ўсе разам і пры выпадку маглі ўзаемна перакінуцца сотняй-другой беларускіх, рускіх, татарскіх, яўрэйскіх слоў. У дзяцей гэта хутка. І таму я, не ў змозе стрымацца, сказаў:

— Ты ведаеш, што такое па-старагебрайску «Фінеес»? Гэта азначае «медны рот». Вось гэта якраз ты. Крычыш ні з пушчы ні з поля, дурань маляваны.

## VI

Мы сядзелі ў сакрэце, Карл, Навум і я. Лета хілілася да восені, але ночы яшчэ былі цёплыя-цёплыя, можна без сарочкі хадзіць. І вось мы сядзелі ў зарослай варонцы ад снарада, і калені нашы сутыкаліся



(я ведаў, што Раланд назнарок паслаў у сакрэт Карла і Навума, мяне ж у якасці згодніка; ён цяпер часта рабіў такое), а вакол утрапёна сакаталі конікі і цыкады, а над намі нябачна для вока каціліся сузор'і, якія зрэдку перакрэсліваў патаемны лёт кажана.

Мае паехалі, Карл і Навум былі ўвогуле вольныя птушкі. І вось мы сядзелі і чакалі, каб у дзве гадзіны ночы, калі ўсе паснуць, свіснуць Ролiку.

«Падвальныя» знялі сваю ахову ў гадзіну ночы, але ў вокнах у Дзмітрэнкаў усё яшчэ гарэла святло. Трэба было чакаць.

— Расказалі б пра што-небудзь,— сказаў я.— Ну хаця б ты, Навуме.

— А што мне расказваць? Звычайнае дзяцінства, пасля вайна, Бабін Яр...

Гэта была сапраўды звычайная гісторыя тысяч і тысяч ягоных аднапляменнікаў; расказваць яе — паўтарацца ў стотысячны раз. Мяне здзівіла толькі тое, што яму ўдалося ўцячы і нават сяк-так уладкавацца, але пасля ён зноў трапіў у гета. Яго пазнаў і выдаў немцам адзін тып з яўрэйскай паліцыі. Зноў тры месяцы пекла і зноў уцёкі. На гэты раз проста з месца пакарання смерцю.

— Я гэта ўсё на свае вочы бачыў. І акцыі, і як зямля варушылася. З таго часу ў мяне як вочы настроеныя на тое, калі каму кепска. Хто, можа, і не заўважае, што камусьці кепска, а я — з першага позірку.

Я адчуваў у цемры, якія напружаныя Карлавы калені. Але не перабіваць жа шчырага і праўдзівага апавядання.

— Потым і іх туды ж павялі. І юдэнрат, і паліцыю, і таго гадаўца. Сам бачыў. Сволачы! Крывёй свайго народа купляць сабе... Ну, і купілі,— і цалкам нелагічна дадаў: — А ўсё клятыя немцы. Фрыцы паганыя.

Гэтае слова сарвалася ў яго з языка міжвольна. Ён проста забыўся. Я ўпэўнены, што ў наступную хвіліну ён пашкадаваў аб ім. Але было позна.

— Хальт маўль,— сказаў Карл.— А па-нашаму — «заторкніся».

— Ціха, хлопцы, ціха.

— Не, ты пачакай. Ты памятаеш, калі палонных вялі на Брэст-Літоўскай шашы, а пасля па бульвары? Дзесяткі тысяч.

Я ўспомніў. Сапраўды, бясконцая пыльная змяя, і апушчаныя вочы адных і вочы другіх, у якіх пераважала не нянавісць, а грэблівая цікаўнасць.

— Хто тады на іх каштанамі і іншым кідаў? Адзінкі кідалі. Бо разумелі — не ўсе вінаватыя. Многія, але не ўсе. А, думаеш, у кагосьці з іх меней, чым у цябе, было прычын ненавідзець?

Навісла цяжкая паўза.

— Мне, думаеш, лёгка кожны дзень такое чуць? І нават не магчы растлумачыць, бо я тлумачыць — не хачу. Каб нават добрыя людзі шкадавалі — не хачу. «Ах, беднае дзіця. Такое малое, а ўжо немец». А я — немец.

Мы маўчалі. Цыкады і конікі нібы раздзіралі, пілавалі ноч.

— Вы, вядома, ведаеце, што з намі было,— глуха сказаў Карл.— Асцярога такая была, што вось Гітлер прыйдзе — і тут мы да яго перакінемся. У нас радзіма была. Наша... Вязуць нас параходам...

— Чакай,— перабіў я.— Які параход? Не «Пугачоў»?

— Ён самы. А-а ты чаго?

— Так, нічога, кажы далей.

— А ўва мне злосць кіпіць. І вырашыў я: уцяку. Ну, зарэзалі быка, людзей карміць. То я сцягнуў бычыны пузыр, метрыку туды і

яшчэ сёе-тое. І, выбраўшы час, калі мы толькі што нейкі мыс мінулі і сонца ў вочы свяціла, скочыў з борта проста ў Волгу.

Мне пашанцавала. Уцёк. Фронт на жываце перапоўз, партызанаў знайшоў. І тыя ўзялі. Прозвішча нейтральнае, а месца нараджэння і прозвішча маці я вадой заліў ды пальцам расцёр. Дурань быў. Пасля ўсё адно расказаў, але тады, пакуль не давёў — нельга было.

Ён змоўк. І тады я знайшоў у цемры ягоны плячук і сціснуў:

— Дык вось, канец гэтай гісторыі я табе магу расказаць. Калі ты хочаш...

— Як расказаць? Адкуль...

— А я на гэтым самым «Пугачове» ехаў, плыў, калі з інтэрната на фронт уцёк і беспрытульнічаў. І ўсю гэтую сцэну не толькі чуў, але нават бачыў. Ляжаў на спардэку пад лаўкай, за брызентам. Ты хадзіў у кароткіх сініх портках? І сарочка зялёная?

— Точна, халера на цябе!

— Ну вось. То я і «трывогу» чуў. І як цябе «шукалі», бачыў. Не дужа стараліся.

— Агонь згас,— сказаў Фінеес.— Даўно ўжо.

...Свіст наш аддаўся ў пустым двары. Пасля на трэцім паверсе бязгучна адчыніліся балконныя дзверы. Цень слізгануў па карнізе, і амаль адразу да нас данеслася іржавае крактанне рыны.

— Ну як? — Ролік адвязаў хатулёк, што вісеў у яго на шыі.

— Знялі пост. Дзве гадзіны таму.

— Дабрэча! Ну, мы ім пакажам пільнасць.

Узяўшы з-за памыйніцы рыдлёўкі і лом, мы рушылі да месца «дыверсіі», ломячы сухі бур'ян, шастаючы бур'яном жывым.

...Штаб-пячора была сапраўды на нашай палове схілу, прынамсі мы так лічылі. Галоўнае, ніхто з нашых не бачыў, як і калі яны яе выкапалі: мабыць, тыя сачылі, калі нікога ў двары няма, пясок адносілі некуды, далей, можа, працавалі начамі.

Штопраўда, адтуліна-ўваход вышынёю ў палову метра была за адрожкам узгорка і хавалася ў дрымучым нечапаным пустазеллі — хітрыя чэрці — так што ў трох метрах прайдзі — і не заўважыш. Адкрылі яе хлопцы выпадкова і толькі таму, што «падвальныя» перамудрылі: надумалі ставіць непадалёк вартавога, які датуль тырчэў у нас на вачах, аж пакуль хлопцы не зацікавіліся гэтай акалічнасцю.

Мы ўпаўзлі ў пячору на жываце, і толькі там Карл запаліў нямецкі ліхтарык. Добры быў ліхтарык, з чырвоным і зялёным шкельцамі. Пры жаданні можна было пасылаць святло барвянае ці смарагдавае. Неацэнная рэч для сігналізацыі.

Пячора была досыць вялікая: метры тры на чатыры і вышынёю каля двух метраў. Столь умацаваная крапежам: аполкі, падпёртыя слупамі. Бярвенцы-лаўкі і стол — скрынка. У куце драўляныя карабіны, два самапалы і дзве нямецкія патронныя бляшанкі: адна сапраўды з патронамі, а другая з «макаронамі», нямецкім порахам.

— Угм,— сказаў Раланд.— Бач ты, да чаго яны ўжо дакаціліся. Самапалы ў ход пускаць думаюць. Гэта ж несумленная бойка — не кулакамі. Гэтак жа і вочы выпаліць чалавеку можна.

На сцяны вісеў груба намаляваны план нашага двара і самаробны плакат. На плане былі тры стралы, накіраваныя ў бок нашых дамоў і ніжняга двара. Стрэлы вялі праз сметнікі, штабелі дошак, дахі дрывотняў.

— План складалі, гады,— сказаў Карл.

На плакаце былі намаляваны мы. Вядома, у пачварным выглядзе, так што здагадацца аб тым, хто ёсць хто, можна было толькі па вопратцы і па надпісах пад нагамі кожнай фігуры.

«Падлягаюць адплаце за злачынствы супраць мірных дзяржаў: Падвальнай, Пірагоўскай, Чкалава і іншых. Пасля немінучай перамогі будуць несці адказ. Крывавы дыктатар Раланд Дзмітрэнка — акунанне ў бочку для дажджавой вады (на задворках, за дрывотнямі) да непрытомнага стану з паследуючым выцвярэжэннем пры дапамозе хвастання крапівою і забаронаю на векі вечныя хадзіць вышэйпамянёнымі вуліцамі (якія складаюць неад'емную частку нашай дзяржавы), нават калі пашлюць за газай».

Далей ішлі пакаранні ўсім нам. Мне «суд народаў» прысудзіў туга напхаць крапівы ў порткі і звязаць рукі, каб не вызваліўся ад яе, аж пакуль не дабягу да людзей.

— Бачылі? — спытаўся Ролік.

Бледны, як палатно, Карл здзёр са сценкі абодва аркушы. Скамячыў.

— Ну, гадаўё! Бач ты, што яны нам рыхтавалі.— Сутаргава зглынуў нешта.— Я, хлопцы, раней і не хацеў. Што, думаю,— дзіцячыя гульні! Недагулялі дзецьмі, то... Але думаў: несур'ёзная гэта справа. Кожны з нас пекла прайшоў. Але цяпер буду біць іх. Усур'ёз. Таму што... Гэта ж капо растуць...

— То што? — спытаўся Жэнька.— Развалім проста? Разбурым?

— Э, не,— падумаўшы, сказаў Ролік.— Цяпер, пасля такога, гэтага ўжо мала. Тут выбух патрэбен. Або хаця падабенства. Трэба ім феерверк учыніць. Навум, Карл — за мной. Да паваленага плота. Трэба трэскі, дошкі, пара бярвенняў. Васілька, лезь наверх і прабі пару дзірак.

— Дзеля чаго?

— Дзеля цягі.

Я палез наверх і пачаў лупасіць ломам, выварочваць камяні, выграбаць рыдлёўкай зямлю і жвір. Я працаваў і чуў, як хлопцы, сапучы, валакуць праз дзядоўнік, дурман і блёкат бярвенні ад старога, чорт ведае колькі гадоў назад паваленага плота. Лом ужо чатыры разы правальваўся ў пустату, і ўрэшце я вырашыў, што досыць.

Пасля мы насыпалі на падлогу пячоры трэсак, а на іх паклалі штабелем дошкі. Раланд развязаў хатулёк і высыпаў з яго дзесяткі тры цыліндрыкаў з тэрмітам (у нас асаблівым шыкам лічылася чыркаць запалкай менавіта аб тэрміт вось у такім бліскучым, вішнёва-карычневым цыліндрыку, а не аб пачак).

— Каб гарэла зырчэй,— растлумачыў ён.

Паўзверх дошак мы нацягалі бярвенняў.

— Патроны возьмем? — спытаўся Навум.

— Патроны самі знойдзем,— адказаў Ролік.

— Правільна,— сказаў праз зубы Карл,— яшчэ рукі іхняй зброяй, поскуддзі гэткай, пэцкаць.

Мы клалі бярвенцы і на кожны новы пласт рассыпалі па некалькі жменяў пораху і патронаў.

— Слухайце,— сказаў Навум, калі скрынкі былі амаль апарожнены,— тут яшчэ... дзесяць, пятнаццаць... дваццаць чатыры ракеты!

— Валачы іх сюды,— сказаў Ролік.

Праз дзіркі, што прабіў я, мы засунулі ў штаб-пячору яшчэ некалькі пацурбалкаў і пален і туга ўвапхнулі між іх ракеты. Старчма. Капсулямі ўніз.

Пасля апусціліся да лазу, пхнулі ў яго паперы, паклалі на яе, разламаўшы цыліндрыкі, буры тэрміт.

— Падпальваць, ці што? — спытаўся Навум.

— Э, не,— сказаў Ролік і дастаў з кішэні мятровы кавалак шнуру,— без бікфорда — гэта, хлопцы, будзе непарадак. Трэба з бікфордам. Каб усё, як у сур'ёзных людзей.

— Ну а калі яны тут пасля ачысцяць? — спытаўся я.

— Эге, палезуць яны на пузе, калі тут вуголле ды куродым будуць. Ручкі пашкадуюць. І, потым, невядома яшчэ, што з гэтага нашага пірага з начынкай будзе.

Ён адрэзаў кавалачак шнура даўжынёю сантыметраў у пяць і падпаліў. Некаторы час здавалася, што агонь згас, але потым з другога канца вырваўся накіраваны, нібы ў паяльнай лямпе, прагны язычок полымя.

— Парадак. Прыдатны.

Канец шнура падсунулі да тэрміту, абклалі ўсё гэта паперай і порахам, вывелі другі канец на двор, і Ролік запаліў запалку.

— Ну, памагай бог.

Мы адышліся ў цёмны кут паміж трыма «шанхаямі», узлезлі на дах пуні і сталі чакаць.

Спачатку нам здалося, што ўсё дарэмна, што тэрміт і папера не загарэліся, але вось з верхніх дзірак спачатку тонкімі струменьчыкамі, а пасля ўсё мацней, таўсцей паваліў, белы нават у цемры, дым.

— Пайшло,— з задавальненнем сказаў Ролік,— зараз як пачне пластаць...

«Пластаць» сапраўды пачало. З бліжняй дзіркі вырваўся раптам слуп полымя, і ў тую ж хвіліну глуха ляснуў стрэл. За ім другі, трэці. А потым над узгоркам з шыпеннем узляцела невысокая ракета, заліўшы фасфарычным святлом узгорак, двор, дамы, зеленаватыя твары людзей у адчыненых вокнах.

— Нічога, хлопчыкі, нічога,— кідаў Ролік,— вось ім, вось!

Страляніна ўсё мацнела. На гэты раз стралялі пачкамі. З аддушын раўло і клубамі несла іскры. Мы заўважылі, што ля муроў з'явіліся людзі. Падыходзіць баяліся, але стаялі і глядзелі. Толькі некалькі чалавек асмеліліся падысці бліжэй. Я заўважыў чалавека ў белай споднняй сарочцы, расхрыстанай на грудзях. Трымаючы ў руцэ сякеру, ён стаяў і недаўменна глядзеў на агонь, на іскры, на ракеты, што часцей і часцей ўздымаліся над узгоркам.

Непадалёк ад нас адчынілася акно, другое.

— Што такое? — спытаўся старэчы голас.

— А чорт яго ведае,— адказаў бас.— Бандзюкі нейкія, пэўна. Мо не падзялілі чаго?

— А ракеты?

— Ну, можа хуліганнё... Страляніна. Можа, боепрыпасы нейкія ахнулі...

— Не кажыце. Развялося — хоць ты не ведаю што рабі. Чуткі ходзяць: з'явіліся нейкія «малаточкі», цюкаюць людзей малаточкамі па галаве. У мяне суседка... Ведаеце, пажылая?.. То ёй трэба было сярод ночы на вакзал ісці, сустракаць кагосьці. Гляджу, надзявае на галаву алюмініевую міску і зверху хустку завязвае. Гэта яна, значыцца, накшталт шлема прыдумала. Калі і цюкнуць, то не да смерці.

Яны засмяяліся.

— Чорт ведае, што гэта! — сказаў бас.— Падазроная нейкая гісторыя... А ўсё ж прыгожа, га?



— Прыгожа... У міліцыю заявіць трэба, а то і вышэй.

Цяпер страляніна была такая, нібы на ўзгорку віраваў заўзяты бой. Узляталі ўгору featured рознакаляровыя ракеты. Адна паляцела над зямлёю між двума кастрамі дроваў і, зігзагамі, адбіваючыся па чарзе то ад аднаго кастра, то ад другога, памчала ў бок дамоў. Людзі кінуліся ў бакі. Пасля ў зеніт пайшла адна ніць, другая: сярод патронаў былі трасірныя.

Мы ў захапленні заскакалі на нашым даху.

І тут нешта глуха вухнула — абвалілася столь пячоры. Відаць, падгарэлі слупы. А, можа, і сціснутыя парахавыя газы дапамаглі. З ямы, як з жарала вулкана, вырваўся слуп агню, узляцела ў розныя бакі яшчэ некалькі ракет, а страляніна стала ўтрапёнай.

Мы саскочылі і пайшлі да людзей. Цяпер можна было зрабіць выгляд, што мы таксама выйшлі пацікавіцца. А людзі стаялі і ўсё яшчэ нічога не разумелі.

— Ролік, хлопчыкі, вы? — пачулі мы шэпт.

— Нонка, Ліза?..

Прыемна ўсё ж несці цяжар герaізму і славы. Ва ўсякім разе, мы стрымана і мужна ўсміхаліся, калі Нонка трэсла нам рукі, а Ліза ўстала на дыбачкі і выцерла насоўкаю пляму сажы на Ролікавай шчацэ.

Кроках у дваццаці ад нас стаяў Гнат, і зарыва скакала ў яго па твары. Ён заўважыў нас — аблічча ягонае тарганулася: зразумеў. Узняў з зямлі кавалак цэглы і шпурнуў яго проста ў жарала, у агонь. Вочы ў яго былі белыя ад ярасці.

— Ну, трымайцеся!..

І плюнуў у наш бок.

## VII

«І прыйшоў дзень бітвы. І сеча бысць зла...»

І яны і мы добра разумелі, што пасля знішчэння штаб-пячоры ніякай размовы аб міры ці нават аб узброеным нейтралітэце не можа быць. Вайна цяпер была толькі пытаннем часу. Узаемная нянавісць была такая, што ніхто, ніводны з бакоў не адмовіўся б ад помсты. Акрамя таго, справа ішла аб сферах уплыву, і мы, вядома, лічылі, што праўда і справядлівасць на нашым баку. Нам трэба было мець свабодны праход на яўбаз, на бульвар, на вуліцу Варашылава і плошчу Хмяльніцкага. Патрэбны быў «выхад да мора».

А ворагі былі гáдамі. Яны гулялі ў расстрэл, штурхалі прыкладамі між лапатак безабаронных і слабых. І гэта яны рыхтавалі напад і ўжо загадзя пускалі слінку, думаючы аб бочцы і крапіве.

Акрамя таго, гэта была проба агнём, рэпетыцыя, манеўры, якія павінны былі паказаць, ці вартыя мы чагосьці, ці здатныя мы ўтварыць сапраўдны атрад, які здолее дзейнічаць.

Але, шчыра кажучы, мы такі чухалі сабе патыліцы, думаючы аб гэтым дні. Сілы былі катастрафічна няроўныя.

Нас, калі ўлічваць Нонку, было сем чалавек. Тых — дванаццаць. Хто гáды, а хто і проста залежныя ад Гната ці «па-зямляцку», па-вулічнаму салідарныя з ім. І гэта толькі з адной Падвальнай. Мы і чакалі і пабойваліся гэтага дня.

...І вось гэты дзень настаў. Мы зразумелі гэта таму, што яшчэ з раніцы на вал узлезлі два хлопцы і пачалі адтуль гарлаць нам:

— Гэй вы, нізавое балота! Пачым жабяняты?

— Чакайце, дагаўкаецеся! — адказвалі мы.

— Як бы вам гаўкаць не давялося!

— Вы брэшаце — вы і гаўкаць будзеце!

— Паб'ём Раланда з ягонай бандай!

— А ў вас з вашым Гнатам нешта нечым напхата!

— Выходзьце вечарам у сем, калі смеласці хопіць! Мы вас біць будзем!

— Выйдзем, а нягож. Толькі глядзіце, як бы мы вас рылам не натыркалі!

Нагаварылі, словам, процьму, проста такі кучу «разумных» рэчаў. А нагаварыўшы, сталі думаць, як не абняславіцца.

Дом, на які абапіраліся нашы «тылы», той дом, у якім жыў Кульба, у плане быў падобны на літару П. Справа ад яго, калі стаць спіною да ніжняй часткі гэтага П, быў глухі мур шматпавярховага дома. Злева — брукаваны з'езд з вуліцы непасрэдна ў двор, а за ім — фасад яшчэ аднаго, пяціпавярховага дома. Злева і справа, такім чынам, нам не было чаго баяцца нападу. Нажаль, і тут былі свае слабыя месцы. Адно — брама, што вяла на з'езд. Другое — пад'езд у П-падобным доме. Ён вёў на другі, мікраскапічны дворык, з якога, зноў жа праз пад'езд, суседні з першым, таксама можна было выйсці на вуліцу. З першым пад'ездам было прасцей. Мы зачынілі чыгунную вітую браму, ведаючы, што ўсе ўспрымуць гэта як належнае: цюкнула ў галаву ўпраўдому, і ўсё.

Справу з другім пад'ездам уладкаваў Навум Фінеес. І ўладкаваў выпадкова: убачыў ля «Перукарні» грузавік і шафёра, які, відаць, рыхтаваўся крыху спачыць, скручваў ватоўку ў валік.

— І што вы, дзядзька, так і збіраецеся спаць тут?

— Ну. Далёка завідна не ад'едзеш. І ўначы ездзіць небяспечна. Прыкімару тут.

— Угм... І на цёмнай вуліцы нейкі іншы грузавік дасць пад хвост вашаму. Прыемнае вы сабе рыхтуеце абуджэнне...

— Ну, а ты куды параіў бы, шалапут?

— Заганіце ўнь у той пад'езд. Хадзем, я пакажу.

І паказаў. Шафёру ідэя нечакана спадабалася.

— Гэта ж вузкі пад'езд,— пераконваў Фінеес.— Ён на рамізнікаў разлічаны. Дом жа ж стары. То, калі вы ведаеце, ніхто нават дзверцы да вас не здолее адчыніць, каб вас украсці. І машына не наедзе. І нічога.

Вадзіцель згадзіўся. Загнаў машыну ў пад'езд, нібы коркам бутэльку заторкнуў, і заваліўся дрыхнуць. Тады мы прыцягнулі некалькі скрынак і запхнулі іх пад грузавік. Тыл быў забяспечаны.

Мы не ведалі, чаму гэта Ролік знікаў гадзіны на дзве сярод белага дня, але мы бачылі: ён хвалюецца. І за сябе, і за нас.

Сонца ўжо схілілася нізка, і вокны дамоў гарэлі вадкім аранжавым ззяннем, калі на вяршыні грады з'явіўся вораг. Цэлы ланцуг лэйбусаў з галоўным прыдуркам на чале.

Наша кампанія грэбавала біцца інакш, чым «на кулачкі». І, акрамя ўсяго іншага, мы пагарджалі падвальнымі за тое, што яны заўсёды, нават зараз, ішлі ў бойку «ўзброенымі». Вось «карабіны» зручныя ў якасці доўбні, кіі, унь у аднаго лук, а ў другога пращча. Гэтак жа і галовы папрабіваць можна, вельмі проста.



І тут нас зноў здзівіў Ролік. Пайшоў перад нашым строем, раздаючы кожнаму па пяць скрутачкаў, з якіх тырчэлі канцы шнуркоў.

— Калі ўдасца тое, што надумалі, і іхні строй рассыплецца, па маім сігнале торгайце за шнурок і кідайце ім проста пад ногі.

— Гэта што? — спытаўся я.

— Гэта пад час тактычных заняткаў ужываюць. Называецца «выбухпакет».

— Дзе ўзяў?

— На яўбазе ў таго гандляра выменяў сёння. Гадзіну таргаваўся, гад.

— Што аддаў?

Раланд маўчаў.

— Няўжо «Цэйса» свайго?

— Не, хлопцы, бінокль нам спатрэбіцца. Ён у гарах — першы сябар,— і ўздыхнуў.— Шаблю аддаў.

Мы аслупянелі. Гэта быў скарб, якім ганарыліся ўсе мы, хаця належаў ён Раланду. Нямецкая парадная шабля. Танюткая, у чорных лакіраваных ножнах, тупая, лёгенькая, з «залатым» эфесам.

— Адолець трэба,— сказаў Ролік і ўспыхнуў.— Ды што вы нейкія, як на хаўтурах? Парадная яна. Цацка. У паходзе яна нам — ну ні да чаго. Тупая, адных жаб рэзаць. І, потым, вы ж бачылі — на эфесе круг, а ў крузе арол на свастыцы. На якога д'ябла нам іхні арол? Ды яшчэ на фашысцкім знаку?

Гэта сапраўды крыху змяняла справу. Ва ўсякім разе, мы зрабілі выгляд, што нам не шкада.

А ланцуг стаяў на ўзгорку і чакаў.

— Значыць так,— сказаў Ролік.— Б'ёмся амаль усур'ёз, бо інакшай не павераць, не завабім. А пасля падамося назад. А пасля ўцякаць.

Мы глядзелі на тых, на градзе. Чатырнаццаць чалавек. Два на аднаго. Але горш было тое, што некаторых хлопцаў з Падвальнай не было. Замест іх былі ландскнехты і прадажныя ваякі з Пірагоўскай. Значыць, мы мелі рацыю: частка іхняга атрада была заслана нам у тыл.

А тыя, на градзе, пачалі нас лаяць.

— Гэй, вы! Калі здрэйфілі — бяжыце па хатах! А то здавайцеся! Тады адхвошчам крыху крапівой, дый канцы...

Мы маўчалі. Мы проста ішлі па схіле ўгору. Зрэдку даводзілася адскокваць ад каменя, пушчанага з пращчы. І гэта яшчэ больш распаляла нашу ярасць.

— Ідзіце-ідзіце! Мы вас адлупцуем! Узгрэем! Адвозім! Накладзем! Аддубасім! Гарачых усыплем!

Маўчанне ў адказ. Мы проста няспешна падымаліся на касагор. Тыя таксама чакалі, і праз хвіліну мы зразумелі, чаго. Загрукаталі за нашымі спінамі, у пад'ездзе, скрынкі, і тут жа мы пачулі ільвіны рык разбуджанага шафёра:

— А?! Гэта вы чаго тут, мазурыкі? Вось я вам! Ах, злодзеі! Ну, чакайце! Вушы зараз вам абарву! — І адразу за лаянкай,— гул матора, шафёр даваў задні ход, каб мець змогу вылезці і надзерці ім вушы.

Я ўсміхнуўся, уявіўшы, як яны драпанулі. Нічога, болей не палезуць. Не захочуць звязвацца з дарослым. Шафёр прыкрыў наш тыл. А пакуль яны аббягуць вялізны, на ўсю вулачку, квартал, каб далучыцца да гэтых,— шмат што можа адбыцца.

Гэта, відаць, зразумелі і тыя. Зразумелі, што чакаць цяпер няма чаго. І з дзікім гвалтам і лямантам павалілі на нас.

Праз пару імгненняў два ланцугі перайшлі ў рукапашную. Шчыра кажучы, у некалькі гэтых хвілін нам давялося кепска. Яны, праўда,

ужо не кідалі каменняў, баючыся трапіць у сваіх, але кулакамі і кіямі дзейнічалі, як маглі. І шмат іх было, вельмі шмат, як на нас. Занадта.

Усё круцілася ў вачах. Як у тумане, як на гіганцкай каруселі мільгалі твары, ногі, кулакі. Вішчэла, кусалася і брыкала нагамі Нонка, якую два ворагі цягнулі ў палон, але не маглі адцягнуць і на пяць крокаў з месца бойкі. Раланд схапіўся з Гнатам і двума ягонымі «цела-ахоўнікамі». Тыя саплі, хрыпелі і лаяліся, імкнучыся дарвацца. А гэты маўчаў, бярог дыханне і толькі з'едліва ўсміхаўся распухлымі вуснамі.

Мы пачалі задкаваць, а пасля пабеглі з узгорка. З дзікім крыкам, цюгаканнем, лямантам і згэлкам яны паваліілі за намі наўздагон. З першабытным рыкам ляцела за намі лава, ламалася праз густы бур'ян. А мы беглі і там, дзе трэба, скакалі. І я ўбачыў, як Жэнька ўпаў, а Гнат, прабягаючы, пхнуў яго наском чаравіка ў рэбры, і Кульба адкаціўся.

І мы таксама адкаціліся. Да самай падэшвы ўзгорка. А пасля павярнуліся. Дзіўнае рабілася вышэй па схіле. Хто ляжаў, хто торгаўся, хто спрабаваў паўзці ўгору, а нешта трымала яго.

Дурні! Кінуліся гнаць, ляцелі, як на злом галавы, дарваліся, лічылі, што аваладалі становішчам, бязмозглыя. І ніхто нават не падумаў, што мы зававілі іх, як неразумных шчанюкоў, што мы яшчэ папярэдняй ноччу прыцягнулі з Батанічнага саду (там такой раскошы была куча, сапраўды куча, якую сабралі адусюль і не паспелі вывезці) некалькі доўгіх кавалкаў супрацьпяхотнай спіралі з калючага дроту.

— Назад, хлопцы! — крыкнуў Дзмітрэнка.

Я тарганўў за шнурок і кінуў выбухпакет проста пад ногі аднаму «заблытанаму». Успышка агню і досыць гучны ўдар. Вораг таргануўся, упаў і закрыў галаву рукамі. А пасля па ўсім схіле забухала і зараўло, і пачалі ўсплёсквацца ўспышкі агню.

Тыя, хто не заблытаўся, пабеглі, канчаткова дэмаралізаваныя тым, што адбывалася вакол, Але тут пагналіся ўжо за імі мы. Досыць з нас было смешак, досыць іхняй подлай жорсткасці. Віно, як кажуць, стукнула нам у галовы. Мы даганялі, валілі і таўклі; зверaняты, выгадаваныя суслам вайны.

Зараз мне сорамна ўспомніць пра гэта. І адначасова нічым я так не ганаруся. Знявечаныя, без пары дарослыя, мы ўсё ж не білі ляжачага ботам у бок і не гулялі ў расстрэл. Так, мы не гулялі ў расстрэл.

Я ўбачыў, як Жэнька, дагэтуль непрыкметны ў пустазеллі, устаў насустрач тым, хто уцякаў, і кінуў успышку агню і пярун пад ногі таму, хто бег першы. Гнат кульнуўся і ўпаў. Іншыя замітусіліся. Я кінуўся на ляжачага, насеў на яго і, грэшны, у першы і апошні раз сунуў некалькі разоў яму ў грудзі.

Расправа была толькі над адным. Тут жа, на полі пабоішча. Гнату грунтоўна ўсыпалі крапівой, і «палонныя» павінны былі глядзець на гэта.

Дзмітрэнка лічыў:

— Гэта табе, бандзюга, за вашы злачынствы. Гэта за планы з бочкай і крапівой — пакаштуй сам... Гэта за забарону хадзіць вуліцамі... Гэта за тое, што ляжачага ў рэбры біў...

— Ды я назнарок упаў. Каб ім пасля шлях адрэзаць. І адкаціўся, так што ён мяне не дужа і зачапіў.



— Ну а каб ты не такі спрытны быў? То зачапіў бы і дужа! Ты змоўч, Яўген. Дайце яму яшчэ і за Жэнькаў спрыт.

Падначаленыя глядзелі на ганьбу атамана з нейкім нават зларадным задавальненнем, з іранічнымі ўсмешкамі. Відаць, і ім ён абрыдзеў, як гнілая рыба, ды толькі да гэтай хвіліны яны яго пабойваліся. Ёсць такія гадаўцы, што (хай сабе і на маленькім лапічку, на вуліцы, на двары, у квартале) кулаком, нацкоўваннем хлопцаў адзін на аднаго, плёткамі, падласцю ўстанаўліваюць самы невыносны і тупы тэрор, ператвараюць жыццё равеснікаў у пекла.

— А гэта табе за гульню ў расстрэл. А вось гэта—за тое, што слабенькіх, што дзяўчат між лапатак доўбняй б'еш. Ну, мабыць, пакуль што досыць,— і звярнуўся да разгромленай арміі.— То што, мала вам гэтага? Дабавіць яшчэ ці будзеце разумныя? Вось, на атамана зірніце. І калі хочаце, каб вамі і далей камандаваў і ў паняверцы трымаў чалавек з лупцаваным азадкам,— давайце. Толькі тады пра гэта ўсе навакольныя вуліцы даведаюцца. Аж да Хрышчаціка.— І, памаўчаўшы, сказаў:— Ідзіце. Бай-бай. І каб ведалі: гэта проста рэпетыцыя. Каб помнілі. А забудзеце — тут ужо куды горай будзе.

Яны пайшлі. Гнат ішоў паперадзе ўсіх. Амаль бег.

## VIII

Цяпер мы маглі хадзіць паўсюль нават паасобку. Хлопцы з тых вуліц—хай сабе ты ішоў бы і адзін, а іх было трое — пры сустрэчы рабілі выгляд, што не пазнаюць цябе, і праходзілі, ненатуральна жвава абмяркоўваючы нешта. І гэта было цудоўна: ісці куды хочаш і нічога не асцерагацца і ведаць, што ні за рогам, ні ў пад'ездзе, нідзе не чакае цябе ніякая засада. Лета свабоды ўрэшце сапраўды стала летам свабоды. Поўнай.

Ясна, што і мы не чапалі іх, нават калі яны ішлі нашымі завулкамі, нашым дваром. На наш гонар, трэба сказаць, што ніхто з нас і не падумаў скарыстацца з гэтага новага становішча.

Гнат тыдні праз два з'ехаў. Казалі, некуды ў Васількоў, да ўдовай цёткі. Ясна, няма чаго яму тут болей рабіць. Штопраўда, на яго месцы я так лёгка не здаўся б, пайшоў бы чорт ведае на што, нават на недазволенае, абы вярнуць сабе хаця крыху павагі.

Мы толькі плячыма паціснулі. Што ж, хай цяпер, калі здолее дабіцца, мучыць іншых і панявярае чужымі — тут мы нічога не маглі зрабіць. Толькі спадзяваліся ад усяго сэрца, што свет паўсюль не без добрых людзей, што і там знойдуцца вартыя, добрыя хлопцы.

І тут перад самымі нашымі ўцёкамі, калі мы, урэшце, расслабіліся і зірнулі вакол і ўбачылі, якая прыгажосць у сумных ціхіх дворыках і ва ўвяданні каштанаў і ў зорных, ужо амаль па-асенняму зорных начах над Дняпром, звалілася на нашу кампанію новая бяда, новае злачынства, новая напасць.

Напасцю той была «дружба». Не тая, вядома, «дружба», якая вязала, скажам, мяне з Ролікам ці з Карлам, а «дружба» зусім у іншым сэнсе.

Не ведаю, ці так гэта зараз, але тады ва ўсіх падлеткаў існаваў на такі выпадак бязглузды моўны зварот. Замест таго, каб сказаць дзяўчыне: «Я кахаю цябе», «Я цябе люблю», «Я жыць без цябе не магу», мы бубнелі тупую, бязладную, пачварную фразу: «Давай з табою дру-

жыць». Урэшце, гэта вяло да таго ж самага, але маё цяперашняе эстэтычнае пачуццё бунтуе пры адным успаміне аб гэтым сказе, які абражаў здаровы сэнс і самое пачуццё.

Дык вось, мы як быццам адурэлі, страцілі галовы, ачумелі з гэтай «дружбай». Быццам толькі зараз заўважылі, што дзяўчаткі — ну, хаця б тая ж Нонка,— гэта зусім не тое, што мы, і што даць ёй дыхту зусім не так лёгка, як, скажам, Карлу ці мне.

Гэта было не тое, што потым. Пасля мы, хто дажыў, шмат што зразумелі, а тады гэта было так, як быццам перад чалавекам, які дагэтуль бачыў толькі ноч, заднела, засвяцілася зусім яшчэ не вядомая яму, не зразумелая, але ад гэтага яшчэ больш прывабная заранка.

Божа мой, якія мы былі яшчэ дзеці, якія да святасці дурныя і якія бязглузда чыстыя!

Годам-двума пазней, напярэдадні той злашчаснай сутычкі з бандай Боўбута (памятаеце, я расказваў вам пра хлопца і яго вавёрку), лежачы без сну ў палатцы, выпадкова падслухаў ціхую начную размову двух хлопцаў з майго аддзялення. Мужных хлопцаў, добрых ваякаў, на рахунку якіх ужо было па некалькі заўзятых бандзюгаў:

— Дык ты што, так Агнешку кахаеш?

— Ага. Дужа. Толькі ўсё гэта дзіўна неяк.

— А як дзіўна? Ну вось што ты, напрыклад, адчуваеш, калі бачыш яе і на мосце з ёй сядзіш?

У нас у атрадзе тады існаваў у хлопцаў дзіўны звычай. Калі нам хацелася пагаварыць з дзяўчынай з вока на вока, мы ішлі гуляць па маршруце, канчатковай кропкай якога быў мост. Там дзяўчына сядала на парэнчы, а хлопец, абхапіўшы і нібы трымаючы яе, вёў размову пра што хочаш, абы не пра тое, дзеля чаго яны выбраліся на гэтую прагулянку. Гаварылі, злёгку пагойдваючыся, а ўнізе шумела, бегла вада, і ўрэшце пачынала здавацца, што пагойдваецца ўвесь мост, увесь сусвет разам з зорамі, што ты сам плывеш некуды, бязмежна заспакоены і бессаромна шчаслівы.

— Разумееш, мне яе заўсёды шкада. Хаця б як ёй добра ні было, а мне ўсё здаецца, што нехта яе крыўдзіць. І мне хочацца яе абараніць, супакоіць, суцешыць. Ты толькі не смейся, мне часам нават легчы з ёй хочацца, прыцiснуць да сябе, шчыльна-шчыльна. І па галаве гладзіць. Каб ніколі не плакала. Толькі...

— Што?

— Толькі разумееш, адно мяне бянтэжыць і нібы хвалюе, і сорамна мне і няёмка. Перашкаджае мне, калі не грудзі між ёй і мною. Няёмка, разумееш. Лепей бы не трэба гэтага. Ну як, на самай справе?

— Так, браце, гэта і сапраўды ўжо неяк без патрэбы.

Назаўтра абодва загінулі. І я, між іншым, дагэтуль больш за ўсё не магу дараваць усяму, усёй хлусні і подласці свету, што свядома сее варожасць, той ціхай начной размовы.

Але пра гэта я, магчыма, раскажу яшчэ неяк пасля.

Прыблізна такое ж адбывалася з намі і тады. І калі дагэтуль мы былі занятыя «вайной», то цяпер, з такой самай нястрымнасцю, як на скрут галавы, заняліся «каханнем».

Грэх і сорам прызнацца, але паклаў пачатак гэтаму вельмі пахвальнаму занятку я.

Здарылася так, што мы з Нонкай выпадкова сустрэліся недзе ў раёне «Арсенала». Яна ішла ад сваякоў, я проста брыў па горадзе і цяпер збіраўся ісці дадому. Агульная наша дарога была доўгая, і я раптам да сардэчнага замірання ўзрадаваўся гэтаму, узяў у Нонкі яе лёгенькі, вельмі пацёрты і нават сям-там дзіравы пляцак, закінуў яго за плечы, і мы пайшлі, зрэдку беручы адно аднаго за рукі.



Яна ўзрадавалася спадарожніку, я гатовы быў паклясціся ў гэтым. І я не думаў, што для гэтай радасці могуць быць і іншыя прычыны. Скажам, тое, што не так страшна будзе ісці адной па начным пустым горадзе або што дарога пад размову пройдзе весялей і хутчэй. Я не хацеў думаць пра гэта.

Таму што я раптам зразумеў, што кахаю гэтае дзяўчо. Даўно ўжо і вельмі моцна кахаю. Кахаю гэтыя цыганскія, вясёлыя і дзёрзкія вочы, кахаю тонкія моцныя рукі, цяжкія валасы, вечна падрапаныя каленькі. І — хаця я яшчэ нічога такога толкам не разумеў — кахаю ўсю яе пад гэтай чырвонай у чорныя гарохі, ужо трохі вылінялай паркалёвай сукенкай.

Кахаю яе, калі яна смяецца, калі яна гаворыць, калі задуменна маўчыць.

І кахаў заўсёды. Кахаў, калі яна, прытанцоўваючы, спявала нахабныя куплеты пра нас. І калі ўцякала, як лань, робячы вялізныя скачкі. І калі скакала з быкоў моста, бліскуча-шакаладная пад час лёту ў паветры, серабрыста-блакітная, як рыбка, пад вадой. Кахаў тады, калі яна, пад час бойкі, верашчала і лупіла, і брыкалася гэтымі доўгімі нагамі. Заўсёды.

На горад спускалася сутонне. Апошнія залацістыя адбіткі кладзіся на муры дамоў. Вокны таямніча міргалі насустрач захаду — нібы тлелі, згасалі і зноў тлелі ў прысмерку тысячы жаўтавата-зялёных, кашэчых зрэнак. З паркаў, якія цягнуліся справа, пачало павяваць вільготнай прахаладай. Танюткі галасок нейкай птушкі далятаў адтуль, нібы настойліва і журботна скардзіўся на нешта.

— Ціў-ціў-ціў-ці-і-іуў!..

Я даткнуўся да яе рукі і адчуў, што яна пайшла гусінай скурай, адчуў нават, што валосікі ля лакцявых згібаў натапырыліся ад холаду. І страшэннае шкадаванне ахапіла мяне. (Як я потым разумеў таго хлопца ў палатцы!) Я зняў з сябе футболку.

— Чакай...

Калі яна ўзняла рукі, нібы здаючыся, а я пачаў надзяваць на яе маю выгаралую, мабыць, здорава прапыленую трэнціну, калі я міжволі крануўся да яе рук і, прасоўваючы галаву, правёў рукамі па чорна-бурых цяжкіх валасах, па плячах, па спіне — пачуццё найглыбокага замілавання і шчасця ахапіла мяне з такою сілай, што я ледзь не заплакаў. Рукі ў мяне дрыжэлі, горла перасохла. Каб мне ў той момант сказалі: «Памры за яе!» — я памёр бы, не думаючы аніводнага імгнення, і не лічыў бы гэта ахвярай, а лічыў бы, наадварот, найвялікшым на свеце шчасцем. Бо я нічога не баяўся.

І, адначасова, баяўся. Страшэнна, несамавіта баяўся. Баяўся гэтай дзяўчынкі, баяўся поўнай сваёй нявопытнасці перад воблікам чагосьці амаль мне не вядомага, таго, што я толькі прадчуваў нейкімі глыбінямі душы, аб чым толькі цьмяна здагадваўся нечым такім, што ляжала нават глыбей падсвядомасці. Баяўся гэтага раптоўнага пачуцця, ад якога я паміраў на кожным кроку, і свайго няведання, што з ім рабіць, і неабходнасці рашыцца, скочыць у невядомае, як з разбуранага моста ў дняпровую плынь.

Я ведаў, што я не здолею сказаць пра гэта, і ведаў, што мне абавязкова, дазарэзу, трэба гэта сказаць. Іначай хоць і памерці.

І я баяўся.

І з таго часу я ніколі не ўсміхаюся, калі ўбачу каханне шаснаццаці-

гадовых. Можа, нехта і не перажыў такога, але я перажыў, я ведаю, якое яно...

Верце мне, яно бывае стакрат больш моцнае і заўсёды куды больш безнадзейнае і горкае, чым у нас. Верце мне, дарослыя людзі.

Я баяўся і я адчуваў неабходнасць і наканаванасць так моцна, што ведаў: я скажу і памру. Абавязкова. Толькі яшчэ не цяпер. Толькі пачакаю крыху. Скажу вось ля гэтага слупа. Не, ля гэтага. Не, як толькі дойдзем вунь да таго...

Сцямнела. Запаліліся ліхтары. Светамаскіроўка ў Кіеве была даўно адменена, немцам было не да налётаў. Але ўсё адно рэдкія, вельмі рэдкія і слабыя лямпачкі над праезджай часткай вуліцы былі схаваныя ў самай глыбіні дужа вузкіх і доўгіх бляшаных леек і кідалі на брук толькі цьмяныя жаўтаватыя кругі.

Зняволенае святло.

— Зоры якія! — сказала Нонка.— Нібы ў вёсцы. У Кіеве да вайны столькі святла было, што зораў не відаць.

— Будзе яшчэ тое святло. Столькі святла, што зорак не ўбачыш. А паглядзець зоры будзем на вёску ездзіць. Станем там ля пералазу і глядзець будем. І ціха-ціха, анідзе ні страляніны, ні выбухаў. Толькі сабакі брэшуць.

— Ты добры парубак, Васілька,— нечакана глыбокім, грудным, не сваім нейкім голасам сказала яна.

І я заўважыў, як блішчаць у цемры яе вочы, яе любыя смяшлівыя вочы. І гэта быў першы ў маім жыцці выпадак, калі мне захацелася гэтыя вочы пацалаваць. Першы раз, калі мне ўвогуле захацелася пацалаваць дзявочыя вочы.

«Ля таго слупа... Не, вунь ля таго».

— Што ж ты маўчыш, Васілька, даражэнькі? — голас быў такі мяккі і глыбокі, што ў мяне нібы соладка абарвалася ўсё ўнутры.

І я рашыўся.

Цяпер я ўпэўнены: яна ўсё ведала, прадчувала, знала так цвёрда, нібы я ўсё гэта так, здавалася, надзейна схаванае ў душы, сказаў уголас. І з міжвольным, ужо зусім жаночым какецтвам нібы правакавала мяне, прымушала выказацца, адкрыцца, сказаць урэшце аб усім. Падштурхоўвала і маўчаннем, і гэтай загадкавай у змроку усмешкай, і гэтымі скоса-чаканымі і крыху спалоханымі позіркамі, вільготна-бліскучымі ў цемры. Дзяўчаты-равесніцы ў гэтым узросце куды больш разумныя, абазнаныя, сталыя і дарослыя, чым хлопцы. І калі я быў дурны шчанюк, то яна была ўжо дзяўчына, амаль падрыхтаваная да вялікай сваёй місіі на зямлі. І няхай нават я і не падабаўся ёй—усё адно ёй было прыемна лішні раз пачуць гэтыя словы, гэтае пацвярджэнне сваёй прыгажосці, сталасці, якая абудзілася, прывабнасці, годнага месца сярод дачок Евы на гэтым улонні зямным.

Мне здавалася, што зараз я скажу ёй самыя прыгожыя словы на свеце, словы, ад якіх плачуць, пасля якіх цалуюць і, пачуўшы якія, ніколі-ніколі не ідуць да іншага. Словы, якіх ніколі не чуў ні гэты цьмяны начны Дняпро, ні гэты старажытны, зачараваны ноччу горад, ні вечныя зоры над ім. Замест гэтага я, як гэта і належала сыну свайго часу, ляпнуў:

— Нонка, давай дружыць.

На большае ў мяне не хапіла ні таленту, ні розуму, ні красамоўства.

Відаць, і яна была расчараваная. Сярод нас лічылася, што я «адукаваны, начытаны і гаварыць умею». І — нá табе. Яна паціснула плячыма. Ясна, каму ахвота бавіць час з гэткім ёлупам хвашчоўскім?





— А мы хіба што — не дружым? — з наіўнымі вачыма спыталася яна.— Мы дружым. Усе.

Я зразумеў, што ўсё скончана, што яна чакала ад мяне зусім іншых, незвычайных слоў. Але ўсё ж я безнадзейна паспрабаваў вярнуць незваротна страчанае. Толькі тут, ад адчаю, прарэзалася ў мяне слова:

— Я не пра тое, Нонка. Я пра тую дружбу, калі для мяне ёсць толькі ты. Пра тую, калі абараняць цябе хаця й да смерці, дзяліцца апошнім, заўсёды быці з табою. І на Дняпры, і на гэтых вуліцах ноччу, і ў доме, і ў дождж, і ў агні. Таму што я цябе кахаю, Нонка. І калі б'ешся, і калі ўбраная, і калі ў латанай сукенцы акно мыеш, і калі здзекліваe спяваеш. Усякую, паўсюль цябе люблю. Я дзеля цябе ўсё зраблю. Хочаш — чэмпіёнам стану ці адны пяцёркі хапаць буду? Або па поручнях мост перакідны ля «Дынама» прайду? Або навучуся і напішу такія вершы, што ўсе здзівяцца. Я табе слова гонару даю, што зраблю ўсё гэта! Таму што ты мне і сонца, і старарэчышчы на Труханавым, і таполі, і ўся Украіна, і ўся мая Беларусь. Таму што без цябе мне ні Дняпро, ні гэты найпрыгажэйшы горад, ні зоры — нічога гэтага не трэба.

Я гаварыў гэта глуха, бо нехта моцна і балюча сціскаў мне глотку — аж шчымела — і душыў. Я гаварыў гэта амаль шэптам і разумеў толькі адно. Спазніўся. Позна.

— Я не магу, Васілька. Так не магу. Толькі ты не пабівайся, толькі ты не мучайся, любенькі.

І гэта была задзірыстая, калючая Нонка? Не, гэта была дзяўчына ва ўсёй мяккасці і бязмернай ласкавасці першай сапраўднай сваёй вясны, чыстая, цёплая, добрая, з голасам, поўным музыкі, пакоры і шкадавання. Уся нібы са святла.

— Нехта яшчэ? — спытаўся я.— Што, Раланд? Карл?

Яна была добрая дзяўчына, ёй было відавочна шкада мяне, яна належала да таго самага гатунку людзей, што і я. Людзей, якім не так моцна баліць, калі іх адштурхнуць, і якім куды больш нясцерпна пакутна — адштурхнуць руку, працягнутую да цябе ў маленні аб тваёй любові.

Мне гэта заўсёды кроіла сэрца. Лепей ужо няхай заб'юць маё каханне, чым самому забіць чужое. Відаць, вось гэтак пакутавала і яна, але нічога, зусім нічога не магла з сабою зрабіць.

— Ах, божа мой! — праз падслуханыя, дарослыя інтанацыі прабіваўся сапраўдны боль.— Ды хіба я ведаю? Хіба я нешта ведаю?

Мы падышлі да дома. Ля свайго пад'езда яна здзівіла мяне. Стала на дыбачкі, абхапіла далонямі маю галаву, нахіліла яе і тройчы пацалавала мяне ў вусны. Няўмела, горача, з раскаяннем.

— Васілька, любы! Ты толькі не пакутуй. Не варта. Я знаю, я дрэнная, нядобрая. Але я шкадую цябе, у мяне сэрца разрываецца... Даруй мне... Даруй мне, калі ласка.

І кінулася ў пад'езд. А я стаяў, як разбіты. Сэрца маё скавытала, як забыты ў зімнім начным пад'ездзе шчанюк. Сэрца маё плакала.

Я адчуваў, што ёй, мабыць, падабаюцца абодва. Я ведаў, што яна адмовіла мне, але што ёй зараз вельмі-вельмі кепска, што яна мучыцца праз гэта. Але ад таго мне не было лягчэй.

Так гэта ўсё і пачалося. І ледзь не скончылася разваламі нашага сяброўства, разваламі кампаніі і крахам нашага плана.

А можа, і лепей было б, каб гэты план пацярпеў крах?

Хілілася на восень. Ужо моцна хілілася. Жаўцелі каштаны. Халадна сінела вада ў Дняпры. Першае лісце злятала ў густа-сінія лужыны на асфальце, і галубы з вераб'ямі пілі з гэтых лужын блакіт. Начамі — ужо разы два — кветнікі, у якіх дагаралі настурцыі, бывалі нібы прысыпаныя бязважкай саляной пудрай, але ўзыходзіла сонца, пудра раставала, клумбы былі ўжо проста мокрыя, потым высыхалі. І цэлы дзень пясціліся ў гарачым дзённым святле бэзавыя з жоўтай плешынкай астры і шыкоўныя вяргіні.



У адзін з такіх дзён я палез на гару флігеля, адвязаў ад бэлек дзве торбы, вылез з імі на дах і высыпаў на гарачае жалеза сухары і сушаную шаўковіцу. Іх трэба было праветрыць і падсушыць. І раптам пачуў унізе галасы.

— Вы яшчэ пабіцеся,— сказала Нонка.— Ну, што за глупства? Дарослыя бэйбусы, а, скажы ты, як ашалелі. Ну што я вам скажу? Каго з вас мне пакрыўдзіць, з іншымі пасварыць? Каго?

— А ты не ўнікай адказу, то ўсё будзе ў парадку,— сказаў Ролік.— Табе што, прыемна нас абодвух за нос вадзіць? Абодвух пры сабе трымаць?

— Ну-ну... Ну-у. Не думала я.

— А што ты ўвогуле думала? — спытаўся Карл.

— Я думала, што кіяўляне ўсе чыста — разумныя.

— Канчай,— сказаў Раланд.— Не даводзь ты нас, не выводзь з сябе. Зберажы сяброўства, не сей сваркі. Скажы, хто з нас табе лепшы друг — і справа з канцом. Не круці! Не гуляй намі! Скажы!

— Ані мне сніцца. І не падумаю. Я дурных размоў падтрымліваць не буду. І ты, Карл, харошы, добры хлопец. І ты мілы і смелы. І няма тут чаго...

Я падпоўз на край даху. Яны аддаляліся, і спрэчка, відаць, набірала сілы, бо галасы падымаліся ў тоне, а жэсты рабіліся ўсё больш рэзкія і размашыстыя.

Яны пачалі здымаць курткі. Пасля паглядзелі адзін на аднаго, амаль аднолькавым жэстам махнулі рукой і пайшлі ў розныя бакі.

— Ролік! Карл! — пачуў я адчайны голас.

У адказ маўчанне.

Я пацiснуў плячыма і плюнуў. Ідыёты паршывыя! З-за дзяўча так перасабачыцца. «Верная, скупая мужчынская дружба». Таксама мне яшчэ, Рамэа з Хацапетаўкі, Ленскія з Канатопа. Цьфу!

Пад нечымі крокамі заракатала бляха. Я ўзняў галаву. Ролік ішоў да мяне, і выраз ягонага аблічча быў збянтэжаны і прысаромлены. Не хацеў глядзець мне ў вочы.

— Так я і думаў, што ты тут,— хрыпата сказаў ён.— Бачыў? Чуў?

— Бачыў. Чуў. Дурынды.

— А чаго яна намі гуляе? І аднаго трымае і другога. Чаму не скажа?

— Абалдуі. Якога д'ябла ёй казаць? Ёй з абодвума весялей. І ілбамі вас сутыкнуць можна, пенцюхоў, і ў дурні пашыць, і ў фофаны паставіць...

— І Васямі зрабіць,— з'едліва сказаў Ролік.

— А чаго Васямі? Я сам — Вася. Але хаця я і Вася, а ўсё не такі дурны, як вашых бацькоў дзеці.

Ролік збянтэжана ўсміхнуўся:

— Я і сам не ведаю, чаго мяне тузанула. Глупства ўсё. І дзеўкі — лухта. І размовы з імі — крэцінства. І сяброўства гэта — дурасць... Вось... Абазваў яго фрыцам.

— Што ж, вельмі дасціпна. А ён цябе?

— А ён мяне тумаком, мякіннай галавою і чумацкай дурындай.

— М-так-к, пагаварылі. Абодва вы фофаны і фалалеі, медныя ілбы і петыя дурні, вось што. Як жа вы так уцякаць сабраліся? Пры гэткай моцнай дружбе?

— Цяпер аб уцёках і гутаркі быць не можа.

— То, можа, і лепей.

І тут Ролік ускочыў на калені. Ноздры ў яго дрыжэлі.

— Ты што? — схапіў мяне за грудкі і патрос.— Нашто ж тады мы?.. Нашто ж тады мы жылі?! Карл гэты хаця страляў, а мы? Што ж мы, горшыя за яго?

Ён на хвіліну змоўк, але потым зноў завёўся. З паўабароту.

— А помсціць? Помсціць хто будзе? За сябе яны расплоцяцца! А за нас расплоціцца хто? За тваіх братоў? За майго? За соль на ранах? За тое, што Кіеў недаядае і ўвесь вунь такі? За твае мясціны? За тое, што яны нам лепшыя гады знявечылі, нас знявечылі?!

Ролік цяжка соп. Потым неяк каламутна абвёў вачыма двор, як быццам бачыў праз муры і брандмаўэры мёртвае царства недалёкіх руінаў:

— Раз ужо так здарылася... Тады давай уцякаць удвух.

— Давай,— сказаў я.

— І, каб такога не паўтарылася ніколі — давай клятву адзін аднаму дамо.

Клятву, якую мы далі на знак таго, што ніхто ніколі нас не разлучыць, Раланд відавочна прыдумаў сам. Я зараз не памятаю яе слова ў слова, але ў ёй ішлося аб тым, што нас не развядзе нішто: ні бой, ні турма, ні чума, ні смерць, ні дзяўчаты. А калі нехта з нас забудзе, што мы больш чым браты,— той няхай стане як здраднік аж да таго часу, пакуль людзі ёсць на зямлі.

Смешныя напаўдзіцячыя словы з тых старых, з яцем, кніжак, дзе пад малюнкамі стаяць подпісы накшталт: «І ён убачыў, што разбойнікі ўвайшлі ў алтар закінутай царквы». Нам аднак яны не здаваліся смешнымі. Проста таму, што мы гаварылі іх са шчыраю верай.

...Мы ляглі на спіны. Плылі над намі ў сінім сляпучым небе снежныя аблокі, тоўстыя, поўныя, як налітыя малаком. Вось-вось лопнуць.

І праз некалькі хвілін нам здалося, што мы плывем недзе пад імі, паміж небам і зямлёй, якраз там, дзе лунаў на нерухомых крылах шуляк.

— Вось мы іх дапаможам узгрэць, аддубасім, каб яны і праўнукам заказалі, а пасля вернемся. Сумленне ў нас тады ўжо да самага канца будзе спакойнае. І мы гэты спакой страшэнна будзем берагчы. Ані разу ў жыцці не збрэшам.

— І другім не дамо,— сказаў я.

— А ўжо ж. Несправядлівасці ніводнай не пацерпім. Каб гэта каму было цяжка, каб нехта заплакаў ці, крый божа, з моста галавой кінуўся,— гэта ані. Толькі, як мы, па сваёй ахвоце. Друз гэты расцягнем. Гарадоў такіх набудуем — усе дзівіцца будуць.

— І ў кожнага чалавека тысячы кніг.

— Ага. А каб у каго ў жываце бурчэла — не. Усе будуць чыстыя, добра апранутыя. У кожнага свой пакой, каб іншыя да яго не лезлі, як не захоча. Хочаш — чытай, хочаш — сталярнічай ці караблі выразай. І ніякі задавака, ніякі нудзяр да цябе не палезе, каб табе з вышыні загадваць: «рабі тое, не рабі гэта». І на кожным кроку: хочаш — сасіскі з хлебам, хочаш — каўбаса. А мы ідзём і толькі: «сёння мне гэтага не хочацца, давай лепей вады возьмем з сіропам і піражкоў з павідлам».



— Ну. І людзі ўсе прыгожыя, моцныя. Бо няма чаго ім баяцца. Ні табе аблаў, ні стрэлаў, ні мін, ні свалаты. Ніводнай сволачы на свеце — гэта ж здорава, Ролік, га?!

— Так, здорава, што аж не верыцца,— Ролік часам злоўжываў іроніяй, як многія ўкраінцы.— Але ж будзе. Нашто ж тады столькі крывішчы пралілося?.. І як цудоўна мы зажывем! Дзяўчаты якія з намі дружыць будуць!

Схаваў сплеценыя пальцы рук між каленяў.

— Як добра мы будзем жыць! І жыццё будзе якое цудоўнае! Якое жыццё!

## IX

З часу той размовы на даху мы нават не глядзелі на Нонку. Помсцілі пагардай. Ведаю, што гэта было непрыгожа, было нават проста жорстка, але што нам заставалася рабіць? Сама вінаватая. Не вадзі людзей за нос.

Затое высунулася на першы план наша «бедная Ліза». Наша ранейшая папялушка. Невялікага расточку — відаць, ад сістэматычнага трохгадовага недаядання,— страшэнна худзенькая. Але кожнаму, хто глядзеў на яе мяккія, крыху павольныя рухі, на зусім не ўласцівую падлеткам грацыю хады, на залацістыя валасы і глыбокія, сінія вочы — кожнаму рабілася неяк лягчэй на сэрцы, што вось ёсць жа на свеце гэткія рахманасць і добрасардэчнасць.

Спагадлівая яна была да святасці, наіўная і легкаверная да таго, што не карысталіся гэтым толькі дурні ды сумленныя. І яна нібы зусім не звяртала ўвагі, калі даводзілася кепска ёй, але не магла без глыбокай крыўды, агіды, часам нават гневу глядзець на тое, як мучаць несправядлівасцю і жорсткасцю іншых. Усё адно, хто б гэты іншы ні быў: чалавек або верабей.

— Падзвіжніца расце,— сказала аднойчы пра яе мая цётка,— на ўсё жыццё выйгрыш для нейкага шчаслівага чалавека. Ды толькі няшчасны лёс у яе будзе. Ужо зараз яго рыхтуе. Вам жа зусім іншыя патрэбны. Каб пасадзіць на прыпечак і ў спіну цалаваць.

Аднойчы мы ўбачылі, як вялікі падлетак трымае на вяровачцы звязанага за заднія лапы крата. Ён нібы «адпускаў» звярка — і той за лічаныя імгненні зарываўся ў зямлю,— а пасля выцягваў яго за вяровачку.

І зноў адпускаў і выцягваў. І зноў.

Я глянуў на Лізку і ўбачыў, што ў яе гаротна дрыжаць бровы. Дагэтуль я, хаця мне і было брыдка, не збіраўся ўмешвацца. Падумаеш, крот! Тут людзей колькі пабілі, павесілі. Але ў такія хвіліны нельга было глядзець на малое дзяўчо без пачуцця самага вострага жалю.

— Кінь крата.

— А табе якая сабачая справа? — хлопец быў вялікі і дужы, але ён нічога не ведаў пра мой вопыт, здабыты ў партызанцы і беспрытульніцтве.— Ты валі адсюль, рыжы...

Я быў «бялявы з залацінкай», а зусім не рыжы, і таму развярнуўся і жахнуў яму так, што ён знік, толькі пяты тырчэлі з-за бервяна.

Лізка паспела перахапіць шпагат і ўзяла звярка ў руку, пачала вызваляць яму заднія лапкі. А я ж ведаў, як яна панічна баіцца ўсіх цёмных, незразумелых істот: прусакоў, кажаноў, мядзведак, тых жа кратоў.

Яна дрыжэла ад агіды і ўсё ж разблытвала.

— Бо ён жа не здолее развязаць і здохне там... пад зямлёй...

Урэшце яна пусціла чорны камячок, і той, паляжаўшы хвіліну і, урэшце, паверыўшы, бліскавічна закапаўся ў зямлю.

— Ну што? — сказаў я хлопцу.— Досыць ці яшчэ хочаш?

— Кінь яго,— раптам сказала Лізка.— Дурань ён проста. Ну, вось бачыш, не пусціў ты яго, калі па-чалавечы прасілі — ну і схапіў па пысе. Няхораша ты рабіў таму што. Як фашыст. Яны ў Палессі ўсю сям'ю маёй цёткі дротам тоўстым прывязалі да прызбы, а хату падпалілі. За партызанаў. А дроту дзесяць метраў. І хата ўсё мацней гарыць...

Хлопец нічога не сказаў, нават не варухнуўся, калі мы пайшлі прэч. Глядзеў у зямлю.

...І вось цяпер мы ўсе хадзілі з Лізкай, нібы наперабой выкупляючы нашу ранейшую няўважлівасць. І весялілі яе, і жартавалі, і здатныя былі каму хочаш выбіць за яе зубы. Аб іншых метадах заляцання да дзяўчат мы мелі паняцце самае павярхоўнае.

Я, шчыра кажучы, здзіўляўся, чаму ніхто не закахаецца ў яе. Я асабіста абавязкова закахаўся б, калі б не Нонка.

І малая наша цвіла. Нібы з шэрай кукалкі вылез і пачаў пакрысе распраўляць сцятыя яшчэ крыльцы вясёлы вясёлкавы матыль. Яна пачала нават смяяцца, неяк яшчэ няўпэўнена, і шчокі яе пры гэтым злёгку ружавелі, і мы ўбачылі, якія ў яе прыгожыя белыя зубкі. Толькі ўсмешка яе збольшага ўсё яшчэ была вінаватая. Ёй было дужа мала трэба. У адказ на такую звычайную штодзённую рэч, як добрыя адносіны, яна плаціла такой шчырай адданасцю ўсім, што нам было няёмка. І асабліва не сыходзіла з яе языка імя Раланда.

— Ролік сказаў... Ролік зрабіў... А Ролік думае пра гэта так...

Нам добра было хадзіць з ёю, сядзець на камянях і боўтаць нагамі ў дняпровай вадзе, лавіць рыбу і, загарнуўшы яе ў некалькі столак газеты, пячы, закапаўшы ў жар. Верхнія лісткі газеты згаралі, а да ніжніх не даходзіла ні паветра, ні агонь. І мы раскручвалі празрыстую ад тлушчу паперу і елі рыбу гарачай, густа яе пасаліўшы. Падпечаную, чырвоную, храбусткую. І, вядома, лепшыя кавалкі аддавалі Лізе. Мы ўсе былі худыя і жылаватыя, як харты, хоць ты хрыбетнік праз жывот абмацвай, але яна была худзейшая за ўсіх ды яшчэ і слабенькая. Ёй трэба было куды болей есці.

Малады голад вечна пакусваў нас вострымі зубамі, часам грыз. Ежы патрабавалі, каб будаваць саміх сябе, мускулы, нервы, мозг, тое, што мы — будучыя мужчыны. І таму мы часта елі ўсялякую дрэнь: лопух, гарчычкі, сцяблiны травы — маркоўніку. І нічога з намі па гэтай прычыне не здарылася.

Божа мой, каб мне зараз такі ваўчыны голад! Гэта было б шчасце.

...У адзін з дужа празрыстых, крыштальных дзён позняга лета — ці можа ранняй восені? — мы і займаліся тым, што смажылі прынесеную рыбу ў заглухлым садзе ля закінутага велатрэку. Збуцвелыя лавы і сухія галіны былі добрым палівам; галіны дрэў заглядалі ў доўгае блюда з асфальтавымі краямі і дном, што парасло пустазеллем і хмызамі, заглядалі і зрэдку ранялі ў яго першыя жоўтыя лісты. Асфальт увесь пайшоў расколінамі, праз якія выбіваліся таполевыя віцы, і шышкамі, пад якімі да часу хаваліся шампіньёны; там-сям шышка ішла трэшчынамі, развальвалася, і грыб вылазіў на святло. Паўсюль было звяданне і запусценне, і паўсюль, аднак, буяла і лезла на свабоду прыгнечанае, але бязмерна моцнае, упартае жыццё.

— Калі ўцякаць, то зараз,— раптам сказаў Ролік.— Пасля будзе позна. Восень, не сёння-заўтра халады.



— Рацыя,— падхапіў Навум.— А то мы гэтых гадаў так і не дагонім.

— Чаго чакаць? — сказаў разважліва Багдан.— Бульбу выкапалі, бацькам на гародах падмогі не трэба. І, аднак, не паўсюль жа выкапалі. Будзе прыкормак нейкі. Сёння на адным полі, заўтра на іншым. Ні калгас, ні газда * ад якіхсьці там пары карчоў не збяднеюць.

— Паслязаўтра давайце, чаго ката за хвост цягнуць? — гэта нецярплівы Жэнька ўставіў свае тры грошы.— Заўтра Ролік вось у «слупы» па зброю завядзе, пашукаем. А паслязаўтра—ф'юць...

— Мы яе за адзін раз, можа, і не знойдзем многа. Ну ясна, мой патаемнік. Але там мала. Давядзецца шукаць яшчэ.— Ролік задумаўся на хвіліну і рашуча ляснуў сябе па каленях.— А, чорты б з імі! Вырашана. Паслязаўтра ці, крайні тэрмін, праз два дні.

І тут мы здзівіліся. Таму што на купе бітай цэглы з'явілася, як чорт з табакеркі, Нонка, якая цягнула за руку Карла:

— Прывітаннечка, змоўнічкі! Бач, сядзяць, нібы кашы аб'еліся. Пышныя гэткія! А пра сяброў, значыцца, забыліся? Кінуць вырашылі?

Я ўбачыў, як у Роліка на імгненне з'явіўся ў вачах бляск. Пасля ён адвярнуў галаву:

— Вы чаго тут?

— Кінь,— умольна сказала Ліза.— Яны ж таксама шмат зрабілі. Не крыўдзі іх.

— «Рыбка залатая над падводным гаем»,— пацягнула паветра носам Нонка.— Сядзяць, як нейкія ідалы турэцкія. Нума, Карло, лізь та даставай.

І сама выхапіла ў яго з запазухі бутэльку.

— Гэта чаго? — варожа і непаразумёна спытаўся Раланд.

— Наліўка вішнёвая. Сама яшчэ тады зрабіла, летам... Думала, перад дарогай, на шчасце... Вы ўсё ж хаця і шкодныя і злосныя і высакародства ў вас, прабачце, ніякага, хаця і кепскаватыя, а ўсё ж мужыкамі лічыцеся... будучымі. Што ж, давайце так зробім: распіваем адвальную, а тады гаршчок аб гаршчок і... вы сваёй дарогай, Карл сваёй, а я — сваёй. Нічога, дарог шмат, кудысьці ды прыйдзем, а рукі паўсюль спатрэбяцца.

Карл зірнуў на яе. Нонка стаяла, прыхіліўшыся спіною да камля дзікай вішні, незалежна скрыжаваўшы падрапаныя ногі. Карл уздыхнуў, пайшоў да Раланда і працягнуў яму руку.

— Гэта яшчэ чаго? — Ролік глядзеў на яго сурова, спадылба.

— Мір,— проста сказаў Карл.— Мір, бо яна сказала, што дурні тыя, хто сварыцца. Мы з табой дурні... Бо яна...

— Гаваркія вы, мужыкі. Красамоўны вы народ, арлы вы нашы. Проста... як варэнікі. Глядзець люба, асабліва на Карла з Раландам. Усё дабіваліся: скажы ды скажы. І прыгожа так гаварылі: «З кім дружыць хочаш?..» А я, калі хочаце ведаць, ні з кім з вас дружыць не хачу. Я з іншым дружыць хачу.

Усе сядзелі ашаломленыя.

— Ну, то што? Цяпер мір? Няма чаго вам адно на аднаго гыркаць. Мір? Падавайце рукі адзін другому.

У Лізкі вочы былі на мокрым месцы. Цяпер — ад радасці.

— Раландзік, даражэнькі, ты ж добры! Кінь злавацца... Карлуша, ты ж такі — ну самы найлепшы! Ну, няма ж прычыны... Ну, даруйце кожны другому. Ну, рукі... рукі...— вочы яе ўмольвалі.

* газда (укр., дыял.) — гаспадар.

— Па-мойму, дык нават... дзеля карысці справы,— буркнуў Багдан.

Лізка кінулася Роліку на шыю. І тут я ўбачыў, што Фінеес часта-часта заміргаў.

— Мірыцеся, басякі,— сказаў ён дзіўным — такога я не чуў ад яго,— глухім голасам.— Мірыцеся. Ну, падумаеш, ну, усім кепска. Каму, пытаюся я, на гэтай круглай зямлі добра? — І бухнуў: — Пададзіце рукі. Хаця б дзеля мужычай дружбы, залатаротцы вы.

Яму было нявесела: краёчак рота ўздрыгваў. Мне таксама было пагана.

— Ну, рукі. Усе — рукі,— сказаў я.

Рукі нашы сустрэліся.

— Ну вось,— сказала Нонка.— І каб ніколі не сварыцца.

Раланд разгроб жар і выкаціў адтуль абвугленыя скрутачкі. Зняў, здзьмухнуў спачатку голы чорны попел, потым чорную ломкую паперу. Потым карычневую. Потым разгарнуў белую.

Рыбы ляжалі там, нібы ў гняздзе, усе залітыя ўласным тлушчам, бронзава-чырвоныя, ільсняна-белыя на зломе. Парылі. Курэлі.

— Ешце,— сказаў Дзмітрэнка.— Карл. Нонка.

— Не лавіў, то чаго я есці буду? Не заслужыў.

— А ты горды, Карл. Гэта добра, што ты горды.— І вызверыўся.— Еш, басурманская ты морда!

Пасля гэтага выбуху яму палегчала. Расплюхаў гнеў. Карл усміхнуўся і ўзяў рыбіну. Бутэльку пусцілі па коле. Кожны рабіў глыток з рыльца, і хутка ўсім стала весела, захацелася смяяцца і быць добрымі да ўсіх. Мы ўпершыню пілі нешта мацнейшае за ваду. І усе вакол былі дужа смешныя і родныя.

Будзь благаслаўлёны, добры хмель!

— Што ж вы, хлопцы, мяне не пытаеце... з кім я дружыць хачу? — здаўленым нейкім голасам спыталася Нонка. І раптам развесялілася: — Ну, хто ён, той?.. Які?..

— Хто?— з поўным ротам спытаў Багдан.

— Ды вы яго добра ведаеце! Ён мяне кахае...

— Дык хто? — толькі з ветлівасці, з холадам у душы спытаўся я.

— Хто?! — мне здалося, што яе вочы зусім не такія вясёлыя, што яны не смяюцца, што яны хутчэй... І калі гэта называецца смехам, то што тады такое плач? — Ды ты. Ты, дурнік мой гаротны, небарака мой. Ты.

Здаецца, я страціў прытомнасць. Ад слова. Першы і апошні раз у жыцці. Пасля я адчуў, што мяне трымаюць за плечы, што нехта торкае мне ў зубы рыльца... Калі я падняў вейі, вочы мае сустрэліся з яе вачыма. Позірк гэтых вачэй быў насцярожаны, уважлівы і нечакана вельмі сур'ёзны. Глыбокі, дапытлівы, нібы яна ўпершыню бачыла мяне.

— Гэх ты, баба! — сказаў Багдан.

За глыбінёю, за шкадаваннем і дапытлівасцю я падсвядома адчуваў у гэтых вачах боль. Але нават каб гэтыя вочы адкрыта хлусілі — я паверыў бы. Мне так хацелася верыць! А яна скаланула галавой, кінулася да агню і засакатала, як заўсёды:

— Ён мне сказаў пра гэта,— рука яе лягла на маю.— І, дурнік такі, не зразумеў, што я яму адказала, што я радуюся. Не магла ж я так проста адказаць: «Добра...» Ну, я і маўчала, думала, і вось... Таму і вам не хацела нічога казаць. Усё думала, ён абдумаецца, яшчэ раз скажа. А ён, дурны, маўчыць, паверыў. Такі дурны. Сам разумны, а галава дурна-ая.



Карл і Раланд пераглянуліся. Пасля Карл зарагатаў. Ролік глядзеў на яго збянтэжана, нібы не верачы, і раптам далучыўся да сябра:

— Ну, гер Канецкі! — ён рагатаў да слёз.— Ну й доўбні.

— Ну, давай лапу, ці што... Ухажор... Аўтух з Чокалаўкі.

— Дый ты...

Але я не думаю, каб у гэтым нястрымным смеху не было ноткі горычы і прыкрасці і лёгкай пагарды да сябе.

А яе рука бязвольна ляжала ў маёй, як нежывая, і позірк быў па-ранейшаму не тое што халаднаваты, а адсутны, і толькі калі яна пераводзіла яго на Карла ці на Раланда — ледзь бачна ўздрыгвалі веі. Але гэтага ніхто не мог бачыць, акрамя мяне. Яны не мелі майго зроку, абвостранага несамавітай любоўю і нясцерпным болем.

Я нібы адразу пасталеў, нібы ў адну хвіліну стаў дарослы. І я зразумеў усё, да самага дна, у гэтай дзяўчыне. Я зразумеў: адным ударам яна памірыла ворагаў, аднавіла кампанію і сваё месца ў ёй, месца нашай атаманшы і каралевы, уваскрэсіла план, якім мы жылі, ды яшчэ адначасна, за адным разам, ашчаслівіла мяне, здаровага боўдзілу, даўгалыгага дылду. Яно ўмела разлічваць, гэтае дзяўчо, і яно выбрала аптымальны варыянт, пакінуўшы дрэннае толькі адной сабе.

І хаця я ўсё гэта зразумеў і пагарджаў сабою і ёй — я ў глыбіні душы сапраўды быў шчаслівы і нават заспакоены.

...Абмеркавалі план заўтрашняга паходу. І таму, што ўрэшце разышліся, неяк пуставата і трывожна было на душы. Нібы смактала нешта. Збіраліся ўжо і разыходзіцца, але тут здарылася прыкрая, брыдкая гісторыя, якая канчаткова сапсавала гэтую нашу апошнюю «мірную» бяседу.

Вогнішча дагарала ў сутонні. Цягнуўся над закінутым, нікому не патрэбным велатрэкам шызы дым. Вечарніца загарэлася, пачала пераліvaцца над спаленым кутнім домам.

— Старажытныя лічылі, што гэта не адна зорка, а дзве,— сказаў, як заўсёды, не да месца, інтэлігентны Жэнька.— Тая, што раніцой — гэта Венера, ранішняя зорка, а гэта, вось там,— гэта Веспер.

— Ой,— сказаў Раланд,— адкасніся ты, Яўген, са сваім Весперам. Тут іншае мучыць.

Цёмныя вочы ягоныя ад шырокіх зрэнак яшчэ больш пацямнелі. Хмурыя, нейкія пакутліва-нядобрыя і... вінаватыя.

— Вельмі я вам непрыемную рэч сказаць хачу. Прабачце хлопцы, але сказаць лепей зараз. І ты прабач, Ліза, даражэнькая.

— Што такое? — з яе аблічча збегла чырвань.

Ролік, хаваючы вочы, сказаў. Не ёй, а нам:

— Лізу не трэба браць, хлопцы. Нельга.

— Гэ-та ча-му? — спыталася яна, яшчэ не верачы.

— Думаеш, мне прыемна? Дорага я даў бы, каб не казаць гэтага. Ён падсеў да яе і абняў за плечы.

— Ты сама падумай, сама зразумей, і тады ты сама скажаш, што я маю рацыю. Ты слабенькая, ты не вытрымаеш. Згаладнела за ўсе гэтыя гады. Вунь да Пячэрска з намі дайсці — і то табе цяжка даецца. А там жа горы, пераходы часам і не па сцежцы, са зброяй. Ну добра, мы тваю панясём. А раптам нехта пакоціцца і табе трэба будзе руку падаць? Ты ж не ўтрымаеш? Пасля замучыш сябе да смерці.

— У-утрымаю,— раптам зноў, па-ранейшаму, ціха, заплакала яна.

— Ну-ну, не плач,— грубавата сказаў Багдан.

— Не, не, скажыце, што вы пажартавалі...

Яна нібыта яшчэ не да канца разумела ўсю глыбіню свайго чорна-

га няшчасця, сваёй адрынутасці. Сядзела ля Раланда і заглядала ў вочы:

— Я з вамі хачу. З табой. Чаму? Ролік, чаму-у?!

— Дурнічка,— сказаў ён.— Мы ж цябе шкадуем.

— Я не хачу, каб шка-да..,— хліпала яна.— Я з табой. Цябе там забіць могуць, а я... Хлопцы, чым жа я вінаватая?

— Раланд,— сказаў раптам Жэнька, і я ўпершыню ўбачыў, што ягоны прыгожы, проста хоць у кіно, твар можа быць цвёрдым і злым.— Гэта жорстка. Што ты робіш? Ды мы, у выпадку чаго, можам яе і пакідаць у лагеры, які там сабе зробім. Хай гаспадыняй будзе, га?.. Раланд, га, Раланд?

— Яна пасля сама зразумее,— сказаў Дзмітрэнка.

І тут Лізка мяне здзівіла. Я глянуў на яе і ўбачыў, што яна не плача, што вочы адчужаныя і суровыя, а ля краёчка гожага маленькага рота — цвёрдая горкая складка, як у дарослай. І загаварыла яна пасля, як дарослая:

— Ясна. Жыццё пад германамі не шкадавала. Вайна — не шкадавала. Можа, горш за ўсіх вас мне давялося. І я ж яшчэ ў гэтым вінаватая, што мяне адпіхаеце,— пальцы яе камячылі ражкі хусткі.— Справядлівасць ваша... А я з вамі, з табой, Ролік, ішла б... Ты не думай, я слабая, а двухжыльная. Ну што ж, дзякуй і на тым, што жартавалі, гулялі, як з малым сабачкам. Тады ўжо, відаць, рыхтаваліся кінуць. Іначай чаго б так добра... да мяне...

Устала. І тут нечакана ўстаў і Навум. Падышоў да яе. Вусны яго неяк дзіўна ўздрыгвалі.

— Ну, бывай, Ліз... Я... я асабіста цябе ўзяў бы. І аб тым, што можа быць, не думаў. Ды тут пачынаецца тое, што ён... камандзір.

— Ненавіджу яго,— з сухімі вачыма сказала малая.

— Не трэба. Але я цябе ўзяў бы, Ліза. Дальбог бы ўзяў. Бывай.

Узяў у далоні яе галаву. І пацалаваў. Гэта было так непадобна на яго, што я не паверыў вачам. А яна нечакана зноў заплакала. Можа, ад пяшчоты — дзяўчат і жанчын увогуле ніколі нельга гладзіць па галаве ў падобных абставінах, заплачуць горш,— а можа, таму, што зразумела ў ім нешта?

І так, плачучы, яна пайшла. І такога гаротнага плачу мне, дзякуй богу, не давялося чуць больш у маім жыцці.

...Мы маўчалі. Толькі Фінеес падышоў да вогнішча і кінуў у яго некалькі галін. Ускінулася полымя. Барва і чорныя цені заскакалі па ім, зрабілі Навумаў твар яшчэ больш суровым.

— Ты з заўтрашняга дня наш камандзір? — спытаўся Навум.

— Ну,— Раланд глядзеў убок.

— Тады — свіння, свіння і яшчэ раз свіння. Ты што ж, не бачыш?

— Не,— суха сказаў Дзмітрэнка.

— А я занадта добра бачу. І даўно. Таму што ў мяне вочы такія: бачаць, калі другому кепска, калі ў іншага душа мучыцца. І яшчэ таму бачу...

— Ну, і яшчэ чаму?

— І яшчэ таму, што... Таму што... А-а,— Навум махнуў рукою, вусны ягоныя скрывіліся.— Ні вам, ні ёй гэта няважна. Важліва іншае. Свінні вы, шкадавання ў вас да гэтай маленькай няма. Да маленькіх, да страшэнна пакрыўджаных. А яна большая за вас. Так пакрыўдзіць яе. Яе! А я...

— Мае рацыю,— сказаў Карл.— Каб мы з гэтага дня не камрады — я б вам морду набіў.



Мне здалося, што ў абодвух неяк нязвыкла блішчаць вочы, і я адвярнуўся. Я тады не любіў сцэн, падобных на гэтую. А можа, рабіў выгляд, што не люблю.

Нончыны пальцы *ляглі на маё плячо*. Я здзіўлена зірнуў на яе і ўбачыў, што яна глядзіць на Раланда амаль з нянавісцю. Дорага я даў бы, каб даведацца аб сапраўднай прычыне гэтай нянавісці.

— Быдла ты,— сказала Нонка.— Ну і хай з раніцы камандаваць пачынае. А сёння мы самі сабе атаманы. Хадзем адсюль, Васілька. Хадзем адсюль, мілы.

«Як пашалелі яны ўсе,— падумаў я.— Проста масавае вар'яцтва нейкае».

Мы пайшлі ад агню ў ноч.

## X

— Як пашалелі яны ўсе,— уголас паўтарыў я.

— А мы не пашалелі? — сумна сказала Нонка.— Усе пашалелі, а я болей за ўсіх.

Мы ішлі па Уладзімірскай горцы. Падол спаў, увесь у рэдкіх, дужа рэдкіх агнях. Ноч дыхала цеплынёй. У ртутна-цьмяным люстры Дняпра адбіваліся буйныя зоры.

— Было аднойчы на Урале. Ішоў я да сваёй вёскі, дзе наш інтэрнат, з раскольніцкай вёскі Падавіха. Восем кіламетраў тайгою. Мароз — не ведаю, які мароз. Тэрмометр на сельсавеце ляснуў. Жалеза крохкім рабілася: грукнеш сякераю, то палену нічога, а лязо — напалам. Зор — у тысячу разоў болей, чым заўсёды. Ды рэзкія, ледзяныя, без літасці. Іду — шолах, нібы нехта гоніцца. Стану — і той стане. Пабягу — і той за мною бяжыць. І ўвесь час шоргат, шоргат, шастанне. А вакол — ну нічога не варухнецца. Тайга ў снягах замерла, нічога жывога, што магло б шаргатаць, толькі зоры рухаюцца, мігаюць. Ясна, што болей няма каму. Яны! Славутае паўночнае «голас зор», або «размова» ці «песня» зор. Гэта я пасля даведаўся, што той шум — дыханне, якое на ляту замярзае, і крышталікі лёду адны аб адны шоргаюць і звіняць. А тады страшна стала. Колькі іх! Якія калючыя! Які я маленькі, абшары якія страшныя там, дзе яны, зоры, ззяюць і гавораць! Вось памру, і такое ж ледзяное будзе давеку. І хто зведае, каму да гэтага справа будзе? Гэта я вось так упершыню зразумеў — менавіта зразумеў, што канец будзе. І развее, разнясе ў гэтым ледзяным пыле.

— А цяпер баішся іх?

— Цяпер не. Іду вось з табой і проста не думаю аб тым, аб чым тады думаў. І не буду я думаць. Мне здаецца, таму людзі і ходзяць удваіх.

— Удваіх? — спыталася яна.

— Ну, так. Вось я цябе за руку трымаю, і ніякай мне няма справы, што яны ледзяныя, вялізныя, што там такая бездань... Нонка, каб мне ўжо зусім лепей за ўсіх на свеце было... можна мне цябе пацалаваць?

— Пацалаваць? Ах так, так. Не ведаю, па-мойму, пра гэта не пытаюцца. Ты таксама можаш пра гэта не пытацца цяпер. Я ж сама ўсім сказала...

Я абняў яе, няўмела прыцягнуў да сябе, убачыў цераз яе плячо цені каштанаў, узнесены ў зіхоткае неба Уладзіміраў крыж і апусціў твар у яе валасы.

...Гэты халаднаваты пацалунак! Той, калі вусны яе амаль не рухаюцца. І ўсё ж я не мог адарвацца ад гэтай першай смагі і першага наталення, і мне гэта было нават лепей: адчуваць яе холад, але яшчэ і яе пакору, тое, што яна нікуды не здолее пайсці, што яна мая. Хаця я й не дужа, не ў поўным сэнсе разбіраўся ў тым, што азначае «мая».

Холад адданых вуснаў. Я стаяў, прыціскаючыся да яе, і разумеў яшчэ мацней, зусім несумненна, безнадзейна і беспаваротна, што я для яе — нішто. Але побач з несамавітай горыччу, з болем, які смактаў мяне, жыла ў глыбіні яшчэ і трапяткая радасць, такая, якой мне пасля ніколі не даводзілася перажываць.

Яна раптам узняла руку і дакранулася да маёй шчакі.

— Ты што?

— Нічога,— сказаў я.— Зусім нічога. Нонка, мілая, ты думаеш, я не бачу? Не адчуваю ўсяго? Цябе зараз як агнём пякуць. Мне б трэба пайсці, саступіць. Але я не магу гэтага, проста не магу. Хачу, каб ты была тут, побач, хаця сёння. І ты ўсё ж паруш свае слова, Нонка. Не муч сябе. Мяне — калі хочаш, а сябе — не. Мне ўжо і тое добра, што ты жывеш.

— Глуптасю ты. Куды ўжо мне ісці адсюль? Ты не звяртай увагі. Ты проста гладзь мне валасы... вось... вось так. І калі захочаш, цалуй мяне. Я пастараюся, каб ты не адчуваў таго, аб чым па дурасці падумаў. Я пастараюся.

Я захутаў яе плечы крысом пінжака, успёр руку на спінку лаўкі. Цяпер яе плячук быў у мяне пад пахай, яе галава на маім плячы. І я гладзіў і гладзіў гэтыя цяжкія валасы, баючыся паварухнуцца, баючыся неяк спалохаць гэты дзіўны сон на яве.

А яна тулілася да мяне ўсё шчыльней і шчыльней. Я не цешыў сябе гэтым. Яна гарнулася не да мяне, а да цёплага побач з сабою, і ад гэтага свету, ад гэтых халодных зор, ад усяго, што здарылася.

І раптам заплакала. І гэта было немагчыма: Нонка — і заплакала. Я абхапіў яе і сціснуў так, што аж сам задыхнуўся.

— Ды што? Што з табой? Мілая мая!.. Нонка мая...

Яна ўся абвісла ў маіх руках, я адчуваў, як уздрыгваюць ад плачу яе маленькія цвёрдыя грудзі.

— Суцеш мяне, Васілька! Кепска мне... Ой, як мне кепска! Пашкадуй мяне... Ты добры, харошы, лепшы за ўсіх, але што я магу, што я магу зрабіць з сабой?!

Я і сам адчуваў, што плачу. Рэдкімі, цяжкімі слязьмі. Як ніколі дагэтуль. І не за сябе, а за яе:

— А ты нічога і не рабі. Пасядзі вось так, са мной, і ідзі, куды хочаш, дзе табе добра будзе, мая ты неласкавая. Ідзі туды, дзе захочаш быць ласкавай,— а сам, ведаючы, што гэта апошні раз, усё гладзіў яе плечы і цалаваў мокры тварык.

— Не... Не... Позна ўжо... Ты што, не бачыў? Я слабых не дабіваю... Не...

Закалацілася яшчэ няўцешней.

— Ой, Васілька! Пра ўсіх я падумала, толькі пра цябе не падумала. Як гэта табе! Удар мяне, чуеш? Не падумала я, як гэта кепска будзе табе. А ты самлеў. Проста ўзяў, дый... Ой, даруй мне, даруй. Калі толькі можаш.



— Кінь, кінь ты. Што, каму, за што даравацъ, дурненькая?

— Даруй!

Яна абхапіла мяне за шыю, пачала блытацца пальцамі ў чупрыне і сама, таксама зусім няўмела, стала цалаваць мяне ў вочы, нос, урэшце ў вусны.

— Ты не думай. Я цябе кахаць буду, я цябе не пакрыўджу, я ўсё гэта запомню. Дай мне толькі крышачку ачуняць. Дужа цябе буду любіць. Ужо нават і цяпер люблю. Даруй мне.

Рукі мае дрыжэлі ад болю, падзякі і пяшчоты. Уся яна калацілася ў гэтых маіх руках, нібы з кожным выбухам плачу з грудзей вырывалася не толькі дыханне, але і самое жыццё. А я гладзіў яе, і плач паступова заміраў, і я шаптаў і шаптаў, нібы ў дурмане:

— Дарагая мая... Любая мая... Мая добрая.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Ачнуўся я на плошчы Хмяльніцкага. Конны Багдан паказваў булавою на бязважкі сілуэт Сафіі, што ўзносіўся ў зоры. Было поўнае бязлюддзе начнога спустошанага горада.

Я памятаў, што адвёў Нонку дамоў і доўга яшчэ стаяў з ёю ў зарасцях бэзу перад пад'ездам. Але што было пасля — не памятаю. Нейкія завулкі, дрэвы паркаў, руіны і зноў паркі, начны, паміраючы ў вуліцах крок, і туман у вачах, і нейкія дзіўныя, лепшыя ў свеце вершы, якія я мармытаў і чытаў уголас, а цяпер начыста забыўся.

Усплывала толькі нешта недарэчнае, нешта зусім не тое.

*Зоры, высокія зоры,*
*Сёння я быў з каханай!*
*Шчасце якое, зоры!*

Акрамя гэтай нязграбніцы,— і далей! — не ўспаміналася нічога. Але ж гэта не было тым, што я чытаў, стоячы, як п'яны, на каленях, недзе пасярод нейкай зусім не вядомай, дзіўна іншай, нібы яе зачаравалі, плошчы.

Багдан узвышаўся нада мною. І я падумаў, што вось пакінуў жа ў Кіеве свой след на гэтай плошчы адзін беларус, скульптар, што зрабіў яго. А можа, пакінуў і я? Хаця б тымі вершамі, што я мармытаў і забыўся. Шмат год яны будуць лунаць завулкамі, нябачныя для вачэй іншых, будуць ціха гучаць у вушах закаханых нават у той нязмерна далёкі час, калі мяне, магчыма, не будзе. І яны, юнакі, будуць прыслухоўвацца да гэтых водгукаў, да водгулля далёкага шчасця, і думаць, што гэта ў іхніх душах. А гэта буду я і вершы, забытыя мной дзеля гэтых вуліц і завулкаў. Вечныя вандроўнікі кахання, што блукаюць уначы па гэтай зямлі.

## XI

Ранішняе сонца ўстала ў халаднаватым малочным тумане і, нібыта ў расе, прарочачы ясны і цёплы, вечны дзень. Жоўта-вясёлкавае — ці можа гэта туман адліваў вясёлкай? — яно пералівалася, падымаючыся аднолькава над мёртвымі кварталамі і над кварталамі жывых.

Мы ўсе падышлі пад Жэнькаў балкон, гукнулі. Праз хвіліну над парэнчамі з'явіўся гожы торс у белай майцы і гожая ўскудлачаная галава.

— Ты што гэта, забыўся? — вызверыўся Багдан.— Стаіць сабе яшчэ голы... Запрацаваўся, пад носам мух лавіўшы.

— Ага,— сказаў кісла Жэнька,— маці порткі замкнула.

Выгляд у яго быў сарамлівы і злосны. І крыўдна яму было, відаць, што паставіліся, як да маленькага, і ярасць брала на сваю турму, і зайздрасць да нас, перад якімі такі цікавы дзень.

— У трусах,— сказаў Карл.

— Ага, а яна замкнула дзверы.

— То злазь па рыне,— нецярпліва кінуў Ролік.— Месяц жа назад спускаўся.

— Ага, бач, тры звяны выпалі. Апошні раз. Ледзь мне не па цемечку. Усю ж вайну не рапаравалі.

— А вяроўкі няма? — спыталася Нонка.

— Ага, матка бялізну на гары павесіла.

— Так, брат, становішча безвыходнае,— сказаў я.

— З чацвёртага без вяроўкі, сапраўды, не скочыш. Ну добра, сядзі. Калі скамандуюць «на выхад з рэчамі» — бяжы да нас. Ведаеш, дзе шукаць?

— Ведаю,— безнадзейна сказаў Жэнька.

Мы пайшлі.

...Шмат каму з тых, хто пачуе гэтую гісторыю цяпер, можа здацца дзіўным і наш план, і тое, што нікому з нас ніколі не прыйшла ў галаву адна акалічнасць. А менавіта тая, што задума наша дзіцячая, што мы не дабярэмся, можа, і да Жытоміра, а не тое, што да Львова ці да фронту, асабліва са зброяй, што нас пераловяць міліцыянеры куды раней, што, урэшце, хутчэй бандыты, якія ведаюць свае мясціны, зловяць і пераб'юць нас, чым мы іх.

Але на тое нам і было ў сярэднім па шаснаццаць гадоў. Мы не думалі ні аб чым гэтым. А наконт таго, каб дабрацца і не злапалі, то справа, як ні дзіўна, не здавалася нам безнадзейнай. Мы ведалі тысячы спосабаў праезду, якія ідэальна адпавядалі таму часу і той чыгунцы. Я, прыкладна, цэлы год калясіў па Урале, частцы Сібіры, Поўначы і Казахстану без білетаў і пропуску, і ні разу мяне не спаймалі. Праўда, яшчэ да гэтага быў вопыт двух уцёкаў, у якіх мяне злавілі. Ну і яшчэ тое, што я заўсёды трымаўся наводдаль ад усіх непаўналетніх вакзальных злодзеяў і іншага цёмнага элементу, ездзіў заўсёды толькі адзін. На іх бывалі аблавы, і яны пападаліся. Я — ніколі.

Так што даехаць можна было. Няма такога месца, куды не пралезе падлетак.

...Каштаны пачалі раняць плады. Упадзе вялізная зялёная і шыпаватая булава — продкі называлі такую на ўсходні лад «буздыган»,— расколецца, і выгляне адтуль вільготны, карычнева-бліскучы, нібы лакіраваны, каштанчык. Як хітрае цёмнае вочка. А часам два ці тры.

Мы выйшлі з двара, убачылі на асфальце безліч такіх каштанчыкаў. І яшчэ ўбачылі... Лізку, якая, гледзячы ў зямлю, пахмура ганяла, перасоўвала іх нагамі. І тут Навум падышоў да Раланда:

— Возьмем яе. У апошні раз, калі ўжо ты такі.

Ролік глянуў на дзяўчо і змрочна кінуў:

— Добра, ідзі.

Вуліцы адкрываліся перад намі ў ранішнім няяркім сонцы. Напаўпустыя, адкрытыя, толькі для нас. Золата каштанаў прыкрывала і ўпрыгожвала нават убогасць і пачварнасць руін. Сонца падымалася ўсё вышэй і лашчыла нашы твары, бо мы ішлі да яго. І па тым, як мы ішлі, лёгкім, пругкім крокам, я разумеў, што сяброў у гэтую свежую раніцу ўзносіць тое, што ўзносіць і мяне: поўнае адчуванне кожнай жылачкі, кожнага нерва. Адчуванне жыцця.



Мы ішлі на сонца.

Золата каштанаў, прыгажосць дзівосных запушчаных дамоў, увесь воблік гэтага ледзь не самага прыгожага ў свеце горада...

— Хутка мы ўсяго гэтага не ўбачым,— са шкадаваннем сказаў Ролік.— Аж кідаць горка.

...Пустая лаўра з аблупленымі купаламі, са старажытнымі каравымі арэхамі, зморшчакаватымі, ледзь не на далонь у глыбіню. Ціха падаюць у лістоту арэхі, якіх няма каму збіраць. Зрэдку мільгаюць цені нешматлікіх манахаў. Ад руінаў Успенскага сабора ўсё яшчэ цягне горкім — нібы астылым дымам і тленнем.

Аднавокі бандурыст у пінжаку і белай сарочцы з яркай жычкай сядзіць ля цагельнай жоўтай дарожкі, вышарпанай тысячамі ног. Сядзіць там, дзе яна збягае ўніз, хаваецца за арэхамі, і перабірае струны бандуры. Сіпаты мяккі голас:

Ой у стэпу на могилі,
На широкій Україні
Лежить козак там убитий,
Китайкою він покритий.

Мы моўчкі стаялі вакол.

Ой за темними лісами
Лежить козак застреляний,
Лежить козак застреляний,
Ще й крівльою обілляний.
Нема кому потужити,
По козаку подзвонити.
Дзвонять кони підковками,
А козаки шабельками,
Чорный ворон крилоньками,
А матінка — слізоньками.

Над песняю кацілася ласкавае добрае сонца.

Встань, козаче, ти проснися:
На Вкраїну подивися,
Вже сідельця твоі згнили,
І стремени вже потліли,
Орли очі повиймали,
А татари шаблю взяли.

Ціхі ўздых. Захліпала Лізка. Ціха-ціха. Я кінуў позірк на Нонку і ўбачыў, што і ў яе вочы поўныя слёз. Прысунуўся, сціснуў яе локцік.

Візьми, мати, піску жменю,
Посій його на каменю:
Коли ж отой пісок зійде,
Тоді твій сын з війська прийде.

Мы і далей ішлі моўчкі. І толькі пасля Багдан раптам уздыхнуў:

— А што вы думаеце, могуць жа і нас забіць вось так.

— Кінь вярзці,— сказаў Ролік.— Хто не калоціцца, хто да канца трымаецца, той выжывае. Яго й куля не бярэ.

І тут Багдан раптам заспяваў. Я ніколі не чуў раней ягонага голасу і зараз быў узрушаны і ўражаны. Ніколі не думаў, што ў яго можа быць такі амаль ужо дарослы, моцны, неймавернай гожасці тэнар. Не такі, якім спяваюць па радыё ў операх закаханыя, а такі... ну, моцны і мужны. Я ніколі не думаў, што ён можа так.

Умер, умер наш полковник, ще й тихая мова,
Зостається кінь вороний, золотая зброя;
Зостається кінь вороний, зброя золотая,
Зостаються дітки малі, жінка молодая.

Нечакана падхапіла Лізка, і я таксама здзівіўся: нібы заплакалі, зазванілі нябесныя званы. І Нонка пачала туравалць, і ў яе быў някепскі глыбокі голас. Але ўсё адно, як яны ні спявалі, нават тая ж Лізка,— голас Багданаў мякка ўладарыў над імі, таму што яго проста ні з чым нельга было параўнаць нават на гэтай зямлі, так багатай галасамі.

Ён, здаецца, напаўняў усё пад скляпеннем неба — я толькі дзівіўся, што, гаворачы, ён нібыта басам бурчыць, а тут так спявае — усё пад скляпеннем блакітнага неба, але гэта не рабіла яго менш ласкавым. Пяшчота гэтага голасу запаўняла і абдымала ўсё.

Зостаються дітки малі з жіной молодою.
Беруть коня осавули, товариство — зброю;
Коня ведуть, зброю несуть, кінь голівку клонить,
Молодая полковниха білі руки ломить.

Калі ён скончыў, мы яшчэ некалькі хвілін ішлі, як прыбітыя. Ледзь ачомаліся.

— Н-так,— сказаў Ролік.— Вось гэта дык так. Ты чаго гэта раней не спяваў?

— Та-а! — засаромеўся Багдан.— Я для сябе спяваю. У плаўнях недзе ці ў лесе. Калі адзін! І чаго гэта мяне сёння так разабрала — сам не ведаю.

Урэшце мы мінулі і Спас на Берастове, і Выдубецкі манастыр. А Карл усё яшчэ бурчаў:

— Дурань, з такім голасам яму на кулі лезці, ёлуп. Гэта ж ён не твой толькі. Проста хоць ідзі ды на ўсіх нас у міліцыю заяўляй.

Плаўні адкрыліся вачам нечакана, калі сонца было ўжо ледзь не ў зеніце. А над іхняй зелянінай і блакітам, досыць далёка і ад ракі і ад пабітай ямамі і байракамі дарогі, падымаўся нібы брудна-жоўты лес ці нейкі незвычайны замак: піраміды, шпілі, кубы, званіцы. І ўсё гэта, перасечанае глыбокімі вельмі вузкімі ярамі-шчылінамі. За гэтым горадам пачыналася ўрвішча, таксама пасечанае ярамі. І ясна было, мяркуючы па роўнай паверхні ўсіх шпіляў і пірамід, што калісь «горад» быў часткай плато, але людзі бралі гэты слабы пясчанік, праўдзівей, ледзь сцэментаваны пясок, размывала яго вада, выветрываў вецер. І вось атрымаўся горад, або «слупы», як зваў гэта месца Раланд.

— Людзей няма,— сказаў Дзмітрэнка.— Гэта добра. Толькі унь там нешта, у палове кіламетра, дарожныя рабочыя. Ну, гэта далёка, не перашкодзяць.

Адзін яр быў асабліва глыбокі і вузкі, з роўнымі стромымі сценкамі. У гэтых сценках яра і ў «абелісках», што тырчэлі пасярод яго, там і сям былі відаць пячоры, досыць глыбокія, часам накіраваныя ўніз, углыб. Пэўна, людзі калісь, яшчэ да вайны, здабывалі тут пясок.

Яр быў метры чатыры ў шырыню, метраў пятнаццаць-дваццаць глыбінёю, а ў даўжыню цягнуўся метраў на шэсцьдзесят. Жаўтаватарыжыя сценкі, і палоска блакіту ўверсе. Там, дзе яр канчаўся, сыходзячыся на клін, высачэў над ім на плато пахілы стары каштан, які — невядома як, на чым і нашто — вырас тут. Пахілы, з часткова аголенымі каранямі, ён хто яго ведае з чаго смактаў сокі, каб выгнаць такі камель, сукі, галіны і залатое лісце, што свіцелася праз сябе невыказнай пяшчотнасці блакітам. За ім былі высокія пясчаныя наносы, амаль дзюны.



— А што, як пясок папаўзе? — спыталася Лізка.

— Дурнічка,— сказаў Ролік,— ты глядзі, каштан жа яго трымае. Ён не пусціць. Гэтым купам травець і травець... Вось глядзіце, што я тут заначыў.

Ён пачаў адграбаць у адным месцы пясок. Хутка ў сцяне зазеўрала вусце пячоры. Хлопец улез туды з галавою. Ногі ў яго заторгаліся. Нешта цягнуў.

— Хлопцы,— сказаў я.— Трымайце яго за ногі. І някепска б нейкую дошку, каб падтрымаць скляпенне над ім. Хоць на чвэрць хвіліны, і тое...

— Глупства,— як з бочкі сказаў голас з пячоры.

Дзмітрэнка выпаўз адтуль і з цяжкасцю вывалак нешта вялікае, загорнутае ў нямецкі брызент. Потым выцягнуў яшчэ нешта. Разгарнуў скруткі.

— Н-да,— сказаў Багдан.— Як мовіў бы Жэнька: «вуаля».

На брызенце ляжаў нямецкі буйнакаліберны кулямёт і два «вінтары».

— Так бы сказаць, дзевяноста першага дроб трыццатага,— сказаў Ролік і палез зноў.

На гэты раз з'явілася скрынка з вінтовачнымі патронамі, пляскатая нямецкая бляшанка для кулямётных стужак, каля двух дзесяткаў нямецкіх гранат з блакітнымі галоўкамі і штук дзесяць нашых, рабрыстых, як ананас, «фенек».

— Н-нішто сабе,— сказаў я.

— Ну вось,— Ролік устаў з кукішак.— Цяпер трэба шукаць яшчэ. Спачатку тут, пасля там, на плато. Яны адтуль уцякалі... Ты, Нонка, ідзі вунь туды і сачы, каб дарожнікі не ўбачылі. Вунь на той узгорак. Ты, Багдан, шукай пакуль у канцы яра ды ўздымайся пасля на плато. Ты, Ліза, сюды не лезь, а там, над ярам, над плато, шукай ці нават проста пасядзі. Стамілася ж, бедная. Ты, Васілька, самы зіркаты, то ідзі аж за вусце яра, на той горб, і сачы там за дарогай, што ад горада ідзе. Глядзі, каб ніхто не палез цікаваць і асабліва каб тыя не падсачылі. Ім верыць нельга, у іх памяць кацiная. У выпадку, калі прыйдуць, падкрадуцца — свісчы і з імі бiся да апошняга, пакуль мы не прыхаваем ды да цябе не падбяжым.

— Чаго гэта я на шухары стаяць буду?

— Кажу ж табе, вочы найлепшыя. І партызанская прывычка ёсць, каб заўважаць усё. А тут, у самым яры, застануся я з Карлам ды Навумам.

Ён усё яшчэ стараўся, каб яны былі разам і пры ім. Усё баяўся выбуху старой варожасці, хаця хлопцы ўчора і пацiснулі з такой шчырай сардэчнасцю адзін аднаму рукі.

## XII

Я сядзеў на высокім узгорку. Часам суха шапацелі мёртвыя сцяблiны палыну і мякка варушыўся малады, шыза-зялёны. А я ўспамінаў арэнбургскія стэпы і тое, што гэты малады палын крыху падобны на лапкі кавуноў. Былі тут таксама ружова-бялявыя кашэчыя лапкі, сінія зоркі цыкорыя. Была цішыня, прасякнутая пахам траў.

Нешта непамысна мне было на душы (ці, можа, гэта зараз мне так здаецца?) Занадта спакойныя былі і неба, і плынь Дняпра, што ўвабрала ўвесь ягоны блакіт. І ўспаміналася чамусьці, як Карл паскроб пальцам сценку яра і сказаў:

— А гэта, хлопцы, не пясчанік. Гэта звычайны пясок. Ледзь-ледзь сцэментаваны.

— Чым? — спыталася Лізка.

— А чорт яго ведае чым. Вапнай, што ў вадзе бывае?

— Ну і хрэн з ім,— сказаў Багдан.

З вышыні я, як на далоні, бачыў яр з усімі яго адгалінаваннямі, «абеліскамі» і «пірамідамі». Увесь гэты дзіўны, нібы з чужое планеты, свет.

Глядзеў, як рухаюцца, поўзаюць па дне маленькія фігуркі, капаюцца, часам нешта знаходзяць. Адзін раз Ролік паказаў мне нейкую цёмную рысачку. Мабыць, яшчэ аднаго «вінтара» знайшлі.

Было ціха, пахлі травы. Ні на дарозе, ні на беразе нікога не было. Ніхто не збіраўся сачыць за намі. Мабыць, мы так правучылі верхнядворскіх, што яны назаўсёды адмовіліся цягацца за намі.

Бяжыць па ветры лаза, бягуць воды. Шуляк кружыць у сляпучай вышыні. Узняўся з зарасцяў вялізны, сыты, вугальна-чорны крумкач.

Ворон помнив Остряницю й Хмеля,
Над полтавським боєм кружеляв.

Горка пахне палын, і самі сабою склейваюцца павекі.

Вось Багдан, трымаючыся за карані каштана, вылез і пабрыў па плато. Мабыць, у вяршыні яра нічога не знайшоў і цяпер выконваў другую частку загаду.

Бяжыць пад ветрыкам шызае мора сіўцу і палыну, хістаюцца рэдкія татарнікі.

Твой названы брат
У Царградзе дальнім сеў на палю...
Кліча брат Мушкета у Царград...

Цішыня. Сонца. Мора бягучага сівога палыну. Хіліць на сон.

Выбух!!!

Ён устаў непадалёк ад Багдана, невысокі, сляпуча-чорны спадыспаду — такі сабе невялічкі язычок зыркага полымя,— вугальна-чорны зверху. Паляцелі камякі зямлі.

Багдана відавочна не зачапіла. Кінуўся бегчы да яру, у якім замерлі, насцярожыліся маленькія постаці людзей.

Яшчэ выбух! Непадалёк ад першага. Багдан упаў, але хутка ўзняўся і пабег далей.

...Я так і не ведаю — і ніколі ўжо не ўведаю,— што там здарылася. Вайна прыдумвала тысячы мінных «сюрпрызаў». Міны скакалі, як жабы, міны рэагавалі на цяжар, цеплыню, на памяншэнне глыбіні і блізкасць берагу (калі іх цягнуць на гэты бераг, разбіраць). Міны былі з'яднаныя «ў сець», і кожная чарговая выбухала праз хвіліну пасля выбуху папярэдняй, у шахматным парадку. Міны хаваліся ля «забытых» рэчаў: веласіпедаў, прыёмнікаў, дзіцячых цацак. Адно ведаю: наша пастка была «падключана» да досыць вялікіх схованак, дзе былі таксама міны і, напэўна, снарады. Іначай нельга растлумачыць тое, што адбылося потым.

Чаму ўсяго гэтага не размініравалі? Такіх смертаносных месцаў тады было мільён. Я сам ведаў чалавека, які жыў у пакоі побач з велічэзнай, з добрага кабана, бомбай. Тая прабіла перакрыцці і засела стабілізатарам у арматуры і чамусьці не выбухнула. Чалавек замураваў яе, аддзяліў цагельным — на палову цагліны — мурам і жыў у гэтым пакоі з жонкай і дзецьмі. Бо не было дзе жыць. Гэта было ў Віцебску.



На ўсё не хапала рук. І кожны дзень недзе ў лесе, полі, урочышчы гінулі дарослыя і дзеці. Але часцей за ўсё — дзеці.

Дый хто мог спадзявацца, што нехта палезе ў гэтае богам праклятае бясплоднае месца, дзе ні вады, ні травы, хаця б на казу, ні роўнай пляцоўкі? Трэба было раней думаць пра дарогі і сцежкі, нівы і сады і дамы.

Нашы, урэшце, маглі проста не ведаць пра тое міннае поле.

А тыя маглі мініраваць яго, спадзеючыся на тое, што нашы будуць фарсіраваць Дняпро і наступаць тут, бо тут было выгадна рабіць гэта, бо ўвесь раён «слупоў» быў амаль суцэльнай мёртвай прасторай, бо кожны яр, слуп, яма маглі схаваць, прыкрыць, зберагчы жыццё.

А нашы сталі фарсіраваць і наступаць не там, а зусім у іншым месцы... Вось і ўся гісторыя.

Ногі мае нібы прыкіпелі да месца. Я не здолеў зрэагаваць адразу і дагэтуль кляну сябе за гэта. Хаця... што я мог зрабіць?

Навум выбраўся з яра там жа, ля старога каштана. Пэўна, каб паглядзець, што робіцца наверсе. Чарговы агніста-чорны слуп адкінуў яго назад, у яр, кінуў Багдана на зямлю. Я здалёк бачыў, як рукі ягоныя чапляліся за сухі палын. І яшчэ выбух, і Багдана пакаціла, перакінула ў яр, туды ж, уніз.

Яны раскаліся на схіл. І тут ірванула яшчэ і яшчэ, амаль пад каранямі каштана. І той пахіліўся, і я ўбачыў, як з-пад каранёў і звонку, з-за стаўбура дрэва, паплыў на хлопцаў тоўсты — тром чалавекам не абхапіць рукамі — струмень пяску, і перакуліў, і накрыў Роліка.

Толькі тут я здолеў адарваць ногі ад зямлі і кінуцца бегчы туды, да іх. Бег з усіх ног і бачыў, што здалёк, па краі поля, на якім вырастаюць і вырастаюць чорна-дымныя дрэвы, імчыць да яру яшчэ адна постаць. Імчала на дапамогу Нонка.

Бег і бачыў, як падаюць са схілаў яра кавалкі пясчаніку, як яны рассыпаюцца ў пыл (міны былі закладзены па ўсім беражку пасткі).

— Багдане, Нонка! — даляцеў да мяне голас Карла.— Трымайцеся!

Ссоўваючы нагамі пясок, ён каціўся да іх. Працягнуў руку. Чарговы выбух, чарговая жоўтая, абрыдліва-жывая лавіна. І яшчэ адзін агнявы слуп, з левага боку расколіны, і яшчэ.

На дно цясніны пачалі падаць вялікія брылы. Некаторыя далятала на дно цэлыя, некаторыя яшчэ ў паветры рассыпаліся ў пясок. Востра смярдзела чымсьці. А на хлопцаў сплывалі і сплывалі ўсё новыя сыпучыя лавіны. Гэта было страшна.

Мільганула на паверхні белая галава Карла... Пасля Навума... Зноў Карла... Дзмітрэнка падпаўзаў, сплываў разам з пяском да іх.

— Руку! Руку! Хлопцы, руку!

Яго накрыла з галавою. І тут я пачуў роспачны віск, страшны крык, у якім ужо не было амаль нічога чалавечага. Крычала Лізка.

— Ролік! Ро-о-лік!

Ёй асабіста нічога не пагражала. Яна стаяла наводдаль, на выступе. Але яна кінулася з яго ў пясчаную варонку, туды, дзе борсаліся хлопцы. Трымаючыся рукою за нейкі корань, яна працягнула другую туды, дзе плыў, падаў, ляцеў пясок, дзе зноў з'явілася галава нашага атамана.

Выбух! Корань абарваўся, і нашу малую панесла да тых, каму яна імгненне назад хацела падаць дапамогу.

Я ўжо быў побач, калі выбухнула нешта куды больш вялікае, чым адна міна. Можа, некалькі мін і снарадаў, схаваных у адным месцы.

Слуп быў высокі, з палову дрэва. Мяне два разы перакуліла ў паветры і ляснула ўсім целам аб зямлю. І адразу настала цемра.

...Калі я ачомаўся, на мяне ўсё яшчэ падалі камякі зямлі. З хвіліну я нічога не чуў. Толькі бачыў: вось выбілася на паверхню галава Навума. Я паспрабаваў быў устаць. Але цела калацілася так, ногі і рукі былі такія ватныя, што я не ўтрымаўся, упаў тварам, рассек шчаку каля рота аб востры камень. І зноў упаў. І зноў. Пасля мяне знудзіла, і стала лягчэй. Я ўсё ж устаў і, хістаючыся, пабег да пасткі.

Навум трымаўся на паверхні, рабіў такія рухі, нібы плаваў, прасоўваўся паволі да Лізкі, галава і плечы якой былі яшчэ над паверхняй пясчаных плыняў, што сыпаліся, круціліся, спляталіся, утваралі варонкі, як вадаварот.

— Ліза! Лізхен! — хмара пяску ляснулася яму на галаву, і ён адказаў ці то кашлем ці рыданнем.— Ах-ха!

Твар ягоны быў страшны, здатны на ўсё. Але тут галава дзяўчаці знікла пад чарговай лавінай. На хвіліну з'явілася адтуль тоненькая рука з блакітнымі — я з жахлівай яснасцю бачыў гэта — жылачкамі.

— Лі-іза!!!

І тут якраз у гэты момант, нібы гэты крык нарадзіў яго, грымнуў на ўвесь сусвет самы страшны, самы магутны выбух з усіх, што былі. Метрах у чатырох ад краю яра ўстаў да нябёс агністы знізу, вугальна-чорны, з іскрамі зверху, слуп. Узляцеў,ператварыўся ў велізарнае дрэва, з кроны якога ляцелі камякі, галіны, нейкае шмоцце.

Мяне зноў гэхнула аб дол. Я паспеў толькі разявіць рот, каб канчаткова не аглухнуць. І тут я з жахам убачыў, як аддзялілася, адкалолася ад схілу яра, пачала павольна хіліцца, асядаць, а пасля няўхільна, нястрымна, наканавана падаць у яр махіна ў чатыры метры таўшчынёю, гмах вышынёю ў пяціпавярховы дом.

— Хло-оп-цы! Хлопцы!!!

Усё яшчэ ў выбухах, пачвара асела, нарадзіўшы страшны, гарачы, смярдзючы подзьмух, ураганны, з пяском і каменнямі, парыў.

Нехта поўз міма мяне да амаль засыпанага яра. Нонка. І я з апошняе сілы адштурхнуў яе, рыкнуў:

— Бяжы па дарожнікаў! Хутчэй!

...Пасля я памятаю сябе ўжо на дне шчыліны, у якую з усіх бакоў падалі лавіны пяску. Я адкідаў рукамі пясок, гроб яго, як быццам гэта магло камусьці дапамагчы. А мяне цягнула, круціла, засмоктвала, як мурашку ў пастцы-варонцы мурашынага ільва. Яна борсаецца, хоча выпаўзці, але ссоўваецца і ссоўваецца, разам з пяском, на дно, дзе ў норцы чакае яе смерць.

Выбухі, здаецца, усё яшчэ грымелі. А пасля нешта грукнула мяне па галаве, і я праваліўся ў змрок.

...Я ляжаў на краі яра. Паўсюль у паветры стаяў яшчэ дым, круціўся пыл і нібы плыло ў ім каламутнае сонца, што яснела па меры таго, як гэты пыл асядаў. З носа ў мяне плылі два крывавыя цуркі. І слёзы ліліся з вачэй. Ці ад болю, ці яшчэ ад чаго.

Непадалёк стаяў вайсковы студабекер і санітарная машына. А каля мяне гаварылі два чалавекі ў форме.

— Я такога яшчэ не бачыў,— сказаў адзін, сівы здаравіла з пагонамі маёра.— Сець і некалькі такіх сабе невя-лі-ічкіх складзікаў з мінамі ды снарадамі. Гэта, значыць, лічылі, што сканцэнтруюцца тут нашы салдаты, і тады...

— Гэх, мала чаго мы яшчэ не бачылі. Калі да шкуры даходзіць, то падлюга здатная нават свет узарваць. Усіх на той свет узяць з сабою.



— Якое няшчасце! Божа мой, якое няшчасце!

Я паступова прыходзіў да свядомасці. Бачыў, як прыкацілі яшчэ два студабекеры, як ляскаюць унізе рыдлёўкі, як падбягаюць яшчэ і яшчэ людзі, як калоціцца ў руках двух сапёраў Нонка.

— Ролік! Ролік! Пусціце! Пусці-іце!

Мне было ўсё адно, каго яна там кліча. Няхай ніколі не паўторыцца мінулы вечар, няхай ніколі не будзе зорак і вершаў — толькі б іх адкапалі... толькі б іх... толькі б іх...

Праз гадзіну аднаго сапраўды адкапалі. Багдана. Праўдзівей, тое, што калісь было Багданам. І ён ляжаў на плашч-палатцы, і на яго з кожным парывам дняпровага ветру ападалі жоўтыя, зморшчакаватыя лісты з выкарчаванага з коранем старога каштана.

Пасля, калі кроў перастала ісці, а ногі ўжо не так дрыжэлі, я спусціўся да сапёраў. Галава мая то ўспухала, то сціскалася да памераў макавага зерня, але я капаў, капаў, капаў.

Яшчэ праз паўгадзіны адкапалі яшчэ аднаго. Гэта быў Карл. Скурчаны, нібы сплюснуты. Тое, што было Карлам, сінявокім, бялявым, худым і доўгім хлопцам, які мог — я толькі цяпер зразумеў гэта — стаць маім лепшым сябрам, калі б толькі я не быў такі дурны, калі б не жыў мінулым болем і былой нянавісцю.

Мы капалі да вечара. Рабілася цёмна. Дагарала на захадзе шафранна-залатая стужка зары. Прарочыла ясны сонечны дзень, якога мае хлопцы ніколі ўжо не пабачаць.

Машыны пад'ехалі на край цясніны і запалілі фары. У іхнім мёртвым святле па-ранейшаму завіхаліся на дне людзі з рыдлёўкамі.

Нас з Нонкай адправілі дамоў. У кузаве студабекера было цёмна. Нас калаціла, адплывалі назад рэдкія агні ўскраін.

Бязвольнае цела Нонкі хісталася ў маіх руках. Яна не плакала, нічога не казала. Яна, па-мойму, проста не жыла.

Навума, Лізку і Раланда не знайшлі ні тады, ні ў наступныя дні. Магчыма, іх зацягнула ў адну з тых пячор — хто ведае, колькі іх там было?

А праз чатыры дні я ад'язджаў на Беларусь. Можаце мне паверыць, я нічога не ведаў, але не было і там дня, у які б я не думаў, што, магчыма, яны і зараз ляжаць там, трох, якіх магла звесці ў іхняй хлапечай непрыміручасці і любові толькі смерць.

Я глядзеў праз акно вагона на перон, бачыў там цётку і побач з ёю — маленькую, прыбітую горам і жыццём фігурку Нонкі, і слёзы нястрымна ліліся з маіх вачэй. І я не саромеўся іх.

І тут грымнуў салют: нашы ўзялі яшчэ адзін горад. Праз слёзы бачыў я ракеты, дамы і руіны ва ўспышках рознакаляровага святла і цемры.

Грымеў салют. А мне здавалася, што гэта грыміць, ракоча, жалобна стогне і рыдае ў іхні гонар увесь сусвет, па якім ім болей не хадзіць.

...Потым, праз тры гады, зноўку быў Кіеў і таполевая алея, дзе мы сустрэліся з Нонкай, і пачуццё маё, якое зноў ажыло.

І ўсё ж...

...І ўсё ж потым, калі яна стала маёй жонкай, мы ўсё роўна інстынктыўна пазбягалі і пазбягаем вуліц горада ў такую вось залатую восень. Пайсці, уцячы, з'ехаць кудысьці ў лес, туды, дзе жаўцеюць бярозы і ліпы, дзе чырванеюць асіны. Дзе няма каштанаў. Прыгожых, залацістых на блакітным, на сляпуча-блакітным, каштанаў. Дзе не падаюць іхнія лісты, жоўтыя, усе ў чыстых дробных зморшчынках.

Як ветравая рабізна на пяску.

Пачынаюць аблятаць каштаны. Залацісты дождж.

І кожны раз у гэтыя дні я думаю, што вось такія, як Гнат, мажліва, ходзяць па зямлі і зараз.

А мае хлопцы, мае сябры спяць у дняпровым пяску і ніколі ўжо не ўбачаць ні сонца, ні сіняй ракі, ні залатой лістоты каштанаў.

Не будуць лаяцца, спяваць, ныраць з быкоў, смяяцца. Не будуць ваяваць з несправядлівасцю, якой на зямлі куды больш, чым мы думалі. А яны ж і загінулі толькі таму, што — хай сабе па-дзіцячы — збіраліся на вайну з ёю, каб яна хаця на хвіліну хутчэй знікла з зямлі.

Што зробіш? Змагары за справядлівасць — гінуць.

І вось яны ляжаць недзе там, «за краем чорнай вясёлкі», як кажуць нашы казкі. Пры жыцці лёс не даў ім прывязанасці тых, каго яны хацелі. Але цяпер яны разам. Цяпер яны ляжаць разам, звязаныя самай моцнай повяззю, якая ёсць на зямлі.

Я не так бы пакутаваў, каб не былі яны такімі чыстымі, такімі вернымі сябрамі, такімі надзвычайнымі і добрымі, такімі выдатнымі хлопцамі.

Пачынаюць аблятаць каштаны.

І ў гэты журботны час наша апаленае, спаленае, наша забітае вайной, наша знявечанае юнацтва заўсёды, заўсёды ўспамінаецца мне.







***рыгор барадулін***



## паэзія



# *Колас на камені*

*Ульяне Феакцістаўне Крышталевіч*

Колькі іх, заклятых,
Ні кляні,
«Камяні растуць», —
Дзяды сцвярджаюць.
І куды ні глянеш —
Камяні...
Камяні.
Якія ж ураджаі?!

І вядзе,
Бы ў казцы,
Парсюка
Воўк у госці да сябе —
За вуха.
І аб востры камень асака
Вострыць лёзы,
Асака-разуха.

Загалосіць спуджана сава,
Лось, як князь,
Пасунецца памалу.
На адведках запяе ўдава,
Гэтак да вайны яна пяяла:

— Асаку
Пасяку,
Траву паламаю.
Мужа спаць пакладу —
Сама пагуляю!..

Тут шчырэлі ў лівень
І ў сухмень.
Валунамі горбіліся ўзваллі.
Працадзень,
Нібыта зайцаў цень,
Мільгануў —
І памінай як звалі!

Ураджай —
Свірэпка ды гірса.
Выручала бульба
Дробна-мала.
Васількоў даверлівых краса
На касаваротках дагарала.

Прадаваць бы кветкі —
Справа дрэнь:
Нюхай сам
Ды лесуном галёкай.
Кветкавы
Трывалы працадзень,
А да Мінска
Трошачкі далёка...

Тут,
У партызанскай старане,
Цень уласны
Нёс адплату кату.
Ды ляжаць
Валун на валуне.
Кожны з іх,
Як гарнізон закляты.

Лусце жытняй
Ведалі цану.
Ураджай
Паціху ўгору тэпаў.
...Недзе абжывалі цаліну —
Залатое дно
Казахскіх стэпаў.

Выспела маліна —
Пах такі!
Захмялелі
Лесавыя далі.
Неяк «цыганы»-вербаўшчыкі
У куток зацішны завіталі.

Цаліну расхвальваць пачалі.
Там такія булкі,
Караваі!
Лепшая зямля
На ўсёй зямлі.
А ласункаў —
Як душа трывае!

Там не трэба ўжо
Махаць касой,
Там машынам
Не хапае працы.
Раюць «цыганы»,
Каб вёсцы ўсёй
У цалінны край
Перабірацца.

Уздыхнуў з палёгкай
Сельсавет:



«Хопіць быць
Апошнімі ў раёне!»
...Толькі ж цаліна —
Не блізкі свет.
Толькі ж у каршэнь
Ніхто не гоніць...

Край на хлеб благі,
Ды дарагі,
І яго ты
Не пакінеш сходу.
Думалі старыя
Дзень-другі,
А пасля звярнуліся да сходу.

Каб душу не камяніў дакор,
Не смакуйце
Ячную аладку.
Парашылі сходам
Хадакоў
У далёкі край
Паслаць спачатку.

Коні,
Цягнікі,
Грузавікі
Везлі хадакоў
У край гарачы.
...Вось і стэп.
А тут абсяг такі,
Што, здавалася,
Палік убачыш...

Сцелецца сабе
Кавыль-бабыль.
Выскачыць, як мыш-палёўка,
Суслік.
Дзе тут небыліца,
Дзе тут быль,—
Цяжка развязаць
Няхітры вузлік.

А бурты —
Шырокія хрыбты,
Быццам сцірты яравой саломы.
Захлынаецца ад духаты
Зерне,
Быццам боб.
Куды там дома!

Тут такая тлустая зямля,
Хоць кладзі на хлеб
Заместа масла!
Тут прыкурыш,
Як ад вугаля,
Ад пясчынкі,
Што і ўноч не гасне.

...Сельбішча лясное —
Асавы!
Там бруіцца
Ціхая крыніца.
Зайцаў плач,
Кугіканне савы
На патэльні стэпу
Толькі сніцца...

Родзіць добра ўсё
На цаліне,
Для душы адно
Не знойдзеш месца.
Хай там
І валун на валуне,—
Дома салома ядома,
А ў людзях
І сена не есца!..

Хай там
З асцюкамі праснакі!
Тут жа каравай
Глядзіць з дакорам.
Нас зямля карміла
Ў час цяжкі,
Пакідаць, знясіленую,—
Сорам!

...Бор шумеў
Пра клопат векавы,
Прамаўчаў ён
Пра сваю нязгоду.
Радасна сустрэлі
Асавы.
Хадакі
Звярнуліся да сходу:

— Нам шукаць
Багатае зямлі?!
Ці ж сваю
Мы самі не налюдзім?!
Ворагаў
З карміцелькі зямлі,
Уцякаць ад камянёў
Не будзем!

...Край крынічны,
Звонкі,
Лесавы.
...Крушні мшэюць
З зайздрасцю тупою...
...Поле маладое...
АСАВЫ!..
. . . . . . . . . . .
Не дастаць да коласа рукою...

## Мяккія рукі

(З НАРОДНАГА)

На белым свеце
Жылі дзве сяструлі
Аднаго бацькі,
Адной матулі.
А лёс, як звычайна,
Дзяліў адпаведна:
Багацце — багатай,
А дзеткі — беднай.
А песня-забаўка
Ліха гукала,
А песня спявала
Сваё памалу:
— Люлі, люлі, малое,
А налета — другое.



Люлі, люлі, Несцерка,
А налета — шэсцерка!
Сястра-багатырка
Узяла немаўлятка.
Малечы цётка
Стала за матку.
І год праходзіць,
Другі мінае,
Дачушку маці
Штодня ўспамінае:
«Як там яна
У багатай хаце?..»
Пайшла праведаць
Дачушку маці.
А вузкую сцежку
Сляза звужае.
Прыйшла не як маці,
Як цётка чужая.
...А частавалі
Сытой салодкай.
...Ідуць праводзіць
За рэчку цётку.
А цётка просіць
Багатую матку:
— Малую перанясу
Цераз кладку.
...Малая й кажа
(А словы з дакукі!):
— Мама,
А ў цёткі
Мякчэйшыя рукі...

## Ранішні верш

Скрогат марознай раніцы.
Жудасна правадам.
Снегірамі —
школьнікаў ранцы.
Вісельнікамі —
сумачкі дам.

Шпілек нервовыя кропкі.
Замшы халёны спакой.
Цішу працялі крокі.
Сыплецца іней луской.

Позіркі бліснуць сінія,
Быццам з патайніка.
Машыны за ноч заінелі,
Як бровы адстаўніка.

Шыферным дахам —
ватнік.
Трубы парванай цвярдзее флюс.
На рэгуліроўшчыка
глядзіць прыватнік,
Як на удава трус.

Рэгуліроўшчык носу не вешае.
Фігура,
што й гаварыць!
Ультрасучасную галавешкаю
Жазло накіроўча гарыць.

Апрануты не па сезону
(Таму сядзі і дубей!),

Хоча пагрэцца каля неону
Апуджаны верабей.

Няма з марозам у графіка блату.
Думка адна —
не спазніцца б адно ж...
Дольку секундную цыферблата
Рэжа стрэлкі секунднай нож...

## *На Курскай касе*

Курская каса —
Шабляю крывою.
Потная раса
Саляніць крывёю.

Хмуры хмарасплаў.
Бацька Нёман шчыры.
Да касы паслаў
Хваль імклівы вырай, —

Каб было святла
Стараны зялёнай,
Каб раса была
Не такой салёнай.

Сыпце жорсткі град,
Успамінаў жорны!
...Бераг браў атрад
Афіцэрскі,
Зорны.

Ды палеглі ўсе.
І цяпер,
Зірніце,
Сумныя, ў расе
Травы пры граніце.

Палявы граніт.
Форма палявая.
Хай там сонца Нід
Пляжы залівае.

Тут,
У прорве вод,
Стыне не астыне
Сум балючых год,
Як вякі ў бурштыне...

■

Што нам
Кола сяброў завужаць —
Скрыжаваліся
Нашы скрыжалі.
Трэба меней
Сябе заўважаць,
Трэба другу любові —
Не жалю.

...Так
Адзін аднаго
Паважаць,
Як пасля вайны
Паважалі!..



## *На сустрэчы партызанаў*

Вецер супакоіўся на міг,
Як чырвоны следапыт дасведчаны...
— Як жа засталіся Вы ў жывых?—
Запытаў адчайнага разведчыка.

Усміхнуўся горка у рукаў
(Пэўна, рану закрануў балючую):
— Гэтак часта
Смерць я сустракаў,
Што адзін другому надакучылі...

■

Пахне хлебам
Віцебская вуліца.
Падпірае неба
Смачны дым.
Вось, здаецца,
Поўня перакуліцца
Боханам пасляваенным тым,
Што прапах аерам...
...Асцюкастыя,
Мне скупыя помняцца лямкі.
...Ноч і Дзень
Брыдуць з пустымі кайстрамі.
Холад,
Голад
Ходзяць на дужкі.
...Помню,
Чэрвень ягады павыціскаў,
І на вілы —
Мурагу сумёт!
Партызан стары,
Пчаляр пад Віцебскам,
Мне штыком трафейным
Кроіў мёд.
...Яравыя зоры
Шчодра небяцца.
Зорны ураджай —
На умалот!
Не вянчайся,
Недарод,
З Бясхлебіцай!
Не гарчы,
Пасляваенны мёд!
...І ад успамінаў
Мінск сутуліцца,
Не паказваў ён
Дарог бядзе.
Віцебшчына,
Віцебская вуліца
Да цябе
Заўсёды прывядзе!



**яўгенія мальчэўская**



ПАЭЗІЯ



## Блакіт на рыштаваннях

Блакіт нябёс адбіўся на вадзе,
Як у вачах задумліва-трывожных.
Свой першы крок нясмелы, асцярожны
Світаннем сінім пачынае дзень.

А рукі дужых кранаў з вышыні
Ужо праменні светлыя разносяць
І рассыпаюць феерверкаў россып
Электразварак сінія агні.

Іду праз звон металу і машын
Плячо ў плячо з рабочым пакаленнем.
Як пераход ад мары да здзяйснення,
Кладу асфальт на новыя шляхі.

І людзі, як суцэльны маналіт,
З усмешкай шчырай сонечнага промня
Спускаюць з неба ў возера блакіт
На рыштаваннях Новага Лукомля.

■

Колькі было іх, надзей і трывог,
Не гаварыце, што гэта бяздомнасць,
Гэта душы чалавечай бяздоннасць —
Той, што шукае нялёгкіх дарог.
Мне не зязюля гадала таксама
Шлях у далёкі нязведаны край.
Зноў у вагончык прыйшла тэлеграма:
«Лепш перадумай, назад прыязджай».

Тут, дзе глядзяцца у возера зоры,
Мы абуджаем маўчанне зямлі
Сэрцаў біццём і гулам матораў,
Горадам юным, што ўвысь узнялі.
Значыць, дарэмна прыйшла тэлеграма,
Значыць, вяртанне — не тэма размоў.
Некалі вельмі! Я вежавым кранам
Ў неба ўзнімаю паверхі дамоў.





**міхась рудкоўскі**



ПАЭЗІЯ



■

Ён прыйдзе, поўдзень срэбнае падковы —
Узвеюцца дубровы і бары,
І ручайкамі песні жаўруковай
Збягуць снягі ў лагчыны і яры.
І сонца дождж і дождж зярнят адборных
На грунт зямлі ўпадуць і прарастуць,
І першыя пралескі, быццам зоркі,
У чысціні адвечнай расцвітуць.
І прад гудком вятроў і цеплавозаў,
Як некалі, нібы даўным-даўно,
Галінкаю вясенняе бярозы
Пастукае Айчына у акно...

■

У краі тым, дзе сосны ў сонцы плачуць,
Прыйшоўшы да высокіх курганоў,
У краі тым, дзе й сёння голас матчын—
Бы колас пераспелы,— пра сыноў,
І дзе яшчэ гайдаюцца калыскі
На тых, на партызанскіх, на вятрах,—
Усё да немагчымасці нам блізка —
І зоры, і любоў, і продкаў прах...

■

На ўсе вякі будзь бласлаўлёны, дзень
Вясенняга вяселля у прыродзе,
Калі ад птушак спеву ўсё гудзе —
На поўначы, на захадзе, на ўсходзе, —
І нераст рыб,
і гулкі зверагон
У ззянні вод,
ў лясным зялёнаграі,
І дух зямлі густы,
і даляў звон,
І прага жыць — бязмежная, без краю!..

**Андрэ МАРУА**

# КАР'ЕРА

## АПАВЯДАННЕ

Мал. **В. Сакалова**

У майстэрні жывапісца Бельтара кожную трэцюю суботу збіраліся: дэпутат Ламбер-Леклерк (цяпер ужо намеснік міністра фінансаў), раманіст Сіўрак і Фабер, аўтар п'есы «Кароль Калібан», якая яшчэ нядаўна ішла з поспехам у тэатры Жымназ.

Аднойчы вечарам Бельтара пазнаёміў сяброў з маладым правінцыялам, сваім дваюрадным братам, якому вельмі хацелася стаць літаратарам.

— Гэты хлопец,— сказаў ён ім, — напісаў раман, па-мойму, не горшы, чым у іншых. Прашу цябе, Сіўрак, прачытай, калі ласка. Мой брат нікога не ведае ў Парыжы, ён інжынер і жыве ў Байё.

— Шчаслівы чалавек! — прамовіў Фабер.— Вы напісалі кнігу, вы жывяце ў правінцыі і вы нікога не ведаеце? Лічыце, што вам пашанцавала, пане мой. Пачнуць спрачацца, хто першы выявіў скрыты талент — і, калі вы зможаце ўдала стварыць вакол сябе легенду, праз год вы станеце больш славутым, чым сам Сіўрак, наш друг. Адно я вам, галубчык, параю: не высоўвайцеся... Байё! Гэта так добра — Байё... І зусім не таму, што ў вас няма асабістага абаяння, пане мой, а проста — чалавечая прырода цярпіць геніяў толькі на адлегласці.

— Прыкіньцеся хворым,— аўтарытэтна параіў Ламбер-Леклерк. — На хваробе многія зрабілі бліскучую кар'еру.

— І чым бы ты ні займаўся,— дадаў Бельтара,— не кідай сваёй спецыяльнасці. Спецыяльнасць — найлепшы назіральны пункт для творчасці. Калі ты замкнешся ў сценах кабінета, ты будзеш пісаць кнігі на прафесійным узроўні, складзеныя як мае быць і нудныя да немагчымасці.

— Дурань! — пачуўся рэзкі голас Сіўрака.— «Спецыяльнасць — найлепшы назіральны пункт...» Як можаш ты, разумны чалавек, паўтараць падобныя штампы? Калі пісьменнік не знаходзіць матэрыялу ў сабе, ніякі «пункт» яму не паможа. Хіба Пруст выходзіў з дому? А Талстой выязджаў з Яснай Паляны? Калі ў яго пыталіся, хто такая Наташа, ён адказваў: «Наташа — гэта я». А Флабер...

— Выбачай,— не згадзіўся Бельтара.— Талстога акружала вялізная сям'я, і ў гэтым адна з крыніц яго сілы. Пруст наведваў рэстаран «Рыц», меў шмат сяброў, у якіх заўсёды мог пачарпнуць патрэбную інфармацыю. Што датычыцца Флабера...

— Ніхто не спрачаецца,— перабіў Сіўрак,— але ўяві сабе Пруста без велікасвецкіх тэм... У яго б знайшлося што сказаць... Ён аднолькава цікава гаворыць і пра сваю хваробу, і пра сваю спальню, і пра сваю старую служанку. Між іншым, я магу прывесці прыклад, які цябе цалкам пераканае, што нават самага дасціпнага розуму, пастаўленага ў найлепшыя ўмовы для назірання, мала, каб стварыць мастацкую рэч. Наш друг Шалон... У каго было больш часу і магчымасцей назіраць за рознымі пластамі грамадства? Шалон бачыў, і вельмі блізка, пісьменнікаў, мастакоў, камерсантаў, акцёраў, палітычных дзеячаў, дыпламатаў, быў сведкам самых патаемных сцэн чалавечай камедыі. А якія вынікі? На жаль, мы гэта ведаем!

— Шалон! — умяшаўся Ламбер-Леклерк, — а што з ім здарылася? Хіба ў каго з вас ёсць весткі пра Шалона?

— Мы заходзім у адну і тую ж кнігарню,— растлумачыў Сіўрак,— і я там зрэдку яго сустракаю, але ён робіць выгляд, што мяне не бачыць.

Малады правінцыял нахіліўся да гаспадара і ціха спытаўся, хто такі Шалон.

— Сіўрак,— папрасіў Бельтара, — раскажы гэтаму хлопцу пра кар'еру Шалона. Для юнакоў прыклад павучальны.



Сіўрак выпрастаўся, сеў на край канапы і загаварыў. Голас у яго быў скрыпучы, кожны склад ён нібы адкусваў зубамі. Апавяданне ён пачаў так:

— Не ведаю, малады чалавек, ці чулі вы пра клас рыторыкі ў ліцэі Генрыха Чацвёртага, выпуск 1893 года. Гэты ліцэй, што знаходзіцца ў суседстве з Пантэонам, даў не менш выдатных выхаванцаў, чым Эколь Нармаль, адкуль выйшлі — Тэн, Прэво-Парадоль, Сарсэ і Эдмон Абу. Клас рыторыкі быў, як мне гаворыць кожны раз пры сустрэчы адзін з нашых былых настаўнікаў, «аранжарэяй славутых людзей», паколькі там вучыліся адначасова Бельтара, Ламбер-Леклерк, Фабер і я. Ламбер-Леклерк, які і тады ўжо рыхтаваўся да грамадскай дзейнасці, разам з Фаберам пасля заняткаў любіў ацірацца на скачках...

— Ты хоць чын мой паважай! — нахмурыўся міністр.

— Тваё правасхадзіцельства быў адзіны сярод нас, хто з юнацкім запалам прадчуваў сваю будучыню. Бельтара схільнасці да малявання не выяўляў, Фабер і не марыў прабівацца ў драматургі. Наш выкладчык літаратуры стары Гамелен казаў яму: «Мой бедны Фабер, вы не адолееце французскай мовы да канца дзён сваіх». Думка слушная, але цяперашняя некультурная публіка з ёю не згаджаецца. Што датычыцца мяне, то найбольшай маёй эстэтычнай асалодай было маляваць Венеру на палях сшыткаў. Шалон дапаўняў нашу групу.

Гэта быў бялявы хлопец з тонкімі, прыгожымі рысамі твару. Працаваў ён мала, чытаў многа, умеў цудоўна выбіраць паэтаў і гальштукі і, дзякуючы свайму бездакорнаму густу, набыў між намі вялікі аўтарытэт. У той час, прачытаўшы «Гісторыю трынаццаці» Бальзака, мы вырашылі заснаваць, чацвёра нас і Шалон, «Саюз пяці». Кожны з «пяці» павінен быў падтрымліваць чатырох астатніх ва ўсім і заўсёды. Мы дамовіліся, што грошы, прызнанне, сувязі, усё, што мог прыдбаць адзін з «пяці», павінна было служыць нашым агульным інтарэсам. Гэта быў цудоўны праект, але ён так праектам і застаўся, бо, скончыўшы ліцэй, мы разышліся. Яго правасхадзіцельства і я падаліся ў юрысты, Фабер, якому трэба было зарабляць на жыццё, уладкаваўся да свайго дзядзькі ў банк. Бельтара пачаў займацца медыцынай. Ваенная служба разлучыла нас яшчэ больш, а потым перашкаджалі розныя акалічнасці. Шэсць гадоў мы амаль нічога не ведалі адзін пра другога.

На выстаўцы 1900 года я ўпершыню ўбачыў карціну Бельтара. Мяне вельмі здзівіла, што ён стаў мастаком, а яшчэ больш тое, што ў яго быў талент. Нас заўсёды глыбока хвалюе, калі мы адкрываем нешта выдатнае ў чалавеку, з якім сябравалі з дзяцінства. Тое, што ў генія былі таварышы, уявіць лёгка, але цяжэй паверыць, што сярод тваіх таварышаў быў геній. Я яму напісаў. Ён запрасіў мяне да сябе. Яго майстэрня мне спадабалася, я пабываў там некалькі разоў і, пасля доўгага абмену пісьмамі і тэлеграмамі, арганізаваў абед «пяці». За абедам кожны расказаў, чым ён займаўся, скончыўшы ліцэй.

Шалон слухаў нас уважна. Ён выказаў шэраг тонкіх і справядлівых думак аб маіх першых апавяданнях, адзначыў, што сюжэт аднаго з іх запазычаны ў Мерымэ і што мой стыль занадта набліжаецца да Барэса, якім я тады захапляўся. Ён бачыў пастаноўку п'есы Фабера і з выключным веданнем тэатральнай спецыфікі назваў яму сцэну, якую варта было перарабіць. Разам з Бельтара ён прайшоўся па яго майстэрні і з кампетэнтнасцю мастацтвазнаўцы разважаў аб імпрэсіянізме. Потым падтрымаў Ламбер-Леклерка, праанлізаваўшы палітычнае становішча ў дэпартаменце Ардэш з дзівоснай дакладнасцю. І да нас вярнулася ранейшае ўражанне, што Шалон самы бліскучы з нашай кампаніі, і мы, шчыра прызнаючы яго перавагу, у сваю чаргу папрасілі яго расказаць пра свой жыццёвы шлях.

У васемнаццаць гадоў, атрымаўшы ніштаватую спадчыну, ён пасяліўся ў невялічкай кватэры, абклаўся кнігамі і працаваў, як ён казаў, адразу ў некалькіх кірунках. Перш за ўсё, ён пісаў вялікі раман, накшталт «Вільгельма Мейстэра» Гётэ, які павінен быў скласці першы том «Новай чалавечай камедыі». Таксама ён думаў аб драматычным творы, у якім былі б аб'яднаны дасягненні Шэкспіра, Мальера і Мюсэ. «Вы разумееце, я жадаю спалучыць фантазію з іроніяй, лёгкасць з глыбінёй». Нарэшце, ён пачаў «Філасофію духу» — «блізкую да Бергсана,— гаварыў ён мне,—але значны крок наперад у аналізе феномена інтуіцыі».

Я наведаў яго, і кватэра Шалона мне здалася на дзіва ўтульнай, асабліва калі прыняць пад увагу, што жыў я тады ў танным пакоі дрэннай гасцініцы. Антыкварная мэбля, некалькі гіпсавых злепкаў з шэдэўраў Луўра, удалая копія з карціны Гольбейна, паліцы, застаўленыя кнігамі ў ціснёных вокладках, рысунак Фраганара ў арыгінале — усё сведчыла аб вытанчаным мастацкім гусце.

Ён пачаставаў мяне англійскай цыгарэтай выдатнага смаку і колеру. Я папрасіў яго паказаць мне пачатак «Новай чалавечай камедыі», але нават першая старонка і тая не была закончана. Для п'есы была падрыхтавана пакуль што адна назва, а для «Філасофіі духу» — некалькі картак з нататкамі. Затое ён мне доўга паказваў маленькага «Дон Кіхота» — выданне пары рамантызму з цудоўнымі малюнкамі, толькі што ім купленае ў суседняга букініста, аўтографы Верлена, каталогі гандляроў карцінамі. Я з цікавасцю правёў у яго вечар — вельмі мілы таварыш.

●

Такім чынам «Саюз пяці» аднавіў сваё існаванне, і наша дружба стала нават мацнейшай.

Шалон, якому не было чаго рабіць, наладжваў сувязь між намі. Часта ён цэлыя дні праседжаў у майстэрні Бельтара. З таго часу, як быў створаны партрэт місіс Джэрвіс, жонкі амерыканскага пасла, Бельтара ўвайшоў у моду. Шмат прыгожых жанчын з'яўлялася да яго, каб ён іх маляваў, і прыводзіла сваіх сябровак прысутнічаць на сеансе альбо хваліць гатовую работу. Майстэрня напаўнялася чарнавокімі аргенцінкамі, бялявымі амерыканкамі, англічанкамі-эстэткамі, якія параўноўвалі нашага таварыша з Уістлерам. Многія з гэтых дам прыходзілі знарок, каб пабачыць Шалона, які іх забаўляў і быў ім даспадобы. Бельтара, ацаніўшы адразу прыцягальную сілу агульнага нашага сябра, з вялікім спрытам карыстаўся ім як прынадай. У Шалона было там сваё крэсла, направа ад крэсла — скрынка з цыгарамі, налева — пакунак з цукеркамі. Ён упрыгожваў сабой майстэрню і на сеансах не дазваляў дамам нудзіцца. Ён умеў нутром угадваць выйгрышную жывапісную кампазіцыю і ў гэтым быў проста незаменны. Ніхто лепш за яго не мог выбраць убрання і позы, найбольш адпаведных той альбо іншай натуры. Надзелены рэдкім дарам адчуваць характво і ўзаемасувязь колераў, ён без памылкі паказваў майстру які-небудзь жоўты альбо блакітны тон, які трэба было неадкладна ўхапіць. «Дружа мой, ты мог бы стаць мастацкім крытыкам»,— гаварыў Бельтара ў захапленні ад яго здольнасцяў.

— Так, я гэта ведаю, але не хачу разменьвацца,— мякка адказваў Шалон.

У гэтай майстэрні ён пазнаёміўся з мадам дэ Тыянж, з герцагіняй дэ Капры, з Селіяй Доўсан, з місіс Джэрвіс, і яны ахвотна запрашалі яго на абед. Для іх ён быў «літаратар», друг Бельтара, і гасцям яго рэкамендавалі так: «Пан Шалон, вядомы пісьменнік». Ён стаў дамашнім кансультантам па пытаннях мастацкіх навінак. Дамы вадзілі яго ў кнігарні, пыталіся, што чытаць, і прасілі быць іхнім літаратурным настаўнікам. Кожнай ён абяцаў прысвяціць адзін са сваіх раманаў, які будзе ўключаны ў «Новую чалавечую камедыю».

Многія з іх яму расказвалі сваю біяграфію. «Мне больш падабаецца, калі вы гаворыце пра сябе,— падахвочваў ён дам,— бо ў маёй шматтомнай эпапеі я закрану ўсе спружыны складанай жаночай душы». Яго лічылі стрыманым і хутка зрабілі сховішчам самых пікантных парыжскіх сакрэтаў. З'явіўшыся ў гасцінай, ён адразу пападаў пад абстрэл некалькі пар зацікаўленых вачэй. Жанчыны знаходзілі, што ён добры псіхолаг, і ахвотна перад ім спавядаліся. Шырока ўжывалася такое азначэнне: «Шалон — увасабленне чуласці і здагадкі».

Аднойчы я сказаў яму:

— Ты павінен пісаць псіхалагічныя раманы. Ніхто лепш за цябе не выявіў бы сучаснага Дамініка * ў жаночым вобразе.

— Ну так, я гэта ведаю,— адказаў ён з выглядам чалавека, які, па горла завалены справамі, вымушаны адхіліць тое, што ён рабіў бы з прыемнасцю.— Ну так, назіранняў хапае, але ў мяне ёсць пэўная мэта, і я не магу раскідацца.

У майстэрню часта заходзіў Фабер і браў яго з сабой на рэпетыцыі. З таго часу, як з шумным поспехам пачаў ісці «Карнавал», Фабер стаў значнай фігурай у тэатрах Вялікіх Бульвараў. Ён прасіў Шалона падзяліцца свежым уражаннем, бо часам акцёры і рэжысёр да таго стамляліся, што гатовы былі адмовіцца ад п'есы. Шалон бліскуча спраўляўся са сваёй задачай. Ён выяўляў фальшывыя інтанацыі і расцягнутыя мясціны. Спачатку абураныя паводзінамі чужака, акцёры нарэшце прызналі яго. У працілеглацсь аўтару, свайму вечнаму ворагу, яны палюбілі гэтага чалавека, які нічога сабой не ўяўляў. Хутка ён стаў вядомы ў тэатральных колах, спачатку як «друг пана Фабера», потым пад сапраўдным прозвішчам. Білецёры з паклонам вылзялялі яму крэсла ў абмен на ласкавую ўсмешку. Усё часцей і часцей яго пачалі заносіць у спіскі запрошаных на прэм'еры і «генералкі».

— Ты павінен стаць тэатральным крытыкам, у цябе так усё складна выходзіць,— параіў яму Фабер.

— О, напэўна! — адказаў Шалон. — Але ў кожнага свая прафесія.

У той год, калі кожнаму з «пяці» стукнула па трыццаць чатыры, мне прысудзілі Ганкураўскую прэмію за «Блакітнага мядзведзя», а Ламбер-Леклерка выбралі дэпутатам. Фабер і Бельтара яшчэ раней набылі шырокую вядомасць. «Саюз пяці» быў моцным, і без асаблівай натугі мы маглі рэалізоўваць рамантычны сцэнарый, прыдуманы намі ў ліцэі. Наш маленькі гурток павольна працягваў у розныя колы грамадства свае ўчэпістыя шчупальцы. У Парыжы мы былі сапраўднай сілай, тым больш эфектыўнай, што дзейнічала яна неафіцыйна.

Безумоўна, ёсць пэўная перавага, калі мастацкі гурток юрыдычна прызнаны. Рэпутацыя, набытая адным з яго членаў, аўтаматычна пераносіцца публікай на астатніх, і назва гуртка, калі яна ўдала выбрана, абуджае агульную цікавасць. Можна прабачыць культурнаму чалавеку 1835 года, што ён не ведаў Сэнт-Бёва, але ён не меў права абмінуць «рамантыкаў». Аднак ёсць і значныя невыгоды. Заняпад распаўсюджваецца на ўсіх гэтак жа, як і ўздым. Маніфесты і дактрыны — зручныя мішэні для масавай стральбы. Адзіночныя стрэлы не прыносяць такой шкоды.

Прафесіі ў нас былі розныя, і зайздрасць нас не раз'ядала. Мы склалі цудоўны калектыў узаемнай падтрымкі. Як толькі хто-небудзь з нас прабіваўся ў новы цікавы салон, ён так энергічна расхвальваў чатырох сваіх сяброў, што яго прасілі прывесці іх туды. Паколькі людзі ў большасці лянуюцца самастойна думаць, яны ахвотна карыстаюцца гатовым і чужыя ацэнкі робяць сваімі. Фабер — вялікі драматург, бо так гаварыў я, а я «найглыбейшы з раманістаў», таму што гэта сцвярджаў Фабер. Калі мы ў майстэрні Бельтара наладзілі вечарыну ў стылі венецыянскіх свят васемнаццатага стагоддзя, нам было лёгка сабраць тут усіх, хто заслугоўваў увагі ў Парыжы. Відовішча было незвычайнае. Тры красуні выступалі ў невялічкай камедыі Фабера, дэкарацыі да якой аформіў Бельтара. Але ў вачах гасцей гаспадаром і душой дома быў Шалон. Ён меў шмат вольнага часу, быў повен абаяння і, зусім натуральна, стаў шэфам усіх нашых дамашніх мерапрыемстваў. Калі нам гаварылі: «Ваш цудоўны друг...», мы ведалі, што размова пойдзе аб ім.

Як і раней, ён нічога не рабіў. Я ні разу не чуў, каб ён браўся за свой раман, п'есу, філасофскі трактат, каб ён іх зрушыў з месца хаця б на адзін радок. Ён не рабіў нічога ў літаральным сэнсе. Ён не апублікаваў ніводнай кнігі, не напісаў ніводнага артыкула ў часопіс, ніводнай заметкі ў газету, ніколі не выступаў з прамовай. І зусім не таму, што яму цяжка было дабіцца, каб яго друкавалі. Ён быў знаёмы і нават сябраваў з лепшымі выдаўцамі, з адказнымі рэдактарамі часопісаў. І не таму, што ён даражыў сваёй незалежнасцю і свядома хацеў заставацца толькі гледачом. Наадварот, у ім развівалася прыродная прага да славы. Тут было спалучэнне прычын розных, але скіраваных у адно: нядбайства і бесклапотнасць, няўстойлівасць інтарэсаў, слабасць волі. Служыцель муз заўсёды чаго-небудзь пазбаўлены, і гэта «беднасць» прымушае яго адрывацца ад быту, узлятаць над зямлёй і шырока расплюшчанымі вачамі глядзець на жыццё. Шалон вельмі ўтульна ўладкаваўся ў жыцці і быў ім цалкам задаволены. Яго выключная лянота была адлюстраваннем яго шчасця.

Пісьменнікі называлі нашага друга «дарагі калега» і дарылі яму кнігі з аўтографам. Па меры таго, як мы падымаліся па ступенях іерархічнай лесвіцы парыжскага свету, дзе ўсё да дробязі размечана пры ўсім паказным лібералізме, Шалон прасоўваўся гэтак жа і без вагання далучаўся да гонару, які прыпадаў на долю каго-небудзь з нас. Мы заўсёды стараліся ахоўваць яго самалюбства, падобна таму, як свежаспечаны генерал, крыху саромеючыся свайго чыну і не ўпэўнены, што яго далі па заслугах, цягне ўгору свайго таварыша па школе Сэн-Сір.

Каля нас пачалі круціцца маладыя людзі ў пошуках падтрымкі. Шалона, які жыў паміж нас як роўны, яны называлі «дарагі мэтр». Разумныя былі хлопцы, асцярожныя. Употай, магчыма, распытвалі: «А што ён такое напісаў? Ці чытаў яго хто?» Часам які-небудзь няспрытны падліза расхвальваў перад ім «Блакітнага мядзведзя» альбо «Караля Калібана». «Прабачце,— са стрыманым абурэннем гаварыў Шалон, ускінуўшы галаву,— гэта сапраўды добрая рэч, але не мая». Аднак з усяго нашага «Саюза пяці» ён адзін ахвотна браў чытаць рукапісы і даваў парады, ад якіх, вядома не было ніякай карысці, але заўсёды разумныя і бліскучыя.

Гэта дармовая слава расла так паступова, так натуральна, што мы ані не дзівіліся. Мы крыўдзіліся і лічылі абразай, калі нашага сябра забываліся запрасіць на які-небудзь афіцыйны прыём «прадстаўнікоў літаратуры і мастацтва». Дарэчы, такога здарэння не было ніколі. Часам, калі выпадкова мы даведваліся, што вялікі мастак жыве ў галечы, забыты дзяржавай і народам, у нас на момант узнікала пытанне: як растлумачыць парадаксальны поспех Шалона? «Так, можа гэта і несправядліва,— думалі мы,— але нічога не зробіш. Так было заўсёды. А потым у таго бедняка ёсць талент, а гэта таксама багацце».

Аднаго разу раніцай, прыйшоўшы да яго снедаць, я заўважыў у кутку пачцівага юнака, які раскладваў старыя часопісы. Шалон адрэкамендаваў яго: «Мой сакратар». Гэта быў тоненькі зграбны хлопец, выпускнік бібліятэчнага інстытута.

Праз некалькі дзён Шалон прызнаўся нам, што плаціць яму трыста франкаў у месяц, і гэта немалы выдатак. «Але, — дадаў ён з пакорнасцю, — цяжка такім людзям, як мы, абыходзіцца без сакратара».

●

Вайна 1914 года гвалтам перайначыла жыццё кожнага. Бельтара стаў драгунам, Фабер лётчыкам у Салоніках, Ламбер-Леклерк, паранены на фронце, вярнуўся з ганарам у Палату і заняў пост памочніка міністра. Шалон, пабыўшы салдатам пры інтэндантцве, быў адкліканы аддзелам прапаганды і закончыў вайну ў Парыжы на вуліцы Францыска Першага. Пасля дэмабілізацыі ён зрабіў мне і Фаберу шэраг важных паслуг, бо праз доўгую адсутнасць мы страцілі кантакты з цэнтрам, ён жа, наадварот, заваяваў ласку новых і магутных сяброў.

* Дамінік—герой аднайменнага рамана Эжэна Фрамантэна.



Бельтара быў узнагароджаны баявым ордэнам, Фабер таксама, яшчэ раней. Ламбер-Леклерк дабіўся ад свайго калегі з Ведамства мастацтваў, каб мяне ўключылі ў першыя пасля перамір'я цывільныя спіскі ўзнагароджаных. У мой гонар «Саюз пяці» наладзіў цудоўны абед у рэстаране рускіх эмігрантаў — ікра, асятрына, «водка». Музыканты ў шаўковых кафтанах выконвалі цыганскія песні. Нам здалося (не іначай, як пад уплывам сумных мелодый), што ў той вечар Шалон крыху зажурыўся.

Я вяртаўся назад разам з Фаберам, які жыў непадалёку ад мяне. Была прыгожая зімовая ноч. Праходзячы праз Елісейскія Палі, мы ўспаміналі Шалона.

— Ах, небарака,— заўважыў я,— як гэта цяжка ў яго гады, азірнуўшыся ў мінулае, бачыць там адну пустату!

— Думаеш, ён гэта разумее? — запытаўся Фабер.— Алімпійская бесклапотнасць!

— Не ведаю. Па-мойму, яго жыццё нейк раздвойваецца. Калі ўсё добра, усюды запрашаюць, усюды прымаюць, ён забывае, што нічога для гэтага не зрабіў. Але ў глыбіні душы адчувае. Няясная трывога заўсёды пры ім і часам прабіваецца наверх, калі навокал занадта спакойна... Скажам, калі сёння вечарам вы ўсе з радасцю абмяркоўвалі мой твор, а я выступаў з тлумачэннем, ён напэўна заўважыў, што аб ім ніхто ні слова.

— Ёсць людзі, у якіх няма зазнайства, а значыцца, і зайздрасці.

— Безумоўна, але Шалон не з такіх. Для гэтага трэба быць альбо вельмі сціплым і казаць сабе: «Гэтыя рэчы не для мяне», альбо вельмі гордым і думаць: «Мне іх не трэба». Шалон жа хоча мець усё, але ён больш гультай, чым славалюб. Становішча, вартае жалю, павер мне.

На гэтую тэму мы гаварылі доўга. Кожны з нас ставіўся да яго паблажліва. Кантраст паміж яго бясплоднасцю і нашай пладавітасцю рабіў нас чуллівымі, спагадлівымі, і мы шкадавалі Шалона. Назаўтра Фабер і я пайшлі ў міністэрства да Ламбер-Леклерка.

— Ёсць у нас адна ідэя,— сказаў я яму,— з'явілася ўчора, калі мы з табой развіталіся. Ці не здаецца табе, што Шалону непрыемна бачыць нас усіх чатырох с ордэнамі і медалямі, а самому заставацца абдзеленым? Якое гэта мае значэнне? Ніякага, вядома, як і многае на свеце,— гэта толькі сімвал. А раз яно не мае значэння, то чаму б гэты сімвал не начапіць на грудзі Шалону?

— Я не пярэчу,— адказаў Ламбер-Леклерк,— але ж патрэбны заслугі.

— Што? — запратэставаў міністр, разваліўшыся ў кутку канапы. — Не мог я сказаць такога глупства.

— Ну, тут ужо выбачай. Магу спаслацца на Фабера... Ты сказаў: «Патрэбны хоць бы нейкі выгляд заслуг».



— Гэта магчыма,— прамовіў Ламбер-Леклерк.— Я не служыў у Ведамстве мастацтваў і пры ўсім жаданні не мог бы яго прасунуць, але я вам сказаў, што, калі б Шалон захацеў прайсці ў мяче па спісу забеспячэнцаў, зрабіць гэта вельмі лёгка.

— Ён жа не ідыёт,— зноў загаварыў расказчык.— Але і тое добра, што ты яго не прымушаў. Па спісах памяці паэта Эжызіпа Маро Шалон усё ж атрымаў ордэн. Прапануючы яму падпісаць заяву, я меў неасцярожнасць заўважыць (бо трошкі злаваўся, што ён лічыць гэта натуральным), колькі мы мелі турбот, каб зрушыць справу з месца.

— Няўжо? — спахмурнеў ён.— А я думаў, гэта вельмі проста.

— Вядома, проста, каб у цябе былі заслугі...

Ён здзівіўся з такой шчырасцю, што я адразу змоўк.

●

Яго сябры і прыхільнікі справілі яму гучны банкет. Ламбер-Леклерк прывёў міністра асветы, праслаўленага прамоўцу. Былі там два акадэмікі, яшчэ адзін з Акадэміі Ганкураў, актрысы, мастакі і некалькі свецкіх львоў. Ва ўсіх быў цудоўны настрой. Чалавек — істота добразычлівая, калі ён спакойны і не зайздросціць. Шалон, які нікому не замінаў, быў кожнаму сімпатычны, і, раз ужо знайшлася магчымасць паспрыяць яго шчасцю, усе з радасцю ўзяліся гэта рабіць. Тыя, хто быў там, разумелі і адчувалі, што герой гэтага свята — фікцыя, ілюзія, створаная іх уяўленнем. Яны былі нават удзячны Шалону за тое, што яго існаванне залежала ад іх ласкі, і смакавалі ў няпэўным зіхценні яго поспеху сваю ўласную магутнасць, тое, што яны з нічога зляпілі фігуру. Людовік Чатырнаццаты любіў людзей, цалкам яму абавязаных, і гэта каралеўская рыса ўласціва многім абраннікам лёсу.

Калі ўсім прысутным падалі салодкае, хтосьці з паэтаў прачытаў прыгожыя вершы. Міністр сказаў кароткае слова: тэмпераментна, складна і з гумарам. Ён гаварыў аб сціплым і глыбокім уплыве Шалона на сучасную французскую літаратуру, аб яго красамоўстве, аб Рываролі і Малармэ. Госці стоячы віталі героя вечара. Нарэшце з чароўнай непасрэднасцю хораша выступіў Шалон. Яго слухалі ўважна ў атмасферы агульнай узрушанасці. Банкет удаўся на славу.

Выйшаўшы, я пасадзіў Шалона ў сваю машыну і сказаў яму:

— *Добра, вельмі добра.*

Ён усміхнуўся шчаслівы:

— О! Надзвычайна! І самае прыемнае, што ўсё рабілася шчыра, ад душы.

І, ведаеце, ён не памыляўся.

●

З таго часу кар'ера Шалона набыла імпэт. Яго жыццёвы шлях стаў гладкім і шырокім, як уезджаная магістраль. Ніякіх перашкод! Ні разу не ўпаў, не паслізнуўся. Перавага нікчэмнасці ў тым, што яе нельга ўшчаміць. І мы з задавальненнем прадбачылі ўжо стужку Ганаровага Легіёна на шыі нашага друга. Ужо ў некаторых сяброўскіх дамах пачалі гаварыць, што трэба яго прасунуць у Акадэмію. Герцагіня дэ Т... нясмела намякнула аб гэтым аднаму акадэміку, вялікаму майстру выбарчых спраў, і той сказаў ёй: «Так, так, мы думаем, але пакуль што яшчэ ранавата». З кожным днём на твар Шалона ўсё выразней лажылася тая пагодлівая яснасць, што паходзіць ад спакойнай мудрасці ці ад сытага гультайства, якія, між іншым, нярэдка збліжаюцца.

У самую пару яго росквіту Шалонам зацікавілася місіс Пэкс. Глэдзіс Ньютан Пэкс была багатай прыгожай амерыканкай, якая, як амаль усе амерыканкі багатыя і прыгожыя, праводзіла (і цяпер праводзіць) большую частку года ў Францыі. Яна мае раскошную кватэру на вуліцы Францыска Першага і асабняк на поўдні. Яе муж, Уільям Ньютан Пэкс, з'яўляючыся старшынёй праўлення Універсальнай каўчукавай кампаніі і некалькіх чыгунак, прыязджае ў Еўропу толькі на адпачынак.

Усе мы даўно ведалі місіс Пэкс, заўзятую прыхільніцу мастацтваў, якая захаплялася літаратурай, жывапісам і навейшай музыкай. Яна шмат увагі аддала Бельтара, калі той яшчэ толькі пачынаў: купляла яму палатно, папрасіла намаляваць яе партрэт і заказала партрэт місіс Джэрвіс, праз які ён праславіўся. Два гады яна расхвальвала сваім знаёмым Бельтара, арганізавала выстаўку яго карцін, давала абеды ў яго гонар і, нарэшце, запрасіла Бельтара правесці зіму ў яе асабняку ў Напулі на беразе мора, каб ён мог спакойна працаваць.

Потым да Бельтара прыйшоў поспех, а поспех — гэта тая мяжа, за якой канчаецца вялікая дружба місіс Пэкс. Жанчына яна з розумам, але ў сваёй любові да мастацкіх рэчаў трымалася поглядаў некаторых біржавых спекулянтаў, што баяцца стабільных каштоўнасцяў і хапаюцца за дробныя акцыі, невядомыя шырокай публіцы, аб якіх яны ўжо маюць па сакрэце пэўныя звесткі. Яна любіць пісьменніка, якога не друкуюць, драматурга невыразнага, п'еса якога разы тры праскочыла ў авангардысцкім тэатры, кампазітара накшталт Эрыка Саці, пакуль той не прыдбаў сабе вучняў, альбо эрудытаў рэд-

кага профілю, якіх-небудзь санскрытолагаў ці даследчыкаў першабытнага кітайскага жывапісу.

Праўда, мушу адзначыць, яна ніколі не апекавала людзей нікчэмных і пасрэдных. У яе быў і спрыт і густ. Але страх перад банальным, агульнадаступным мог яе адштурхнуць нават ад дасканалага. Я не ўяўляю, каб Глэдзіс Пэкс магла любіць Талстога альбо Бальзака. Адзенне ёй шыюць у найлепшых атэлье, яна не будзе насіць плацця, нават самага прыгожага і якое ёй падабаецца, калі ўбачыць у іншых такога ж фасону. Са сваімі пісьменнікамі і мастакамі яна абыходзіцца гэтак жа: аддае іх слугам, як толькі яе сябры прывыкнуць да іх.

Мабыць, я нясу адказнасць за тое, што нацэліў яе інтэрас на Шалона. Неяк раз вечарам на абедзе ў Элен дэ Тыянж мяне пасадзілі з ёю поплеч. І здарылася так, што гутарка зайшла пра яго, і я неасцярожна сказаў: не, ён ніколі не друкаваўся, але задумы ў яго грандыёзныя і нават ёсць пачатыя работы.

— Вы іх бачылі?

— Так, але гэта яшчэ толькі нататкі. Няма пра што гаварыць.

Я сказаў без усякага намеру, аднак іменна тое, што магло больш за ўсё спакусіць місіс Пэкс. Адразу ж пасля абеду яна затрымала Шалона недзе ў кутку і, нягледзячы на ўсе спробы Элен іх разлучыць (гаспадыня не прызнавала манаполій у сваім салоне), не адпускала яго ўвесь вечар. Я назіраў за імі здалёк. «Гэта трэба было прадбачыць,— разважаў я...— Ва ўсякім разе, Шалон ідэальны аб'ект для эксперыментаў місіс Пэкс. Яна шукае неапублікаванага, невядомага, схаванага ад вачэй... І вось перад ёю прадмет яе мар: пісьменнік без чытачоў, таямнічы аўтар яшчэ не напісаных кніг. Фізік, які паступова разрэджвае паветра ў закрытай пасудзіне, імкнецца да абсалютнай пустаты. Глэдзіс Пэкс, аднаго за адным мяняючы сваіх падапечных па прынцыпе найменшай прадукцыйнасці, набліжаецца да нуля. І ў Шалоне яго знаходзіць. Гэта цудоўнае супадзенне дзвюх блізкіх тэндэнцый павінна абаіх ашчасліваць. Выходзіць, я ім памог».

І сапраўды, з наступнага дня пачаўся перыяд Шалона ў жыцці Глэдзіс Пэкс. Было ўзгоднена, што ён абедае ў яе тры разы на тыдзень, што яна прыйдзе глянуць на яго чарнавікі, а ўзімку забярэ яго з сабой у Напуль, «каб ён мог спакойна працаваць». Некалькі дзён мяне трывожыла думка, як аднясецца місіс Пэкс да рукапісаў Шалона, якія, нават з яе пункту гледжання, надта ж мізэрныя. Але тут мне здрадзіла логіка, бо страх быў зусім дарэмны. Я сустрэў Глэдзіс Пэкс на другі дзень пасля, так сказаць, папярэдняй інвентарызацыі яго творчых дасягненняў. Яна была ў захапленні. «Тут тоіцца больш,— сказала яна,— больш зместу ў задумах вашага друга, чым у плённых здабытках Генры Джэймса...» І ўсё наладзілася.

Месяцы два смакавалі яны слодыч духоўнага збліжэння. За гэты час Глэдзіс Пэкс абвясціла ўсяму Парыжу, што рыхтуе выданне твораў непрызнанага генія. Гэтым геніем стаў наш Шалон. Яна знайшла яму выдаўца, дамовілася з перакладчыкам на англійскую мову, адрэкамендавала яго многім выдатным чужаземцам, якія наведвалі Парыж — Джорджу Муру, Луіджы Пірандэла, Гофмансталю, Сінклеру Льюісу. Потым, вычарпаўшы ўсе даступныя ёй спосабы рэкламы, яна папрасіла ў нашага друга які-небудзь тэкст.

Яе задаволіла б любая драбніца — нарыс, артыкул, некалькі гатовых старонак. Шалон, які, зразумела, у гэтыя два месяцы працаваў не больш, чым звычайна, нічога ёй даць не мог, у чым і прызнаўся з уласцівай яму шчырасцю. Але місіс Пэкс была не з тых жанчын, што пакідаюць геніяў, як неўзараную цаліну. За сваё жыццё яна ўжо дзесяць такіх апрацавала: прыгорне да сябе беднага, закінутага, нясмелага чалавечка, надзеленага невядома за што дзівосным дарам пісаць, маляваць, ствараць музыку, і праз некалькі месяцаў выпускае ў свет авеянага славаю майстра. Яе цешыў самы працэс такога ператварэння. Уплыў яе быў вялікі, і дабівацца свайго яна ўмела. Глэдзіс Пэкс энергічна занялася выхаваннем Шалона, і, воляй-няволяй, ён павінен быў нешта рабіць.

Не ведаю, з чаго яна пачала,— кампліменты, напэўна, магчыма, абяцанні (не думаю, каб яна з ім какетнічала: Глэдзіс — жанчына халодная, натуры строгай), але аднойчы Шалон прыйшоў да мяне збянтэжаны.

— Хачу з табой параіцца,— кажа...— Місіс Пэкс прапануе мне на зіму свой дом у Напулі, каб я мог спакойна працаваць. Прызнацца, у мяне няма ніякага жадання пакідаць Парыж... і потым я зараз не ў форме... Хіба толькі, каб зрабіць ёй прыемнасць. Ёй вельмі спадабаўся мой раман, і мяне спакушае думка, што за два-тры месяцы адзіноты я, можа, яго закончу.

«Закончыць» раман, які не быў пачаты... Цікавая логіка! Але паколькі гэта было сказана сур'ёзна, я не пярэчыў.

— Ну што ж, — кажу, — цудоўна! Місіс Пэкс прапануе слушна. У цябе сапраўды вялікі талент, ты кожны дзень у звычайных гутарках пускаеш на вецер цэлыя раздзелы бліскучай кнігі. Калі просьба жанчыны, атмасфера захаплення і давер'я будуць спрыяць таму, што ты нарэшце запішаш тое, чым так шчодра дзелішся з намі, мы ўсе будзем вельмі рады... Згаджайся, стары, я падтрымліваю... Мы ўсе цябе падтрымліваем.

Ён падзякаваў і праз некалькі дзён наведаў мяне, каб сказаць, што выязджае. За цэлую зіму ён прыслаў нам пару паштовак. У лютым я адправіўся ў Напуль, каб яго пабачыць.



●

Асабняк містэра і місіс Пэкс вельмі прыгожы. Яны рэстаўрыравалі і прыстасавалі да сваіх патрэб невялічкі правансальскі замак-крэпасць, які ўзвышаўся над залівам. Суровасць будынка і подступаў да яго ў кантрасце з раскошай і адмысловым унутраным камфортам здзіўлялі, як чароўная казка. Кветнікі і дрэўцы былі размешчаны на тэрасах, вышуканых з вынаходніцкай хітрасцю, бо, каб іх прыляпіць да скалы, спатрэбіліся дзесяткі кубаметраў бетону. За шалёныя грошы гаспадары навезлі з Італіі кіпарысаў, і яны, як вартавыя, абрамлялі дзёрзка перайначаную людзьмі прыроду. Калі я з'явіўся, дварэцкі далажыў, што пан працуе і папрасіў пачакаць. Чакаў я даволі доўга.

— А! Дарагі мой! — сказаў Шалон, прыняўшы мяне нарэшце. — Дагэтуль я не ўяўляў, што такое работа. Пішу многа, спорна, з натхненнем. Думкі атакуюць, аглушаюць, б'юць у палон. Пяро проста не паспявае занатоўваць вобразы і думкі. Яны б'юць фантанам з крыніцы ўзрушанай памяці. Скажы, ты калі-небудзь адчуваў такое?

Я сарамліва прызнаўся, што падобныя крызісы ад перапоўненасці бывалі са мной рэдка, і выказаў меркаванне, што яго натуры больш, чым мне, адпавядае бурны ўзлёт. Ад доўгага маўчання назапашаныя ім матэрыялы спрасаваліся і цяпер выбухнулі, як порах. Я правёў у яго ўвесь вечар. (Місіс Пэкс знаходзілася яшчэ ў Парыжы). Цікавыя перамены заўважыў я. Раней адной з самых абаяльных яго асаблівасцей была выключная разнастайнасць размовы. Я не меў часу многа чытаць і даражыў тым, што ў асобе Шалона знаходзіў чалавека, які чытаў усё. Ён першы знаёміў мяне з дасягненнямі маладых. Куды б ні ішоў ён увечары — у тэатр ці з візітам — ніхто ў Парыжы не ведаў стольскі гісторый, інтымных драм і пацешных анекдотаў. І самае важнае, што Шалон быў адным з тых рэдкіх сяброў, з якімі заўсёды можна было пагаварыць пра сваё, пра сваю работу, адчуваючы, што ён гэтым сапраўды цікавіцца і, слухаючы вас, не думае пра сябе. Пабыць з ім было вельмі прыемна.

Але ў Напулі Шалон стаў зусім іншы. За два месяцы ён не разгарнуў ніводнай кнігі, ні з кім не сустракаўся. Ён гаварыў толькі аб сваім рамане. Калі я пачаў расказваць пра нашых сяброў, ён трошкі паслухаў, потым выняў з кішэні блакнот і нешта запісаў.

— Ты што запісваеш? — пытаю.

— Ды так! Прыйшла ў галаву ідэя для маёй кнігі. Не хочацца, каб яна прапала.

Праз хвіліну, калі я працытаваў яму словы адной з кліентак Бельтара, ён зноў выцягнуў блакнот.

— Ты што? У вар'яты падаўся?

— Дарагі мой, у мяне ёсць цудоўны персанаж, які шмат чым нагадвае Бельтара. Тое, што я пачуў, можна з поспехам выкарыстаць.

У яго з'явілася ўпэўненасць прафесіянала, заўзятасць чалавека, ахрышчанага ў новую веру. Пры мне было некалькі раздзелаў маёй апошняй кнігі. Я збіраўся прачытаць іх Шалону і, як заўсёды, паслухаць яго заўвагі. Але нічога з гэтага не выйшла — ён і вухам не павёў. Мне стала прыкра, нудна. А скончылася тым, што ён разглядаў мяне сваімі легкадумна пагардлівымі адносінамі да нашых класікаў.

— Ты лічыш? — скрывіўся ён.— Рэалізм Стэндаля? Так... Знайшоў сабе дзіва! Па сутнасці, і «Пармскі манастыр» і «Чырвонае і чорнае» ўсяго толькі раманы-фельетоны. Па-мойму, зрабіць можна куды лепш.

Я развітаўся з ім і хутчэй выехаў.

●

Вярнуўшыся ў Парыж, я адразу ж адчуў, што Глэдзіс Пэкс не марнавала часу. Яе арганізатарскія здольнасці далі плён. Пра кнігу Шалона гаварылі многа, гаварылі з увагай і надзеяй. Ніякіх слядоў грубай, крыклівай рэкламы, якая адпрэчвае людзей далікатных. Здавалася, што гэта жанчына знайшла спосаб папулярызаваць употай, падсвечваючы імя свайго абранніка як бы знутры. Поль Маран сказаў, што яна, як ніхто, «адмыкае замкнутае».

Адусюль у мяне пыталіся: «Вы былі на поўдні? Вы бачылі Шалона? Кажуць, ён напісаў нешта выдатнае?»

Місіс Пэкс правяла ў Напулі ўвесь сакавік і паведаміла нам, што кніга амаль закончана, але Шалон не хоча ёй паказваць. Ён сцвярджае, што яго твор адно цэлае і вырываць з яго кавалкі нельга, бо страціцца свежасць, парушыцца стройнасць кампазіцыі.

Нарэшце, у пачатку красавіка, яна абвясціла, што Шалон прыехаў, згадзіўся прачытаць раман і яна запрашае ўсіх нас да сябе ў адну з субот на літаратурны вечар.

Ах, гэты вечар! Мы яго век не забудзем! Салон на вуліцы Францыска Першага быў належным чынам падрыхтаваны. Люстры ўсюды патушаны, за выключэннем адной вялізнай венецыянскай лямпы, малочна-белае святло ад якой мякка клалася на аўтара, рукапіс і эфектна пастаўленую за спіной Шалона галінку квітнеючай слівы ў кітайскай вазе. Тэлефон быў выключаны. Слугі атрымалі строгі наказ нікога з прысутных не трывожыць. Шалон нерваваўся, фанабэрыўся, быў ненатуральна вясёлы. Місіс Пэкс аж

зіхацела ад радасці. Яна яго як след пасадзіла, наліла ў шклянку вады, паправіла абажур. Ён надзеў рагавыя акуляры, праверыў голас і, пасля кароткай паўзы, пачаў чытаць.

Праслухаўшы з дзесятак фраз, мы з Фаберам глянулі адзін на аднаго. Ёсць мастацтвы, якія навізной стылю, светаўспрымання могуць уразіць і затлуміць галаву, але пісьменнік раскрываецца хутка. З першых жа слоў мы выявілі самае горшае: Шалон не ўмеў пісаць, зусім не ўмеў. У дзіцяці можа быць наіўнасць, непасрэднасць. А Шалон пісаў банальна, прымітыўна да дзікасці. Ад гэтага чалавека, такога чулага, дасведчанага, мы чакалі, мабыць, глыбіні, складанасці хадоў. А тут усё наадварот — раман для слязлівых дзяўчат, дыдактыка, нудота, не мора, а лужына вады. Пераканаўшыся ў нікчэмнасці формы, мы, паслухаўшы яшчэ крыху, пераканаліся і ў нікчэмнасці зместу. Прыгнечаныя, разгубленыя, мы з адчаем пераглядваліся. Бельтара, паціснуўшы няўзнак плячамі, як бы сказаў: «Бач ты!» Фаберківаў галавой і, здавалася, шаптаў: «Што ж гэта? Што ж гэта?» Я не зводзіў вачэй з Глэдзіс Пэкс. Ці разумее яна, чаго сапраўды варта гэта паднесеная нам лухта? Спачатку яна слухала паблажліва, але вельмі хутка ўстрывожылася і час ад часу кідала на мяне дапытлівы позірк. «Якая катастрофа! — думаў я.— І што ёй сказаць?»

Чытанне цягнулася больш за дзве гадзіны. Слухачы маўчалі. Хоць бы гук, хоць бы слова!.. Настолькі гэта быў слабы і бездапаможны твор. Найлепшыя намеры танулі ў яго кнізе, як іскры ў балоце. Наіўная душа аўтара была вывернута напаказ. Слухаючы Шалона, я раптам са здзіўленнем адкрыў у ім цэлы свет расчараванняў, журбы, ушчэмленай сентыментальнасці. І я сказаў сабе, што было б цікава напісаць кнігу пра няўдалага раманіста і, уключыўшы туды цалкам яго раман, паказаць псіхіку свайго персанажа ў вельмі арыгінальным аспекце. Шалон чытаў, і яго расчуленасць, пры жахлівай нязграбнасці формы, нагадвала залёты закаханай няўдаліцы, жаласныя і смешныя.

Калі ён скончыў, цішыня была мёртвая. Мы спадзяваліся, што нас выратуе Глэдзіс Пэкс. Ва ўсякім разе, яна ў сябе дома, і вечар наладжаны ёю. Але гаспадыня сядзела, як чужая. Бельтара, ураджэнец гераічнага поўдня, самы вытрыманы сярод нас, вырашыў адпакутаваць за ўсіх і выказаўся першы, коратка і тактоўна. Нашу маўклівасць ён апраўдаў хваляваннем, падзякаваў місіс Пэкс, якая стварыла ўмовы для напісання гэтай выдатнай кнігі, і, павярнуўшыся да мяне, зрабіў вывад: «Сіўрак напэўна з вялікай ахвотай перадасць яе свайму выдаўцу».

— О! — абазваўся я...— Свайму альбо другому... Я думаю, што місіс Пэкс...

— А навошта другому? — горача ўмяшаўся Шалон.— Не, твой мне больш падабаецца: аўтарытэтны, спрытны. Калі ты возьмеш клопат на сябе, мне будзе вельмі прыемна.

— Абавязкова, мой дарагі... Гэта лягчэй лёгкага.

Маўчанне місіс Пэкс рабілася нясцерпным. Яна пазваніла, загадала падаць ліманад і пячэнне. Шалон спяшаўся замацаваць сваю радасць канкрэтнымі фактамі.

— А як вы знаходзіце вобраз Алісы?

— Цудоўны,— адказаў Бельтара.

— А сцэна прэмірэння праўдзівая, як, па-вашаму?

— Самая лепшая,— пахваліў Бельтара.

— О не! — усцешыўся Шалон.— Я не лічу яе лепшай. Самая лепшая, па-мойму,— сцэна сустрэчы Жаржыяны і Сільвіо.

— О так,— згадзіўся Бельтара.— Гэта яшчэ лепшая.

Місіс Пэкс адвяла мяне ўбок:

— Я вас прашу, скажыце шчыра, ён напісаў бязглуздзіцу?

Я моўчкі пацвердзіў.

— Як жа гэта здарылася? — прамовіла яна.— Я ніколі не думала!.. Ён мне здаваўся такі разумны.

— Ён сапраўды разумны, дарагая місіс Пэкс, але творчасць і гутарка — з'явы розныя і нават процілеглыя. Можна памыліцца.

— Не, не,— ускіпела яна.— Гэта недаравальна. Ні ў якім разе нельга пускаць гэта ў друк... Пасля ўсіх маіх рэкамендацый... Я скажу яму ў вочы, што яго опус бяздарны, агідны, смеху варты...

— Калі ласка, не трэба. Вы яму зробіце шкоду на ўсё жыццё. Заўтра, без сведак, я паспрабую сам. Не трэба яго крыўдзіць у такі вечар... Не трэба.

На другі дзень, калі я адважыўся трошкі яго пакрытыкаваць, Шалон успрыняў мае дробныя і нясмелыя заўвагі з такім гневам, з такой пагардай, я адчуў такую аголенасць яго эмоцый, што страціў усякую рашучасць. Ранейшы вопыт мне падказваў, што з маіх намаганняў толку не будзе. Ізноў іграць ролю мальераўскага Мізантропа, акт першы, сцэна другая? Навошта? Я ведаў, што пачую: «А я сцвярджаю, што мае вершы вельмі добрыя» і ў мяне не хопіць духу паслаць знішчальную рэпліку. А таму лепш за ўсё адступіць адразу. І пайшоў я, узяўшы яго рукапіс пад паху, да майго выдаўца, паклаў тоўсты сшытак на стол і без усякіх каментарыяў сказаў:

— Гэту кнігу напісаў Шалон.

— Няўжо? — замітусіўся выдавец.— Гэта кніга Шалона? Палічу за шчасце яе мець.





Аб ёй так многа гавораць. Я вам вельмі ўдзячны, дарагі друг, што вы ўспомнілі мяне. Як вы мяркуеце, я магу неадкладна скласці ўмову тэрмінам на дзесяць год?

Я параіў яму пачакаць крыху, спадзеючыся, што ён прачытае кнігу і адмовіцца. Але ж вы ведаеце, як гэта робіцца. Нашы імёны, маё і Шалона, былі для яго гарантыяй. Ён адправіў рукапіс у набор, нават не глянуўшы. Вестка аб гэтым развеяла падазрэнні Шалона.

Тры дні місіс Пэкс яго не трывожыла, усклаўшы клопат на мяне. Калі ж дазналася

пра мой візіт да выдаўца, сустрэла мяне з абурэннем і, адчытаўшы як мае быць за падатлівасць, напісала Шалону рэзкае пісьмо, якое ён назаўтра нам паказваў, ледзь не плачучы. Ён доўга вышукваў прычыну гэтай раптоўнай несправядлівасці. І прыйшоў да вываду дзікага, абсурднага, але які начыста змываў з яго ганебную пляму. Ён уявіў сабе, што Глэдзіс Пэкс пазнала сама сябе ў вобразе нягеглай англічанкі, паказанай у яго кнізе, пасля чаго адразу павесялеў і перастаў пакутаваць.

●

Праз тры месяцы кніга выйшла ў свет. Дрэнных водгукаў у друку не было. Шалон карыстаўся агульнай сімпатыяй, і рабіць яму балюча ніхто не хацеў. Крытыкі-сябры выказваліся аб кнізе стрымана, астатнія маўчалі. Затое вусная крытыка разлівалася шумлівым патокам. Не было таго дня, каб у мяне не пыталіся: «Ну, а як Шалон? Вы бачылі яго раман? Гэта нешта жудаснае!..» Праз месяц увесь Парыж, не чытаючы, ведаў, што кнігу не варта чытаць. На вітрынах кнігарань прыгожыя жоўтыя вокладкі зрабіліся бледна-лімоннымі, потым павольна пачалі чарнець. Пад канец года амаль увесь тыраж вярнулі выдаўцу. Затраты не апраўдаліся, і Шалон заявіў, што яго абкралі.

Няўдача адабрала ў яго спакой, абудзіла нянавісць. Цяпер ён дзяліў чалавецтва на дзве катэгорыі: «тыя, хто цэніць маю кнігу» і «тыя, хто не цэніць маёй кнігі». Жыць у грамадстве стала яму цяжка. Калі мы збіраліся наладзіць таварыскі абед, Шалон гаварыў:

— Гэтага не запрашайце, я яго цярпець не магу.

— Чаму? — пытаў Фабер.— Ён разумны і зусім не злы.

— Хто? Ён? Змяя. Нічога не напісаў пра маю кнігу,— адказваў сярдзіта Шалон.

Гэты чалавек, раней такі мілы і сціплы, стаў неверагодна фанабэрысты. Ён заўсёды насіў у кішэні хвалебную заметку, з натугай праціснутую мной у друк, і чытаў яе абы-каму. Калі які-небудзь крытык пералічваў таленавітых раманістаў нашага пакалення, ён дзіваўся, не знаходзячы свайго імя: «Гэты Біду — паскуднік!» — сцвярджаў ён. Альбо так: «Ад Жалу я такой подласці не чакаў!..» Неўзабаве, падобна вар'ятам, якія, абвінаваціўшы ўсіх суседзяў у злачынных падкопах пад свой дабрабыт, канчаюць тым, што нават на жонку і на дзяцей сваіх глядзяць як на ворагаў, так і Шалон — вырашыў, што ў «Саюзе пяці» яго кнігі не цэняць, і паступова адвярнуўся ад нас.

Можа, у новым асяроддзі, менш інфармаваным, ён і знайшоў бы той бескарыслівы, пачцівы давер, які мы так доўга яму аказвалі. Тры разы ўзапар ён не прыйшоў на нашы сходы. Бельтара напісаў яму і не атрымаў адказу. Тады мне даручылі быць паслом ад «чатырох» і схадзіць да яго на кватэру.

— Бедны хлопец, ці ж ён вінаваты, што не мае таленту? — гаварылі мы.

Ён быў дома і мяне прыняў, але вельмі холадна.

— Не, не,— сказаў ён,— даўно вядома, што людзі — дрэнь. І вы такія ж, не лепшыя. Пакуль я быў вашым дарадчыкам, з захапленнем слухаў вас, вы сябравалі са мной. Калі ж я захацеў сам нешта стварыць, ты, асабліва ты, адчуў ва мне магчымага саперніка і арганізаваў змову маўчання вакол маёй кнігі.

— Я? Каб ты ведаў, колькі разоў я абіваў парогі, прасіў за цябе!

— О, так! Падлізваліся, каб потым загубіць! Ашуканцы! Крывадушнікі!..

— Пабойся бога, Шалон!.. Узводзіш паклёп! Успомні той дзень, калі ты мне сказаў, што збіраешся паехаць у Напуль, хочаш узяцца за работу. Ты вагаўся, быў не ў форме. Я падбадзёрыў цябе, павіншаваў...

— Помню. І ніколі вам гэтага не дарую: табе і Глэдзіс Пэкс.

Ён падняўся, падышоў да дзвярэй і расчыніў іх, каб паказаць, што аўдыенцыя скончана. Выходзячы, я пачуў:

— Вы загубілі маю кар'еру.

●

— І самае цікавае,— прамовіў Бельтара,— самае дзіўнае, што ён сказаў праўду.

**Пераклад з французскай мовы Юркі ГАЎРУКА.**

# ПУБЛІЦЫСТЫКА



● Валянцін МЫСЛІВЕЦ ● Мікола ЖЫЛІНСКІ ● Васіль ХРАМЦОЎ ● Васіль ХОРСУН

● Алесь АДАМОВІЧ ● Іван ЦІШЧАНКА ● Васіль ВІТКА ● Георгі ШТЫХАЎ

● Антон ЛАБУДА, Сігізмунд ГАЛКО, Георгі НОВІК ● Аляксей СУЭЦІН ● Георгі ЮРЧАНКА



● Валянцін МЫСЛІВЕЦ

# ТРЫ ДАРОГІ

**За апошнія гады мне пашчасціла некалькі разоў пабываць на Магілёўскім камбінаце сінтэтычнага валакна, сустракацца з людзьмі розных узростаў і прафесій. Асабліва цікавыя і запамінальныя былі гутаркі з маладымі спецыялістамі, якіх розныя, у многім незвычайныя шляхі прывялі пад перакрыцці гіганта на беразе Дняпра.**

## ДАРОГА, ЯКУЮ ЛАРЫСЕ ЛЯЛЬКОВАЙ ВЫЗНАЧЫЛА ЖЫЦЦЁ

У тыя дні, калі мне давялося быць на камбінаце і знаёміцца з работай камсамольска-маладзёжных змен, у інструктара вытворчага навучання Ларысы Ляльковай быў асабліва радасны, прыўзняты настрой: напярэдадні яе змене ўручылі пераходны Чырвоны сцяг камітэта камсамола камбіната, у прысутнасці соцень і соцень людзей сказалі многа добрых, шчырых слоў ёй самой і сябрам па працы. Вядома, нямала пахвал было сказана авансам, каб лепш старалася. І Ларыса разумела гэта. Мо таму пра сваю нялёгкую і адказную інструктарскую працу расказвала спакойна, разважліва.

...Летась у іх цэх прыйшлі вучаніцы Лена Бельская, Рая Сербава, Люба Кайдановіч, Надзя Барысава. Адно і было за плячыма, што інструктаж па тэхніцы бяспекі, прамысловай санітарыі і супрацьпажарным рэжыме. Астатняе — навучыць іх працаваць на складанейшых станках, у механізаваным па апошнім слове тэхнікі цэху — клопат інструктара вытворчага навучання. Сама кемная, увішная ў рабоце, Ларыса Лялькова пачынае знаёміць дзяўчат з камбінатам. Дні тры водзіць іх па цэхах, расказвае аб прызначэнні кожнага механізма і прылады ў складаным комплексе атрымання лаўсану. Лена Бельская капыліць губы, крывіцца: гэта ёй, маўляў, не цікава, яна хоча ведаць сваё рабочае месца. Ларыса нервуецца, злуецца, але стрымлівае сябе: сама ж калісьці была такой, пакуль не зразумела, што, каб быць карысцай на сваім месцы, трэба ведаць, якое яно, гэтае тваё месца, у агульным страі.

Знаёмячы будучых работніц з тэхналагічным працэсам камбіната і цэха, Ларыса заадно вывучае і характар іх, вызначае, як жылі дагэтуль, чым цікавяцца, што іх сюды прывяло. Яно нібыта і няцяжка. Калі б мужчына на яе месцы быў, то іншая справа. А так — ахвотна пра ўсё расказваюць: і як вучыліся ў школе, і чаму не засталіся дома, у калгасе, і што іх у горад завабіла, нават пра свае каханне — пра першае, яшчэ нясмелае і не заўсёды ўсвядомленае, бо маладыя зусім — таксама не змоўчаць. І яна не тоіцца, пра сябе ім расказвае...



Нарадзілася Ларыса Лялькова ў вёсцы Роўкавічы, што ў Чачэрскім раёне на Гомельшчыне. Бацькі не памятае. Клапатлівы, уражлівы, чулы да чужога гора і бяды, якіх ставала ў людзей пасляваеннаю парою, настаўнік Аляксандр Лялькоў памёр у 1949 годзе, калі дачушцы не было і двух гадоў, — сэрца спрацавалася. Галосна і наўзрыд плакала ў тыя дні маці — таксама настаўніца Вольга Парфёнаўна. І ці вытрывала б, ці не надламалася б, калі б не яна, маленькая Ларыска.

Вясёлай, бойкай, цікаўнай да ўсяго расла дачушка. Летам амаль штодня цягнула маці ў сасновы бор за вёскай — у ягады, на духмянае ўзрэчча ціхай Чачоры. І забывалася маці пра гора, пра долю сваю жаночую.

У школе ўсе дзесяць гадоў Ларыса была выдатніцай. Вучоба не замінала ёй у спектаклях школьных выступаць, насценную газету выпускаць — востра і дасціпла высмейвала двоечнікаў, прагульшчыкаў, хваліла выдатнікаў. Апрача таго, Ларыса любіла спорт, па лыжах другі спартыўны разрад займела.

Скончыла дзяўчына школу са срэбным медалем. У кожны інстытут, здавалася, для Ларысы былі адчынены дзверы. Падаліся ў Ленінградскі тэхналагічны — душа прагла. Ды першы экзамен — па хіміі — здала на «чацвёрку». Мо хвалявалася лішне, а мо і жадаючых вучыцца было зашмат — не прайшла па конкурсе.

Ні з чым прыехала Ларыса ў родныя Роўкавічы. Думала: пажыве да наступнага лета ў вёсцы, папрацуе ў калгасе, падрыхтуецца да другога заходу ў той жа Ленінградскі тэхналагічны. Ды мясцовыя пляткаркі смалілі цаю лезлі ў вочы: ёй, маўляў, незаслужана далі срэбны медаль... Балюча тое раніла маладое сэрца. От і пакінула Роўкавічы, паступіла на фабрыку індывідуальнага пашыву адзення. Хутка асвоілася на вытворчасці. Некалькі падзяк мела ад заказчыкаў. Але пра мару сваю не забывалася. І праз год паступіла ў Магілёўскі хіміка-тэхналагічны тэхнікум.

У вучобе, грамадскай рабоце, спорце праляцелі для Ларысы Ляльковай тэхнікумаўскія гады. А пасля — сюды, на камбінат сінтэтычнага валакна, у вярчальна-выцяжны цэх. Пасля дзесяцігодкі і тэхнікума, а колькі тут новага, невядомага і захапляючага!

Ларыса Лялькова стала вярчальніцай. Работай была задаволена — сама сабе гаспадыня на сваім месцы. І заробкі добрыя. І канфліктаў ніякіх — ні з суседзямі па працы, ні з начальствам. Чаго ж яшчэ хацець?

Ды падыходзіць аднойчы да Ларысы Іван Іванавіч Прыбутчанка — начальнік цэха, кажа:

— Ты, Ларыса, скончыла тэхнікум. Хочам цябе прызначыць інструктарам вытворчага навучання.

— Мне, Іван Іванавіч, вярчальшчыцай добра, — залілася чырванню дзяўчына. — Асвоілася...

— Асвоішся і там! Трэба, Ларыса! Ды і вучылася ж ты недарэмна, — сказаў, нібы рысу падвёў Прыбутчанка.

Давялося згадзіцца. Яе выбіраюць камсоргам камсамольска-маладзёжнай змены. Шэсцьдзесят пяць гарачых, неспакойных сэрцаў даручаюць дзяўчыне. У Ларысы Ляльковай пачалося новае, клапатліва-вірлівае жыццё.

Памятае: падыходзіць да яе вучаніца Люда Цалік і просіць памагчы ўладкавацца ў інтэрнат. Увесь горад абышла — не знайшла кватэры: то вельмі дорага, то ад камбіната далёка. Ларыса ведала, што з інтэрнатам яшчэ цяжка. Нават выпускнікам гарадскога прафесійна-тэхнічнага вучылішча не ўсім даюць. Але за Люду яна пастаіць — пойдзе да намесніка дырэктара па быце Хведара Мікалаевіча Мацькова. Трэба пастаяць: Люда ж вунь якая дзяўчына — паслухмяная, старанная, не цураецца ніякай працы. Давялося нямала папахадзіць, але Люда атрымала інтэрнат.

Памагла Ларыса атрымаць жыллё студэнткам-завочніцам Маскоўскага машынабудаўнічага інстытута памочніку майстра Марыне Шчэпетавай і вярчальшчыцы Валянціне Рубцовай, атрымаць месца ў інтэрнаце многім выпускнікам гарадскога прафесійна-тэхнічнага вучылішча. Як быццам яно і ўсё добра ў змене, як быццам усе адною сям'ёю жывуць. Ды так толькі на першы погляд. А ўнікнеш — кожны сам па сабе. Вольны час сумна пра-

водзяць. Хлопцы вечарамі да чаркі прыкладаюцца, часам і бойкі ўсчынаюць, дзяўчаты каля тэлевізара кіснуць: не кожны ж дзень будзеш хадзіць у кіно ці на танцы.

Ларыса арганізавала калектыўны паход у тэатр. Усёю зменаю. Хоць не надта нова па форме, ды што з таго — некалькі дзён тым жылі! А тут камсорг на канцэрт узяла білеты, у Хатынь усёю зменаю паехалі... Спадабалася ўсім. Неўзабаве правялі свой вечар адпачынку, перад Кастрычніцкімі святамі з мастацкай самадзейнасцю выступілі, арганізавалі вечар пасвячэння ў рабочыя, паслухалі лекцыі аб міжнародным становішчы і пра культуру паводзін, абмеркавалі раман Івана Шамякіна «Сэрца на далоні».

Завіравала жыццё ў змене. За мінулы год дванаццаць разоў выходзілі на суботнікі. Разам выязджалі ў лес у грыбы. Зменаю стагавалі сена, убіралі збожжавыя ў падшэфным калгасе імя Тэльмана. І прагулаў, спазненняў без уважлівых прычын не было. На рабоце ў цэху ўсе шэсцьдзесят пяць юнакоў і дзяўчат — таксама, як родныя. Надарыцца, што ў каго пачнуць раптам часта спадаць шпулькі са шпулярнікаў ці ніткі рвацца, заблытвацца за амартызатары — інструктар заўсёды тут як тут: падыдзе, пакажа і падкажа.

Адпачываць Ларыса Лялькова любіць у родных Роўкавічах. Адна ці з сяброўкамі — на экспрэс, за дзве гадзіны і дома. Маці купіла новы, як звон, дом — высокі, прасторны, светлы і чысты. Нямала гора зазнала Вольга Парфёнаўна, нямала здароўя, сіл, ведаў аддала вучням. Цяпер можна і адпачыць, парадавацца за дачку. Як прыедзе тая дадому, распытвае Вольга Парфёнаўна ў дачкі пра камбінат, пра сяброўак і сяброў, што лаўсан выпускаюць, пабядуе, што дачка збляжэла з твару, схуднела.

— Не, мама, то здаецца табе, — адказвае ёй дачка. — Усё ў мяне добра. І сяброўкі мае — харошыя дзяўчаты...

У бацькоўскай вёсцы і ў Магілёве Ларыса Лялькова жыве клопатамі сваёй змены, свайго камбіната, які стаў для яе другім родным домам.

## ДАРОГУ ВЫЗНАЧЫЛА ТЭХНІКУМАЎСКАЕ НАКІРАВАННЕ

Такіх маладых спецыялістаў, як Вера Дзяменцьева, на камбінаце сінтэтычнага валакна не адна, пэўна, тысяча. Сярэдні ўзрост інжынераў, тэхнікаў, лабарантаў, рабочых усіх спецыяльнасцяў тут крыху перавышае дваццаць два гады. І ўсе яны, з кім даводзілася сустракацца і гаварыць, у адно слова сцвярджалі, што прыехалі па ўласным жаданні, без цяжкасцяў прыжыліся на рабоце і ў горадзе, назаўсёды палюбілі Магілёў з яго зялёнымі ваколіцамі і Дняпром. Гаварылі так нават тыя, хто прыехаў сюды па накіраваннях, але неўзабаве, праз колькі часу пасля тае нашае гаворкі, пісаў заявы на звальненне. Вера Дзяменцьева прызналася без утойвання: у тэхнікуме ёй сілком выдалі накіраванне, схала ў Магілёў без ахвоты, спачатку не ўпадабала свайй работы, рвалася дамоў, у Іванава...

У першыя пасляваенныя гады сям'і Дзяменцьевых жылося нялёгка. Бацька вярнуўся з вайны параненым, прыработак да пенсіі меў невялікі, бо часта хварэў. Маці, хоць і тэхнікум за плячыма, а таксама грошай прыносіла не вельмі. Дзве ж дзяўчынкі — Вера і Надзя — адна пад адной. Карміць трэба, адзяваць, вучыць. Дык кінула маці тэкстыльную фабрыку, перавялася поварам у сталоўку — і сама пад'еўшы, і сям'і сёе-тое перападала.

Абое, бацька і маці, уважліва сачылі за вучобай дзяцей. Не папракалі кавалкам хлеба ці якой абноўкай на плечы, калі закрадалася ў дзённік тройка.

Кемная і засяроджаная Вера жыла марай пра медыцынскі інстытут. Не вельмі кідкая на словы, не вельмі багатая на сяброўак, яна старанна вучыла хімію і фізіку. Вучыла і чула, як часта варочаецца ў пасцелі, пакутуе ад бяссонніцы бацька. Палохалася ягоных стогнаў. Ды тое здарылася: франтавыя раненні і кантузія заўчасна звялі яго ў магілу.

У той год Вера скончыла восем класаў. На добры толк, думала маці, можна было б пайсці ёй у тэхнікум тэкстыльнай прамысловасці, дзе ў свой час сама вучылася. Магла б ціха і лёгка працаваць па спецыяльнасці. Намякнула неяк пра тое дачцы. Дзе табе: ёй медыцынскі інстытут у галаве. Што ж, хай канчае дзесяць, хай паступае, куды хоча...

Пасля дзесяцігодкі падала Вера дакументы ў Іванаўскі медыцынскі інстытут. Здала, як думалася самой, няблага, але ж — балаў патрэбных не набрала. Настрой у дзяўчыны і без таго — не пажадай іншаму, а тут яшчэ маці: «Ідзі налета туды, дзе цябе напэўна прымуць».

Так Вера Дзяменцьева трапіла ў Іванаўскі хіміка-тэхналагічны тэхнікум. Ехаць куды з роднага горада не збіралася. Думала, што паспагадаюць, не будуць разлучаць з маці, ажно — выдалі накіраванне ў Магілёў. Выкладчыкі раілі, супакойвалі: «У Іванаве шмат такіх спецыялістаў, выбіцца з лабарантаў будзе амаль немагчыма, а камбінат на Дняпры толькі будуецца, там неабмежаваныя магчымасці для праяўлення здольнасцяў». Упарцілася Вера. Таму развітанне з маці і сястрой, з родным Іванавам — цяпер смешна самой успамінаць — было пакутнае, горкае. Нібы не ў абласны цэнтр, а ў пустыню ці ў тундру выпраўляюць дзяўчыну. Дзявоцкая, вядома, наіўнасць і неразумная боязь. На маці нат зазлавала дачка, што тая таксама дужа ўжо афіцыйна, здавалася, павучала: «Едзь, куды накіравалі, прывыкай да работы, да людзей, да новага горада, працуй». Толькі пасля зразумела Вера, што не магла маці паводзіць сябе інакай, бо — якая ж яна тады камуністка?

Камбінат не адразу «суцешыў» маладога спецыяліста. У інтэрнаце ледзь пасялілі, там цесна, няўтульна. Строгай, проста жорсткай здалася прапускная сістэма. Камендант і дзяжурныя пазіраюць злосна. Не ведала яшчэ дзяўчына,што ў жыцці ўсялякае бывае, што той самы «злосны» камендант клапоціцца найперш аб іх, маладзенькіх і нявопытных. Камбіната яшчэ, па сутнасці, не было — працаваў толькі доследны цэх. Астатнія карпусы толькі ўзводзіліся. Зямля перакапана, перамяшана. Пойдзе дождж, дык у гумовіках трэба дабірацца да лабараторыі.

У такім настроі напісала Вера першае пісьмо маці. Зноў думала, што «паспагадае», «зразумее» мама, параіць кінуць усё і вяртацца ў Іванава. З нецярплівасцю чакала адказу.

А маці не спяшалася. Сабралася з думкамі, узважыла ўсё, напісала дачушцы сухавата, але ад душы. Гутарыла ў пісьме з ёй не так, бадай, як з дачкой, а як з таварышкай: «Не хныкай, Верачка, не ный. Уцякаць куды не думай. Уцягвайся ў грамадска карысную працу. Гэта лячыла ўсіх, спрыяла духоўнаму росту, нараджала аптымізм, веру ў свае сілы. Хутчэй сыходзься з людзьмі; знаёмся, хто яны, адкуль, дзе вучыліся, хто ў іх бацькі... Пара, Вера, табе ўзяцца за розум. Пабудзь старшай лабаранткай. Галоўнае не пасада, а хто як адносіцца да працы. Я рабіла ўсё для вас. І мне будзе вельмі крыўдна, калі ты не ўтаймуешся, не зразумееш, як важна і неабходна табе застацца на камбінаце. Спецыялістаў, пішаш, не хапае, а ты — «збягу». У інтэрнаце цесна, тлумна... Мо і праўда. Але пажыла б ты, дачушка, у палатках... Усё вырашыцца, Вера, толькі вышэй галаву. Дняпро ў вас каля самага інтэрната, лес блізка ад горада. Трымайся, перасіль сябе. Летам прыедзем да цябе з Надзяй, паглядзім...»

Злавалася, крыўдзілася Вера напачатку, а потым, перачытаўшы ліст не адзін раз, нечакана супакоілася. Яно і праўда: чаго раскісла-расклеілася? Не маленькая ж! А ў маці і без яе клопатаў хапае. Надзя вунь замуж выйшла...

У навукова-доследнай лабараторыі якраз распачыналася работа па замене імпартных фарбавальнікаў айчыннымі. Работа складаная, клапатлівая, патрабуе ўседлівасці, паглыблення ў тэхналогію. Як захопіць цябе ўсю, дык і на думкі тыя тлумныя забудзешся. Прыгледзелася, дык і людзі вакол аказаліся цікавыя і харошыя. Пэўна, трэба, каб і пра цябе самую не горай думалі.

Ведаў тэхнікумаўскіх яўна неставала дзяўчыне, хоця профіль і блізкі. Вытворчасць хімічных валокнаў здавался цёмным лесам. У лабараторыі абсталяванне самае новае, якога і ў вочы раней не бачыла. Што рабіла б, каб не таварышы па рабоце? Найчасцей Вера побач з Палінай Каласоўскай. Тая інстытут скончыла, вытворчасць асвоіла. Калі якая замінка ў Веры —

разам разбіраюцца. А не дойдуць самі да разгадкі — начальнік цэнтральнай заводскай лабараторыі Уладзімір Ляўданскі дапаможа. Расталкуе, пакажа, паглядзіць, як справа ідзе. На развітанне жарт які кіне, развесяліць, падбадзёрыць. Залаты чалавек.

Павесялела Вера. А яшчэ праз некаторы час, як пачаліся рэгулярныя выезды за горад у выхадныя дні, спартыўныя спаборніцтвы, паездкі на канцэрты ў Мінск, зусім акрыяла дзяўчына.

Наведаліся ў Магілёў маці з сястрою, дык — не ўспамінайце ёй ні пра медыцынскі інстытут, ні пра слёзы, ні пра тое першае пісьмо. Ёй і ў Магілёве во як хораша! Вы ведаеце, што ў лабараторыі ўжо выпрабаваны і ўкаранёны ў вытворчасць чырвоны кадмій для афарбоўкі штапельнага валакна ў карычневы колер, што вядуцца даследаванні новых фарбавальнікаў, адшукваюцца пігменты для колераў марской хвалі і хакі? Правяла на станцыю са шчаслівай усмешкай, памахала рукою на развітанне...

Два гады назад Вера Дзяменцьева была вылучана на пасаду інжынера. Яна прызначана старшай у групе афарбоўкі тэкстуіраваных ніцак, займаецца падборам колераў і адпрацоўкай тэхналогіі фарбавання.

Напачатку, вядома, было вельмі цяжка. Сотні і сотні доследаў не прыносілі плёну. Памагалі Веры сяброўкі — Паліна Каласоўская, Тоня Мыльто, Ліна Бакаева, Наташа Рослава, Соня Голуб. Нямала было турбот, пакуль атрымалі першае афарбаванае валакно. А групе зноў заданне — падбіраць і падбіраць новыя колеры: тэкстыльшчыкі просяць валакно самых разнастайных афарбовак.

З тэкстыльшчыкамі, праўда, Вера Дзяменцьева не заўсёды пагаджаецца. Чамусьці яны баяцца яркіх колераў. І тлумачаць гэта вельмі катэгарычна: нашым дзяўчатам падабаюцца больш спакойныя колеры! Чаму? Хутчэй наадварот! Менавіта гарнітуры і джэмперы шэрых колераў не карыстаюцца попытам. Іншая справа, што на вырабы з яркіх тканін патрэбны новыя фасоны, моды, на іх хутчэй заўважыш хібы крою, шытва...

Цяпер у лаўсанаўцаў першачарговая задача — даваць краіне больш сінтэтычных валокнаў, прынятых да вытворчасці афарбовак. І галоўны клопат Веры Дзяменцьевай — вынаходзіць, шукаць новыя фарбавальнікі, якія б падабаліся і тэкстыльшчыкам, і спажыўцам, якія б неслі людзям прыгажосць і радасць.

## ДАРОГА, ЯКУЮ УЛАДЗІМІРУ ЛЯЎДАНСКАМУ ВЫЗНАЧЫЛА ЎЛАСНАЕ СТАРАННЕ

На Магілёўскім камбінаце лаўсану, як наогул у сінтэтычнай прамысловасці, шмат турбот прыносіць афарбоўка валокнаў. Гэтая праблема не першы год займае Уладзіміра Ляўданскага, усіх работнікаў цэнтральнай заводскай лабараторыі. Трэба зазначыць, што першапачаткова на прадпрыемстве для атрымання каляровага валакна карысталіся замежнымі фарбавальнікамі і пігментамі. Па якасці не сказаць, каб яны не задавальнялі тэкстыльшчыкаў. Але ж — занадта дарагія. Ды і ўласны гонар: няўжо калектыву з трыццаці інжынераў-даследчыкаў не пад сілу вынайсці свае, больш танныя, больш устойлівыя да тэмператур і сонца, рознакаляровыя фарбавальнікі?

Сабраў Уладзімір Антонавіч людзей, расказаў усё, як ёсць, паставіў задачу. Усе пагадзіліся: трэба шукаць, праводзіць доследы! Хоць кожны і ведаў, што за мяжой на падобныя новаўвядзенні траціліся гады і дзесяцігоддзі.

Пачалася актыўная, мэтанакіраваная работа. Доследныя групы побач з заменай імпартных вялі падбор і выпрабаванні новых, істотна іншых за вядомыя ўжо, у многім больш прыдатных для тэкстыльшчыкаў фарбавальнікаў. Толькі за мінулы год іх было рэкамендавана для серыйнага выпуску аж восем: чырвоны, бірузовы, ярка-блакітны — усе для поліэфіраў, капразоль карычневы, кадмій жоўты, кадмій пурпуровы, кадмій лімонны. За кожным з новых колераў, зразумела, сотні доследаў, сотні аналізаў, тысячы сумненняў, пераправерак, нямала спрэчак. Цяпер, калі фарбавальнікі прыняты да вытворчасці, не надта і прыгадаеш, хто менш блукаў на дарогах адкрыццяў, хто, намацаўшы пад нагамі трывалы грунт, карацейшым шляхам крочыў да мэты. Зразумела адно: Уладзімір Ляўданскі ўсяляк падтрымліваў ініцыятыву энтузіястаў, з сотняў і сотняў доследаў умела выбіраў аптымальнейшыя варыянты, словамі і справамі акрыляў людзей, натхняў іх на нястомную працу і сам працаваў да сёмага поту.

А пошукі новых фарбавальнікаў працягваюцца.

Акрамя гэтага, апошнім часам лабараторыя працуе над укараненнем у вытворчасць распрацаванага ва Усесаюзным інстытуце сінтэтычных валокнаў няспыннага працэсу вырабу поліэфірнага валакна на базе цэрэфталевай кіслаты.

Уладзімір Ляўданскі, будучы неяк у роднай вёсцы Юрава, што ў Смалявіцкім раёне, паспрабаваў на поўным сур'ёзе растлумачыць сутнасць гэтай навінкі... Бацька, чалавек бывалы, адвярнуўся да акна, глядзеў на лес, што абступіў наўкола вёску, злёгку пакашліваў і маўчаў. От калі б сын пачаў вось пра гэта — пра лес, каб спытаўся, як ловіцца рыба ў Усяжы, ці густа дзічыны на азёрах, у якіх хвайняках больш за ўсё было сёлета грыбоў, — тады б ён яму адказаў. А так што яму лезці ў тую хімію? Сыну — сынава, як казаў хтосьці. Але ж — малайчына. Тут і язык зломіш, а ён во як сыпле...

Дарэчы, у сям'і Ляўданскіх даўно стала добрым правілам: як бы хто з чатырох сыноў ні быў далёка, а на адпачынак, пры першай мажлівасці, кожны спяшаецца ў Юрава. Старэйшы, Аляксандр, шахцёр, як выберацца з Данбаса, дык абходзіць і аблазіць усе куточкі ў ваколіцы. Цяжка, было, галодна і сцюдзёна ў першыя пасляваенныя гады ў Юраве, дык паехаў Саша ў свет, палюбіў шахцёрскую справу, абвыкся ў Данбасе, на лёс не наракае. У падпалкоўніка Міхася іншыя клопаты: верна служыць Айчыне, навучаць воінаў і малодшых камандзіраў баявому майстэрству. Меншы, Валянцін, інжынер-выпрабавальнік на Беларускім аўтазаводзе. З імі трыма гаманіць лягчэй. А то бач ты — нейкая двухступеньчатая эцэрыфікацыя цэрэфталевай кіслаты...

Але так Валодзя гаворыць жартам. Скажа і сам засмяецца. А потым зусім зразумелымі словамі, з захапленнем і радасцю пачынае расказваць, якія высокія, светлыя і прасторныя гмахі выраслі на берагах паўнаводнага Дняпра, якое складанае і дасканалае абсталяванне на камбінаце, як там яму, начальніку лабараторыі, усё блізка і дорага. Праўда, маці Надзея Дзмітраўна, накрыўшы стол, іншы раз перапыніць мужчын, скажа спачувальна:

— Тлумную работу, сынок, ты сабе выбраў.

Нявестка Валянціна (яна разам з Валодзем канчала ўніверсітэт, а зараз працуе інжынерам на заводзе штучнага валакна) смяецца:

— Ён жа, мама, так хацеў стаць хімікам!

— Ведаеце вы, маладыя, што робіце, — махне рукою Надзея Дзмітраўна.

— Валодзя ж любіць гэтую работу! — даказвае ў запале Валянціна. — Папрацаваў год у Мінску на аўтазаводзе, паехаў у Данбас, парабіў з Сашам у шахтах, а ўсё пра ўніверсітэт думаў, хімікам хацеў стаць. І во, глядзіце — начальнік ЦЗЛ!

«Прафесійнаму» росту Уладзіміра Ляўданскага могуць, мусіць, пазайздросціць шмат якія яго аднакурснікі. Дзесятак гадоў назад, прыехаўшы на Куйбышаўскі завод штучнага валакна, хлопец папрасіўся ў прадзільны цэх. Прызначылі начальнікам змены — «кінулі» маладога спецыяліста ў вір жыцця. Год праходзіць, другі — не скардзіцца Уладзімір на цяжкасці, выдатна спраўляецца з абавязкамі. Толькі ўсё часцей і часцей напірае на начальства: слаба ўкараняюцца ў вытворчасць палімеры, мала паступае дэталяў з антыкаразійным пакрыццём для станкоў. Нехта прапанаваў аднойчы перавесці Ляўданскага ў навукова-даследчую лабараторыю. А ён у адказ: «Сам даўно хацеў». Ахвотна ўключыўся ў навуковыя пошукі. Сёетое прыдумаў ужо. І тут атрымаў запрашэнне ў Магілёў. Трыццаць першым інжынерам быў на прадпрыемстве. Цяпер якраз столькі іх працуе ў цэнтральнай заводскай лабараторыі, дзе Уладзімір Антонавіч начальнікам.

Тады тут, дзе цяпер карпусы камбіната, былі ямы, пясок, шэрыя стужкі фундаментаў. Ніякай, быццам, работы лабарантам. Навошта было збіраць столькі спецыялістаў? Ды тое зацішша было кароткае. Неўзабаве — загад: падбіраць абсталяванне, рэактывы для даследаванняў. У жыццё Уладзіміра Ляўданскага вакзальнай мітуснёй, гулам самалётаў, чэргамі ў гасцініцах многіх гарадоў, непадатнасцю пастаўшчыкоў ўпісаліся бясконцыя камандзіроўкі. Ажно жонка пачала была скардзіцца, што не стыкаецца дома, не бачыць, як Таня, дачушка, расце. А тут і сынок, Саша, з'явіўся на свет.

Праўда, з цягам часу камандзіровак тых паменела. З групай спецыялістаў з Усесаюзнага навукова-даследчага тэхналагічнага інстытута, якой кіраваў доктар тэхнічных навук Б. У. Петухоў, Уладзімір Ляўданскі праектаваў лабараторыі. Перакройвалі на новы лад чарцяжы, прыстасоўваючы іх да вытворчых патрэб камбіната. Работа адбірала ўвесь вольны час, не зважаў і на святочныя дні, калі трэба было літаратуру штудзіраваць.

Поле дзейнасці Уладзіміра Антонавіча на камбінаце, можна сказаць, неабмежаванае. Уся праца цэнтральнай заводскай лабараторыі скіравана на поўнае, інтэнсіўнае выкарыстанне тэхнікі, на паляпшэнне якасці выпускаемай прадукцыі. У гэтым, вядома, практычна зацікаўлены ўсе цэхі, участкі, аддзелы і службы. Надарыцца дзень, што Ляўданскаму хоць разарвіся: з Масквы звоніць прафесар Петухоў — распытвае пра той ці іншы эксперымент, дае парады, падказвае, як і што рабіць да яго прыезду; не паспееш, як кажуць, адсапціся, а ў кабінет заходзіць вучоны з Інстытута фізіка-арганічнай хіміі АН БССР — вядзі яго па цэхах, паказвай і расказвай, які эканамічны эфект дало навaўвядзенне, на бягу перахопліваюць з паведамленнем — яго чакаюць супрацоўнікі БДУ: ажно тры кафедры універсітэта падтрымліваюць цесную сувязь з камбінатам. А званкі з унутрыкамбінацкіх службаў? Наталля Аляксеенка злуецца, што не заглядае Уладзімір Антонавіч на ўчастак корду і шоўку; Вольга Карпава паўтарае каторы раз, што хацела б бачыць Ляўданскага ў сваёй лабараторыі; Валянціна Ларчанка «заказвае» начальніка на ўчастак штапельнага валакна...

Цяпер на плечы Ляўданскага ляглі новыя клопаты. Дырэктывамі XXIV з'езда КПСС па дзевятым пяцігадовым плане прадугледжана ў 1975 годзе давесці выпуск хімічных валокнаў да 1050—1100 тысяч тон. Адсюль і большыя патрабаванні да працы цэнтральнай заводскай лабараторыі.

Удумайцеся: магілёўскія хімікі павінны палепшыць структуру вытворчасці і сінтэтычных валокнаў, павялічыць да канца пяцігодкі іх выпуск да 39—40 працэнтаў ад агульнага выпуску валакна, наладзіць у значных памерах вытворчасць тэкстураваных сінтэтычных нітак, штапельнага валакна ў жгуце, хімічных валокнаў, афарбаваных у масе і павярхоўна. Складаныя тэхналагічныя задачы стаяць перад камбінатам, а значыць і перад цэнтральнай заводскай лабараторыяй а, значыць і перад Уладзімірам Ляўданскім...

г. Магілёў.



● Мікола ЖЫЛІНСКІ

# ЖЫВЫЯ КРЫНІЦЫ

## БЛАКНОТ АДНАГО ЛЕТА



У кожнага чалавека ёсць свой блізкі і дарагі сэрцу куток. Для мяне — гэта Свіслаччына, што прытулілася да самай Белавежскай пушчы. Тут я нарадзіўся, доўгі час працаваў, тут нямала папахадзіў і папаездзіў, тут сустрэў цудоўных людзей — добрых душой, шчырых сэрцам, моцных духам.

Не бяруся параўноўваць прыгажосць Свіслаччыны з іншымі мясцінамі роднай зямлі, бо ў кожнай — свая непаўторнасць, свая прыгажосць. Адно скажу: няма для мяне кутка больш блізкага і больш дарагога сэрцу, чым гэты.

Сюды я спяшаюся заўсёды: і блакітнай веснавой раніцай, калі зямля ўся поўніцца пахамі медуніцы і бушуюць буйнай квеценню маладыя сады; і жнівеньскай парнай ноччу, калі, здаецца, увачавідкі растуць тугія пушчанскія баравікі і салодка спіцца на свежым сене дзе-небудзь у пуні на гарышчы; і залатой восенню, калі барвовым полымем запальваецца бярозавы гай і напаўняюцца калгасныя свірны спелай збажынай; і сцюдзёнай зімой, калі ўсё наваколле спіць пад касматай белай коўдрай.

Родная зямля! Дзе б я ні быў, душа мая заўсёды цягнецца да цябе, і я шчаслівы ад таго, што часта бываю ў тваіх па-мацярынску ласкавых абдымках, што сустракаюся з землякамі, бачу іх самаадданую працу. Ты ўзгадавала і ўзрасціла мяне, і ты навекі са мною — у снах і ў думках, у працы і ў адпачынку, у радасці і ў засмучэнні. І нельга забыць цябе, як нельга забыць сваёй роднай матулі, роднае бацькаўскае хаты.

Калі мне надараецца быць на Свіслаччыне, я заўсёды, хоць на хвілінку, завітваю ў вёску Дабраволя. Я не магу, бадай, сказаць, чым яна вабіць мяне так моцна. Адно ведаю пэўна: пасля кожных адведак Дабраволі, пасля кожнай сустрэчы з дабравольцамі я нібы спаталяю даўнюю ўнутраную смагу, на мяне нібы сыходзіць святое душэўнае ачышчэнне, — такое адчуванне, быццам я дакрануўся да сваіх светлых, незамутнёных вытокаў і гэтае судакрананне надало мне сілы, бадзёрасці.

Аўтобус набіты бітком: сёння субота, і «горад» едзе ў вёску: хто да бацькоў і мацярок, хто да больш далёкай радні, а хто, зрэшты, і па якой справе. У салоне (які там салон, але ж — усёткі) тлумна, гармідарна.

Белавежская пушча падступае як не да самага райцэнтра. Ад'едзеш ад Свіслачы ўсяго некалькі кіламетраў і адразу трапляеш у моцныя абдымкі лесу. Магутныя дубы, меднаствольныя сосны і белыя, нібыта нявесты, бярозы падступаюць да самай дарогі.

А гравійка тут шырокая і роўная, і аўтобус імчыць хутка. То тут, то там выплываюць з лесу і адплываюць назад невялічкія прагалы вёсак. Вось прамінулі Каліноўскую, засталіся ззаду Раманаўцы. За імі дарога крутнулася ўлева, папятляла паміж драўлянымі масткамі праз неширокую, ціхую і прыгожую лясную рэчку Калонку, узабралася на грудок і зноў шмыгнула ў лес.

У Раманаўцах да мяне падсеў жвавы дзядок. Адразу ж пахваліўся, што

таксама едзе ў Дабраволю, да дачкі. Я слухаю гамонку дзеда—пра дачку і зяця, пра ўнукаў, ківаю час ад часу галавою, а сам больш сачу за наваколлем. Заўважаю, што ў самым канцы Раманаўцаў на ўскрайку лесу вырас новы магазін з рамантычнай назвай «Пушча», што нядаўні хмызнячок-пералесак ужо ўвабраўся ў сілу.

Наўзабаве пасвятлела—лес зноў адступіў ад дарогі, і аўтобус выскачыў на шырокую, роўную палянку. Поле разанула ў вочы яркім, сляпучым святом спелай збажыны.

— Ведаеце, якое тут балота было?—кажа дзядок.—А цяпер, ву-унь, усё сцяною стаіць...

Быццам узрадаваўшыся нечаканай прасторы, аўтобус лёгенька пабег з пагорка да хат, схаваных у зяляніне дрэў,—наперадзе была Дабраволя.

Прыгожая назва вёскі—Дабраволя. Добрыя, шчырыя тутэйшыя людзі, кожнага чалавека прымуць ветла і гасцінна.

Кожная вёска, як і чалавек, мае сваю біяграфію. Жыццяпіс Дабраволі бярэ пачатак у далёкай даўніне. Калісьці тут, на месцы сучаснай Дабраволі, і далей, аж да самай Свіслачы, быў дрымучы лес. Мо таму і ўзнікалі тут таемныя паселішчы, дзе людзі маглі «вольна», не ведаючы прыгнукі і здзекаў, жыць і працаваць. Уцякаў селянін ад пана-прыгонніка, ставіў сабе хату—от, лічы, і пачалася вёска, бо неўзабаве хат прыбаўлялася: ратаваліся сяляне ад прыгнёту, уцякалі ў пушчу адусюль. І, пэўна, таму, што ўцёкі гэтыя звязваліся перш за ўсё з воляй, лясныя вёскі атрымлівалі назвы: Дабраволя, Вялікаволя, Ціхаволя...

Дабраволя ўзнікла недзе ў першай палове XVIII стагоддзя. У той час на Гродзеншчыне, якая ўваходзіла ў склад Рэчы Паспалітай, адбываліся шматлікія сялянскія выступленні за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне. Ратуючыся ад пакарання, сяляне ўцякалі ў пушчу. Прыкладна тады і з'явілася ў лесе пяць-шэсць хат першых дабравольцаў. Усе яны нібыта мелі адно прозвішча—Барэль, бо і зараз у вёсцы больш чым палова сем'яў з гэтым прозвішчам. Селячыся на вольнай зямлі, кожны выбіраў сабе месца і суседа па душы.

Паступова вёска разрасталася, рассоўваючы сабою лес. Вясковыя вуліцы-канцы набывалі назвы: Бабылі, Ёдкі, Самара, Мястэчка, Дворная. Бабылямі, напрыклад, называлі таму, што там жылі найбяднейшыя сяляне, якія доўга альбо зусім не жаніліся. Самару засялялі перасяленцы аднекуль з-пад Волгі, у Мястэчку сяліліся, нібыта, збяднелыя местачкоўцы, рамеснікі...

Шмат пабачыла на сваім вяку Дабраволя—і добрага, і благога. Нямала ўспамінаў і быляў захоўвае памяць яе жыхароў.

Старыя дабравольцы памятаюць, калі ў вёску з'язджаліся людзі на кірмаш, збіраліся ля невялічкай цэркаўкі на фэст. Здавалася, уся акруга сноўдаецца ў такі дзень між вазоў: прыцэньваюцца, абмацваюць, абстукваюць, прыглядаюцца. Іншы ўвесь кірмаш абыдзе, ля кожнай падводы ці крамы спыніцца, але так і не купіць нічога. Ды што зробіш: на тое ён і кірмаш, каб чалавек, калі не мае за што купіць, хоць душу адвёў—прыцаніўся або памацаў тавар рукою. А гаспадару і то гонар: як-ніяк, а прыцэньваюцца. Значыць, трымай вуха востра—хутка і сапраўдныя купцы прыб'юцца.

Надвячоркам, калі кірмаш пусцеў, нярэдка чый-небудзь конь з вазком, прывязаны да дрэва, адзінока стаяў, чакаючы гаспадара, або, наадварот, той цэлыя суткі шукаў свайго каня: купля-продаж заканчваліся ў карчме.

Памятаюць дабравольцы і гулі-скокі, якія ладзіліся ў вёсцы, асабліва на спаса ці сёмуху. У такія дні ў Дабраволю сыходзілася моладзь з Нязбодзіч, з Грынак, з Ціхаволі, з Раманаўцаў... Як урэжуць, бывала, музыкі польку-трасуху—аж дух займае! От жа ўмелі яны за душу ўзяць! Найлепш—Андрэй Барэль. І зараз яшчэ часам дастае з куфра старэнькі гармонік, каб душу адвесці...

Людзі сярэдняга ўзросту помняць трывожны і трагічны час вайны і нялёгкія пасляваенныя гады, калі толькі пачынала ладзіцца калектыўная гаспадарка. Хапанулі людзі гора ў вайну! Бадай, няма ў вёсцы сям'і, якую б не зачапіла яна. Восемдзесят два аднавяскоўцы склалі галовы на франтах, у партызанах, закатаваны і расстраляны фашыстамі...

...У той вечар Паша вярнулася дамоў пазней, чым звычайна. Хацелася спяваць ад радасці. Тое, аб чым яна даўно марыла, сёння збылося.

— Што сёння з табою, дачушка?—спытала маці.

— Цяпер я камсамолка, мама,—абняла дачка матулю.

— Навошта гэта табе?

— Трэба, мама.

— І што вы, камсамольцы, будзеце рабіць?

— Будаваць новае жыццё. Ты ж сама расказвала, як цяжка жылося пры панах. А трэба, каб усім жылося шчасліва, заможна, весела. Вось за гэта мы, камсамольцы, і будзем змагацца.—І дадала:—А яшчэ, мамачка, я пайду вучыцца. На трактарыстку.

— Пабойся бога, дачушка, хіба жаночы гэта занятак! Хіба ў вёсцы хлопцаў мала?

— А пры савецкай уладзе, мама, усе роўныя.

Вясной, калі адтала і падсохла зямля, Паша прыехала ў Дабраволю на эмтээсаўскім трактары. І сам трактар, і тое, што кіравала ім дзяўчына, ды не чыя-небудзь, а свая, дабравольская, дачка Цімоха Васіленкі, было ў вёсцы неспадзяванкай. Першымі трактар абляпілі хлапчукі, затым падышлі мужчыны.

— Глядзі, Паша, мо гэты «конь» наравісты,—паспрабаваў падчапіць хтосьці.

— Нічога, я яго закілзаю,—таксама жартам адказала дзяўчына.

Трактар паволі ішоў полем. Бліскучыя лемяхі плугоў лёгка пераварочвалі пласты зямлі. Шызаваты дымок весела скакаў над радыятарам. Трактар рабіў круг за кругам, баразна лажылася за баразною, роўненька, як пад шнурочак.

Усю тую вясну вёска была радасна-ўзбуджаная. На вачах у людзей нараджалася новае, дагэтуль не вядомае ім жыццё. І стваралі яго Паша і яе сябры.

...Фашысты прыйшлі ў Дабраволю не ў першы дзень вайны, а пазней, калі ўжо былі захоплены Гродна, Мінск, Бабруйск... А спачатку—па адным або невялікімі групамі—змучаныя, параненыя нашы воіны: спрабавалі вырвацца з акружэння.

Прыйшлі яны і на хутар Цімоха Васіленкі. Паша неяк выбегла з хаты, прынесці вады.

— Сястрычка, памажы,—раптам пачула яна і ўбачыла за кустом арэшніку параненага чырвонаармейца.

Дзяўчына куляй уляцела ў хату:

— Татачка, хутчэй! Там паранены... Наш...

Цімох Іванавіч з дачкою перабінтавалі, як змаглі, салдата, накармілі і напаілі яго. Потым прыйшоў другі, трэці... Так у хаце Васіленкі сабралася цэлая група параненых чырвонаармейцаў. Амаль месяц іх кармілі і хавалі тут, пад самым носам у фашыстаў. А калі салдаты падлячыліся, Паша завяла іх ва ўрочышча Жарствак, дзе бацька загадзя паставіў будан.

Вярнулася дачка з лесу, а бацька нешта закопвае.

— Што, тата?

— Ды вось трактар твой рашыў закапаць, каб фашыстам не дастаўся...

А ў вёсцы ўжо гаспадарылі немцы. Вакол Белавежскай пушчы ствараліся варожыя гарнізоны. Тым часам па заданні падпольшчыкаў Паша ўладкавалася працаваць у нямецкую сталоўку. Праз сувязных яна рэгулярна перадавала ў партызанскі атрад звесткі пра ворага, перапраўляла ў лес прадукты, зброю, медыкаменты.

Аднойчы ў вёсцы з'явіліся два чалавекі ў форме савецкіх салдат. Смеласць прышэльцаў насцярожыла жыхароў Дабраволі, але на хату Васіленкі ўсё-такі паказалі: маўляў, там вам дапамогуць звязацца з партызанамі.

Фашысты схапілі ўсю сям'ю. Пасля жорсткіх катаванняў у камендатуры Васіленкаў прывезлі назад у вёску. На плошчу, да царквы, былі сагнаны ўсе жыхары. Яны ўбачылі ля шыбеніц Цімоха, Пашу і яе малодшых братоў—Івана і Алёшу, якому не было нават дзесяці гадоў. На грудзях у кожнага з іх вісела шыльда з надпісам: «Яны дапамагалі партызанам».

— Асінае гняздо!—крычаў фашысцкі камендант.—Так будзе з усімі, хто будзе дапамагаць лясным бандытам.

— Гэта вы бандыты,—крыкнула Паша.—Людзі адпомсцяць за нас!..

...Птушкі яшчэ толькі пачыналі свой ранішні канцэрт, а Мікалай быў ужо ў пушчы. Знаёмай толькі яму сцяжынай дакрочыў да вялікага куста ядлоўцу, адхінуў яго, потым падняў падсохлую дзярніну і шуснуў у зямлянку. Крыху счакаўшы і прыслухаўшыся, падышоў да радыёпрыёмніка і ўключыў Маскву.

«...Сёння наша доблесная Чырвоная Армія пачала свой паход за вызваленне Заходняй Беларусі ад белапольскіх акупантаў...»

Назад, у вёску, ён не проста бег, а, здавалася, на крылах ляцеў.

— Значыць, не дарэмна мы, таварышы, пісалі і распаўсюджвалі лістоўкі, вывешвалі чырвоныя сцягі,—радаваўся Мікалай, дзелячыся з сябрамі гэтай доўгачаканай весткай.

Тут жа падпольшчыкі стварылі атрад грамадзянскай міліцыі і яшчэ за некалькі дзён да прыходу Чырвонай Арміі ачысцілі Дабраволю ад паліцыянтаў, разгрымілі пастарунак.

У 1940 годзе Мікалай Русак ідзе працаваць у раённы аддзел міліцыі. На гэтай рабоце і застала яго вайна.

З першых дзён фашысцкай навалы Мікалай Русак узяўся за арганізацыю партыйна-камсамольскага падполля.



У хуткім часе ў пушчы быў створаны партызанскі атрад—адзін з першых на Гродзеншчыне. Мікалай Русак быў няўлоўным разведчыкам, «вушамі» і «вачыма» атрада. І добра, відаць, дапяклі партызаны фашыстам, што за галаву Русака тыя абяцалі дзесяць тысяч марак узнагароды.

Аднойчы група партызан зайшла ў вёску запасціся прадуктамі. Нечакана вёску акружылі карнікі. Давялося партызанам уступіць у няроўны бой.

Адзін за адным гінулі сябры. Быў паранены і Мікалай, але, не зважаючы на боль, страчыў з аўтамата да апошняга патрона. А немцы былі ўжо зусім блізка. І тады, перасільваючы боль, Мікалай падняўся на ўвесь рост і шпурнуў у ворагаў гранату. Сам, падкошаны куляй, упаў на зямлю...

Вайна... Здаецца, столькі ўжо часу мінула з той пары, адбалелі, зарубцаваліся яе раны. Але па-ранейшаму з выплаканых вачэй мацярок коцяцца слёзы і крывёю абліваюцца іх сэрцы. Яшчэ і цяпер яны жывуць вераю ў цуд: а можа вернецца...

— Двое іх было ў мяне. Каб вы толькі ведалі, як цяжка было мне іх гадаваць. І так бедненька мы жылі, а тут яшчэ і мой чалавек раненька нас пакінуў. Знаеце, ён на сэрца ўсё хварэў. І от каля пакроў, помню, якраз бульбу я капала, і памёр. І пакінуў мяне адненькую з двума хлопчыкамі. Мішу тады сем гадкоў было, а меншанькаму, Колю, толькі на другі пайшло. А нам яшчэ за зямлю трэ было разлічвацца. Дык што мне, адной бабе, аставалася рабіць? Як ні балела сэрца, а аддала Мішу да пана аж у Страшава, што за Ялоўкай. Цяпер у Польшчы тая вёска. Там ён кароў пасвіў. Прысылае неяк пісьмачко мне: мамачка, піша, дзядзька мяне касіць навучыў... Радаваўся, што і ён ужо не толькі пугай махаць умее. Дзе яму было разумець тады, дзеля чаго вучыў яго той пан. Гэта ўжо пазней ён паразумнеў і казаў усё мне, як яму трудненька там жылося.. Як прачыталі мне тое пісьмо, дык мне так захацелася ўгледзець яго, што тут жа і пабегла ў тое Страшава. А пан не пускае яго, кажа, яшчэ год не прайшло, як дамаўляліся. Я тады да Петруся Трахіміка, быў тут у нас чалавек такі вучоны, і давай у яго прасіць помачы. Дык ён і напісаў таму пану пісьмо, каб аддаў мне сыночка, інакш буду на яго вышэй скардзіцца. Тады ўжо ён мусіў пусціць...

Я слухаю Вольгу Аляксееўну Урбановіч, бачу яе спрацаваныя рукі, лаўлю час ад часу самотны пагляд светлых і ласкавых вачэй і не ведаю, чым яе суцешыць, заспакоіць.

— От, бачыце, адна-адзінюсенькая асталася. Дваіх хлапцоў, як дубоў, выгадавала, а... Аднаму дваццаць, а другому шаснаццаць было, а гэтая немчура прыйшла і абодвух забрала...

Яна хвіліну маўчыць, потым, як бы нешта ўспомніўшы, зноў гаворыць:

— Яшчэ перад вайною, але пры Саветах ужо, да Мішкі майго ўсё Іванушка Панотчык заходзіў. Ён крыху старэйшы за майго быў, а рабіў старшынёй сельсавета. Зойдзе ў пакой да Мішы, яны зачыняцца там і ўсё гавораць аб нечым. А потым ужо я даведалася—угаворваў, каб Міша ў сельсавеце і ў клубе працаваў. Не хацела я пускаць яго ад зямлі, вельмі ўжо здатны быў ён да гаспадаркі, араць пойдзе, дык вырабіць тыя палосачкі, як ручнічкі вытча, але што тут зробіш... Пачаў Міша ў сельсавеце рабіць. Той Іванушка як пашле яго, бывала, на ровары, дык той за дзень і Рудню, і Грыцкі, і Ціхаволю аб'ездзіць. От ужо непаседа быў. І з людзьмі ўмеў абыходзіцца. А ў маладых ён за сакратара камсамольскага быў. От да яго і гарнуліся ўсе...

А тутака вайна. На трэці дзень, ці што, кажа мне Міша: «Ідзямо мы, мама, за лінію фронту». Паплакала я, а потым сабрала яму сёе-тое ў валіску, кашулю белую наклала. І пайшоў мой Мішачка...

А можа праз тыдзень назад з хлопцамі варочаецца. Казаў, да Баранавіч дайшлі. Радавалася я: як бы тое, думала, ні будзе, а ўсё ж дома, а не на свеце недзе. Пачаў ён на гаспадарцы рабіць...

Неяк пад вечар прыйшоў ён з лугу, дзе сена касіў, толькі сеў вячэраць, а тут зайшоў немец і забраў яго з сабою. Нават павячэраць не даў. Ну, я думала, што хуценька прыйдзе. А яго ўсё няма і няма. Хацела было ўжо да бургамістра ісці, дык меншы мяне не пускае. Кажа, яшчэ і цябе заб'юць. Ці ён што ведаў пра іх, ці так проста сэрца яго чула штосьці ліхое? Ён у мяне змалку такі ўражлівы быў. А ранічкою Мішу майго і ўсіх таварышочкаў яго, што на ўсход уцякалі, вывелі за могілкі і расстралялі... Спачатку туды нікога з людзей не пускалі. А на другі дзень пабеглі мы з Колікам. А яны, бедненькія, адзін каля аднаго, як снапочкі, ляжаць. Усе такія маладыя, прыгожыя. Падняла я Мішаву галовачку, а куля, бачу, якраз у вока трапіла...

Ну, пахавалі мы яго і, пакуль не прагналі немцы, стаялі ўсё ля магілкі. Проста не верылася, што яго ўжо няма. Дык і меншанькі, як наглядзеўся, захварэў. З год галавой памэнчыўся і памёр...

Пасля гэтага Вольга Аляксееўна маўчыць доўга і ўсё выцірае кончыкам фартуха вочы. А потым кажа:

— Дык от цяпер удвох з дваюрадным братам Петрусём у хаце. Яго жонка памерла, дык ён і паклікаў мяне—есці варыць, у хаце прыбіраць... Дзякаваць, улада памагае, пенсію павялічылі. І сенакосу калгас дае...

...Ёсць пасярод Дабраволі месца, дзе кожны, куды б ён ні спяшаўся, запаволіць свой крок. Тут раней, чым дзе-небудзь, зацвітаюць кветкі. Тут кляняцца ў вернасці ленінскім ідэям, справе бацькоў юныя піянеры і камсамольцы. Тут—помнік загінуўшым вяскоўцам.

Неяк крочым са старшынёй калгаса Канстанцінам Піліпавічам Варанко на ферму. Мінуўшы будынак сельсавета, старшыня раптам спыніўся.

Гляджу—паперадзе нас ідзе бабулька. Прыгледзеўся—Вольга Аляксееўна, маці Мішы Урбановіча. У руках у яе—кветкі. Вялікі букет ружаў. Яна нетаропка падышла да помніка, пастаяла колькі часу, потым беражліва паклала букет да падножжа і ціха сказала:

— Добрай раніцы, сынок...

Некаторы час мы таксама стаялі ў зацятай маўклівасці, потым Канстанцін Піліпавіч амаль шэптам сказаў:

— Пойдзем, няхай паразмаўляе з сынам...

Зараз ад старога аблічча Дабраволі засталіся хіба толькі сама назва вёскі ды агульны план забудовы. Былыя «канцы» сталі вуліцамі і атрымалі новыя назвы. Самая вялікая—вуліца Першамайская. Самая бойкая носіць імя Пашы Васіленкі. Яна «асядлала» шырокую гравійную дарогу, па якой адна за адной спяшаюцца аўтамашыны, бягуць рэйсавыя аўтобусы на Свіслач, Ваўкавыск, Гродна. Далей ідуць вуліцы Заслонава, Міру, Кастрычніцкая, Белавежская, Партызанская, Даватара, вуліцы Мікалая Русака і Мішы Урбановіча.

— Усё, як у сапраўдным горадзе, толькі шматпавярховых дамоў пакуль што няма,—жартуюць дабравольцы.

— А чым не горад?—усміхаецца Канстанцін Піліпавіч.—Бальніца, школа, сталоўка, некалькі магазінаў, камбінат бытавога абслугоўвання, лазня—усё ёсць. А раней жа нічагусенькі гэтага не было.

І, прыгадаўшы мінулае, расказвае:

— Гэта ж памрэ, бывала, чалавек, дык яго толькі тады і памыюць, ды і то ў начоўках... А школа якая, бачылі? Дарэчы, мо заскочым? У мяне акурат справа да дырэктара.

Я міжволі ўсміхнуўся, прыгадаўшы, як колькі гадоў назад старшыня стараўся, каб на вочы начальству з раёна ці вобласці не трапілася іхняя старэнькая—вось-вось паваліцца—школка.

— Праўда, няма пакуль што ў нас водаправода, не хапае газавых плітак і яшчэ сяго-таго, але дабравольцы ведаюць, што хутка ўсё гэта і ў іх будзе, бо ў цэнтры калгаса—Ціхаволі—ужо ёсць...

Мы крочым вуліцаю, і я пазнаю і не пазнаю Дабраволю. І старэе, і адначасова маладзее яна. Адны хаты становяцца нібыта ніжэйшымі, усё глыбей урастаюць у зямлю, затое побач, як грыбы пасля дажджу, вырастаюць новыя і, нібы тыя дзяўчаты, прыбіраюцца, прыхарошваюцца.

Кожны чалавек цікавы па-свойму. Хоць, як кажуць, і пад адным сонцам жывём, а што ні чалавек—то характар, аблічча, лёс.

Так і вёскі. Якія б падобныя яны ні былі, а ў кожнай ёсць нешта сваё, адметнае, адной ёй дадзенае. Але як знайсці, угледзець яе, гэтую адметнасць?..

Колькі часу назад працаваў я ў Свіслацкім райкоме партыі. Неяк праводзіўся ў калгасе «Пагранічнік» (куды ўваходзіць і Дабраволя) семінар сакратароў пярвічных партыйных і камсамольскіх арганізацый калгасаў і саўгасаў па пытаннях выхавання моладзі на рэвалюцыйных, баявых і працоўных традыцыях нашага народа. Былі мы там на вечары пасвячэння моладзі ў калгаснікі. Трэба сказаць, што ў «Пагранічніку» такія вечары праводзіліся даўно і вопыт у іх ужо быў. Але такі ўрачысты, як пазней расказвалі калгаснікі, правялі ўпершыню.

З густам, па-святочнаму ўпрыгожаны клуб. Музыка, песні, усмешкі і кветкі. А на чырвоным абрусе, пасярэдзіне стала—румяны каравай хлеба. Самыя пачэсныя месцы занялі тыя, хто век свой пражыў на зямлі, чые рукі і розум стварылі гэты вялікі цуд—хлеб.

Гучаць піянерскія горны: «Слухайце ўсе! Слухайце ўсе!» На сцэну выходзяць хлопцы і дзяўчаты—тыя, каму споўнілася васемнаццаць і хто вырашыў пасля школы застацца працаваць у калгасе.

Цеплынёй свяціліся вочы колішняга першага старшыні калгаса, а цяпер заслужанага калгасніка Івана Пятровіча Кічкайлы.

— Памятайце,—сказаў ён будучым хлебаробам,—што мы перадаём вам самае вялікае наша багацце—зямлю. Дык будзьце дастойнымі сваіх бацькоў, трымайце ў чысціні высокае званне хлебароба...

А калі ўручыў кожнаму па зялёнай кніжачцы, не стрымаўся малады жывёлавод Вася Свейка, выступіў ад імя сваіх сяброў:

— Ваша давер'е апраўдаем сваёй працай...

На зялёнай вокладцы кніжачкі Вася прачытаў: «Атэстат маладога гаспадара зямлі». А ў сярэдзіне было надрукавана: «Дарагі сябар! Сёння ты ўступаеш у новую вялікую сям'ю — сям'ю хлебаробаў. Няма больш пачэснай прафесіі на зямлі, чым прафесія чалавека, які стварае матэрыяльныя каштоўнасці. Будзь дастойным прыняць слаўную эстафету з рук старэйшага пакалення. Памятай, што ты нашчадак усяго, што заваявана ў баі і працы. Памятай: гэта твая зямля. Сваёй працай і энергіяй зрабі яе яшчэ багацейшай і прыгажэйшай. Няхай рамантыка і мара стануць дэвізам твайго жыцця. Даражы гонарам хлебароба! Будзь дастойным высокага звання — маладога будаўніка камунізму!»

Доўга не разыходзіліся ў той вечар людзі. Асабліва шматлюдна было ля перасоўнага музея, што быў створаны тут жа, у клубе. Частку экспанатаў пазычылі ў гістарычным музеі Свіслацкай школы-інтэрната, сёе-тое сабралі ў мясцовых жыхароў. Усё тут было: ад лапцяў, сявенькі, драўлянай бараны да макетаў і фотаздымкаў сучаснай магутнай тэхнікі. Ішлі і ішлі ў той музей людзі, каб дакрануцца да сівой мінуўшчыны, больш яскрава ацаніць здабыткі цяперашняга.

Помніцца, падышлі чародкай хлапчукі-падлеткі.

— А чаму такая маленькая класная дошка?

— Зусім яна не класная, — тлумачыў дзецям настаўнік мясцовай школы Іван Сямёнавіч Талкачоў, — бо і класаў тых, бадай, не было. Зімку адзаймаўся — значыць, клас скончыў, другую — другі...

— А дошчачка гэтая служыла тады нам сшыткам, — падышоў бліжэй Іван Пятровіч Кічкайла. — Рашыў, скажам, задачку, сцёр анучкай — і зноў можна пісаць...

Драўляная барана, сявенька, цэп, ступа... Словам, што ні экспанат — то гісторыя.

Жывая гісторыя... Часам мы не разумеем, што гэтае вялікае паняцце складаецца з малога, на першы погляд мо нават непрыкметнага.

Гісторыя... Яна складаецца з кожнага дня, тыдня, месяца, года, яе пішуць кожны чалавек і ўсе людзі, разам узятыя.

Час няўмольны. Ён бяжыць з такой незвычайнай хуткасцю, што мы не заўсёды паспяваем усё сабраць, абагуліць. А, між тым, людзі старэюць, паміраюць, назвы змяняюцца, перайначваюцца, рэчы гніюць і гінуць, многае не паддаецца ўзнаўленню. І таму застаецца толькі пашкадаваць, што ў нас да гэтага часу не напісаны гісторыі нашых вёсак. Нават у Беларускай Савецкай Энцыклапедыі яны пададзены вельмі і вельмі сціпла.

Кожны павінен лічыць за абавязак унесці пасільны ўклад у стварэнне гісторыі роднага краю. Хай бы ў кожным калгасе і саўгасе, у кожнай вёсцы быў свой (няхай сабе невялічкі) музей, дзе абавязкова захоўвалася б іх гісторыя. Ёсць жа ў нас тэмнікі і інструкцыі па збіранні фальклору і г. д. А чаму б не мець іх і па напісанні гісторыі вёсак, калгасаў і саўгасаў, па стварэнні музеяў?

Пройдуць гады, і аднойчы мы спахопімся, ды будзе позна: няма ні рэчаў, ні тых, чыімі рукамі і на чыіх вачах яны ствараліся. Што так можа быць, красамоўна сведчыць лёс таго калгаснага музея ў «Пагранічніку».

Прыязджаю праз колькі тыдняў у калгас, пытаюся:

— Ну, як ваш музей? Мо разросся ўжо ў сапраўдны?

— Дзе вы бачылі, — кажуць. — І забыліся нават, што ён быў.

Іду да старшыні калгаса.

— Закруціўся тут па гаспадарцы — не да музея было, — шчыра прызнаўся Канстанцін Піліпавіч. — А сапраўды — дзе ён падзеўся?

У школе таксама рукамі развялі:

— Не, мы нічога не чапалі...

Нарэшце, знайшлі віноўніцу — цётку Ніну, прыбіральшчыцу клуба.

— Чаму ж не помню! — кажа яна. — Сама не раз дзівілася. Прыйду, бывала, прыбіраць і перш-наперш туды, дзе музей быў. Сяду сабе на крэселка і гляджу ды ўспамінаю. Уся мая жытка, як у кіне, перад вачыма. А тады ўжо і за работу бяруся... А як рамантаваць клуб сталі, я ўсё ў хляўчук вынесла. Дык гіцлі гэтыя, дзеці, відаць, улезлі і парасцягалі ўсё. Мо папалілі...

А як радаваліся тады, калі стварылі музей, і старшыня калгаса, і сакратар партарганізацыі, і настаўнікі мясцовай школы, і клубныя работнікі! Здавалася, пачатак зроблены, цяпер справа пойдзе...

Вось вам і вялікая гісторыя!

Вуліца пустая, калі не лічыць дзяцей, што порпаюцца ў пяску, ды некалькіх бабулек, якія, бы квактухі, пасуць дзіцячы вывадак. Лета — пара гарачая, і таму ўсе, хто можа працаваць, у полі.

У сельсавеце, куды я зазірнуў па дарозе, адзін толькі сакратар — Пятро Барэль. Я яго ведаю даўно: ён скончыў тут школу, служыў у арміі, пасля службы вярнуўся ў родную вёску.





Пятро збірае паперы, хавае іх у шуфляду:

— Трэба бегчы на зерняток. На падмогу старому Кічкайлу — ён там адзін ля зернесушылкі...

Не паспелі выйсці, як зайшоў старшыня сельсавета Іосіф Васільевіч Кандратовіч.

— Толькі з поля, — кажа ён. — Змалку ведаю гэты куток, сам тут вырас, больш дзесяці гадоў аграномам працаваў. Усялякае, канечне, было, а такога «гневу» стыхіі ніколі не бачыў. Вось і нам, сельсаветчыкам, даводзіцца памагаць калгасу хлеб ратаваць.

Пятро пабег, а мы з Іосіфам Васільевічам сядзім, гутарым.

— Людзі цяпер імкнуцца жыць не абы-як. Каб усё ў хаце і сама хата выглядала культурна, на гарадскі лад. Ды хто зробіць, скажам, тую ж печку-кахлёўку, калі на ўсю вёску мо адзін толькі Міхась Панотчык толкам можа яе змураваць? А розныя цяслярскія работы? Іх робяць майстры-самавучкі недзе пад павеццю, у цесным куточку. Гэта — адно. А другое возьмем — лес. Трэба чалавеку, напрыклад, некалькі дошак. Значыць, выпісвай яму нейкага паўкубаметра драўніны. А колькі чалавек пасля папаходзіць, каб спілаваць тую хвойку ды на дошкі разагнаць? Каму патрэбна такая кустаршчына? Маем намер абмеркаваць гэтае пытанне на сесіі Савета. Думаю, што людзі нас падтрымаюць.

Пытанне, сапраўды, важнае і надзённае. Шула, жардзіна, дошка-шалёўка — без лесу на вёсцы не пражывеш. Але парадку з гэтым самым лесам яшчэ малавата.

Вось, скажам, заклікаем мы лес берагчы, а як беражом? Помню, давялося мне быць аднойчы пад Старобінам. Бачу, чалавек на падводзе вязе вязанку сухіх галінак. Каня пусціў папярадзе, завязаўшы лейцы за драбінкі, а сам ззаду ідзе. Упадзе сучок ці галінка, дык ён тут жа падыме яе і — на воз. Вось, аказваецца, як людзі лес цэняць. А ў нас, дзе лясы кругом, нярэдка бервяно зваліцца, і яго ніхто не падніме...

Альбо возьмем тую ж самую дошку ці жардзіну, якая спатрэбілася калгасніку. Чаму б, скажам, не завесці такі парадак. Трэба табе падлогу новую пакласці ці хату абшалёваць — давай заяўку ў праўленне і чакай стальмахоў. Дроў трэба — зноў туды ідзі.

«Але хто гэтым у калгасе займацца будзе?» — адразу чую пытанне. Калгасны камунгас. Так, так, у многіх гаспадарках рэспублікі ўжо створаны спецыяльныя камунгасы, як самастойныя вытворчыя адзінкі. Дык, можа, у гэтым выйсце?

Між іншым, стварэнне камунгаса ўдала вырашыла б і такія пытанні, як правільнае выкарыстанне не толькі тоўстай часткі дрэў, але і сучча, а таксама своечасовага догляду лесу. Цяпер, ідучы пушчай, бачыш шматлікія вогнішчы. Гэта лесарубы спальваюць галлё. Спынішся часам і падумаеш: а яно ж не горш гарэла б і ў вясковай грубцы.

Тым больш, што лясніцтвы не ўпраўляюцца своечасова праводзіць санітарную высечку лесу. А той жа камунгас па дамоўленасці з лясніцтвамі мог бы весці гэтыя работы значна лепш, бо ў яго больш людзей, тэхнікі. Зімою ў калгасе менш работы, і людзі загружаны ёю не ўсе і не кожны дзень. Урэшце, калгас мог бы весці і нарыхтоўку хвойна-вітаміннай мукі для жывёлы...

Гаворку нашу абарваў старшыня калгаса — зайшоў, як і дамаўляліся, па мяне, каб разам паехаць на поле.

Зарумянілася, быццам вясельны каравай, ніва, пачырванелі мятлікі аўса, выцягнуў да сонца свае калючыя рыжыя вусы ячмень. Амаль адначасова паспелі ўсе збожжавыя. Прыйшоў гарачы час жніва.

Ціха, спакойна ў полі. Крочым з Канстанцінам Піліпавічам па вузкай палявой сцяжынцы. Па абодвух баках яе, наколькі можна ахапіць вокам, — збажына, збажына, збажына. Але ўся ўскудлачаная, збэрсаная, злямцаваная.

— Землі нашы не з лепшых. Яны, можна сказаць, пасрэдныя нават на раённым фоне, — разважае Канстанцін Піліпавіч. — Але што толку скардзіцца на гэта? Зямлю не выбіраюць. Ды ў нашых сілах павысіць культуру земляробства, зрабіць больш шчодрай калгасную ніву.

Сарваў колас, расцёр на далоні, панюхаў, загаварыў зноў:

— Але колькі бед на кожным кроку падпільноўвае хлебароба. Вось і сёлета. Багаты ўраджай вырас. Здавалася, не менш як 25 цэнтнераў з гектара возьмем. І якраз у час наліву так нясцерпна запякло сонца, што аж лісце ў трубкі скручвалася. Усе з дня на дзень чакалі дажджу, а ён як дражніўся ўсё роўна. Выплывуць з-за лесу хмары — вось-вось, здаецца, ліне. Ажно ўпадзе ў гарачы пясок некалькі кропель — і зноў сухмень. Таму зерне атрымалася шчуплаватым, а колас — малаважкім. А потым як прарвалася неба тое — так ліло. Ды з ветрам, з градам. Збажыну пакруціла, прыбіла да зямлі. Людзі ледзьве не плакалі ад крыўды. Гэта ж столькі сіл укладзена, а яно вось што робіцца...

Насустрач плыве камбайн. За штурвалам пазнаю Аляксандра Курылу.

— Вось і адзін з герояў жніва, — заўважае старшыня. — Залатыя рукі ў

чалавека і галава светлая. Гэта ж ён нас так здорава выручыў! Сабралі мы перад жнівом механізатараў, пачалі раіцца. Устае тут Мацвеевіч і прапануе пад нажы рэжучага апарата падкласці пракладку. Прыкінулі—сапраўды выйсце: зубы паднімаюцца ўгору, а нажы апускаюцца аж да самай зямлі. Пераабсталявалі так усе камбайны.

Курыла, угледзеўшы нас, прыглушыў матор, саскочыў на зямлю, паздароўкаўся. Ён невысокі, каржакаваты, увесь ад галавы да ног прыцярушаны мякінай.

Пытаемся ў яго пра намалот, пра тое, як працуецца ўвогуле. Мацвеевіч адказвае коратка, стрымана. Ажывіўся, калі загаварыў пра навінку:

— А вось з сувяззю вельмі добра зрабілі. Бывала, зломіцца што, дык цалюткі дзень прастаіш. А цяпер звязаўся сабе па радыётэлефоне з інжынерам ці з майстэрняй—і «лятучка» табе тут...

Курыла не затрымліваецца, сядае за штурвал.

Мы стаім на сухім, хрумсткім іржэўніку, глядзім услед камбайну і любуемся роўным, дагледжаным палеткам: нідзе няма ні агрэхаў, ні равоў, ні купін.

— Усё вырашыла звеннявая арганізацыя працы,—тлумачыць Варанко.—Раней як было: адзін трактарыст сумленна рабіў, а другі—абы з рук. А прыйдзе пара, дык лайдак часам яшчэ больш палучыць. Бо ён жа гектараў больш выгнаў. Вось і стварылі механізаваныя звенні канчатковай прадукцыі. І аплату ўстанавілі не ад колькасці гектараў, а ад атрыманага ўраджаю. Дык цяпер усе стараюцца.



Старшыня ўздыхнуў, памаўчаў:

— Але хіба лёгка тое далося? Прыедзе, бывала, адзін начальнік, кажа, каб ніякіх звенняў не выдумлялі, а другі, наадварот, насядае. Каго слухаць? Сабраў калгаснікаў, давай раіцца, што рабіць будзем. Сам бачу, што справа гэтая перспектыўная. Ну, а людзі за столькі гадоў так прызвычаіліся да брыгады, што нічога і ведаць не хочуць. Доўга спрачаліся. Вырашылі ўсё ж перайсці на звеннявую арганізацыю працы ў раслінаводстве. А цяпер усе бачаць, што апраўдала яна сябе. За тры-чатыры гады ўраджаі ўсіх культур амаль удвая выраслі. Вось і сёлета, які ні няўдалы год, а збажыны не менш чым па 20 цэнтнераў будзе. Бульба, буракі таксама ўрадзілі...

На ферму трапілі акурат, калі можна было пагаварыць з людзьмі—толькі што даенне скончылася.

— Цяперака няма на што наракаць,—пачала старэйшая даярка Алена Лоська.—А было ж—усё ўручную даводзілася рабіць.

— Як націснеш кнопку, аж спіна ўзмакрэе,—пажартаваў хтосьці з мужчын.

Па чыста журналісцкай звычцы цікаўлюся, як часта даяркі бываюць у кіно, што чытаюць. Здаецца, яны толькі і чакалі гэтага, бо адразу загаварылі ўсе разам.

— Канечне, пайшлі б. А хто за нас кароў даіць будзе?

— Добра, калі ў сям'і ёсць каму падмяніць!

— Не пра тое вы, бабы! Гэта вось старшыня вінаваты. Чаму гэта ў Нязбодзічах даяркі працуюць, як на заводзе якім, у дзве змены, а мы... У кіно... Што ў кіно? Хіба мы ў вёсцы і жывём толькі тым, што аб кіне думаем? У кожнага ж гаспадарка ёсць, сям'я,—узняла голас бойкая Ліда Верабей.

— Сапраўды, з гэтай фермы нікуды не вырвешся,—дадала Вера Камінская.—Сама ўжо не прыпомню, калі ў той Свіслачы была.

— Канечне, мы старыя,—казала Алена Лоська,—з усім гэтым быдта звыкліся, а маладзейшыя таму і не ідуць на ферму.

— Якая тут можа быць звычка?!—зноў перабіла яе Ліда Верабей.—Добрая звычка—як на прывязі!

Старшыня не стрываў, падняў руку:

— Правільныя вашы прэтэнзіі, жанчынкі. Ды ўсяго адразу не зробіш. А двухзменку вывучаем. І ў тых жа Нязбодзічах былі, і ў другіх гаспадарках глядзелі. Пагаворым на праўленні.

Палагаднелі адразу жанчыны:

— Даўно пара, старшынька...

— Па-мойму, цяпер многае, калі не ўсё, залежыць ад умелай, правільнай арганізацыі працы,—шчыра прызнаўся старшыня, калі мы ад'ехаліся ад фермы.—Здаецца, і механізацыя, і ўсё іншае ёсць, а дзяўчатам няма калі ні кіно паглядзець, ні на танцы збегаць, жанчынам сям'ю ці гаспадарку дагледзець.

Я маўчаў, не перабіваў—разгаварыўся чалавек, то хай, іншая такая хвіліна ці надарыцца.

— Задумалі мы перайсці на цэхава-звеннявую арганізацыю працы і кіравання гаспадаркай. Сабраліся і паехалі ў адзін калгас вывучаць яе. Спадабалася нам там усё. Склікалі праўленне, давай абмяркоўваць. Хапіліся за адно—няма, за другое—таксама. Так і разышліся, нічога не рашыўшы.

Старшыня ўсміхнуўся:

— Паехалі зноў у той калгас. Давай распытваць у старшыні, дзе яны тую дыспетчарскую сувязь здабылі, хто дапамог сеткавыя графікі скласці, распрацаваць усялякія там інструкцыі... Аказваецца, усё гэта ў раёне ці нават у вобласці зрабілі і ім гатовенькае далі. А цяпер вось і возяць туды дэлегацыі розныя... Праўда, дыспетчарская сувязь цяпер і ў нас ёсць. Але зноў—дыспетчара няма. Пасадзілі дзяўчынку, а што карысці?

— А дзе ж іх браць, гатовыя кадры?—глянуў я на старшыню.

— Дзе браць?—перапытвае Варанко.—Па-мойму, яны ёсць. Трэба толькі даць ім магчымасць разгарнуцца на поўную сілу... Выхоўваць трэба на зацікаўленасці да сваёй справы. Вазьміце агранома. Калі яму дадзена права самастойна вырашаць, што, як і калі рабіць на полі, ён больш будзе думаць пра справу, пра парадак на зямлі, бо ведае: за ўсё—ён у адказе. З'явілася пустазелле на полі—дакор аграному, дрэнны ўраджай—таксама яму чырванець... Раней жа аграном гадамі чакаў распараджэнняў зверху, баяўся сам за справу ўзяцца...

Канстанцін Піліпавіч прыгадаў выпадак, які адбыўся, калі ён яшчэ працаваў у іншай гаспадарцы.

У калгас прыслалі новага агранома. Ішла якраз веснавая сяўба. Месца агранома—на полі, а ён у канторы гібее. Сядзіць адзін дзень, другі... Старшыня маўчаў. А на трэці і кажа яму: «Давай, аграном, з'ездзім на поле, глянем, як там сяўба». Селі і паехалі. Спыніліся на ўскрайку поля. Старшыня вылез з машыны і папраставаў сабе ў кірзовіках да трактара. А аграном выскачыў, як суслік, у туфельках і затаптаўся ля машыны—не рашаецца на ворыва ступіць. І калі зноў селі ў машыну, старшыня сказаў: «Між іншым, аграном павінен кожную сеялку не адзін раз у дзень сваімі рукамі перамацаць: настроіць, праверыць... А калі ботаў няма, вазьмі ў касе грошай. Я скажу, каб выдалі...» Аграном жа той агрызнуўся: «А дзеля чаго я пяць гадоў вучыўся? Каб гэтую зямлю мясіць? У мяне ж адны пяцёркі былі». «Ну, і чорт з імі, з тваімі пяцёркамі,—ледзьве стрымаўся старшыня.—Зямлю перш-наперш трэба любіць, а не мясіць!»

— Дык той аграном,—закончыў свой расказ Канстанцін Піліпавіч,—на наступны дзень уцёк з калгаса... А заатэхніка ці агранома таго трэба шукаць не толькі ў інстытуце, а яшчэ ў школе. Горнецца хлопчык да тэхнікі—ага, можа гэта будучы калгасны інжынер падрастае. А што? Прыйшоў час, калі нельга ацэньваць спецыяліста толькі па дыплому. Лепшую атэстацыю дасць яму калгаснае поле ці ферма. Нельга, каб на зямлі працаваў спецыяліст-рамеснік. Ёй патрэбны гаспадар, сапраўдны знаўца яе, а не «кніжнік»...

Канстанцін Піліпавіч сцішыў голас і, як бы дзелячыся са мной чымсьці запаветным, загаварыў:

— Ёсць тут у нас адзін хлопец—Вася Свейка. Колькі памятаю, дык і бацька, і маці яго на ферме працуюць. І хлопца, відаць, прывучылі да жывёлы. Дык ён пасля васьмігодкі некалькі гадоў цялят гадаваў. Цяпер у арміі служыць, а на ферму пасля дзесяцігодкі прыйшла яго сястра Аня. Дык вось. Каму звычайна салдаты пісьмы пішуць? Вядома—бацькам, дзяўчатам. А Вася—мне. Піша, што пасля арміі зноў да нас, у калгас свой, вернецца. Сорамна, кажа, будзе, калі зямлі сваёй здрадзіць...

Машына набліжалася да лесу. Насустрач нам ішлі дарослыя і дзеці з кошыкамі, поўнымі грыбоў і ягад.

— А колькі гэтага багацця тут гіне?—ківае галавою старшыня.—Ужо колькі гадоў б'ёмся, каб адкрыць у калгасе падсобны цэх па пярвічнай перапрацоўцы ягад, грыбоў, садавіны, гародніны, ды нічога не выходзіць. Спецыяльнае абсталяванне патрэбна. А дзе яго ўзяць? Вунь, нам ужо тры гады запар плануюць агрэгат па нарыхтоўцы хвойна-вітамiннай мукі, ды так і невядома, калі атрымаем...

Дзённая духата спала, у паветры адразу пасвяжэла, павеяла прахаладай. З далін поўз сівы туман, нёс пах прывялай травы і спелай збажыны. Гусцела сутонне. Дзесьці ў жыце падала голас перапёлка: «Спаць пара, спаць пара». Неяк раптоўна з-за лесу насунуліся хмары, і неўзабаве ў пульхны пясок зашлёпалі цёплыя кроплі жнівеньскага дажджу...

Як заўсёды, я спыніўся ў Дабраволі ў свайго даўняга знаёмага, настаўніка гісторыі мясцовай школы Яўгена Іванавіча Горбача — веселуна і заядлага рыбака, аматара прыроды і знаўцы гэтага краю. Вырас ён тут жа, непадалёк, у вёсцы Грыцкі, вось ужо больш як паўтара дзесятка гадоў жыве ў Дабраволі і ведае яе самую і яе насельнікаў ад малога да старога.

— Жыве тут у нас адна кабета,— расказвае Яўген Іванавіч.— Замуж сюды выйшла аднекуль з-пад Кобрына. Дык яе так і клічуць усе — Кобрынкай. А яшчэ прывезла яна адтуль бульбы. Хто яго ведае, што там за гатунак быў, але таксама «кобрынкай» завуць... Альбо — Звончыкамі тут адных клічуць. Аказваецца, ужо некалькі пакаленняў гэтых людзей працуюць кавалямі. Вось і пайшло — Звончык ды Звончык.

— А жанчыну адну, вострую на язык, Брытвай ахрысцілі,— кажа жонка настаўніка Ніна Цітаўна — выкладчыца беларускай мовы і літаратуры.— Самае распаўсюджанае прозвішча ў нас — Барэль. Ёсць нават, што не толькі імя, але і імя па бацьку аднолькавае маюць. Як тут іх адрозніць? Дык адных клічуць, напрыклад, Самошкавымі, другіх — Мацейкавымі...

Я ўважліва слухаю гэтыя даволі цікавыя гісторыі мянушак, і разам з Яўгенам Іванавічам і Нінай Цітаўнай дзівімся народнай дасціпнасці, трапнасці народнага слова.

Неўзабаве Ніна Цітаўна запрашае за стол — пара вячэраць. Толькі селі, як у хату зайшоў сусед, таксама настаўнік, выкладчык працы Анатоль Сцяпанавіч Гедзіч.

— Вечар добры!

— Ну й нос жа ў цябе, дружа,— замест прывітання адказаў Яўген Іванавіч.— З такім нідзе не прападзеш.

— А навошта яго тады насіць, калі нюх страціў?— знайшоўся Гедзіч.

Ніна Цітаўна паставіла на стол талерку смажаніны, вялікую міску бульбы, падала маласольных агурочкаў:

— Чым багаты — тым і рады.

Звяртаючыся да мяне, дадае:

— Гэта ў вас, у горадзе, добра: схадзіў у магазін ці на базар і купіў. А ў нас у краме — хлеб, цукар ды кансервы. Праўда, сала яшчэ ёсць. А вось кілбаса — вельмі рэдка бывае.

— А з малаком, скажам?— запытальна глядзіць на мяне Яўген Іванавіч.— Цяпер, летам, яшчэ можна ў калгаснікаў купіць, а зімой ці вясной — праблема...

— Ды і прадаюць не вельмі ахвотна,— зазначае Ніна Цітаўна.— Грошы ў людзей вядуцца, і не кожны за капейкай ганіцца. Ды і выгады няма. Дзяржаве калгаснік той літр малака прадасць, дык яшчэ камбікорм атрымае....

— Таму сельскі інтэлігент і трымае кароўку, парсючка, птаства. А хіба ім няма чым іншым заняцца?— падтрымаў гаворку Гедзіч.

— А каб з калгасам дамовіцца?— кажу я.— Ён жа павінен пайсці вам насустрач.

— Павінен то павінен,— уздыхнуў Яўген Іванавіч.— Але што можа зрабіць той жа старшыня, калі калгас плана не выконвае? Ды і якая выгада калгасу прадаваць нам, настаўнікам, малако, калі яно ў план продажу дзяржаве не залічваецца? А выконваць яго калгас павінен? Вось і атрымліваецца тое зачараванае кола...

— Ат, што мы ўсё пра адно ўвесь вечар? Давайце лепш кіно глядзець,— прапанавала Ніна Цітаўна і ўключыла тэлевізар.

Успыхнуў экран — пачынаўся кінафільм.

Летні дзень дагараў у празрыстай сінечы. За вёскай, над блізкім хвойнікам, кучараваліся белыя, у залатых водблісках вячэрняга сонца, хмаркі.

Надвячоркам выбраліся мы з Яўгенам Іванавічам Горбачам да старажыла Дабраволі Івана Пятровіча Кічкайлы. Хата яго стаіць, лічы, пасярэдзіне вёскі. Нягледзячы на свой узрост, яна, як і сам гаспадар, выглядае зухавата. Ставіў яе Кічкайла яшчэ ў гады белапольскай акупацыі. Тады, вядома, не было вельмі за што рукі зачапіць (Іван Пятровіч меў усяго тры гектары зямлі ды сякую-такую жывёліну), але памаленьку, не без дапамогі радні, сяк-так агораў сваю хацінку. Некалі стаяла яна як не ў канцы вёскі, ды з гадамі, асабліва пасля вайны, калі будаваліся многія дабравольцы, хата апынулася ледзь не ў самым цэнтры. Апошнім часам Іван Пятровіч перакрыў яе, новыя падрубы даў, сталярку памяняў,— глядзі, хата і пахарашэла.

За хатай расце невялічкі садок: некалькі яблынь, груш, кусты парэчак, малады вішаннік. Надворак не шырокі, але дагледжаны. Усяму, што тут ёсць, прыгатавана сваё, толькі яму прызначанае месца.

Гаспадара заспелі на дрывотні — перапілоўваў сякераю тонкае, акурат на венік, бярозавае галлё. Нягледзячы на свае восемдзесят чатыры, Іван Пятровіч выглядае бадзёра. Апрануты пасялянску проста, але ахайна. Вочы глыбокія, але жывыя, позірк задумлівы, быццам чалавек размаўляе сам з сабою.

Прыселі тут жа, у двары, і Кічкайла, нібы працягваючы кімсьці перапыненую гамонку, пачаў расказваць:

— Цяпер людзі жывуць — лепей не трэба. Іншы раз як падумаеш, дык ажно не верыцца, што некалі...

От я, вазьміце, вырас недалёчка тут, у Альхоўцы, што ў Польшчы цяпер. Адно памятаю з маленства — маленечкае, заткнутае анучамі акенца ды вялізную, ледзь ці не на паўхаты, печ, на якой мы, дзятва, можна сказаць, і выгадаваліся. А як падкачаліся трошкі, дык адразу ж у памочнікі да маці і бацькі.





Пэўна, з гадоў васьмі бацька мяне з сабою ў поле браў. Змалку прывучаў да сваёй сялянскай справы. Помню, не раз казаў: «Тут, у полі, сынок, наша жыццё. Яно цябе і хлебам накорміць, і порткі новыя дасць, і асалоду сэрцу прынясе. Беражы яго, сынок, і дбайна даглядай. Памятай, чым больш працы прыкладзеш, тым багацейшым будзе поле». На ўсё жыццё запомніў тыя бацькавы словы. Яшчэ моцна не стаўшы на нogi, цягаўся за плугам, разам з касцамі сустракаў вячэрнія зоркі, адбіваў чатку цэпам на таку... Рабіў, як вол, аж пакуль у царскую армію не забралі. А ў шаснаццатым папаў я аж у Францыю. У горадзе Вердэне стаялі. Там я ўпершыню і пачуў пра тое, што ў Расіі няма больш цара. От тады пачалося! Збярэмся, бывала, і спрачаемся: ваяваць ці не? Ад Расіі далёка, ніхто толкам не ведае, што там робіцца. Праўда, былі ў нас маладыя афіцэры Ягораў, Новікаў і Заўялаў. Вельмі паважалі іх салдаты. Не ведаю, мо заадно з бальшавікамі былі яны, бо вельмі правільна гаварылі. «Хлопцы,— кажуць,— навошта нам тут, на чужой зямлі, ды за інтарэсы капіталістаў гінуць? У нас жа ёсць свая зямля. Там зараз наша месца». Растрывожылі мяне тыя словы. Месца сабе не знаходжу. Дзе ні іду, што ні раблю, а перад вачыма ўсё зямля родная стаіць. А аднойчы нават сасніў яе. Здаецца, бацька ў белай кашулі поле арэ, а я стаю сабе збоку, на ўзмежку. «Чаго прыкіпеў?— кажа.— Памог бы бацьку, а то рукі зусім аслабелі, як дзеравяныя сталі». Я нібыта рвуся да яго, а ступіць не магу. А ён глядзіць на мяне і толькі галавою ківае: «Эх, сынок, сынок...» Во тады і рашыўся. Адзінаццаць нас уцякло, дадому пешшу дабіраліся... Але і тут не дужа смачна жылося. Хоць і свая была зямелька, ды радасці мала: нібы той крот, ад зары да зары, рыўся на ёй з драўлянай сошкай...

Трыццаць два гады было мне, як жаніўся. Пасваталі тут, у Дабраволі, Фёклачку маю. Кажуць, лепшай жонкі за яе нідзе не знойдзеш. А жылі яны таксама бедна. Праўда, зямлі крыху было, а абрабляць яе некаму, бо бацька зусім стары быў, хварэў увесь час. А сыноў, каб падмяніць яго, не было. Вось я і прыстаў у прымы. Тут і абжывацца пачаў: хату пабудаваў, каня купіў. Але жыццё не палепшала: хлеба толькі да каляд хапала. Даводзілася падзарабляць у пушчы: бярвенні траляваў, метры складваў — усё ж нейкая капейка прыбівалася... А тут Саветы прыйшлі. Як цяпер помню той вераснёўскі дзень, ціхі такі і трошкі журботны. На вуліцу выйшла як не ўся вёска. Абступілі людзі машыны, з салдатамі абнімаюцца, жанчыны малачком іх частуюць, дзяўчаты кветкі прама з гародаў кідаюць. А пасярод сяла, дзе помнік цяпер, мітынг быў. Бачым, вылазіць з адной машыны чалавек у скураной куртцы, залазіць наверх, як на трыбуну, і кажа нам: «Назаўсёды прагналі мы адгэтуль памешчыкаў-крывасмокаў. Цяпер вы самі гаспадары гэтай зямлі»... Тут жа і камісію сваю стварылі, зямлю панскую дзяліць пачалі. Каб вы ведалі, якое гэта было свята для людзей! Мяне тады страхавым агентам выбралі. Ой, нялёгкая гэта пасада! Усе дні і ночы сярод людзей...



А тут зноў — вайна. Мне ішоў якраз пяцьдзесят чацвёрты. Але яшчэ крэпкі быў. Замураваў тыя страхавыя дакументы ў печ, а сам хацеў было ў партызаны падацца. Ды яны самі і адгаварылі мяне. «Заставайся,— кажуць,— тут нам таксама надзейныя людзі патрэбны». Вось я і перасылаў ім хлеб, сала, іншы харч. Не раз, праўда, чапіліся да мяне фашысты. Ды дулю яны бачылі!..

Спачатку — страхавы агент, потым — намеснік старшыні сельскага Савета, нарэшце — першы старшыня калгаса. Пра гэта Кічкайла таксама расказвае спакойна, па-старэчы паважна:

— Глыбокай восенню сорак дзевятага сабраліся ў маёй хаце чалавек з дваццаць мужыкоў. З раёна чалавек прыехаў. Сядзім, курым, пра жыццё сваё сялянскае бяседу вядзём. Да самай раніцы гаманілі. Але калгас усё ж арганізавалі. Васемнаццаць чалавек запісалася. А мяне старшынёй выбралі. Лёгка сказаць — выбралі, а што рабіць? Помню, прыйшла сяўба, а ў калгасе — ні зярнятка. Давай тады па хатах, хто колькі можа, збіраць. Вось так і засеялі сорак шэсць гектараў. А колькі радасці было, калі змалацілі: нешта больш як па сто пудоў на круг выйшла! Такога ўраджаю ніколі тут у нас не знімалі...

Кічкайла зноў закурыў.

— О, чаго толькі ні было! Усяго і не перакажаш. Помню, сорак шэсць тысяч рублёў пазыкі далі. Прывёз тыя грошы з раёна, а куды іх прыткнуць—не ведаю: дзірак многа было. Адну залатаеш, а другая яшчэ большай стане. Усю дарогу думаў, з чаго пачаць, ды так і не дадумаўся. А людзі параілі: найперш кароў купіць, бо якая гэта гаспадарка, кажуць, без каровы? Купілі кароў, а даглядаць каму? Усю вёску абышоў, ды толькі Любу Лоскат і ўгаварыў. А дзе яна адна васемнаццаць штук дагледзіць? Дык мая старэйшая—Вера—пайшла. З таго часу і робіць на ферме.

Але не ўсё ў калгасе ішло гладка. Не адзін раз палохалі Івана Пятровіча: то шыбы ў вокнах павыбіваюць, то цёмнай ноччу на дарозе пераступяць.

— Вяртаўся неяк позна вечарам дадому. Іду сабе паціху, а тут чымсьці цяжкім па галаве гах—аж у вачах пацямнела, але на нагах устояў. Дагнаў паганца, кінуў яго вобзем. А калі пазнаў Аляксандра Курылу, то больш здзівіўся, чым разлаваўся. «За што гэта ты мяне, Алесь?—пытаюся.—Такі ж самы бядняк, як я, а забіць рашыўся?». «Даруй, Іван,—пачаў прасіцца ён.—Дальбог, падбілі мяне. Чарку далі». Ліха з ім, думаю, галава пабаліць і перастане, а чалавеку можна ўсё жыццё запаганіць. Дараваў яму. І во—першы работнік у калгасе...

Ішлі гады. Калі Івану Пятровічу пераваліла за шэсцьдзесят, ён сам папрасіўся вызваліць з пасады старшыні. Але яшчэ шмат гадоў узначальваў паляводчую і будаўнічую брыгаду. Ды і зараз не сядзіць у хаце склаўшы рукі.

— Эх, жыццё, жыццё!—уздыхае Іван Пятровіч.—Чым цябе вымераць? І ці такое ты доўгае, як часам здаецца? Калі быў малады, думаў, дацягнуць бы да паўсотні, далей не заглядаў. Цяпер ужо дзевяты дзесятак пайшоў, а зроблена не так шмат, як хацелася. Вачыма, здаецца, яшчэ горы звярнуў бы, ды сіла не тая ўжо.

Цяпер во людзі матацыклы купляюць, піяніны, мэблю, многія на легкавыя машыны запісваюцца. А, ці даўно тое было, упіраліся—у калгас не хацелі ісці. А цяпер што кожны з нас без яго варты? Калгас на ўсялякія ўступкі ідзе. Вунь, Грыка, каторая кароў калгасных пасе, удавою засталася, цяжка адной бабе, дык ёй калгас новы дом будуе. Ці ўзяць з кармамі для жывёлы? Выпасы слабыя, цялушку прывязаць і то няма дзе. А дзе, скажам, сена ўзяць? Добра, калі ў хаце мужчына ёсць—наб'е сям-там капіцу, а ёсць жа і такія сем'і, дзе няма каму тую касу трымаць. Выходзіць, без дапамогі калгаса і кароўку не пратрымаеш.

— Праўда, ёсць тут адна закавычка,—па-змоўніцку ўсміхаецца Кічкайла.—Стварылі, скажам, культурныя пашы. Дык жа толькі для калгаснага статка. А чаму б не мець іх і для калгасніцкіх кароў? І людзям была б выгада і калгасу, бо дзяржаве больш малака прадавалі б. Канечне, цяпер перайначыліся і адносіны калгаснікаў да жывёлы. Раней нястача прымушaла ёю займацца. А зараз грошы ёсць ва ўсіх. Таму не кожны хоча абцяжарваць сабе клопатамі. Маўляў, навошта мне таптацца ля свінога карыта, калі ў магазіне куплю? А адкуль жа ў тым магазіне быць? Па праўдзе кажучы, папанелі некаторыя, больш на гатовенькае паглядаюць. Стараюцца не для калгаса каб больш, а каб ад яго ўварваць лепшы кавалак. А калгас—гэта ж мы...

Цікавы ўсё ж чалавек гэты—Кічкайла. Здаецца, колькі перагаварылі мы з ім за многія гады знаёмства, а кожная новая сустрэча адкрывае яго з другога боку, паварочвае новай гранню. Вось і зноў азадачвае мяне сваімі думкамі-разважаннямі.

— Птушцы для палёту патрэбны крылы, а нам, хлебаробам, няма жыцця без зямлі. І шкада, што не ўсе мы, сяляне, вучым дзяцей сваіх любіць хлебаробскую справу. Мае дочкі і сын—усе ў роднай вёсцы працуюць. А ў іншых падрос сынок ці дачушка—хутчэй стараюцца ў горад уладкаваць. Лічаць, няхай ён там сабе і менш заробіць, а ўсё ж... Канечне, гораду таксама людзі патрэбны. Але трэба, каб і зямлю было каму апрацоўваць... Ды хіба там, у горадзе, смачнейшы хлеб, што тут, у роднай вёсцы, расце? Ці любасці да роднага кутка няма? А дзе ж яна падзелася, тая любасць? І наогул, ці была яна, ці выхоўваем мы, старыя, гэтую любасць у нашай моладзі? Хіба заўсёды мы, бацькі, сеем у нашых дзетак зярняты любові да сваёй хлебаробскай справы? Дык чаго тады мы стараемся абудзіць ужо ў сталасці тое, чаго ў іх і не было, чаму самі іх не навучылі...

Сапраўды, колькі існуе чалавецтва, людзі заўсёды з павагай і ўдзячнасцю адносіліся да нялёгкай сялянскай працы. Руплівыя, гаспадарлівыя, дужыя сялянскія рукі, якімі ствараецца галоўнае багацце людское—хлеб, заўсёды ўхваляліся ў песнях, у палотнішчах мастакоў і творах літаратуры.

Хлебароб... Якое пышчотнае і гордае слова. І як жа нам не шанаваць тых, хто праславіў сябе працай на зямлі, хто назаўсёды звязаў свой лёс з роднай нівай, хто любіць і разумее не, хто натруджанымі рукамі сваімі спрадвеку адорвае чалавецтва найвялікшым багаццем—хлебам! І чаму не заўсёды мы цэнім гэтае багацце?

Вось што кажа стары хлебароб:

— Часам даводзіцца чытаць у газетах, што дзесьці ў капальнях знайшлі самародак золата. А ці чулі, каб хто знайшоў самародак хлеба? Не, такога, братка, нідзе не прачытаеш. Бо няма ў прыродзе хлеба-самародка, яго трэба па зярнятку сабраць... Поле—не станок. Стаў да станка ўмелы токар—і ўраз цэлая гара дэталяў вырасце.А ў нашай хлебаробскай справе—не так. Найперш зямля абыякавасці да сябе не любіць. Толькі калі прылашчыш яе, руплівасць і ўпартасць сваю пакажаш—адкрые яна табе сваю кладоўку. Але памятай: узяў з кладоўкі, дык і ў яе палажы. Бо з пустога меха другі раз ужо не возьмеш...

Думкі-клопаты... Колькі іх у хлебароба, які ўсё свае жыццё аддаў роднай зямлі!

Я ведаю, што заўтра Іван Пятровіч пойдзе ў поле, у Зарэчча. Ён падыдзе да дуба, што велічна ўзвышаецца на ўзлеску, прысядзе пад ім, прыхінуўшыся спіною да шурпатага камля, і будзе сядзець доўга-доўга—слухаць гукі і ўдыхаць пахі роднай зямлі.



# Дзень сёняшні

Я расплюшчыў вочы. І адразу мною апанавала такое адчуванне, быццам трапіў я ў нейкае дзівоснае царства. У лёгкім тумане паступова рассейваецца тоненькі сярпок месяца. На пазалочаным краі неба, нібы кропля крынічнай вады, гарыць і ўсё ніяк не можа патухнуць апошняя ранішняя зорка. А наваколле ўсё святлее, святлее, і раптам з-за грабянца лесу выкацілася зыркае, аж стала балюча вачам, сонца.

Павярнуў галаву—Яўген Іванавіч ужо сіліўся спіхнуць у раку лодку.

— З такім рыбаком можна ўсё на свеце праспаць,—падкалоў ён мяне.— А ранічка такая цудоўная! Такою парою рыба сама на бераг лезе.

— Затое кручок абмінае,—помшчу я.

— Не гаруй, браце, не заўсёды гэта ёй удаецца,—і паказвае мне ладную вязку ляшчоў і шчупакоў.

Яўген Іванавіч адпіхнуўся ад берага вялікім яловым шастом, а я застаўся чакаць. Зноў узабраўся на стажок і прыцішыўся.

Раптам дзесьці побач нешта трэснула. Я павярнуў галаву ў бок лесу. За дрэвамі стаяў алень. Варта было мне паварушыцца, як аленя—быццам і не было...

Паставіўшы вуду з жыўцом на шчупака, Яўген Іванавіч хутка вярнуўся.

— А цяпер пойдзем на Княгіню,— сказаў ён, збіраючы рэчы ў мяшок.— Субота ўжо, напэўна, там...

Калі б наўпрасткі, дык да ўрочышча Княгіня—рукой падаць: якіх-небудзь хвілін дзесяць хады. А мы ішлі з паўгадзіны.

Нарэшце дабраліся да запаветнай мясціны. Невялічкім паўвостравам гэтае ўрочышча ўкліняецца ў балота і падступае да самага Нарава.

— Вось гэта і ёсць наша рыбацкая «база»,—кажа мне Яўген Іванавіч.— Маё любімае месцейка. Шчупакі тут вядуцца пудовыя!

Мікалай Пятровіч Субота, сябра Яўгена Іванавіча і заўзяты дабравольскі рыбак, сапраўды быў ужо на месцы і чакаў нас. Яшчэ ўчора вечарам дамовіліся, што мы з Яўгенам Іванавічам пойдзем на рэчку нанач, а Субота прыйдзе раніцай, калі ўладзіць сваю хатнюю гаспадарку, бо жонка паехала ў Гродна да дачкі.

Падсілкаваўшыся, мы селі ў лодку і паплылі рыбачыць. Я сеў з Мікалаем Пятровічам...

Лодка ўткнулася носам у чарот. Мы сядзім адзін насупраць другога. Збоку ляжаць нашы вуды. Мікалай Пятровіч апошні раз зацягнуўся дымам, выкінуў за борт недакурак і шэптам, нібы баючыся ў гэтай ранішняй цішыні спалохаць нешта таямнічае, кажа:

—Ну, што, цёзка, пачнём?

Праз колькі хвілін Мікалай Пятровіч выцягнуў ладнага язя, потым некалькі лінёў. Мне ж чамусьці трапляліся толькі плоткі.

— Вуда ў нашых мясцінах—самая надзейная снасць,—ужо крыху гучней кажа Мікалай Пятровіч.—Я, напрыклад, заўсёды бяру вуды, а Горбач усё са сваім спінінгам не развітаецца. Ведаеш, як намахаешся ім за дзень? А якая гэта рыбалка, калі ты толькі натомішся, а не адпачнеш? Не буду хваліцца, але на вуду заўсёды і ўлоў лепшы...

Сам Мікалай Пятровіч родам з суседняй Ціхаволі. Там жылі яго бацькі. Але ў пачатку вайны фашысты спалілі вёску, а людзей вывезлі ў Германію. Трапіў туды і Субота з братамі. Мікалай Пятровіч некалькі разоў спрабаваў уцячы з нямецкай

няволі, але кожны раз яго лавілі і, збіўшы на горкі яблык, вярталі да баўэра. І ўсё ж яму ўдалося вырвацца. Вайну закончыў у Савецкай Арміі, мае ўзнагароды. Працуе ў родным калгасе. Вывучыў двух сыноў і дзвюх дачок, але яны пакінулі бацькоўскае гняздо.

— Хто яго ведае, чаго ім, маладым, цяпер трэба,—працягвае нашу размову Мікалай Пятровіч.—Здаецца, і ў калгасе людзі зарабляюць някепска, і клуб, і бібліятэка ёсць, а ўсё ж у горад цягне. Зрэшты, іх таксама зразумець можна.

Ён выцягвае ладнага ліня, потым зноў кажа:

— Давайце будзем разважаць так. Цяпер у вёсцы няма пасады—проста калгаснік, а кожны мае нейкую спецыяльнасць. Я не кажу, канечне, пра такіх, як сам, ці яшчэ старэйшых. Мы падсобныя работы выконваем. Перавучваць нас, відаць, позна. А вось маладыя—усе спецыялісты. Ну, а прыходзіць, скажам, выпускнік школы. Што яму прапануюць? Тое ж, што і яго дзеду—вілы. Бо адукацыю ён атрымаў, а вось спецыяльнасці не набыў. А без яе і ў калгасе ён не дужа цяпер патрэбны. Асабліва ў нас, калі і без таго людзей заняць няма чым.

Сапраўды, вельмі проста цяпер чалавеку сесці аднойчы ў аўтобус і паехаць у горад, у невялікі, як Свіслач, ці ў Гродна, Мінск, Маскву. Куды хочаш. І едуць. Хто яго ведае, ці ўсе знаходзяць тое лепшае, што шукаюць, але едуць...

Я гляджу на Мікалая Пятровіча і думаю: не ўсе ж едуць. Дзесяткі, сотні, тысячы юнакоў і дзяўчат жывуць і працуюць у вёсцы. І ехаць нікуды не збіраюцца. Што ж трымае іх? Хата? Прывычка? Родная зямля, блізкія і дарагія сэрцу мясціны? Мусібыць, апошняе—зямля, любоў да яе і да працы на ёй.

Ну, а калі яна пачынаецца, калі яна абуджаецца ў сэрцы чалавека, гэтая любоў? Несумненна, яшчэ ў дзяцінстве, за школьнай партай.

І прыгадалася мне нядаўняя гутарка з дырэктарам Дабравольскай сярэдняй школы Пятром Іванавічам Гаўрылікам. Сам ён вырас у вёсцы, добра ведае сялянскае жыццё. Працуе тут дырэктарам дзесяць гадоў. Многія з яго выпускнікоў ужо закончылі вышэйшыя навучальныя ўстановы, сталі настаўнікамі, урачамі, спецыялістамі сельскай гаспадаркі.

— Вось і сёлета быў чарговы выпуск. А ці шмат выпускнікоў засталося ў калгасе, пытаецеся? Шчыра скажу, не густа: дзесяць чалавек з пяцідзесяці аднаго. А летась яшчэ менш—усяго сем. Я, канечне, не кажу пра тых, хто пайшоў вучыцца... Між іншым, і сёння пануе думка, быццам адгрукай Дом культуры, басейн, стадыён—і моладзь застанецца ў калгасе. А ці так яно на самой справе? Не будзем гаварыць пра наш калгас. Паглядзіце, са славутага калгаса імя Варанецкага Берастовіцкага ці з «Прагрэсу» Гродзенскага раёнаў моладзь таксама імкнецца ў горад. Тут, браце, у іншым прычына. Моладзі перш-наперш патрэбна прафесія і добрая арганізацыя працы. У горадзе ён хутка атрымае якую-небудзь спецыяльнасць, а ў вёсцы? Дык вось, калі мы хочам, каб моладзь вясковая заставалася на зямлі, трэба тут, у вёсцы, стварыць належныя ўмовы і для атрымання прафесіі, і для нармальнай работы.

А што ж на справе атрымліваецца? Стварылі мы, скажам, вучнёўскую вытворчую брыгаду. Менавіта там вучым дзяцей дбайным адносінам да зямлі, даём ім магчымасць адчуць радасць самастойнай працы. Але радасць гэтая нярэдка азмрочваецца цяжкай працай. Вучні бачаць, што на калгасным полі працуюць розныя машыны, а ім усё даводзіцца рабіць уручную. Чамусьці так павялося, што ў школу аддаюць толькі спісаныя трактары і сельскагаспадарчыя машыны. Канечне, няправільна, калі ў школе трактар той папрацуе дзеньдругі і потым стаяць будзе. Значыць, трэба з калгаса яго браць, але працаваць на ім павінны самі вучні—пад наглядам вопытнага механізатара.

Альбо ўзяць, напрыклад, такое.

Звычайна пасля экзаменаў збіраюцца выпускнікі школы. Гаворка ідзе аб тым, хто куды пойдзе вучыцца ці працаваць. Праводзяць такія гутаркі самі настаўнікі, часцей за ўсё дзеля таго толькі, каб потым даць пэўныя звесткі ў райана аб уладкаванні выпускнікоў. Калі многія з іх паступяць у ВНУ—школу пахваляць. А што ніхто не застаўся працаваць у родным калгасе—гэта нікога не хвалюе. Часам і самі кіраўнікі гаспадаркі аб гэтым не турбуюцца, бо лічаць, што ў калгасе можа і невук працаваць, абы здароўе добрае меў. А між тым сённяшнія калгасы—гэта буйныя сельскагаспадарчыя прадпрыемствы з мноствам разнастайнай сучаснай тэхнікі, валодаць якой павінны адукаваныя і кваліфікаваныя спецыялісты...

— Ведаеце,—раптам ажывіўся Мікалай Пятровіч.—У суседняй вёсцы ёсць адна жанчына. Дык яна, кажуць, сваю дачку лупцавала, каб тая ў медінстытут паступала. «Доктарам,—кажа,— ты павінна стаць.— Хіба я цябе дарэмна вучыла дзесяць гадоў?» «Мама, лепш я ў сельскагаспадарчы пайду,—супраціўлялася дачка.—Аграномам буду». А маці сваё: «Не, даражэнькая, толькі доктарам. Гэта і чыста, і гонар-павага табе і бацькам тваім. А аграномам станеш, дык, як і я, усё жыццё ў зямлі будзеш калупацца».

— І што вы думаеце,—перабіў яго Горбач, які нячутна падплыў на сваёй лодцы,—паступіла ў медыцынскі, бо вучылася дзяўчына добра. Здаецца, заканчвае ўжо.

— Доктар, кажаш, будзе? А не аграном... А хто вінаваты?

— Усе пакрысе,—адказаў Горбач.

— Згодзен, Яўген Іванавіч,—сказаў Субота.—Усе мы вінаватыя: і бацькі, і дзеці, і школа. Давайце возьмем школу. Там вучаць, што ўсе прафесіі ганаровыя і пачэсныя. А каго на самай справе героямі выстаўляюць? Толькі спартсменаў ды яшчэ артыстаў... А камсамол, газеты і часопісы? Словам, адным прафесіям уся ўвага і павага, а іншым—ніякай. І атрымліваецца, што адных бацькоў ва ўсім вінаваціць нельга. Несправядліва гэта...

— І ўсё ж выток трэба шукаць у сям'і,—кажу я.—Перш за ўсё самі бацькі павінны навучыць сына ці дачку з дзяцінства паважаць працу хлебароба і любіць зямлю, што ўзгадавала іх, што адкрыла перад імі дарогу ў жыццё.

Бачу, як адразу збянтэжыўся Мікалай Пятровіч, як задрыжала ў яго моцных руках вудзільна.

— Яно, ведама, мы старыя, не вечна будзем жыць,—згадзіўся ён.—А пасля нас нехта ж таксама павінен вырошчваць на гэтай зямлі хлеб.—І сам адказаў:—Канечне, нашы дзеці.

Мікалай Пятровіч сцішыўся, як аб нечым задумаўся. А я сілюся адгадаць яго думкі. Чаму атрымалася так, што і ён не ўтрымаў сваіх дзяцей на зямлі? Хіба не прывучаў іх да работы з маленства, хіба не наказваў шанаваць кавалак хлеба? Не, ён не ўкрыўдзе на іх, яны ў яго не зломкі: працуюць, вучацца. А вось у хаце астаўся бацька адзін, са старою сваёй. І хто вінаваты? Сам жа, вядома. Хіба ж не сам ён, Субота, наказваў дзецям-школьнікам, каб вучыліся добра, калі не хочуць віламі гной варочаць? Ці ж не разам з жонкаю палохалі іх, што будуць хадзіць з пугаю? Выходзіць, перамагла любоў да дзяцей, бацькоўскае жаданне ім лепшай долі, якой, мауляў, ніколі не будуць яны мець на зямлі.

— Развярэдзілі вы маю душу,—раптам кажа Мікалай Пятровіч.—Шчыра скажу: бачу сваю прамашку. Але ці ж я адзін такі?

І, падумаўшы, рашуча дадаў:

— Напішу Косцю—апошняму сваяму, у арміі служыць. Няхай хоць ён дамоў вяртаецца...

Сонечным жнівеньскім ранкам ад'язджаў я з Дабраволі—Канстанцін Піліпавіч ехаў па якойсьці патрэбе ў райцэнтр, і я напрасіўся ў спадарожнікі.

Мінуўшы вёску і выехаўшы газік на гравійку, шафёр быў прыбавіў хуткасці, але Канстанцін Піліпавіч нечакана дакрануўся да яго пляча:

— Стой, павярні, браток, назад. Гэта ж я зусім забыўся паказаць табе яшчэ адну нашу пушчанскую навіну,—павярнуўся ўжо да мяне.

Едзем аж за Ціхаволю, заварочваем на Тушамлю. Неўзабаве дарога прывяла нас у неглыбокі роў на ўзлессі.

Тут, побач з калматай елкай, я ўбачыў тоненькія срабрыстыя струменьчыкі вады, што пульсавалі з глыбіні зямлі. Гэта і быў той прыгажун-фантан, аб якім я ўжо не аднойчы чуў у Дабраволі.

А «стварылі» гэты цуд геолагі. Неяк яны прабілі тут шчыліну, і адтуль забіў вадзяны струмень. Шчыліну геолагі не замуравалі, і вось цяпер фантан стаў упрыгожаннем гэтай мясціны.

— Гэтая крынічка і зімою не замярзае. І вада ў ёй, бачыш, чыстая-чыстая, як ранішняя кропля расы,—гаворыць старшыня.—Ужо тутэйшыя людзі і легенду прыдумалі. Кажуць, хто нап'ецца гэтай вады, той назаўсёды палюбіць наш край. Паспрабуй, якая смачная.



Я з ахвотаю падставіў прыгаршчы пад пругкі вадзяны струмень.

**Свіслач—Гродна.**



● В. ХРАМЦОЎ,
першы сакратар Шумілінскага
райкома партыі
Віцебскай вобласці

# ЭСТАФЕТА ПАКАЛЕННЯЎ

Любяць шумілінцы свой лясны, рачны і азёрны край. Не любіць яго—немагчыма! Ёсць у нас нямала маляўнічых, сапраўды чароўных мясцін, якія назаўжды палоняць сэрца таго, каму хоць раз давялося пабываць тут. Стромае ўзбярэжжа Заходняй Дзвіны, ціхія затокі Абалянкі, стогадовы надвозерны бор ля вёскі Лескавічы—хіба толькі самы чэрствы чалавек застанецца абыякавы да іх дзівоснай, хоць і не надта кідкай красы. А прыдзвінскія плёсы ля Камачына з крышталёва чыстым, драбнюткa-залацістым пяском! У спякотныя дні тут можна напаткаць адпачыванцаў з Полацка, Віцебска, Мінска і нават з Масквы і Ленінграда. А маляўнічыя ваколіцы вёсак Полцева, Чэрчыцаў, Шэдзькаў! Не, што ні кажыце, а прыгажосцю наш куточак роднай зямлі прырода не абдзяліла...

Ды ўсё ж найбольшае наша багацце—людзі. Менавіта яны, змагары і працаўнікі, стварылі і ствараюць славу нашаму краю.

...У пачатку мая 1944 года, у час жорсткіх баёў народных мсціўцаў з фашысцкімі карнікамі, загінуў у суседняй Ушаччыне лепшы сябар майго юнацтва, хлопец з нашай наддзвінскай вёскі Чэрчыцы Сеня Жолудзеў. Тонкая, на дзіва музычная душа была ў хлопца, ды час не спрыяў таму, каб хлапечы дар развіваўся лёгка і натуральна,— пара была яшчэ дакалгасная. Дапамог выпадак. Аднойчы забрыў у вёску вандроўны музыка. Дачуўся Сенька, што той музыка не супраць таго, каб прадаць сваю «хромку», і памчаўся напрасткі, праз куп'істы луг і балацявіну, да далёкай імшары, дзе бацька ўзорваў на нядошлым Гнедым папар. Прыбег, а бацька і слухаць не захацеў—яшчэ пугаю хлопца выцяў. «Бач, гармоніка захацеў, калі столькі гадоў на каня людскага не ўзаб'юцца!» Упаў Сенька на цёплую раллю і заліўся горкімі слязьмі. І памякчэла раптам сэрца старога Івана Жолудзева. Спрабаваў араць, ды штосьці не аралася. Урэшце, выпраг Гнядога, ушчаміў яго ў аглоблі і пагнаў у вёску—хаця б заспець таго вандроўнага музыку. Так неспадзявана займеў Сенька Жолудзеў гармонік, у чатырнаццаць-пятнаццаць гадоў здабыў славу вядомага на ўсю ваколіцу музыкі. Дарослыя хлопцы і мужчыны здароўкаліся з ім паважна, за руку. Без Сенькі не абыходзілася ніводнае вяселле альбо вясковае ігрышча. Ад платы музыка адмаўляўся: лічыў за грэх браць грошы за тое, што прыносіў людзям весялосць.

З адкрытай, светлай душой і чыстым, даверлівым паглядам ішоў па жыцці Сенька Жолудзеў. Такім ён прыйшоў і ў наш партызанскі атрад, дзе неўзабаве стаў незаменным разведчыкам. Туды, дзе было цяжэй, заўжды пасылалі яго. І не было выпадку, каб Жолудзеў вярнуўся, не выканаўшы задання. Аднойчы ён не вярнуўся.

Здарылася тое ў лесе каля вёскі Роўбы на Ушаччыне. Не чакаў Жолудзеў, што насустрач яму сунецца ланцуг карнікаў. А калі ўгледзеў, дык адступаць было позна. Адзіны паратунак—схавацца ў зялёным гушчары лапак. Сеня так і зрабіў: хуценька ўскараскаўся на елку. За першым ланцугом карнікаў ішоў другі. Гэтыя паводзілі сябе смялей—гучна размаўлялі, рагаталі. Ды раптам здрыгануўся разведчык: ворагі вялі пад канвоем групу жанчын і дзяўчат, схопленых, відаць, тут, у лесе. Непадалёк ад Сенькавай схованкі канваіры спыніліся, выстраілі сваіх ахвяр у шарэнгу, пад кулямёты. Аднак выпусціць чаргі з тых кулямётаў фашысты не паспелі: проста пад ногі ім упала партызанская граната. Сеня паспеў яшчэ секануць па карніках са свайго аўтамата...





Не менш дарагая для мяне, як і для многіх маіх землякоў, памяць і аб Любе Бараўковай—таксама разведчыцы з нашага трэцяга партызанскага атрада брыгады імя Леніна. Перад самай вайной Люба скончыла ў Маскве медтэхнікум, прыехала да бацькоў пагасцяваць, але гасцяванне тое аказалася кароткае. У атрадзе дзяўчына была медсястрой. Любілі яе ўсе вельмі. І не толькі за тое, што ўмела ласкава суцішыць боль, дапамагчы параненым, але і за мужнасць, бясстрашша. У дні баёў з акупантамі Люба брала ў рукі аўтамат, і кулі яе былі на дзіва трапныя. Найбольшае ж захапленне сваіх баявых сяброў-таварышаў выклікала Люба-разведчыца. Дзе хітрасцю, а дзе веданнем нямецкай мовы яна ўводзіла ў зман ворагаў, трапляла ў фашысцкія гарнізоны і прыносіла адтуль каштоўныя звесткі.

Загінула Люба Бараўкова вясною 1944 года непадалёк ад чыгуначнай станцыі Пагост, у час крывавых блакадных баёў...

Імёны камсамольцаў Любы Бараўковай і Сені Жолудзева вядомыя, бадай, толькі на Шумілiншчыне. Што ж, такіх герояў у гады Вялікай Айчыннай наша беларуская зямля нарадзіла нямала. Многія з іх і да гэтага часу застаюцца безыменнымі, і абавязак нас, жывых,—зрабіць усё для таго, каб імёны іх сталі вядомыя. Ды наш край мае і такіх герояў, слава пра якіх пайшла далёка па свеце. Хто не ведае сёння Обальскага музея камсамольскай славы? Адусюль—з гарадоў і вёсак Беларусі, з Масквы, Ленінграда, Пскова, Невеля, з Эстоніі, Латвіі, Літвы, з Узбекістана і Грузіі, з Поўначы і Сібіры, з Польшчы, ГДР, Чэхаславакіі, Балгарыі і іншых краін—прыязджаюць сюды, на бераг Абалянкі, тысячы экскурсантаў і турыстаў, каб бліжэй пазнаёміцца з гераічнай барацьбой обальскіх маладагвардзейцаў, членаў падпольнай камсамольскай арганізацыі «Юныя мсціўцы», былых вучняў і выпускнікоў Обальскай сярэдняй школы, якая зараз носіць імя Героя Савецкага Саюза Зіны Партновай. Кіруе музеем Нэла Азоліна—сястра юнай камсамолкі-падпольшчыцы Ніны Азолінай. Наведвальнікаў экскурсаводы знаёмяць перш за ўсё з картай баявых дзеянняў юных мсціўцаў. Вось вёска Зуі, куды незадоўга да пачатку вайны прыехала на летнія канікулы да бабулі ленінградская школьніца Зіна Партнова. Тут былі першыя явачныя кватэры юных падпольшчыкаў. Асобным значком пазначана на карце тое месца на беразе Абалянкі, дзе калісьці стаяла вадакачка. Ніна Азоліна, рызыкуючы жыццём, падкінула ў вугаль міну. Вадакачка ўзляцела ў паветра. Зіна Лузгіна з дапамогай сяброўак спаліла электрастанцыю. Быў знішчаны таксама льнозавод, узарвана машыннае аддзяленне цагельні. Уладкаваўшыся пуцявым рабочым, камсамолец-падпольшчык Коля Аляксееў неаднойчы наладжваў на чыгунцы дыверсіі. Валодзя Езавітаў знішчыў буйнага фашысцкага военачальніка, падклаўшы міну ў яго легкавік.

Тут, у музеі, сённяшнія школьнікі, юныя і дарослыя наведвальнікі сустракаюцца з членамі падпольнай арганізацыі «Юныя мсціўцы», што засталіся жывыя,—з Героем Савецкага Саюза Ефрасінняй Зяньковай, Аркадзем Барбашовым, з былым камісарам партызанскага атрада імя Варашылава Барысам Маркіянавым, з бацькамі і сваякамі юных патрыётаў.

Не толькі ў Обалі—у кожнай вёсцы раёна ёсць рэліквіі баявых спраў нашых слаўных землякоў. Мемарыяльныя дошкі на будынку сярэдняй школы ў Шуміліне сведчаць, што тут вучыліся ў свой час Героі Савецкага Саюза Дзмітры Міхайлавіч Мінчугоў і Пётр Антонавіч Акуцыёнак. У Кнігу славы раёна занесены імёны многіх іншых землякоў—Герояў Савецкага Саюза, а таксама імёны гераічных сыноў іншых народаў, якія загінулі за вызваленне нашай зямлі ад нямецка-фашысцкіх акупантаў...

Хай даруе чытач, што я занадта захапіўся ўспамінамі. Не прыгадаць імёнаў Любы Бараўковай і Сені Жолудзева, імёнаў юных мсціўцаў з Обаля я проста не мог. Па-першае, таму, што, згадваючы іх, я згадваю і сваё ўласнае юнацтва, сваю ўласную партызанскую маладосць, згадваю цяжкі і гераічны час, які пакінуў след у нашых душах на ўсё жыццё. А, па-другое, таму, што калі я гляджу на цяперашніх камсамольцаў, на сённяшнюю нашу моладзь, дык лаўлю сябе на думцы, што гляджу на яе не толькі сваімі ўласнымі вачыма, але і вачыма жывых і загінуўшых сяброў свайго юнацтва, вачыма тых жа Сені Жолудзева і Любы Бараўковай.

На долю майго пакалення выпалі суровыя выпрабаванні. Многім маім аднагодкам адразу ж са школьнай парты давялося сутыкнуцца з неймавернымі цяжкасцямі, бачыць кроў, слёзы і пакуты нашых людзей. І памяць загінуўшых сяброў змушае мяне, калі можна так сказаць, больш цвяроза глядзець на сучасную моладзь, ставіцца да яе з большай патрабавальнасцю. На гэта ў нас, ветэранаў, ёсць, відаць, права.

Я люблю сустракацца з моладдзю. Заўсёды, калі еду ў калгас ці саўгас, на якое-небудзь прадпрыемства раёна, прыглядаюся да юнакоў і дзяўчат, стараюся вызнаць іх запатрабаванні і пажаданні, выслухаць іх заўвагі, пазнаёміцца з іхнімі працоўнымі і грамадскімі поспехамі, даведацца пра тое, што часам перашкаджае ім як след працаваць, вучыцца, адпачываць. Моладзь нашу—кажу гэта без пахвальбы—я ведаю. І не падзяляю думкі некаторых скептыкаў, якія бурчаць, што нібы-

та сённяшнія юнакі і дзяўчаты «нейкія не такія». Што ж, яны сапраўды не такія, якімі, напрыклад, былі мы, юнакі і дзяўчаты пакалення трыццатых гадоў. Яны больш адукаваныя, яны лепш і прыгажэй за нас апранутыя, яны маюць больш магчымасцяў для вучобы і адпачынку, для праяўлення сваіх здольнасцяў. Дык хіба за тое іх папракаць? Усяму гэтаму можна толькі радавацца. Праўда, скептыкі пагаворваюць, што сённяшняя моладзь нібыта нейкая інертная, абыякавая, занадта рацыяналістычная і г. д. Што можна сказаць на гэта? У сям'і, як кажуць, не без вырадка. Сапраўды, асобныя маладыя людзі даюць падставы для такіх разваг ці меркаванняў. Але пры чым тут уся моладзь?

Вось некалькі штрыхоў да жыццёвых і працоўных біяграфій некаторых камсамольскіх важакоў нашага раёна. Але спачатку, дарагі чытач, дазволь зноў зрабіць невялікае адступленне.

У 1944 годзе ад нашых даваенных МТС, калгасаў і саўгасаў, прамысловых прадпрыемстваў, устаноў культуры засталіся хіба толькі адны назвы. А сёння? Сёння машынна-трактарнаму парку кожнага нашага калгаса ці саўгаса пазайздросціла б любая колішняя МТС. Новыя школы, бальніцы, клубы і дамы культуры, капітальныя гаспадарчыя будынкі, тыпавыя жывёлагадоўчыя комплексы, добраўпарадкаваныя вёскі і пасёлкі—вось што вызначае цяпер аблічча раёна. І сённяшнія нашы школьнікі, камсамольцы, усе юнакі і дзяўчаты з'яўляюцца нашчадкамі не толькі гераічнай баявой славы, але і вялікіх працоўных здзяйсненняў сваіх бацькоў, старэйшых братоў і сясцёр. Сёння самыя аўтарытэтныя людзі ў раёне—цялятніца калгаса імя Леніна Герой Сацыялістычнай Працы Соф'я Тарасаўна Пальвінская, рэкардсмен раёна па надоях малака ў 1972 годзе даяр калгаса імя Леніна Мікалай Якаўлевіч Чаплеў, свінарка з гэтага ж калгаса Еўдакія Пятроўна Кавалёва, Герой Сацыялістычнай Працы машыніст торфабрыкетнага завода «Дабееўскі Мох» Міхаіл Барысавіч Кандраценка, свінар калгаса «Праўда» Рыгор Фёдаравіч Асіпкоў, трактарыст саўгаса «Лаўжанскі» Ягор Сцяпанавіч Аліпаў, звенявая па вырошчванні льну з калгаса «Дзвіна» Леангіна Аляксандраўна Сіпко, даярка саўгаса «Мішневічы» Ніна Сідараўна Канстанцінава, машыніст-экскаватаршчык ПМК-2 Іван Ягоравіч Апоркін, шафёр райаб'яднання «Сельгастэхніка» Хведар Цімафеевіч Калядзёнак і многія-многія іншыя нястомныя працаўнікі.

Менавіта ў атмасферы ўсеагульнай павагі да ветэранаў вайны і працы, на прыкладах іх гераічнага жыцця мы імкнёмся выхоўваць моладзь, прывіваць юнакам і дзяўчатам пачуццё адказнасці за даручаную справу.

Загадчыца сельскай бібліятэкі ў вёсцы Дабея Люба Варанцова адначасова з'яўляецца і сакратаром камсамольскай арганізацыі калгаса «Іскра». Няўрымслівасці, ініцыятывы ёй не пазычаць. Яна душой хварэе за грамадскую справу. Да меркаванняў і заўваг камсамольскага сакратара прыслухоўваюцца і члены партбюро, і члены праўлення калгаса. Па яе ініцыятыве, напрыклад, вечар у гонар 55-й гадавіны Савецкай Арміі і Ваенна-Марскога Флоту пачаўся ў калгасе з ускладання вянкоў на брацкую магілу савецкіх воінаў і партызанаў. Разам са сваімі сябрамі-камсамольцамі Люба Варанцова рыхтуе сустрэчы з шэфамі калгаса—навучэнцамі і выкладчыкамі Віцебскага ГПТВ будаўнікоў, афармляе «баявыя лісткі» і «маланкі» ў гонар перадавікоў вытворчасці, забяспечвае чырвоны куток на малочнатаварнай ферме свежымі газетамі, часопісамі, мастацкай літаратурай, рыхтуе і праводзіць з жывёлаводамі гутаркі і вечары адпачынку. Дзяўчына ўжо шмат гадоў актыўны карэспандэнт раённай газеты.

Нядаўна Люба Варанцова зайшла ў кабінет старшыні выканкома сельскага савета У. Півульскага і прапанавала ўстанавіць перад будынкам спецыяльнае абсталяванне, каб можна было падымаць сцяг у гонар пераможцаў спаборніцтва трэцяга, рашаючага года пяцігодкі.

— Што з таго, што сцягі падымаюцца на цэнтральных сядзібах гаспадарак?—гаварыла дзяўчына.— Гэта ж столькі народу бывае ў сельсавеце штодня! Няхай людзі глядзяць, няхай ведаюць, каго і за што сёння славяць у нас!

Прапанову камсамольскага сакратара, вядома ж, ухвалілі.

Такіх, як Люба Варанцова—маладых і няўрымслівых, прагных да ведаў і грамадскай работы,—у нас дзесяткі і сотні. У кожнага з іх—свой характар, свае інтарэсы, свае думы і мары. Але ўсіх іх аб'ядноўвае адна рыса: мэтанакіраванае, сур'ёзнае і ўдумлівае стаўленне да выканання сваіх працоўных і грамадскіх абавязкаў, цяга да работы з людзьмі.

Вось Аляксей Карпенка—сакратар камсамольскай арганізацыі міжкалгасбуда, кандыдат у члены КПСС. Яму—дваццаць тры гады, і сваю аўтабіяграфію Аляксей умяшчае ў дзесятак-другі слоў. А між тым хлопец паспеў зрабіць нямала. Ён паспяхова скончыў індустрыяльны тэхнікум, працаваў на заводзе, служыў у Савецкай Арміі, дзе быў выдатнікам баявой і палітычнай падрыхтоўкі. Пасля дэмабілізацыі вярнуўся ў родныя мясціны, уладкаваўся электрамантажнікам у Шумілінскую міжкалгасную будаўнічую арганізацыю. Добры спецыяліст сваёй справы, старанны працаўнік, цудоўны таварыш—такім ён зарэкамендаваў сябе ў калектыве будаўнікоў. У чэрвені 1971 года Аляксея Карпенку перавялі на пасаду тэхніка-энергетыка міжкалгасбуда, праз год камуністы пярвічнай партарганізацыі прынялі яго кандыдатам у члены КПСС, з восені мінулага года Аляксей—сакратар камсамольскай арганізацыі. Тэхнік-энергетык Карпенка разам са сваімі электрыкамі забяспечвае бесперапынную работу дзесяткаў электраматораў, машын і механізмаў з электрычным прывадам. Малады спецыяліст карыстаецца павагай сярод старэйшых рабочых. Нездарма рэкамендацыю для паступлення ў партыю першым даў яму старэйшы камуніст МБА прараб Г. Сідараў.

Камсамольскі камітэт—баявы памочнік партыйнай арганізацыі міжкалгасбуда. У пачатку гэтага года камсамольцы выступілі ініцыятарамі сацыялістычнага спаборніцтва за павышэнне прадукцыйнасці працы, за беражлівасць, за эканомію будаўнічых і гаруча-змазачных матэрыялаў. Амаль усе члены ВЛКСМ займаюцца ў гуртку камсамольскай палітасветы, многія вучацца ў школе рабочай моладзі, павышаюць сваю кваліфікацыю.

У Аляксея Карпенкі—шмат сяброў і памочнікаў: маладыя муляры Валеры Бесарабскі і Васіль Масько, галоўны механік міжкалгасбуда Анатоль Лялюга. Біяграфія Анатоля вельмі нагадвае біяграфію Аляксея. Зусім яшчэ нядаўна Лялюга працаваў у МБА шафёрам. Завочна вучыўся ў аўтадарожным тэхнікуме. Пасля заканчэння тэхнікума Анатолю прапанавалі пасаду тэхніка-механіка. З работай хлопец спраўляўся выдатна, і яго вылучылі на пасаду галоўнага механіка. Ён адначасова з Карпенкам стаў кандыдатам у члены КПСС. Разам яны кіруюць і камсамольскімі справамі ў калектыве будаўнікоў: Анатоль—намеснік сакратара камсамольскай арганізацыі. Сябры разам рыхтуюцца да паступлення ў інстытут.

Малады камуніст Ала Нямцова працуе галоўным аграномам у саўгасе «Каз'яны». Поле для яе і жывая лабараторыя, і месца для практычнага прымянення ведаў, для здзяйснення творчых планаў і задум. Саўгас створаны толькі два гады назад—на базе некалькіх эканамічна слабых калгасаў. Нямала цяжкасцяў, нявырашаных праблем стаіць яшчэ перад гаспадаркай. І малады аграном самааддана і натхнёна працуе з брыгадзірамі, механізатарамі, паляводамі, умела накіроўваючы іх намаганні на атрыманне высокіх ураджаяў. Шчырай радасцю, захапленнем свецяцца вочы агранома, калі яна аглядае дружныя ўсходы бульбы, калі праходзіць уздоўж шырокага жытняга палетку.

Ала Нямцова—член парткома саўгаса, яна адказная за стан публічнасці, дзейснасці сацыялістычнага спаборніцтва ў калектыве, вядзе актыўную агітмасавую работу сярод камсамольцаў і моладзі вёскі.

Дарэчы, камітэт камсамола ў саўгасе «Каз'яны» ўзначальвае таксама малады камуніст, дваццаціпяцігадовы Віктар Ніканаў. Скончыўшы некалькі гадоў назад Бігосаўскі зооветтэхнікум, юнак не спыніўся на дасягнутым: Віктар завочна вучыцца на трэцім курсе Віцебскага ветэрынарнага інстытута.

Аўтарытэтнымі людзьмі ў саўгасе паспелі стаць камсамольцы трактарыст Пятро Ануфрыеў, даярка Наташа Якаўлева, цялятніца Каця Мацюшкова, шафёры Віктар Дарафееў і Мікола Гаўрылаў і многія іншыя хлопцы і дзяўчаты. Аўтарытэт гэты здабыты, вядома ж, іх сумленнай, старраннай працай...

Сённяшняя моладзь нарадзілася, вырасла, выходзіць на шырокія прасторы жыцця пад мірным небам Радзімы. Сваю героіку яна бачыць у напружанай вучобе, у мірнай стваральнай працы, у змаганні за светлыя камуністычныя ідэалы. І гэтыя свае нататкі мне хочацца закончыць радкамі з пісьма маладога салдата, былога вучня Шумілінскай сярэдняй школы імя Пятра Акуцыёнка Міколы Коюшава, якое ён прыслаў заслужанай настаўніцы БССР Соф'і Рыгораўне Ерашовай: «Дарагая Соф'я Рыгораўна! Мне вельмі пашанцавала. У адной часці са мной служаць Коля, Віця, Саша і яшчэ некалькі хлопцаў з нашага «А» класа. Усе хлопцы—выдатнікі баявой і палітычнай падрыхтоўкі. У мінулым месяцы мне таксама прысвоена званне выдатніка Савецкай Арміі. А зусім нядаўна я на «выдатна» здаў экзамен па спецыяльнай падрыхтоўцы і стаў класным спецыялістам. У вольныя ад службы хвіліны мы, былыя вашы вучні, збіраемся разам і ўспамінаем нашу першую настаўніцу. Цяпер, калі зроблены першыя крокі ў самастойнае жыццё, мы зразумелі, як шмат мы абавязаны сваім настаўнікам, піянерскай арганізацыі, школьнаму камсамолу. Яны навучылі нас любіць сваю Радзіму, свой народ, быць настойлівымі ў вучобе і працы, любіць і берагчы ўсё цудоўнае на Зямлі. Прыйшоў час, калі Радзіма паклікала нас у салдацкі строй. Яна ўручыла нам магутную зброю, складанейшую тэхніку, першакласныя машыны. Ідучы ў салдацкім страі, кожны з нас успамінае сваю першую настаўніцу... Абяцаем, што мы будзем і надалей прыкладнымі «хлопчыкамі». Вам ніколі не будзе сорамна за нас. Заўсёды і ўсюды мы будзем паводзіць сябе так, як вучылі нас у школе...»

Так што нашым малодшым таварышам можна давяраць, можна на іх спадзявацца.

■ ■ ■



Самуіл ЛЕВІХ. Архітэктурны матыў.



Уладзімір ТАМАШЭВІЧ. Атракцыён.

# ФАТАГРАФІЧНЫЯ ГРАВЮРЫ МІНЧАН

Кожны чацвер у фотаклубе «Мінск» сустракаюцца людзі розных прафесій і ўзростаў, каб абмеркаваць праблемы аматарскай фатаграфіі, праглядзець здымкі сваіх калег, пераняць вопыт майстроў-прафесіяналаў. Апошнім часам усе члены клуба заняты падрыхтоўкай да Усесаюзнай міжклубнай выстаўкі «Фотаграфіка-73».

Здымкі мінскіх аматараў, якія наша рэдакцыя адабрала на адным з мінулых чацвяргоў і якія надрукаваны на гэтых старонках,— анонс да выстаўкі, якая мае адбыцца ў Мінску ў кастрычніку гэтага года.



Уладзімір НЯХАЙЧЫК. Парніковае поле.



Самуіл ЛЕВІХ. Перад навальніцай.



Георгі МЕНШЫКАЎ. Рыбацкі ранак.

ня яго жыццёвага ўзроўню. Рэвалюцыя нацыяналізавала замежныя банкі, кампаніі, адмяніла і сімвалічна пахавала назаўсёды племянныя тытулы, прывілеі, бяспраўнае становішча жанчын і моладзі. Яна паслала ў Краіну Саветаў такіх, як Абдзі, авалодваць навукай, каб будаваць новае жыццё.

— Нас там вельмі чакаюць,—у роздуме гаворыць Абдзі.—Маёй краіне патрэбна многа спецыялістаў, людзей пісьменных, каб будаваць жыццё на новы лад. У Самалі вы сваімі вачыма ўбачыце працоўны энтузіязм нашага народа, які ўсім сэрцам успрыняў рэвалюцыю.

Я развітаўся з Абдзі, і мне раптам здалося, што далёкая Самалі стала для мяне бліжэй.

## МАГАДЫША, ВУЛІЦА ЛЕНІНА

Магадыша—сталіца Самалійскай Дэмакратычнай Рэспублікі. Восем тысяч кіламетраў пераадолелі мы амаль за суткі палёту. Былі кароткія прыпынкі і кароткі адпачынак у Каіры, Адэне і Хадэйдзе, дзе мы знаходзілі такі-сякі ратунак ад нясцерпнага афрыканскага сонца пад крылом нашага самалёта. Але з усяго гэтага стракатага, нязвыклага для нас калейдаскопа асабліва запаў у памяць дзіўны па сваім чыста афрыканскім каларыце трапічны досвітак.

Наш «ІЛ-18» маленькай кропкай плыве ў начным афрыканскім небе. Мы толькі што падняліся з каірскага аэрапорта, і руплівая сцюардэса, якая, пэўна, не першы раз суправаджае пасажыраў да Магадыша, раптоўна выключыла ў салонах святло і прапанавала падзівіцца на афрыканскі світанак. Відовішча сапраўды незвычайна прыгожае і захапляючае. Над дымчатай каронай зямлі нечакана ўспыхнула безліччу дзівосных фарбаў вясёлка, і ўвесь паўднёвы гарызонт расплыўся ў светла-ружовай пазалоце. Рознакаляровыя жывыя зайчыкі замільгацелі на крылах самалёта, на ілюмінатарах і на тварах пасажыраў. Ружовы гарызонт, які палоніць нас хвіліну-другую, гэтак жа нечакана расплываецца ў светлым небасхіле—над Афрыкай узнімалася вялікае чырвонае сонца: у тропіках світанне, як і вечар, нараджаецца хутка, увачавідкі, саступаючы месца духоткай і спякотнай раніцы.

...Магадыша вынырнуў з-пад крыла самалёта раптоўна. Спачатку праплылі срэбранымі палоскамі хвалі Індыйскага акіяна, прамільгнулі акаймаваныя зелянінай берагі ракі Вебі-Шэбелі—і вось ужо закружыліся пад намі вастраверхія шпілі мячэцяў, невысокія прыземістыя домікі, круглыя, нібыта стажкі сена, глінабітныя хаціны, што густа абляпілі самалійскую сталіцу, сучасны будынак аэрапорта.

Раскінуўшы ўздоўж узбярэжжа Індыйскага акіяна свае двухпавярховыя і аднапавярховыя будынкі, Магадыша з першых гадоў свайго ўзнікнення (гораду ўжо звыш дзесяці стагоддзяў) стаў адным з буйнейшых гандлёвых гарадоў у Паўночна-Усходняй Афрыцы. Пра мінулае і сучаснае сваёй сталіцы нам ахвотна расказаў дырэктар нядаўна адкрытага Нацыянальнага музея Саід, дарэчы, выпускнік Ленінградскага ўніверсітэта.

Арабы-самалійцы ажыўлена гандлявалі з грэкамі і егіпцянамі, персамі і індусамі, прадавалі ім усё, чым былі багаты—жывёлу, шкуры, ладан. Сюды нават заходзіў у свой час вядомы рускі купец і падарожнік Афанасій Нікіцін. А вось самалійцы-гандляры рэдка пакідалі свой акіянскі бераг, які працягнуўся ўздоўж краіны амаль на тры тысячы кіламетраў,—не мелі свайго флоту. Дарэчы, і сёння краіна яшчэ не мае сучаснага гандлёвага флоту, нават кабатажнага, гэтак жа, як не мае і сваёй чыгункі. Мы разумеем Саіда: усё гэта—спадчына каланіялізму і расізму.

У знешнім вобліку Магадыша мала чаго змянілася за многія-многія гады. У яго забудове—адбітак самых розных архітэктурных стыляў. Побач з каталіцкім саборам, узведзеным некалі італьянцамі, мірна ўжываецца вастраверхая мячэць, з якой і днём і ноччу плыве ў наваколле голас мусульманскага мулы: «Алай-лай-лай». У цэнтры горада—бары, кафэ, нацыяналізаваныя рэвалюцыяй замежныя банкі. А на ўскраінах—запыленыя падслепаватыя хаціны з гліны, дошак, пальмавых лісцяў. І ў цэнтры горада, і на яго ўскраінах снуюць «Волгі» і «кадзілакі», «фіяты» і «масквічы», а між імі—наўючаныя і запрэжаныя ў двухколкі вослікі, крыклівыя гандляры-саматужнікі, што назойліва прапануюць розныя фігуркі, маскі, выразаныя з дрэва, стравусавыя яйкі—сімвал сямейнай вернасці, іншую драбязу. Нейк наш гід і пастаянны спадарожнік па самалійскай зямлі, неўтаймоўны субяседнік і жартаўнік Ібрагім заўважыў:

— Толькі не падумайце адразу купляць што-небудзь... Самалійцы любяць патаргавацца, паспрачацца. Гэта для іх і прыемна, і, можна сказаць, традыцыйна: спярша заламаць цану ў пяць разоў большую, а потым распачаць гандаль. Разоў дзесяць пастукаць цябе па плячы, увесь час не хаваючы белазубай усмешкі, каб пасля аддаць тое ж стравусавае яйка за названую табой цану.

Але гэта, як кажуць, Магадыша з першага позірку. Калі ж глыбей унікнеш у сучаснае жыццё Самалі, пагутарыш з людзьмі, нельга не адчуць свежага ветру, які ўладарна дзьме над гэтай афрыканскай краінай.

Сябры з Магадыша прапанавалі савецкай дэлегацыі шматлікія сустрэчы з моладдзю горада, кіраўнікамі цэнтра прафесійнай арыентацыі, журналістамі, раілі наведаць універсітэт, школы, пабываць у правінцыі... Мы не адмаўляліся ад гэтых прапаноў. Было многа цікавых паездак, сустрэч, адкрытых, шчырых гутарак, часам спрэчак—пра ўсё нават цяжка расказаць. Нам было прыемна ўсведамляць, што самалійцы цікавяцца жыццём моладзі ў савецкай краіне, задачамі, якія вырашае камсамол. Мы былі, прызнаюся, нават здзіўлены, што яны ўжо многае ведаюць з таго, пра што мы ім гаварылі...

Ідзём на сустрэчу з кіраўнікамі бюро па сувязях з грамадскасцю пры Вярхоўным рэвалюцыйным савеце Самалійскай Дэмакратычнай Рэспублікі. Ідзём па вуліцы Леніна. Гэта адна з цэнтральных вуліц сталіцы, якой было прысвоена імя правадыра ў тыя ўрачыстыя дні, калі ўсе прагрэсіўныя людзі планеты святкавалі стогадовы юбілей з дня нараджэння Ільіча.

У невялікім зашторaным пакоі пры мяккім святле сустрэліся з прадстаўнікамі бюро, якое ўзначальвае Махамед Амар—адзін з членаў Вярхоўнага рэвалюцыйнага савета краіны. Мы—гэта Анатоль Злотнікаў, першы сакратар Усць-Каменагорскага абкома камсамола, адзін з кіраўнікоў дэлегацыі, два супрацоўнікі савецкага пасольства ў Самалі і перакладчыца Ніна Кузняцова з Куйбышава.

Махамед Амар з першых хвілін сустрэчы зрабіў на нас надзвычай добрае ўражанне. Ва ўсёй яго манеры трымацца проста і натуральна, гаварыць прама і шчыра ўгадваўся чалавек удумлівы, разважлівы, які ведае сваю краіну, яе гісторыю, свой народ. Амар перш-наперш прыгадаў візіт прэзідэнта Махамеда Сіад Барэ ў нашу краіну і напомніў яго словы, што сталі сёння ў Самалі крылатымі: «Самалійскі народ выбраў шлях будаўніцтва сацыялізму, таму што менавіта ён з'яўляецца сістэмай, якая заснавана на сапраўднай справядлівасці і роўнасці».

Амар спакваля, нібы абдумваючы кожнае слова, расказваў пра тое, што зроблена ўжо для сацыяльнага прагрэсу краіны і народа, не забываючыся, вядома, напомніць і пра цяжкасці, што стаяць сёння перад самалійскай рэспублікай. А цяжкасці і сапраўды вялікія. У спадчыну маладой рэспубліцы засталося амаль 90 працэнтаў непісьменных, адсутнасць сваёй пісьмовай мовы, вялікая колькасць—трэць насельніцтва—вандроўнікаў-жывёлаводаў.



Юныя самалійкі.

Ажыццяўленне планаў будаўніцтва новага жыцця адбываецца ў складаных абставінах. Контррэвалюцыянеры, рэакцыйная групоўка мусульманскага духавенства, вядома, не без дапамогі сваіх замежных прыхільнікаў, спрабуюць сеяць усялякага роду сумненні, ідуць на прамы шантаж, правакацыі, дыверсіі. Напярэдадні святкавання гадавіны рэспублікі яны падпалілі ў Магадыша дзве цэнтральныя гасцініцы—«Джубу» і «Шэбелі».

Пасля рэвалюцыі ў Самалі сапраўды зроблена ўжо многае: паспяхова выконваецца трохгадовы план гаспадарчага развіцця, пабудавана каля пяцідзесяці школ і медыцынскіх устаноў, у глухой паўпустыні пракладзена звыш пяцісот кіламетраў аўтатрасы, якая злучыць сталіцу з паўночнымі раёнамі, створаны многія дзяржаўныя і кааператыўныя гаспадаркі. Ва ўсім гэтым ёсць значная доля братняй дапамогі і падтрымкі Савецкага Саюза, у якім, як сказаў прэзідэнт Махамед Сіад Барэ, «самалійцы заўжды знаходзілі... блізкага саюзніка і шчырага сябра».

Нам даводзілася часта сустракацца з нашымі інжынерамі, спецыялістамі, урачамі, настаўнікамі, якія поплеч з самалійскімі сябрамі шчыра і бескарысліва працуюць кожны на сваім участку. Менавіта з іх дапамогаю, з дапамогаю нашай тэхнікі і абсталявання за кароткі час былі пабудаваны малочны завод у Магадыша, порт Бербера, мясакамбінат у Кісмаі, рыбакансервавы завод у Лас-Хора, радыёстанцыя, дзве бальніцы і іншыя прамысловыя, сельскагаспадарчыя прадпрыемствы і ўстановы.

Спрадвечнай праблемай для Сама-



На дарогах Самалі.

● Васіль ХОРСУН

# ЗА ДВА КРОКІ ДА ЭКВАТАРА

## АФРЫКА Ў МІНСКУ

Мы ляцім у Афрыку. Мы—гэта група савецкіх юнакоў і дзяўчат, якіх пасылае на афрыканскі кантынент—у Самалі і Эфіопію—Бюро міжнароднага маладзёжнага турызму «Спадарожнік» ЦК ВЛКСМ. Мэта гэтай першай паездкі нашай маладзёжнай дэлегацыі ў краіны Паўночна-Усходняй Афрыкі—пазнаёміцца з жыццём, працай і побытам маладых самалійцаў і эфіопаў, расказаць ім пра тое, што робяць і аб чым мараць савецкія юнакі і дзяўчаты, пра ролю і задачы Ленінскага камсамола ў выхаванні падрастаючай змены...

Як звычайна, перад далёкай невядомай дарогай—мітусня і спешка. Трэба было падумаць і пра дарожныя рэчы, і пра іншыя дробязі. Дарожных пажаданняў і папярэджанняў—толькі паспявай запамінаць: абавязкова захапіце што-небудзь лёгкае і светлае, не забудзьцеся пра лякарствы, пра муху цэцэ, будзьце ўважлівыя да ежы—гэта ж тропікі...

Забягаючы наперад, скажу, што і ежа была нам да спадобы, і не заўжды была саракапяціградусная спякота, каб насіць на галаве белыя каптуры, і тыгра мы нідзе не сустракалі, бо гэты драпежнік наогул не водзіцца ў Афрыцы. Не бачылі мы і мухі цэцэ. Праўда, афрыканскія сябры неаднойчы расказвалі нам пра яе, пра велізарную шкоду, якую прыносіла яна жывёлагадоўлі, і пра тое, што цяпер цэцэ ў шэрагу афрыканскіх краін амаль знішчана.

Маімі першымі гідамі па афрыканскіх краінах былі даведнікі, кнігі, нататкі падарожнікаў. Але ў Афрыцы адбываюцца такія велізарныя змены, што многія даведнікі, нават артыкулы ў перыядычных выданнях, хутка старэюць.

Мне ўспамінаецца цікавы па сваёй архітэктуры Дом Афрыкі, збудаваны з бетону, шкла і металу на адным з пагоркаў сталіцы Эфіопіі Адыс-Абебы, а на фасадзе яго—глыбока сімвалічны трыпціх таленавітага эфіопскага мастака Афаверка Тэкле. Гэты яркі, змястоўны твор адразу прыкоўвае ўвагу кожнага, хто ўзыходзіць на лесвіцу Дома Афрыкі. Кінеш позірк—і цябе палоняць яскрава ўвасобленыя ў малюнку лёс, барацьба, спадзяванні і перамога Чорнага кантынента: Афрыкі ў ланцугах рабства і Афрыкі, якая скінула з сябе ярмо каланіялізму і расізму.

Так, на гэтым другім па велічыні мацерыку зямнога шара ўжо вельмі мала засталося тых цёмных плям, якія спрадвеку атаясамліваліся з такімі страшнымі словамі, як каланіялізм і расізм, галеча, голад і смерць. Над Домам Афрыкі ў бяздоннай сінечы неба развяваецца звыш саракa сцягоў краін Чорнага кантыненту, якія дабіліся свабоды і незалежнасці. І між іх—сцяг Самалійскай Дэмакратычнай Рэспублікі, светла-блакітны, як неба Афрыкі, з белай пяцікутнай зоркай, сцяг невялікай па сваім памеры краіны на «афрыканскім розе», краіны з трохмільённым насельніцтвам і цяжкай спадчынай мінулага.

Перад паездкай у Самалі ў мяне ўзнікла думка: а мо ў якой з ВНУ беларускай сталіцы вучыцца хто-небудзь з юнакоў і дзяўчат гэтай афрыканскай краіны? Хіба ж не цікава перад сустрэчай з Самалі глянуць на яе спярша вачыма самалійца? Званок у БДУ імя У. І. Леніна абнадзеіў: ёсць, вядома,— Абдзі Фарахам. Крыху больш за паўгода назад Абдзі з групай маладых самалійцаў прыехаў у нашу краіну, каб стаць высокакваліфікаваным спецыялістам. Некаторыя з яго сяброў засталіся вучыцца ў Маскве, паехалі ў ВНУ іншых гарадоў, а Фарахам выбраў сталіцу Беларусі.

На самалійскай зямлі мне давялося сустрэцца з многімі аднагодкамі Абдзі, якіх аднолькава радніла сціпласць і прага да ведаў, непакой за лёс сваёй краіны і яе людзей. Усе яны з дзяцінства спазналі, усім сэрцам адчулі, што такое каланіялізм, расавая несправядлівасць і іх адвечныя спадарожнікі—галеча, малярыя, туберкулёз... Рабавалі краіну імперыялісты розных масцей. Прыйшлі рабаўнікі з Апенінскага паўвострава, адхапілі ладны абшар зямлі, устанавілі свой пратэктарат і назвалі родны край Абдзі Самалі Італьянскім. Англічане гэтак жа не ўпусцілі магчымасці адхапіць для сябе львіную долю на «самалійскім розе» і прыклеілі новай калоніі свой ярлык. Французы адхапілі сабе паўночны захад краіны і назвалі яе Французскім Берагам Самалі. На тры часткі падзялілі каланізатары краіну, разарвалі народы, нават плямёны. Яны рабавалі і вывозілі ўсё, што можна было прадаць на еўрапейскім рынку ў дваццаць, а то і ў паўсотні разоў даражэй: бананы, гэтае «зялёнае золата» Самалі, жывёлу, шкуры... Усё, што давала каланізатару прыбытак, памнажала яго капітал...

Я слухаю нетаропкую гамонку Абдзі—у яго жывыя цікаўныя вочы, лёгкі загар твару шакаладнага колеру, чорныя кучаравыя валасы—і міжволі захапляюся ім.

Абдзі памятае той чэрвень шасцідзесятага года, калі пад рэвалюцыйным наступам народа былі вымушаны пакінуць «свае калоніі» італьянскія і англійскія каланізатары і над яго радзімай, шматпакутнай і змардаванай, узняўся сцяг незалежнай Самалійскай Рэспублікі. Аднак і наступныя дзесяць гадоў мала прынеслі народу палёгкі і шчасця. У краіне, як і раней, працвіталі карупцыя, хабарніцтва, галеча...

А кастрычнік 1969 года Абдзі Фарахам, як многія яго суайчыннікі, пэўна, не забудзе ніколі. Рэвалюцыйна настроеныя афіцэры здзейснілі ваенны пераварот і абвясцілі Самалі дэмакратычнай рэспублікай. Гэты пераварот быў актыўна падтрыманы народам і названы рэвалюцыяй. Усю ўладу ў краіне ўзяў у свае рукі Вярхоўны рэвалюцыйны савет, які распрацаваў канкрэтную праграму эканамічнага развіцця Самалі, знішчэння ўсіх форм эксплуатацыі народа, павышэн-



Магадыша. Помнік змагарам за свабоду і незалежнасць.

лі была і пакуль што застаецца праблема вады, арашэння зямель і абваднення пашы. І ў гэтым немалую дапамогу аказвае маладой рэспубліцы наша краіна. На ніжнім цячэнні ракі Джуба будзе пабудавана плаціна з гідраэлектрастанцыяй і ірагацыйнай сістэмай каналаў, якая дасць магчымасць вярнуць да жыцця дзесяць тысяч гектараў зямлі. А гэта—аседласць вандроўніка-жывёлавода, новыя плантацыі бананаў, цукровага трыснягу, кукурузы, садавіны, гародніны.

...Мы развіталіся з супрацоўнікамі бюро па сувязях з грамадскасцю позна вечарам, падараваўшы ім бронзавы бюст У. І. Леніна.

## ДЖАХОР МЯНЯЕ АБЛІЧЧА

Джахор—невялікі, адзін з нямногіх прамысловых гарадоў Самалі, які прытуліўся на абодвух берагах Вебі-Шэбелі кіламетраў за сто на поўнач ад Магадыша. Яго перасякае нешырокая шаша, што бяжыць з поўначы на поўдзень краіны аж за экватар, да порта Кісмаі. Уздоўж дарогі часта сустракаюцца невялічкія і не вельмі людныя бензакалонкі з новымі эмблемамі.

Новая эмблема—насарог на жоўтым фоне з блакітнай ромбавай акаймоўкай. Новыя шыльды і назвы атрымалі пасля іх нацыяналізацыі англійская кампанія па продажы нафтапрадуктаў «Шэл», амерыканскія «Мобіл чэс» і «Калтэкс» і шэраг іншых, у тым ліку італа-самалійскае аграрна-прамысловае таварыства «СНАІ» (вытворчасць цукру і трыснягу). У гэтае таварыства мы і ехалі з Магадыша.

...На тысячах гектараў паўстаў зялёнай сцяной высокі трыснёг з вострай лістотаю, між плантацый пралеглі роўныя і прамыя, як страла, арашальныя каналы, прастуе аж да самага цукровага завода вузкакалейка—адзіная ў Самалі чыгунка. Як толькі крышку пажоўкне лісце, пачнецца ўборка ўраджаю. Праўда, спачатку трыснёг падпаляць; успыхне дымным полымем зеленаватая лістота, і з трысняговага зарасніку пададуцца ў бліжэйшыя саванны змеі, а таксама дзікі і іншыя звяры, што знайшлі тут сабе часовы прытулак. Потым ужо мачэце спляжаць трыснёг, і ўвішныя самалійцы чыста збяруць яго.

На цукровы завод мы трапілі не адразу. Якую гадзіну калясілі па заводскім парку з яго дзівоснымі какосавымі пальмамі, бананавымі алеямі, галіністым лімоннікам і стракатымі, не вядомымі для еўрапейца дрэвамі. Учора мы пàрыліся ў духоткай саванне, а сёння перад намі адкрылася сапраўднае багацце—цуд прыроды. Праўду кажуць пра Афрыку: дзе вада—там жыццё.

Ля варот завода нас сустрэў дырэктар таварыства Хасан Хашы—стройны, ужо ў гадах, але з юнацкай рухавасцю чалавек. Цёпла паздароўкаўся. Нам ужо расказвалі, што Хасан Хашы—чалавек надзвычай эрудзіраваны, у новым рэвалюцыйным урадзе ён прымаў удзел у распрацоўцы ідэалагічнай праграмы развіцця Самалійскай Дэмакратычнай Рэспублікі на сацыялістычных асновах.

Хасан Хашы з прыкметным хваляваннем і гонарам расказваў нам пра даручаную яму гаспадарку, пра яе працавітых людзей. Гаспадарка таварыства—гэта цэлы комплекс плантацый, на якіх збіраюць штогод і перапрацоўваюць звыш пяці мільёнаў цэнтнераў трыснягу. Цяпер завод поўнасцю забяспечвае патрэбы краіны ў цукры, значная частка яго ідзе таксама на экспарт. Нас спачатку некалькі здзівіла, што пры гэтым прадпрыемстве ёсць... фабрыка па вырабе гумовага абутку. Але Хасан Хашы, заўважыўшы наша здзіўленне, растлумачыў:

— Раней даходы, якія даваў цукровы завод, ішлі ў кішэню яго італьянскіх гаспадароў. Мы ж вырашылі частку гэтых даходаў выкарыстаць на будаўніцтва абутковай фабрыкі. Абутак патрэбны многім.

Гаспадары таварыства наладзілі нам невялікі сюрпрыз. Мы апынуліся сапраўды, як жартавалі хлопцы, у «райскім куточку». Навокал—разнастайнасць трапічных дрэў з надзвычай рэдкімі для нас пладамі, мноства гародніны. Высока ўгары, пад шапкай пальмавай лістоты, вабяць вока какосавыя арэхі, блішчаць на сонцы пазалотай буйныя лімоны... Вёрткія хлапчукі-верхалазы адным махам, нібы тыя вавёркі, узабраліся на самыя вяршыні высачэзных пальмаў, і на зямлю паляцелі велічынёй амаль з наш гарбуз зялёныя какосавыя арэхі. Какосавы сок, крыху саладкаваты, са знаёмым пахам звычайнага арэха, надаў бадзёрасці, сілы і свежасці. Як глыток халоднай вады стомленаму падарожніку ў пустыні.

## КАЛЕЙДАСКОП САВАННЫ

Наш «падношаны» аўтобус імчыць на поўдзень ад Магадыша. Бясконцым ланцужком лена цягнуцца ўздоўж дарогі вярблюды. Следам за імі, павесіўшы па звычцы рукі на палку, перакінутую цераз плячо, спакваля тупае босымі нагамі па гарачым пяску бедуін. Спыніцца на момант, кіне кароткі позірк на аўтобус стройная маладзенькая самалійка з традыцыйным себрарам за плячыма—ёмістым посудам для вады. З гэтым себрарам самалійкі ходзяць па ваду за многія кіламетры. Воддаль мільгаюць між чэзлых дрэўцаў невялічкія вёсачкі з іх звычайнымі тукулямі—конусападобнымі хацінкамі, якія самалійцы ладзяць здаўна са сцяблоў кукурузы, хмызняку, абмазваючы глінаю. Купка чарнамазых, цікаўных і, відаць, свавольных хлапчукоў не без рызыкі кідаецца ледзь не пад аўтобус, прапануючы жоўтыя гронкі бананаў.

Хто-кольвечы з нас меркаваў раней, што Афрыка скрозь багата на казачную, накшталт той, якую мы некалі бачылі ў кінафільме «Тарзан», экзатыку, і, вядома, памыліўся. Узяць хаця б краіну, па якой мы падарожнічаем. Звыш дзевяноста працэнтаў яе тэрыторыі—пустэльны і паўпустэльны край. Рэдка дзе стрэнеш дружную сямейку пальмаў або магутны, з раскідзістай кронай, баабаб. Па няшчадна выпаленых сонцам землях спрадвеку блукаюць жывёлаводы. У час вандровак яны іншы раз трапляюць за межы краіны, у суседнія Эфіопію, Кенію. Толькі ўздоўж Джубы і Вебі-Шэбелі, дзе паблізу вады вечна зелянеюць лясы, жыве аседлае насельніцтва, якое ў асноўным займаецца земляробствам.

Нам надарылася праехаць і прайсці не адзін кіламетр уздоўж лясістых берагоў Вебі-Шэбелі. У каламутных водах ракі спачываюць тлустыя чарнаскурыя гіпапатамы. Час ад часу яны ўзнімаюць над вадою квадратныя галовы, шырока раскрываюць чырвоныя пашчы, і тады над ракою, над усім наваколлем нясецца глухое, надрыўнае рыканне. Гэта, як сказаў Ібрагім, гіпапатамы смяюцца. Дзіўна, што ў адной рацэ, амаль побач з гіпапатамамі, снуюць, нібы тыя яшчаркі, кракадзілы, якіх тут неймаверная колькасць. У надрэчных зарасніках можна часта сустрэць насарогаў, дзікоў, цэлыя сямейства малпаў і многіх іншых прадстаўнікоў жывёльнага царства.

Цяпер мы трымаем кірунак у саванну. Праз адчыненыя насцеж вокны аўтобуса струменіць цёплае, быццам ад дагарэлага вогнішча, паветра, і ўсё ж дыхаць трошачкі лягчэй.

На абедзвюх руках Асмана, нашага шафёра, на смуглай, прыпудранай лёгкім пушком шчацэ—шрамы. Такія шрамы можна часта ўбачыць на целе самалійцаў—і сталых, і зусім юных. Неяк я спытаўся пра гэта ў Ібрагіма. Ён раптоўна спахмурнеў і адказаў не адразу:

— Сляды каланіялізму. Да таго, як Самалі стала незалежнай, на аднаго ўрача ў краіне прыпадала сорак тысяч чалавек. А гэта ж Афрыка, дзе мноства ўсялякіх змей, тых жа мух цэцэ, пра якіх я ўжо гаварыў, шмат іншай погані. І адзіным лекавым сродкам здаўна было прыпальванне ран гарачым жалезам...

Адразу прыйшоў на ўспамін двухпавярховы, па-сучаснаму спланаваны і ўзведзены будынак у горадзе Шэйху—шпіталь, падарунак нашай краіны. І рускі доктар—Леанід Уладзіміравіч Крыштафовіч, пра якога ў Самалі ходзяць сапраўдныя легенды.

Не прыкмецілі, як Асман павярнуў направа, і машыну нечакана пачало кідаць з боку на бок. Ззаду пацягнуўся доўгі цяжкі шлейф густога і едкага пылу. Пачалася звычайная афрыканская саванна—сухая, няшчадна выпаленая гарачым сонцам паўпустыня. Толькі калі пачнецца сезон «гу», які звычайна прыпадае на веснавыя месяцы—красавік і май, хлынуць бясконцыя ліўні, саванна ажыве, калючы кустарнік і чэзлыя дрэўцы зазеляняюць, сям-там з'явяцца на кароткі час кветкі.

А пакуль сакавік, і саванна, стрымліваючы шалёны націск паўночных пасатаў, якія няўмольна плывуць з азіяцкага кантыненту і нясуць з сабою гібель многім раслінам, застыла ў паўмёртвай сухой шэрасці. Едзем па гэтай знявечанай сонцам зямлі, нібы па брусчатцы. Едзем не па дарозе, разбітай і пыльнай, а па цаліку. Сям-там прабяжыць дзікая козачка, гэткая ж шэрая, як і сама саванна, спыніцца ля парыжэлага кусціка і, стаўшы на заднія ножкі, сіліцца дастаць сярод абгрызеных ужо галінак штонебудзь на сняданак. Спакваля, не звяртаючы ўвагі на няпрошаных гасцей, панура прасунецца шакал.

Душна да млоснасці. Сонца нібы не заўважаеш: яно паўсюдна рассыпала свае калючыя промні, якія працінаюць наскрозь густую, скручаную драцянку прылізанага пасатамі кустоўя. Ціснe ў патыліцы, коле ў скронях, здаецца, што плавяцца мазгі. А Асман і Ібрагім—хоць бы што, нават не накінулі на галовы модных цяпер у Самалі панамак або саламяных капелюшоў. Калісьці самалійцы насілі коркавыя шлемы. Але ж іх, як правіла, насілі і каланізатары. І гэты ўбор стаў сімвалам каланіялізму, сімвалам ганьбы. З часу незалежнасці наўрад ці сустрэнеш самалійца ў коркавым шлеме.

Саванна—нібы тая жароўня. У час гэтай спякоты нават дзікія звяры не вылазяць са сваіх сховаў між хмызнякамі. Недзе адсыпаецца пасля начной вылазкі цар саванны—леў, млее ў сваім логаве земляны воўк, зрэдку прашмыгне між калючак змяя, высуне нясмела з пажухлых кустоў галаву грызунок ды праплывуць міма до-

мікі тэрмітаў. Мы часта сустракалі гэтае мудрагелістае і цікава збудаванае жытло мурашак. Яны будуюць яго звычайна з пяску, густа змочваючы сваёю слінаю. Часам такія мурашнікі дасягаюць пяці-сямі метраў у вышыню, ім не могуць прынесці ніякай шкоды ні ліўневыя дажджы, ні вятры.

— А дзе ж леапарды?—падае нехта з дзяўчат млявы галасочак.

Ібрагім жартуе:

— Леапарда загубіла прага жанчын мець яго шкуру.

Маўчаў толькі Асман. Пасля Ібрагім расказаў нам пра трагедыю, што здарылася са старэйшым братам шафёра. У Самалі на леапарда прыехалі паляваць белыя людзі ці то з Амерыкі, ці то з Італіі. Яны шукалі мясцовага праваднiка. Хтосьці з вяскоўцаў параіў ім брата Асмана. Белыя прапанавалі праваднiку стодоларавую паперку, і той пагадзіўся. Яшчэ б— сто долараў! Хаця і Асманаў брат, і той белы чалавек у белым шыракапольным капелюшы ведалі сапраўдную цану леапарда. Шкура яго каштуе ў Самалі шэсцьсот долараў, а ў суседняй Кеніі—у чатыры разы даражэй. Гэта ў Афрыцы. А ў Еўропе ці той жа Амерыцы шкура гэтага звера мае надзвычай высокую цану.

Праз колькі дзён вярнуліся паляўнічыя. З багатым здабыткам. А ў машыне ляжаў бледны, змярцвелы брат Асмана: ён не разлічыў скачка звера. Неўзабаве яму аднялі руку па самы локаць. Стодоларавую паперку давялося заплаціць хірургу...

Ібрагім, вядома, не жартаваў, калі гаварыў, што леапарда ў саваннах зводзіць жаночая мода на футры і каўнерыкі з яго шкуры. У часы свайго панавання каланізатары беспакарана знішчалі ў Афрыцы ўсё—львоў, стравусаў, антылоп, леапардаў...

## ПЕСНЯ САЛІДАРНАСЦІ І ТАНЕЦ РЭВАЛЮЦЫІ

Дзесяткі юнакоў і дзяўчат, апранутыя, відаць, па-святочнаму, утварылі цесны паўкруг, узяліся за рукі і заспявалі спачатку ціха, спакваля, потым усё смялей і гучней.

Песня салідарнасці. У яе рытме, у голасе спевакоў, у іх рашучых позірках нават без перакладу ўгадвалася, што гэта песня братэрства і сяброўства, песня адзінства моладзі свету ў барацьбе за свабоду, шчасце і мір.

Мы спачатку слухалі гэтую песню, якой сустрэлі нас маладыя гаспадары нядаўна створанага сельскагаспадарчага кааператыва Шэламбат, моўчкі, а потым, угадаўшы мелодыю, далучылі і свае галасы. І званчэй, і вышэй і шырэй загучэла песня.

— Дарагія нашы браты!

Гэта гучны, шчыры голас Алі Абдзі Хамата—мажнога, не па-самалійску каржакаватага маёра. Удзельнік рэвалюцыйных падзей у краіне, ён адразу ж, калі была распрацавана паскораная праграма развіцця сельскай гаспадаркі, прыехаў у Шэламбат і ўзначаліў кааператыў. Пра гэту новую, па сутнасці рэвалюцыйную праграму ў вёсцы нам многа і падрабязна расказваў Ібрагім. Яна разлічана на шмат гадоў. Перш-наперш трэба асвоіць плантацыі пад бананы, трыснёг, кукурузу, проса, падрыхтаваць кадры, а потым ужо ўзяць курс на інтэнсіфікацыю гаспадаркі. Праграма сапраўды надзвычай важная і натхнёная.

Некалі ў гэтых мясцінах шмат зямлі пуставала. Але прыйшлі сюды людзі, працавітыя і нястомныя, і неўзабаве амаль на дзвюх тысячах гектараў раскінуліся плантацыі, пралеглі арашальныя каналы, з'явіліся фермы і хаціны. Абудзіўся, па-новаму зажыў гэты прыэкватарны край.

Дырэктар Абдзі Хамат з захапленнем расказвае пра людзей, пра юнакоў і дзяўчат, якія яшчэ зусім нядаўна прыйшлі сюды з розных куткоў правінцыі Бенадзір, нават з Верхняй Джубы, нясмелымі, нявопытнымі, без прафесіі, а сёння сталі сапраўднымі майстрамі-земляробамі, жывёлаводамі, жывуць адной сям'ёй. Ён бачыў у кожным з іх таго новага маладога чалавека, якога нарадзіла рэвалюцыя і які ўсім сэрцам успрыняў яе ідэі.

Мне ўспомнілася сустрэча з Абдзі Фарахам, самалійскім студэнтам у Мінску, які гаварыў, што я сваімі вачыма ўбачу на яго радзіме новага чалавека і яго справы. Ты меў рацыю, Абдзі. Мы былі рады сустрэчы з людзьмі тваёй краіны і асабліва тут, у Шэламбаце. Раскажу пра Ашу, звычайную вясковую дзяўчыну з-пад Бардэры.

Сям'я старога Хайдама жыла ў вечнай нястачы. Харчаваліся карэннем дзікіх раслін ці ўпаляваным на прыманку зверам. Па ваду хадзілі за добры дзесятак кіламетраў. Бывала, возьме Аша себрар, закіне за плечы, паправіць на лбе почапку пасудзіны і тупае басанож па гарачай, бы патэльня, саванне. Туды дзесяць кіламетраў і назад столькі. Нылі і спіна і ногі. Усё цела адольвала стома. А трэба было яшчэ назбіраць якоганебудзь ламачча на паліва. Аша была старэйшая ў сям'і. Маці памерла рана. З чатырох дзяцей у Хайдама засталося толькі двое—цягавітая Аша і хваравіты сярэдні сын. Але і ён неяк па вясне памёр.

Той жа вясною бацька Ашы наняўся пастухом да багатага вандроўніка-жывёлавода і, пакінуўшы дачцы невялікі аванс-заробак, са статкам пайшоў блукаць па саване. Не было яго год, не вярнуўся ён і на другі. Потым неяк завітаў незнаёмы бедуін, перадаў крыху шылінгаў і вестку: бацьку пахавалі каля сухога баабаба недзе пад самай Кеніяй.



На ўскраіне Магадыша.

Ашы споўнілася трынаццаць гадоў—у такім узросце дзяўчат тут звычайна выдаюць замуж. Нават і жаніх знайшоўся—сын небагатага жывёлавода з суседняга пасялішча. Але ж вельмі жывучыя былі старыя звычкі, згодна якім нявестка павінна была прынесці ў хату жаніха багаты пасаг—статак вярблюдаў, авечак, збрую і паляўнічую зброю. А бацька Ашы пакінуў дачцы ў спадчыну старэнькую тукулю, нямоглага ішака і надзею на лепшую долю...

Ах, як прыгожа, вабна танцуе Аша! Яна танцуе танец рэвалюцыі. Плаўныя, гнуткія рухі рук, ног, галавы раптоўна змяняюцца імклівымі, рэзкімі. Потым зноўку на якую хвіліну «прырастаюць» ногі да зямлі, і ўжо «танцуе» ўся істота, толькі вочы—цёмныя, вялікія—ззяюць зыркімі іскрынкамі ды дрыжыць, тоіцца ў прыпухлых вуснах белазубая ўсмешка...

А прыйшла Аша, як казала яна сама, у камуну ціхай, баязлівай вясковай дзяўчынкай. Нават хадзіла неяк бокам па гэтых шырокіх, не асвоеных яшчэ гонях. І як многія яе равеснікі—не ўмела ні чытаць, ні пісаць. Але сэрца адчувала, што тут і дыхаць неяк лягчэй, і хадзіць не так ужо боязна, як гэта думалася раней. А галоўнае—працуй, вучыся, жыві, як чалавек. А калі ўбачыла, як зухавата едзе на трактары яе равеснік, дык і ў яе нарадзілася неадольнае жаданне сесці на сталёвую машыну.

Калі ўлічыць паскораную праграму развіцця сельскай гаспадаркі Самалі, можна не здзіўляцца, што за які месяц Аша асвоіла як мае быць трактар «Беларусь» і неўзабаве кінула такі знаёмы ў нашай краіне заклік: «Дзяўчаты, на трактар!»

Крыху пазней, у час сяброўскага абеду, маёр Абдзі Хамат дзяліўся сваімі ўражаннямі наконт заклiку Ашы. У яго невялікі дырэктарскі пакойчык штодня прыходзілі дзесяткі дзяўчат з такой жа просьбай: «На трактар!» Дзяўчат многа, жаданне і здольнасці ёсць, а вось трактараў... І раптам прыемная вестка: гаспадарка атрымлівае каля двух дзесяткаў трактараў «Беларусь». Што такое гэтая машына ў мясцовых кліматычных умовах, добра ведаў і Абдзі Хамат, і тыя, каму давялося ўжо сядзець за яе рычагамі.

А ў маёй памяці ўсплыла адна з камсамольскіх канферэнцый Мінскага трактарнага завода, на якой юнакі і дзяўчаты раіліся, як лепш наладзіць работу, каб выпусціць за кошт сабранага металалому і сэканомленых сродкаў новую калону машын для В'етнама, для патрэб краін, якія атрымалі сваю незалежнасць. І мне вельмі прыемна паведаміць трактаразаводцам, што зробленыя імі машыны працуюць на самалійскай зямлі бездакорна, што іх водзяць нашчадкі нашай Пашы Ангелінай...

У вачах Ашы—слёзы. А можа, звычайная радасць ад сустрэчы з добрымі, шчырымі сябрамі? Мы таксама ледзь стрымліваем хваляванне. Наш Асман падае сігнал за сігналам—пара ехаць. Заўтра ціхім трапічным ранкам мы развітаемся з добрай, гасціннай Самалі, з яе цудоўнымі людзьмі...

Фота аўтара.






## 1973

### ЧЭРВЕНЬ

**1—4**

55 гадоў назад (1918) у Смаленску адбылася IV Паўночна-Заходняя абласная канферэнцыя РКП(б).

**1**

40 гадоў з часу арганізацыі (1933) Беларускага інстытута народнай гаспадаркі імя В. У. Куйбышава.

**9**

105 гадоў з дня нараджэння Уладзіслава Вярыгі (1868—1916), польскага філосафа і этнографа, збіральніка беларускага фальклору.

**10—18**

35 гадоў назад (1938) адбыўся XVII з'езд КП(б)Б.

**15**

50 гадоў з дня нараджэння (1923) Л. І. Галушкінай, народнай артысткі БССР.

**16**

50 гадоў з дня нараджэння (1923) Л. А. Майзельс, беларускай мастачкі-жывапісца.

**18**

60 гадоў з дня нараджэння (1913) Ф. І. Куляшова, беларускага крытыка і літаратуразнаўцы.

**22**

60 гадоў з дня нараджэння (1913) А. А. Авечкіна, пісьменніка.

**25**

45 гадоў з дня адкрыцця (1928) I з'езда Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі (КПЗБ).

**26**

35 гадоў назад (1938) адбыліся выбары ў Вярхоўны Савет БССР.

**27**

60 гадоў з дня нараджэння Ю. Г. Рудзько (1913—1948), пісьменніка.

**27**

50 гадоў з дня нараджэння (1923) В. І. Вярсоцкага, беларускага мастака-жывапісца, заслужанага настаўніка БССР.

**30**

125 гадоў назад (1848) Горы-Горацкая земляробчая школа ператворана ў інстытут. (Цяпер Беларуская дзяржаўная сельскагаспадарчая акадэмія ў г. Горках Магілёўскай вобласці).



Л. І. Галушкіна.



Ф. І. Куляшоў.



Ю. Г. Рудзько.

В. І. Вярсоцкі.





# ВЯРТАННЕ НАПЕРАД



Дзіўнае сталася з беларускай прозай у канцы пяцідзесятых і ў шасцідзесятыя гады. Самая што ні ёсць традыцыйнасць загучэла раптам панаватарску. Сталі паяўляцца раманы і аповесці вельмі традыцыйныя па матэрыяле і стылістыцы («Нявестка» і іншыя аповесці А. Кулакоўскага, «Засценак Малінаўка» А. Чарнышэвіча, «На парозе будучыні» і «Гарадок Устронь» М. Лобана, «Людзі на балоце» і «Подых навальніцы» І. Мележа), якія, будучы вяртаннем да Коласа і Чорнага, да Гарэцкага і Гартнага, былі ў той жа час і разам з тым рухам наперад, абнаўленнем. Так яны ўспрымаліся—побач з другімі формамі абнаўлення, якое праявілася ў лірычнай і «філасафічнай» прозе Я. Брыля, М. Стральцова, І. Чыгрынава, рамантычна-афарбаванай—І. Шамякіна і І. Навуменкі, маральна-напружанай—В. Быкава.

Што ж адбылося з традыцыйнасцю ў нашай прозе, чаму яна так па-наватарску прагучэла ў названых сацыяльна-бытавых і гісторыка-бытавых раманах І. Мележа, А. Кулакоўскага, М. Лобана, А. Чарнышэвіча, у апавяданнях В. Адамчыка, нарысах В. Палтаран і іншых?

Чаму вяртанне было і сталася адначасова рухам наперад?

Ды таму, што гэта было вяртанне—шырокім фронтам—да самай сутнасці літаратуры як мастацтва, а менавіта—да яе рэалістычнай сутнасці.

Здавалася б, беларускую літаратуру не здзівіш ні «паглыбленнем у быт», у штодзённасць, ні глухаманню і палескімі глыбінямі, ні «спалохам» на сялянскіх загонах і межах у гады падрыхтоўкі і правядзення калектывізацыі. Усё гэта быццам бы ўжо было, і ўсур'ёз, глыбока, праўдзіва.

Не новы для беларускай літаратуры і маштабна-гістарычны погляд на беларуса, мастацкі ўключанага ў жыццё «цэлага свету», чалавецтва і адкрытага гэтаму свету ва ўсёй натуральнасці, гушчыні, паўнаце бытавых, псіхалагічных, народных і нацыянальных фарбаў. І гэта было! І не толькі ў прозе, але і ў паэтычным беларускім эпасе—Я. Купалы, Я. Коласа, М. Багдановіча.

Але справа ў тым, што рэчышча літаратурнай ракі ў пэўны час пачало было губляць дасягнутую шырыню і глыбіню, усё болей пачалі выяўляцца (асабліва ў пасляваенны час) «мелі» і «заносы» ілюстрацыйнасці і бясколернай апісальнасці. У такіх творах нібыта было ўсё: «простыя людзі», вёска, горад, чалавечая праца і нават цяжкасці, клопаты, нават любоў і смерць. Але ўсё—на іншым, на зусім іншым эстэтычным і ідэйным узроўні.

Але звернемся да «хронікі» Івана Мележа.

«Людзі на балоце»... Чалавек, пісьменнік усё сваё творчае жыццё ішоў да гэтага. Ішоў, здавалася б, да самага простага. Але як не проста было прыйсці да рашэння: расказаць пра самае блізкае, пра тое, што моцна зраслося з душой з самых маладых гадоў. І ў «Гарачым жніўні»—ранняй «вясковай» аповесці Івана Мележа,—і ў некаторых апавяданнях, і на тых старонках «Мінскага напрамку», дзе паяўляюцца людзі сялянскага лёсу, намацвалася галоўная мележаўская тэма, самая «асабістая». Ужо на гэтых ранніх старонках І. Мележ таленавіта просты, сакавіты ў фарбах і мове, і галоўнае, у самім пачуцці таленавіты і глыбокі—у пачуцці сыноўняй любові і павагі да сваіх герояў. Чаго ў яго яшчэ не было, дык гэта ўпэўненасці, што і людзі гэтыя, і лёс іх—бязмерна значныя самі па сабе, а не як дадатак да нечага яшчэ. Бо нават Шабуніха ў «Мінскім напрамку»—вельмі цікавы вобраз беларускай сялянкі, якая карміла і ратавала партызанаў, пакутавала разам з імі ў блакаду, акружаная цэлай купай дзяцей,—нават гэты вобраз у агульнай сістэме рамана гучэў некалькі ілюстрацыйна. Ён—не сам па сабе, а як бы для пацвярджэння агульнай аўтарскай думкі аб мудрай і простай стойкасці людзей з народа і г. д. Тут пярвічны не чалавек, не жыццё, а агульная панарама, агульная думка, а чалавек толькі ўключаны ў яе, пацвярджае яе.

І вось жа—нават «Людзі на балоце» спачатку мысліліся, задумваліся аўтарам у гэтым небяспечна звыклым ключы: «спачатку была задума напісаць невялікую аповесць пра меліятараў, пра людзей, якія даюць Палессю новае жыццё» («Известия», 5 верасня 1972 г.).

Але ў працэсе абдумвання, работы, пад уплывам самога часу (другая палова 50-х гадоў) з-пад гэтай першапачаткова вузкай ілюстрацыйнай задумы выступіла, вырвалася, падпарадкаваўшы сабе і аўтара, другое—само жыццё і пачуццё вялікага перад ім абавязку, доўгу свайго сыноўняга «бацькоўскаму краю» (як напісана ў эпіграфе).

«Я нарадзіўся і вырас на Палессі. Гэты сапраўды цудоўны край і яшчэ болей цудоўныя яго людзі, палешукі, увайшлі ў маю свядомасць з таго часу, як я стаў помніць сябе... Я суткамі мерз у акопах, а перад маімі вачамі стаяла маё гарачае Палессе. Я месяцамі валяўся ў шпіталях,—у мяне ў галавах стаялі палешукі. Я пісаў раман пра вайну—яны стаялі за маімі плячамі, хвалюючы маё ўяўленне. І вось настаў дзень, калі я выразна адчуў: усё, больш не магу, трэба пісаць».

Першапачатковая задума, знешне вельмі «сучасная» («пра меліяратараў») месцілася ў рэчышчы ўсё тым жа: агульная думка плюс жыццёвы матэрыял (на гэты раз, праўда, болей асабісты, блізкі, «з памяці»). Адступленне ў мінулае (у 20-я гады, да сітуацыі яшчэ даволі «камернай»: Ганна—Васіль—Яўхім), якое за гэтым паследавала, было, як аказалася, вельмі плённым, таму што гэта было адначасова набліжэннем да самога сябе, да памяці, вопыту свайго жыцця, і само жыццё станавілася цяпер глебай і вытокам задумы, ідэй, думак.

Адступленне пісьменніка ў мінулае, як гэта часта бывала ў гісторыі літаратуры, стала формай узмацнення свайго, асабістага, аўтарскага лірычнага пачатку. У Мележа гэта суправаджалася ўсё большым уцягненнем у рэчышча творчай фантазіі матэрыялу гістарычнага жыцця народа, цэлага краю.

Здавалася, што можа быць прасцей: пішы пра сваё Палессе, пра свае Глінішчы, пра людзей свайго краю як пра нешта табе асабліва блізкае, важнае. А праз гэта скажы свету, людзям і пра іх саміх—як здолееш. Хіба не так, не з гэтага нарадзілася «Новая зямля» Я. Коласа? Альбо проза К. Чорнага, амаль усе героі якога—«случакі», з «мясцін, дзе ў гаворцы чуваць гарады Слуцк і Нясвіж».

Але, па прызнанні І. Мележа, яму прыйшлося пераадолець своеасаблівы парог няўпэўненасці: ён жа аддаляўся, адыходзіў ад сучаснасці ў нейкія самім богам забытыя Курані, у далёкія 20-я гады. А ці трэба гэта каму-небудзь?

І таму пісаў спачатку як штосьці не асноўнае,«для сябе», «для душы», шчаслівы такім вольным і «бескарыслівым» жыццём побач са сваімі героямі, якія самі за сябе думалі, адчувалі, самі за сябе жылі—не трэба было за іх старацца. Пісаў, радуючыся паглыбленню ў рэальнасць свету, ужо такога далёкага па часе, але такога блізкага па пачуцці.

Вось з гэтага ўзнікла, нарадзілася і ўсё астатняе, у тым ліку і сучаснасць, таму што нарадзілася сапраўднае мастацтва, а яно заўсёды сучаснае.

Раманы Мележа, што ўваскрашаюць перад намі падзеі амаль паўвекавой даўнасці, адразу былі ўспрыняты як тое, што трэба цяпер, чаго ўсе чакалі. Успрыняты з нейкай радасцю ўсеагульнага чытацкага «сааўтарства». Нібыта і задуманы былі разам.

Так, лёс гэтых кніг Мележа складваўся шчасліва. Не заўсёды час сустракае сваё «дзіця» ласкава, радасна. А тут сустрэў, прызнаў. Бо чакаў.

Цікава гэта бывае ў літаратуры: рух уперад праз вяртанне да ранейшага. Гэта нагадвае моцную накатную хвалю ля марскога берага: у ёй два адначасовыя рухі—той, які нясе ўперад, і той, які адцягвае назад, у мора...

Але такі рух—уперад з адначасовым вяртаннем назад, у «мора» вялікай літаратурнай традыцыі чалавецтва,—ёсць, магчыма, сама форма існавання мастацтва, якое, каб не паўтарацца, не абмярцвець, павінна ўвесь час шукаць, выходзіць уперад самога сябе, але і вяртацца з такой жа немінучасцю—да той пагранічнай рысы, дзе мастацтва не то пачынаецца, не то канчаецца. А «за рысу» выносіцца смецце ілжывых спроб, ходаў, заблуджэнняў—усё, што так і не стала мастацтвам.

Вось з такім пачуццём навізны і адначасова «вяртання» чыталі мы і «Людзей на балоце».

Але ў рамане гэтым было, ёсць і ў літаральным сэнсе вяртанне да ўжо знаёмага нам па беларускай літаратуры 20-х—30-х гадоў. Раман Мележа не належыць да тых кніг, якія рэзка кідаюць літаратуру ў невядомае, нязведанае. Мы з таго і пачалі нашу гаворку, што раман традыцыйны (і нават падкрэслена), але што сама традыцыйнасць раптам стала для літаратуры навізной: адкрыццём, развіццём, рухам наперад.

Значыць, нешта ў гэтай традыцыі надоўга было забыта, не выкарыстоўвалася, не развівалася.

Без вялікай цяжкасці ў раманах І. Мележа (перш за ўсё ў «Людзях на балоце») можна знайсці «сляды прысутнасці» і Коласа, і Чорнага, і Гартнага. У некаторых месцах (пачатак рамана)—гэта «настройка», пошук належнага тону, інтанацыі, і камертонам служыць то Колас, то Чорны.

Перачытваем першыя старонкі і адчуваем, што «настройка» праведзена і ўжо знойдзена свая інтанацыя, але і Колас, і Чорны, а недзе і Гартны не адыходзяць зусім. Толькі Мележ ужо не вучань, які з іх дапамогай шукае патрэбную інтанацыю, тон, а мастак-сапернік, які не баіцца будаваць «сваю грэблю», хоць пра гэта было ўжо ў Коласа, не баіцца нават прамых пераклічак вобразаў. І робіцца гэта не ад адной толькі ўпэўненасці ў сіле свайго таленту і ў сваім, асаблівым веданні асаблівага, хоць і блізкага да іхняга, жыццёвага матэрыялу. Гэта дыктуецца яшчэ і пэўным пачуццём, што ідзе ад самога часу. Што гэта за пачуццё, растлумачым лепш, супаставіўшы адну з ліній раманаў І. Мележа і К. Чорнага.

Так, час у нечым абмяжоўваў нават вялікі талент Кузьмы Чорнага, дыктуючы яму гатовыя, адназначныя



рашэнні. Узяць хаця б тыя сітуацыі ў «Трэцім пакаленні», дзе Міхал Тварыцкі прысвоіў знойдзеныя ім банкаўскія грошы і тым самым аб'ектыўна дапамог бандытам. К. Чорны ўсім сваім творам паказвае, што ўчынак яго—не выпадковасць, а вынік усяго жыцця, горкага жыццёвага вопыту былога батрака-пастушка, які ўвабраў у сябе на скуратовічавым хутары «філасофію» таго свету, дзе чалавек чалавеку быў воўкам. Гэта—яго бяда. Але і віна, бо Зося, яго жонка, прайшла таксама праз гэта, але думае і робіць зусім па-інакшаму!

І вось—суд. Не толькі юрыдычны, але і філасофскі, не толькі над Тварыцкім, але і над тым уласніцтвам, якое хаваецца і ў душы селяніна-працаўніка. Як кажа пракурор Кандрат Назарэўскі: «Пад ёю (забітасцю—**А. А.**) хаваецца хітрасць складзістага мужычка так, як ён сам хаваецца пад сваю смярдзючую вопратку». Многае, і перш за ўсё сваю гуманістычную нянавісць да ўласніцтва, якое калечыць чалавека, аддаў Назарэўскаму-прамоўцу і абвінаваўцу аўтар...

Так, Тварыцкі вінаваты, але не за ўсе ж тысячагадовыя грахі ўласніцтва, а менавіта так, па-філасофску абагульняючы, фармулюе ўрэшце яго злачынства Кандрат Назарэўскі.

У наш час пісьменнік шырокага чорнаўскага гуманістычнага складу ўбачыў бы ўжо тут Назарэўскага віну—перад Тварыцкім.

Так яно і выходзіць, але не ў рамане Чорнага, а ў рамане Мележа.

...З ночы, з цемры выйшлі бандыты і падышлі да Васіля і Ганны, якія не гадалі і не думалі пра такое, поўнячыся сваім маладым шчасцем кахан-

ня, якое толькі адкрылася ім. Падышлі — сама смерць, скорая, усёўладная, падступілася да Васіля: «Вядзі, паказвай, а не, дык...»

Не, Васіль не спалохаўся, ён — не баязлівец, вунь як ён кінуўся бараніць ад гвалтаўнікоў сваю Ганну: «не помнячы нічога, як бясстрашны коршак, грозна рынуўся на яго Васіль.

— Не лезь!..

Ён штурхнуў «чорта», тузануў за каўнер. Той адразу адпусціў Ганну, ствалом абрэза сунуў Васілю ў жывот».

А паказваць дом актывіста Грыбка павёў. Усё-такі павёў.

Ганна і баіцца за яго смяртэльна, але і спадзяецца:

«Калі ён пакажа, ён усё роўна як стане заадно з імі. Памагаты іх! Ці засудзяць яго, ці не засудзяць — яна пра гэта не думала, — ён пасобіць, можа загубіць чалавека! Злачынец будзе.

Не-не! Ён не зробіць гэтага! Не павінен зрабіць! Не стане іх хаўруснікам, няхай і не з ахвоты. Ён смелы, вунь як заступаўся за яе... Але ж тады яны могуць учыніць над ім бог ведае што!»

Васіль не вывернуўся і не памёр героем — не, ён паказаў «маслакам» дом Грыбка.

Рэакцыя Ганны на гэта — амаль як рэакцыя Зосі Тварыцкай, калі тая даведалася, што блізкі ёй чалавек памог бандытам (знайшоў і схаваў банкаўскія грошы).

А потым... Потым Васіль, сам вінаваты, сутыкаецца з несправядлівым падазрэннем: нібыта ён быў у змове з бандытамі, чакаў іх спецыяльна за тым гумном. І з Ганнай адбываецца тое, чаго не адбылося з Зосяй Тварыцкай. Зося да канца глядзіць на свайго Міхала вачамі пракурора Назарэўскага: як-жа, Назарэўскі — вышэйшая справядлівасць!

Ганна ж, зразумеўшы несправядлівы намёк міліцыянера Шабеты, адразу забываецца пра сваю непрыязнасць да Васіля, якая ўспыхнула была на імгненне. Яна «ў парыве пяшчоты, спачування, што ў момант залілі ўсю яе, аддаўшыся гэтаму пачуццю, не помнячы нічога, ні аб чым не думаючы, нібы падхопленая хваляй, кінулася да Васіля».

Вось як бурна рэагуе на несправядлівасць да Васіля, на віну другіх перад ім Ганна. І каб усё было праяснена ў аўтарскай пазіцыі, далей ідзе тая сцэна — ужо ў Юравічах, куды трапляе арыштаваны Васіль.

Старшыня выканкома Апейка гутарыць з начальнікам міліцыі Харчавым:

«— Трымаем чалавека без дастатковых падстаў. Можна сказаць, невіноўнага...

— А-а... Усе яны невіноўныя, — прамовіў Харчаў цвёрда і пераканана.

— Што значыць — «усе»?

— Усе... Каторыя трапляюцца!.»

І далей:

«— Я лічу — калі хочам кончыць Маслака, няма чаго міндальнічаць. Памог маслакам? Памог. Значыць, таксама ўдзельнік! Ну і пасядзі, папарся! Аднаго пасадзіш — другі баяцца будзе!

— Баяцца будуць, — згадзіўся Апейка.

Ён, зблізку гледзячы ў вочы Харчаву, уздыхнуў:

— Але што мы за такая савецкая ўлада, калі нас свае баяцца павінны?»

У. І. Ленін гаварыў, што новае грамадства мы павінны і будзем будаваць не з нейкімі ідэальнымі людзьмі, а з тымі, якія ёсць, якіх рэвалюцыя, савецкая ўлада атрымалі ў спадчыну ад стагоддзяў і стагоддзяў бесчалавечнай «вайны ўсіх супраць усіх». І што само грамадства нейкі час будзе несці на сабе радзімыя плямы мінулага — у выглядзе бюракратызму, чэрствасці і г. д.

Не з аднымі Міхаламі і Васілямі, але і з Шабетамі і Харчавымі грамадству трэба яшчэ працаваць і працаваць. Але што такое недалёкі, аднак сумленны Шабета ў параўнанні з бязлітасным і заўзятым кар'ерыстам Башлыковым?.. Літаратура апошніх дзесяцігоддзяў не пакідае без увагі ўсе паверхі грамадскага жыцця. І ў гэтых умовах І. Мележ нават знаёмыя па літаратуры сітуацыі бярэ глыбей, больш грунтоўна, чым гэта рабілі ў 30-я гады, тым самым развіваючы Чорнага. І тое, што сітуацыі (як вось гэтая, з бандытамі) нібыта не новыя, толькі дапамагае лепей адчуць навізну ідэйна-мастацкіх рашэнняў, нетрадыцыйнасць сюжэтных ходаў і публіцыстычных вывадаў — вось ужо сапраўды: вяртанне, але наперад, далей!

Так, заслуга самога часу — такая якасць літаратуры. Але ж магчымасць трэба яшчэ ператварыць у рэальнасць, рэалізаваць ідэйна і эстэтычна.

Вядома, і вялікая літаратура бывае часам вельмі нецярпімай і нецярплівай — жадаючы хутчэйшага шчасця чалавеку, ажыццяўлення свайго ідэалу. Але колькі ў такой літаратуры (у Горкага, напрыклад) сапраўднага болю за чалавека, за ўсе свінцовыя мярзотнасці, якія чалавек, як кайданы, цягне праз вякі! І якое разуменне і віны, і бяды чалавечай. І ніколі няма ў такой літаратуры гэткага чыноўніцкага пазірку паверх чалавека.

У раманах І. Мележа — не толькі глыбокае, сыноўняе разуменне таго, якія яны ёсць, яго землякі, сяляне, што ёсць у іх добрае і што благое. Мележ не толькі разумее, што за ўсім







А ў думках там — за рабочым сталом.

добрым і благім — гісторыя пакаленняў, краю, народа, — у Мележа вельмі выразнае, справядлівае маральнае пачуццё: чым можна, а чым нельга папракаць чалавека, людзей. І чаго можна, а чаго нельга ад чалавека патрабаваць, якіх пачуццяў трэба чакаць і на якія, урэшце, ён мае права, нават калі потым гісторыя яго паправіць, дакажа, што ён памыляўся. Многае, за што Башлыкоў (ды і Міканор) гатовы караць і ненавідзець Васіля, альбо Ігната, альбо Сароку — усіх, хто не пасляваў за «тэмпамі», — гэтае многае ў мележаўскім паказе, ацэнцы — проста натуральная рэакцыя селяніна (іншай яна і не магла быць) на тое, што адбывалася ў Куранях і навокал. І часта рэакцыя гэтая не нізка ўласніцкая, а — нечакана паэтычная. Так, паэтычная! Васіль ідзе да свайго поля — як на сустрэчу з каханай, і вось што з ім адбываецца, вось што ён адчувае:

«Было клопатна і хораша, калі ўбачыў сваю паласу: яна ўся зазеляняла; кволыя сцяблінкі, калі стаў перад паласою, заварушыліся, — нібы віталі яго, радаваліся яму. Ён, шастаючы лапцямі па чэзлай траве, пайшоў мяжою ўздоўж паласы з цікавасцю, трывогай і радасцю ўзіраючыся ў рунь. Не, зямля гэта і цяпер не падманула: рунь была ўсюды дружная, моцная; ні аднаго зерняці, пэўна, не прапала. «Ето — расце!» — свяцілася ў ім. Звыкла, з асцярожлівасцю, каб не ўракнуць, стрымаўся: — Бог дасць снегу, ды марозу і вясну добрую, дак уродзіць нешто. Будзе жыто! Толькі б бог даў снегу ды вясну, ды лето добрае! Што б не вымерзла, не вымакла, не высахла, не дай божа! — як бы памаліўся ён».

Любоў Васіля да зямлі, яго апантанасць зямлёй, прага атрымаць яе і працаваць на ёй — тут прарываецца і нешта ўласніцкае, але не адно яно, і не гэта для Мележа — на першым плане ў яго земляках-сялянах. Не гэта, а адвечная іх бязмежная любоў да зямлі-карміцелькі — любоў амаль заўсёды без узаемнасці, таму што вунь якая ўдача павінна быць у селяніна, вунь як яму павінна пашанцаваць, каб зямля заплаціла за яго пот і працу, — нават калі яна ёсць у яго, тая зямля: каб і не вымерзла, і не вымакла, і не высахла! А тут яшчэ і няма яе, альбо мала, альбо неўрадлівая яна, пустая. Тым больш — у палешука, якога з веку ў век ціснулі лясы ды балоты. Гэтае асабліва, **паляшуцкае** пачуццё Васіля Дзятлава ў яго адносінах да зямлі трэба ўлічваць гэтак жа, як улічвае крытыка «казацкую псіхалогію» селяніна Грыгорыя Мелехава.

І тады яшчэ больш зразумелай стане і паэтычна больш апраўданай яго апантанасць зямлёй, яго страсць і прагнасць да зямлі. Бо калі ўвесь свет, здаецца, плавае ў балоце, а тут пад нагамі ў чалавека лапік хоць і пясчаны, але ўстойлівай, жыццедайнай, яшчэ бацькоўскай зямлі — тут яе цаніць навучышся па-паляшуцку. Як Васіль. І не дзіўна, што для яго аддаць сваю палоску-карміцельку ў «чужыя рукі» (а так яму спачатку ўяўляецца калгас), — гэта тое ж самае, што аддаць чужому чалавеку свайго каня ці карову — жывых істот, што прывыклі да яго рук, да яго ласкі.

Можна сказаць: усё гэта псіхалогія, а адбывалася вунь якая ломка ўсяго жыцця. І ў якіх маштабах! Ці тут ужо да Майданнікавых, што ўздыхаюць пабабску каля цёплай конскай морды? Ці да Васілёвых сантыментаў каля зарунелай палоскі?..

А вось Апейку, сапраўднаму ленінцу, які сам — косць ад косці народа, усё гэта не здаецца малазначным. Гэта лёс мільёнаў і мільёнаў людзей. Ды і вунь калі ўсё гэтае «малазначнае» адазвалася — аж у наш час. Ці мала мы гаворым цяпер і пішам пра вельмі патрэбны, аказваецца, эканамічна важны «земляробчы талент», пра любоў да зямлі?..

І вось што цікава, асабліва цікава ў рамане Мележа — гэта бадай самая нязвыклая для нашай літаратуры думка: не папрок селяніну за яго недаверлівасць і ўпартасць (хоць пісьменнік



М. КАЗАКЕВІЧ. Свята песні.



Д. АЛЕЙНІК. Цвітуць сады.

бачыць і паказвае гэтыя рысы ў тым жа Васілю), а здзіўленне, што так проста і наогул даверліва рашыла сялянская маса паспрабаваць жыць супольна, у агульным калектыве. Расставацца ж трэба было не з тым, што лішняе, а з самым неабходным, ад чаго залежала жыццё самога селяніна і яго сям'і.

І вось расстаўся са сваім скарбам селянін, паверыў. Нягледзячы на тое, што зусім не праз ідэальных людзей ішоў і даходзіў да яго заклік да калектыўнага жыцця, работы (а часцей праз Башлыковых, Галенчыкаў альбо, у лепшым выпадку, Міканораў). Ды і сам ён, селянін, таксама істота зусім не «ідэальная», як думалі народнікі (у сацыяльным, псіхалагічным плане) для пабудовы калектыўнага землеробства. Вунь ён які, Васіль, якія яны ўсе, палешукі: і ўпартыя, і за сваё трымаюцца!

А пайшлі! Дык ці можна, ці справядліва іх зноў і зноў папракаць за косны ідыятызм уласніцтва і г. д. А можа проста трэба ўдзячна здзіўляцца—прастаце, даверлівасці, з якою народ творыць вялікае ці то ў вайне, ці ў міры, як умелі і не саромеліся ўдзячна здзіўляцца Тургеневы, Талстыя, Дастаеўскія?

Гэтая дзіцячая даверлівасць амаль заўсёды жыла ў селяніна побач з сялянскай адгароджанасцю ад усяго свету, насцярожаным недаверам да «чужога» чалавека. Гэта добра бачыў, адчуваў і паказаў Леў Талстой. А гэты граф ведаў селяніна, як ніхто.

Існавала, праўда, і народніцкая традыцыя паказу селяніна як «святога ў сацыялізме». Літаратура руская нямала зрабіла, каб развянчаць такі ідылічны, саладжавы «лик» селяніна, мужыка.

Прастата, даверлівасць селяніна, але не адно гэта, а перш за ўсё рэвалюцыя, ленінская рэвалюцыя, давер да яе—вось што, па Мележу, вызначыла паводзіны сялянскай масы ў цэлым. Нягледзячы на многае і многае коснае, што было ў селяніну, у тым жа Васілю, напрыклад, альбо на тое, што рабілі безадказныя загібшчыкі. Але справа не толькі ў тым, каб «маса пашла ў калгасы». Гэта не завяршэнне працэсу, гэта толькі пачатак—і пачатак вельмі многага.

Ва ўсім гэтым і стараецца разабрацца аўтар «палескай хронікі»—папаляшуцку непаспешліва, грунтоўна, упарта і мудра.

Спачатку Мележ нібыта паддаўся традыцыі—паказаць Палессе крыху экзатычна, этнаграфічна. Ды і цяжка было адразу абысці каляіну, якую пракладвалі і Купрын, і Колас. Але вельмі хутка другая інтанацыя становіцца ў Мележа пануючай. Так, гэта край своеасаблівы, незвычайны, я, аўтар «Людзей на балоце», нават раблю акцэнт на нязвыкласці ўсяго, нават парадаксальнасці (людзі ніколі не бачылі мора, а жывуць між тым... на «астравах»!), але цяпер, калі я цябе, чытач, павёў за сабою, давай глядзець уважліва і сур'ёзна. Край як край і людзі як людзі. Адным словам, як сказана ў Мележа нечакана проста: «Людзям тут трэба было жыць, і яны жылі».

Жыццё гэтае—звычайнае, чалавечае. З усімі страсцямі чалавечымі, як і ўсюды, з высокай духоўнасцю ў пошуках лепшай дарогі ў жыцці, з любоўю і нянавісцю, з радасцямі і драмамі людскімі.

Сам родам з Палесся, Мележ мог і павінен быў выкарыстаць гэтую сваю перавагу перад Купрыным і Коласам—паказаць звычайнасць незвычайнага, штодзённасць і звыкласць, сапраўдную глыбіню, чалавечую, псіхалагічную, таго, на што чытач і літаратура традыцыйна маглі глядзець як на этнаграфічную экзотыку альбо рамантыку.

І разам з тым Мележ не ўпускае і другой магчымасці—паказаць Палессе з усімі яго фарбамі і асаблівасцямі так, як гэта можа толькі жыхар гэтага краю і ўбачыць і паказаць: з усёй праўдай побыту, мовы, звычаяў. Не этнаграфічная статыка і дэкаратыўнасць, а жывое, рухомае жыццё, якое цячэ, пераліваецца.

У мове рамана ўсё гэта выявілася асабліва цудоўна і па-наватарску (перш за ўсё ў дыялогах і масавых сцэнах). Вельмі ён у кантэксце ўсяго мележаўскага твора—гэты паляшуцкі дыялект у галасах герояў: нібыта дзіцячы голас гудзе-вымаўляе на пробу ўсе гэтыя «мамо», «було», «цётко», «кеб», «ето». Але ўвесь кантэкст адразу настройвае чытача на ўспрыняцце і мовы паляшуцкай «усур'ёз», як натуральнага праяўлення рэальнага жыцця рэальных людзей. Ніякай гульні паляшуцкім словам, нават намёку на гэта, а гэта ж так, здавалася б, спакуслівa! Не, для аўтара гэта жывая мова яго памяці, дзяцінства, мова бацькі і маці, і яму грэх было б забаўляцца ёю. Але вось што дзіўна: чытач таксама, неяк адразу, проста і натуральна ўспрымае дыялект мележаўскіх герояў. Мабыць, таму, што адразу адчуў і паверыў у паўнату і значнасць духоўнага жыцця гэтых людзей, і таму мова гэтая, дыялект (а дакладней, элементы яго, выкарыстаныя смела, але з добрым адчуваннем меры) не здаецца чытачу нечым такім, на што трэба ўвесь час звяртаць увагу. Як не звярнуў бы ён увагі на зрэбную паляшуцкую вопратку Ганны, калі б убачыў і ацаніў яе прыгажосць у рэальнай палескай вёсцы... І яе «буў», «дзядзько» гучала б (і гучыць у рамане) па-асабліваму натуральна, пявуча, кранаюча наіўна і ўжо звыкла для нас. Без гэтай фарбы многае ў рамане страціла б у сваёй паўнаце, першароднасці. Знікні яна—і з гэтым упэўненым (як усё жывое, у «праве жыць») дыялектам знікла б з рамана нейкае святло, нейкая вельмі чалавечная падсветка ўсяго таго, што адбываецца ў творы. Што міжволі адчуваеш у перакладах, нават у самых удалых, беражлівых, дзе ўсё-такі аслабляецца не сам дыялект (яго стараюцца захаваць), а «счапленне», «сумяшчальнасць», стылёвае ўзаемадзеянне яго з астатнім моўным фонам—гэтага дабіцца цяжэй.

Хоць у рамане І. Мележа спачатку даволі выразна вызначаецца галоўны і нібыта вузка-раманны «трохкутнік» (Ганна—Васіль—Яўхім), па поглядзе на свет і людзей, па жанры рэч гэтая належыць да эпапей «талстоўскага тыпу», дзе фактычныя граніцы паміж «галоўнымі» і «не галоўнымі» персанажамі вельмі ўмоўныя, няўстойлівыя, чыста колькасныя, а не якасна-эстэтычныя.

Што мы маем на ўвазе? А тое, што ў падобных творах кожны «не галоўны» можа стаць «галоўным», як толькі гэтага запатрабуе сам рух падзей альбо аўтарскай думкі. Плынь можа раптам пайсці па новым рэчышчы—па «рэчышчы», так сказаць, другарадных персанажаў, якія апынуліся ў пункце «найбольшага напору».

А што, хіба не ва ўсякім рамане так? Да Талстога, да яго «Вайны і міру», такой эстэтычнай «раўнацэннасці» персанажаў не існавала ў рамане. Галоўныя дык галоўныя, ім весці ўсё, ім і завяршыць.

Для Талстога ж і Кутузаў, які даў вымушаны загад пакінуць Маскву, і ананімны Ціт, які разам з усімі пакідае сталіцу ў агні і якога жартаўнікі ўсё пасылаюць «малаціць»,—абодва раўнацэнныя ўдзельнікі падзеі, хоць яны і не аднолькава накіроўваюць яе, абодва яны ў патоку, які іх нясе. А ўжо які-небудзь рахманы батарэйны Тушын альбо Цімохін з чырвоным носам куды болей гістарычныя асобы, чым цар Аляксандр альбо Напалеон. Пры такім поглядзе паняцце галоўнага ці не галоўнага і ў самім сюжэце зрушваецца настолькі, што падзеі мог «павесці за сабой» менавіта Тушын альбо партызан Шчарбаты, калі б Талстой не быў звязаны гістарычнай канвой.

Ну а Мележ меней звязаны, героі ж яго жыццёва раўнацэнныя, тут ужо чакай усякіх нечаканасцяў. І Мележ ужо здзівіў чытачоў (а, магчыма, і сам здзівіўся), калі «напор» матэрыялу, думкі, пачуццяў зрушыў усё ў рамане «ў бок Апейкі». Гэта—у другой кнізе. Што будзе ў трэцяй, хто акажацца «галоўным», ці, лепш сказаць,—«на галоўным напрамку» жыццёвага патоку, напору? Гэта ведае, мусіць, адзін аўтар. Але наўрад ці ведаў і ён з самага пачатку. А, магчыма, і сам здзівіцца, калі сюжэт «пацягне на сябе» зусім не той герой, які «павінен быў» па першапачатковай задуме.

Гэта не «сюжэтная анархія», гэта—заканамернасць, асаблівасць развіцця задумы ў прозе такога тыпу. У прозе, дзе галоўны герой—само жыццё, гісторыя ва ўсёй яе складанасці і дзе мастак не «дае» адказы, а сам шукае іх. І не адразу знаходзіць. Напрыклад, адказ на пытанне, чый час настае адразу пасля «сесіі»: Апейкі ці Башлыкова. Апейка бачыцца яшчэ нешта вызначае ў жыцці, але верх, адчуваецца, бярэ «стыль» Башлыкова. Вунь і на сесіі дакладчык так проста і гаворыць: маўляў, «адстаючых ад тэмпаў калектывізацыі кіраўнікоў» час адкіне і «заменіць». Каго і кім? Пра ўсё гэта задумваецца Апейка. Дык хто ж будзе ў цэнтры падзей у трэцяй кнізе? Васіль?.. Ганна?.. Апейка?.. Ці, можа, Башлыкоў? Альбо зусім нейкая новая асоба?

Але пра гэта—пасля. Цяпер уважліва прыгледзімся да мастацкіх вобразаў Мележа, улічваючы тое самае эстэтычнае «раўнапраўе» персанажаў, пра якое гаварылася вышэй.

Для Мележа кожны чалавек у Куранях і ў акрузе—гэта асобны чалавечы лёс, і амаль за кожным—агульны ў нечым народны лёс. І Хоня, і дзед Дзяніс, і Сарока, і бацька Ганны Чарнушкі... Пра кожнага сказана ў меру і так, што мы адчуваем, якія сапраўдныя, нявыдуманыя іх жыццёвыя клопаты і якая глыбокая ў аўтара зацікаўленасць і гэтымі іх клопатамі, і іх лёсам. І лёгка верыцца, што варта толькі аўтарскай увазе спыніцца, затрымацца на кім-небудзь з іх, як сюжэт пацячэ ўжо ў гэтым напрамку, прытым гэтак жа натуральна, з усімі падрабязнасцямі рэальнага чалавечага лёсу, думак, пачуццяў. Дарэчы, не толькі апраўданая неабходнасць такіх паваротаў (у «Подыху навальніцы»—у бок Апейкі), але і пэўнага роду спакуса можа паўляцца перад аўтарам ва ўмовах такой «роўнасці», такой блізкасці душы мастака амаль усіх яго герояў. Яму яўна прыходзіцца сябе стрымліваць, абмяжоўваць, але калі падзеі вельмі напіраюць у якім-небудзь напрамку, ён часам захапляецца і тады раптам адхіляецца, і пачы-

нае развівацца даволі самастойная лінія—трагічны лёс Хадоські, якую так спустошыла, так «выхаладзіла» яе любоў да Яўхіма. Вельмі адхіляецца гэтая лінія, праз меру самастойная? Не, пра гэта бадай гаварыць яшчэ рана: хто ведае, якое прадаўжэнне, магчыма, атрымае гэты вобраз, гэтая лінія ў наступных кнігах.

Вось так магла б раптам выступіць на першы план і маці Васіля, і брат Валодзька, і Сарока, і бацька Ганны—многія. Бо яны ўвесь час тут і жывыя. А не выступяць на першы план, застануцца ў «масе»—ад гэтага іх рэальнае жыццёвае значэнне не страціцца, таму што «маса» гэтая—народная, самая блізкая і аўтарскай думцы і аўтарскай душы.

Каб, скажам, не стрымлівала Мележа адчуванне мэтазгоднасці, «кампазіцыйныя меркаванні», колькі б ён мог расказаць нам пра балбатлівую і нібыта бесклапотную куранёўскую Сароку, якая як быццам задалася мэтай весела зарыфмаваць сваё невясёлае ўдовіна жыццё і ўсё гэтае куранёўскае жыццё «на балоце». Так і сыпле, так і сыпле!

«—Пажыве—розуму нажыве!.. Нажыве, быць не можа, калі на што гожы!»

«— Не выбраць бы халеру—гарачы не ў меру!»

«— А ён і не вінаваціць нікога—ні чорта, ні бога!»

Сарока ўсюды выскачыць, усюды ўторкне свае «тры грошы», але за яе нібыта балбатлівасцю, несур'ёзнасцю адчуваецца асаблівая няўпэўненасць, трывожнасць удовінага жыцця. І калі Мележ раптам робіць адступленне і расказвае нам пра забітага «за цара і айчыну» яе мужа, яе «Волеся», які з «недамерка», «смарчка», дробненькага мужчынкі вырас у засмучонай жаночай душы, у памяці яе амаль у асілка, мы адчуваем, якая магчымасць для мастацкага развіцця закладзена ў вобразе Сарокі. Магчымасць, у дастатковай меры рэалізаваная, але не вычарпаная. Як і ў кожным вобразе Мележа.

Вельмі жыццёвы ў рамане і вобраз Андрэя Рудога—вясковага «кніжніка», які кнігу тую, магчыма, і ў вочы не бачыў, а ўвабраў у сябе «з ветру». Таму што натура ў яго такая—ён павернуты да ўсяго, што ідзе да мужыка звонку, збоку, ён—і сум мужыцкі па «нетутэйшым», і пародыя на ўсё, што, «не даходзячы, праходзіла міма» мужыка. Сарока, дык тая сама стварае свет у слове, «рыфмуе» гэты далёкі свет з рэчамі блізкімі, зразумелымі ёй. Андрэй Руды нават сваё, зразумелае робіць цёмным і незразумелым—«па навуцы».



«— Чалавек—сушчаство. Так сказаць, ён і мошка, і ён—валадар, цар прыроды. Ето шчэ вучыў паэт Някрасаў, а такжа Талстой, Леў Мікалаевіч!»

Андрэй Руды з гэтай сваёй «вучонай» гаворкай, дзе да месца, а дзе і не да месца, таксама мнагамерны як асоба, як мастацкі вобраз. І ў яго, як і Сарокі,—словы, словы, і раптам за імі адкрываецца лёс чалавечы, глыбіня, і гэтае яго нібыта механічнае гаварэнне набывае другое значэнне—псіхалагічнае, а недзе і абагульняючае, сацыяльнае. Гэта—калі Міканор, страціўшы цярпенне са сваімі аднавяскоўцамі, якіх ніяк не пераконвае яго агітацыя за калгас, раптам абвінавачвае Андрэя Рудога ў тым, што той дзейнічае «супраць». Як шчыра здзівіўся і пакрыўдзіўся Андрэй Руды: ён жа толькі хацеў, каб «па навуцы» было, а не цяп-ляп... І гэта—здзіўленне і крыўда простага і недурнога чалавека, які мае і здаровае чуццё, і здаровы сэнс земляроба. Але той жа Андрэй Руды неўзабаве ўпэўнена будзе патрабаваць сабе «пасады» ў калгасе: ён жа «пісьменны», з навукай запанібрата!

І чаго толькі няма ў ім, у селяніне! І працаўнік ён, паэт у сваёй любові да зямлі. Як Васіль. І ўласнік, які таго і глядзі вырасце ў другога Глушака—«Карча». Як той жа самы Васіль—другі бок яго сялянскай натуры! І на гультайства ён здатны, селянін—той жа Андрэй Руды, напрыклад, калі атрымае партфель і будзе насіць у ім «навуку» ў выглядзе розных паперак, прадпісанняў. Але Андрэй Руды—яшчэ толькі вясёлая пародыя на Башлыковых, а ў нечым, магчыма, і на Міканора таксама, які хоць і вельмі актыўны, але таксама, глядзі, як стаў хадзіць па зямлі, як гаварыць пачаў з аднавяскоўцамі і нават з блізкімі аднадумцамі! З Хонем, напрыклад, калі той выпрашыў ажаніцца з Хадоськай—не зусім, з пункту гледжання Міканора, «свядомай»...

У Мележа, пісьменніка, які вось так глыбока і шматслойна адчувае свой «матэрыял», які з жывога жыцця прадзе ніткі і тчэ сваё палатно, ёсць вялікая перавага «пашырацца», куды павядзе яго само жыццё, чалавечыя характары. Але гэтая перавага, паўтараем, тоіць у сабе і немалыя цяжкасці—мастацкія.

Ва ўмовах раўнацэннасці «галоўных» і «не галоўных» персанажаў для раманіста існуе і другая небяспека: ён можа празмерна затрымацца на «галоўных», і тады «раман-жыццё», «раман-народ» звузіцца да «рамана-сюжэта», што было б вялікай стратай у дадзеным выпадку. Якія ні дарагія і ні цікавыя для нас Васіль і Ганна (ды і ўвесь трохкутнік з Яўхімам разам), мне ўяўляецца, што адыход Мележа ў другой кнізе ад іх да Апейкі не толькі апраўданы ідэйна-мастацкімі меркаваннямі, але і проста вельмі своечасовы. Некаторыя крытыкі і чытачы, якім гэта не спадабалася і якія спяшаюцца гаварыць пра «спад» у другой кнізе, глядзі каб не першыя паскардзіліся на зацягнутасць і сум, калі б аўтар не вывеў нас з Куранёў туды, дзе накопліваецца электрычнасць, якая павінна потым разрадзіцца навальніцай—асвяжальнай, ураджайнай, а часам і разбуральнай. І тут Мележам кіравала само жыццё, а не самавольства раманіста,—жыццё і дакладнае чуццё мастака, якое, будзем спадзявацца, не раз яшчэ апраўдаецца на наступных старонках рамана—у трэцяй кнізе.

Пасля выхаду ў свет «Людзей на балоце» І. Мележу давялося выслухаць папрокі за адыход ад сучаснасці ў мінулае. Пісьменніку, між іншым, давалася і такая парада: ужо калі і пісаць пра той далёкі час, дык у цэнтры трэба паставіць перадавога Міканора, а не Васіля Дзятла, які цягнуў тэмпы калектывізацыі назад.

Міканор—фігура складаная. І па сацыяльна-псіхалагічным змесце, эвалюцыі гэтага вобраза, і па аўтарскай ацэнцы яго дзеянняў, якая мяняецца па меры таго, як мяняецца гэты чалавек, яго характар, сэнс і матывы яго ўчынкаў.

Хто ён спачатку, калі з Чырвонай Арміі вяртаецца ў родныя Курані? Не вельмі пісьменны, ён з тым большай павагай, як і Андрэй Руды, ставіцца да «навукі паліграматы», якую прынёс у Курані са шчырым жаданнем дабра сваім землякам. Па-салдацку рашуча і з душой ён узяўся адукоўваць куранёўцаў наконт «опіума народа»—усякіх п'яных святаў і звычаяў, якія прыносяць толькі шкоду. Нешта ён робіць вельмі просталінейна, і гэта вельмі прыкметна на яго ўзаемаадносінах з маці, але ў цэлым—гэта чалавек энергічны, які ўмее пачаць і павесці справу, арганізаваць людзей, што асабліва праявілася на будаўніцтве грэблі. Тут усё па-чалавечы проста і значна: і як сам Міканор засумаваў па цяжкай сялянскай рабоце, і як ён кіруе, а бацька, які таксама ў яго ў добраахвотным падпарадкаванні, з гонарам за сына, але і з трывогай сочыць, а ці так сын робіць, як трэба, і як да яго людзі, і што ў яго выходзіць. І ў асноўным у яго выходзіць, таму што з думкай пра людзей, для людзей стараецца Міканор, і аўтарытэту ў яго болей, чым правоў, а ўсе правы яго нараджаюцца, узнікаюць з ініцыятывы ды з гатоўнасці самае цяжкае ўзяць на сябе.



Іван Мележ з народным артыстам СССР У. Дзядзюшкам—выканаўцам ролі Чарнушкі ў тэлеспектаклі «Людзі на балоце».

Нялёгка яму з людзьмі, якія не прывыклі рабіць агульную справу. Але галоўнае — паказаць людзям, што яны лепшыя, чым самі пра сябе думалі,—Міканору ўдаецца.

«І нашы куранёўцы не горай за другіх,—плылі паволі думкі ў Міканора.—І з нашымі можно рабіць... Абы толькі падняць ды павесці... А там яны пойдуць... Людзі як людзі... Нічого, мы шчэ пакажам з етымі людзьмі!..

Ён весела адагнаў млоснасць, устаў першы.

— Дак можа—перадыхнулі ўжэ?»

Гэта адзін Міканор, спачатку.

А вось Міканор у далейшым, з якім мы і расстаёмся ў «Подыху навальніцы».

З Васілём:

«Думаў помсліва, люта: «Я пакажу табе—«кажны» я—ці не «кажны». Араб які ці—уладай пастаўлены за сяло адказуваць! Няма ў мяне закону ці е закон!.. Дзержыцца яшчэ як!.. Горай Глушака старога! Той хоць прамаўчыць!»

Са сваімі аднавяскоўцамі:

«— Народу сабралася!..—Усе зразумелі і ўсмешку, і гэтае нядобрае «сабралася», у якім чуўся помслівы папрок, які не зычыў лагоднасці. Адны няёмка, вінавата засмяяліся, другія задымілі. Усе чакалі далейшага. Нядобрая ўсмешка ўсё не сыходзіла з плоскага, пакляванага Міканоравага твару.—Дружно—не сакрэт—сабраліся!—прамовіў ён зноў помсліва».

Што ж сталася з Міканорам? За што і каму ён «помсціць»?..

Нешта такое паявілася ў паветры, нешта насіцца невядомае, нейкія зласвесныя разрады, і пра гэта напружана думае, мучыцца гэтым Апейка—уся другая кніга Мележа пранізана пытаннямі, пытаннямі... На адны з іх недзе спрабуе адказаць адкрыта, публі-

цыстычна Апейка альбо сам аўтар (праз думкі Апейкі), на другія адказвае дылогія ў цэлым, а іншыя толькі паўстаюць і ва ўсім значэнні паўстануць, відавочна, толькі на старонках, якія яшчэ пішуцца.

І Міканора з яго нечаканай злосцю, помслівасцю, безаглядным камандзірствам і самалюбствам, якое раптам узгарэлася ў яго, трэба разглядаць, не выключаючы з агульнай абстаноўкі.

Але пры гэтым нельга не ўлічваць і логіку развіцця самога характару ў той, вельмі пэўнай, абстаноўцы—гэта якраз асабліва важна: у мастацкіх рашэннях змест бывае багацейшы, чым у адказах публіцыстычных.

А было ж у гэтым чалавеку, было і другое! Не толькі ў пачатку, на грэблі, але і потым. Калі ён сваю волю, энергію бескарысліва накіроўваў на самае важнае, патрэбнае, неабходнае людзям, і было ў ім, жыло адчуванне, што ён—з імі, са сваімі людзьмі, а не супраць іх. Уперадзе, вядзе іх, у нечым апярэджвае, але—з імі. Гэта—калі дабіваўся перамеру зямлі, справядлівага размеркавання адрэзаных лішкаў сярод многасямейных і беднаты.

Прарывалася і тады ў ім гэта—нецярплівасць, нежаданне доўга думаць (бо адкуль жа яно ўзялося б потым), але гэта быў толькі цень на светлым, а было і святло—у душы, у думках і пачуццях, у адносінах да людзей.

Так, гэта была вяршыня яго дзейнасці і чалавечая яго вяршыня—пачатак арцелі, першыя дні работы супольна, па чарзе на полі, на сенакосе ў кожнага, але спачатку ў самых бедных, слабасільных, многасямейных.

«Так яно весела і проста пачалося на мокрым, нібы дымным балоце, у ранак, ва ўсім, здавалася, падобны на ўсе іншыя. Балота жыло звычайным сваім клопатам, і ў клопаце гэтым мала хто разумеў, што з гэтага пачынаецца новае, не знанае яшчэ ў Куранях».

А потым і Міканора захліснула хваля «тэмпаў», «гонкі», а на самай справе нявер'я ў трываласць і жывучасць гэтых першых парасткаў новага—арцеляў, калгасаў. Чаго чакаць, колькі чакаць, трэба ўсіх адразу, каб назад ходу не было. Колькасць пяройдзе ў якасць!..

Пра гэта потым столькі будзе сказана, перадумана ў «Подыху навальніцы». Але пакуль прыгледзімся, як і што знешняя хваля абудзіла ў Міканора, якую сустрэчную хвалю паклікала.

Як і трэба было чакаць, зусім не на «свядомасць», не на самыя «перадавыя» думкі і пачуцці гэтая знешняя хваля падзейнічала. Наадварот, яна ажывіла, абудзіла самыя што ні на ёсць буржуазныя, «старажытныя», уласніцкія імкненні—у адных і кар'ерызм, бяздушша і абыякавасць да лёсу людзей, краіны, сацыялізму—у другіх. У Міканора яна абудзіла тую самую помслівую жорсткасць.

Як гэта адбываецца, куды развіваюцца падзеі, праз якія суб'ектыўныя памылкі і аб'ектыўныя цяжкасці здзяйсняецца гістарычна немінучы і неабходны «вялікі пералом»—усё гэта бачыцца, ацэньваецца, аналізуецца ў рамане вачамі Апейкі.

Апейка—са свайго часу. Але як быццам і з нашага таксама. Ён вельмі востра ўсё бачыць, усё прыкмячае.

«Ён заступіўся за чалавека; а чаму ён не мог заступіцца, калі не ўпэўнены ў тым, што той вінаваты? Хіба б лепш было, каб ён, не ўпэўнены, што чалавек—вінаваты, наперакор свайму сумленню, прамаўчаў бы?.. Чаму—праўда,—думаў Апейка, згадаўшы тое, што казаў Алесь,— абараняць цяжэй, чым абвінавачваць? Чаму—праўда—той, хто абвінавачвае, заўсёды стаіць нібы вышэй? Адкуль гэта ўзялося, як яго пранікла ў наша паветра: што прынцыповасць—гэта толькі, ці найперш,— выкрываць, абвінавачваць?»

Што гэта—мадэрнізацыя? Ці гістарычная праўда? Сапраўдныя ленінцы,—якая б хваля ні падымалася, як бы яна ні цягнула за сабой, ні захоплівала многіх,—усё правяралі, усё выпрабоўвалі ленінскімі крытэрыямі палітыкі, маралі.

Магчыма, і з Апейкам адбудзецца трагедыя—да гэтага вядзе справу Галенчык, абвінавачваючы яго ў «сувязях» з братам-кулаком, у падазроным заступніцтве за «класава варожых элементаў» і г. д. Усе сутычкі і спрэчкі Апейкі з тым жа Харчавым, нязгода з яго метадамі—гэта, урэшце, пытанне культурнага і палітычнага росту адданых ідэі, справе людзей, якія здольны разумець і свае слабасці, недахопы.

Іншая справа Башлыкоў. Гэта не Харчаў, амаль непісьменны, а чалавек вельмі нават «пісьменны»—на свой асаблівы лад. Башлыкоў перакананы, што палітыка—гэта ўменне маніпуляваць асобнымі людзьмі—у сферы кіраўніцтва (такімі, як малады Кудравец), і рухаць «масамі»—унізе. А хто не ўмее альбо не хоча рухацца па яго знаку, няхай наракае на сябе. Самай вялікай лаянкай для яго гучыць слова «псіхалогія». Лічыцца з «псіхалогіяй», асобным чалавекам—гэта ўстарэлыя, з яго пункту погляду, метады такіх людзей, як Апейка.

Адчуваючы, як важна самую гісторыю ўзяць сабе ў саюзнікі пры такім адказным і прынцыповым павароце раманнага сюжэту, І. Мележ не прыдумляе выступленні на «сесіі», а бярэ іх проста са стэнаграм таго часу, робячы такую заўвагу: «...усё, што я тут пішу,—праўда, ні слова я не прыдумваю тым, хто выступае» (І адсылае да адпаведных дакументаў).

Увядзенне дакумента ў мастацкую тканіну—прыём не новы і для беларускай літаратуры. І ў прозе 20—30-х гадоў былі такія спробы. Будаваліся нават цэлыя аповесці на «прыёме дакумента» (М. Зарэцкі).

Але каб не стылёвая ў пераважнасці, як бывала, а сур'ёзная ідэйна-мастацкая задача ставілася і гэтак смела вырашалася, прытым з выдатным мастацкім вынікам,—такога ў нас бадай яшчэ не было.

Ад рэдакцыі да рэдакцыі, ад варыянту да варыянту пісьменнік эстэтычна асвойваў дакумент, стэнаграму «сесіі», псіхалагізуючы яе, прапускаючы падзеі праз успрыняцце Апейкі. Але самая галоўная эстэтычная задача і мэта дасягаецца іншым—аб'ектыўным гучаннем дакумента ў ідэйным кантэксце ўсяго рамана, тым, што дакумент не толькі «ўпісаны ў псіхалогію» героя, але і ўсё ў рамане ён прымушае гучаць асабліва строга, усур'ёз, без скідак на «раманістыку». Вось ужо сапраўды: напісана таму, што не магло быць не напісана!

«...Апейку няёмка было слухаць спрэчкі пра тое, дзе будаваць агракамбінаты, аграгіганты ў той самы час, як прамоўца з Палаччыны, старшыня калгаса, гаворыць пра тое, што «На сотню коней ёсць дваццаць хамутоў,—бо іх нельга купіць, бо сыравіны няма. Добра, што ў нас лаза ёсць, дык мы з лазы зрабілі. А ў некаторых калектывах можа і лазы няма...»

А старшыня Клімавіцкага райвыканкома Тарасенка горача гаворыць наркому Рачыцкаму: «Трэба замацаваць калектывы! А іх можна замацаваць не толькі гутаркамі і рэзалюцыямі! А—канкрэтнай дапамогай!»

І вось паднялася на трыбуну разумная, перадавая сялянка Аніся, якая прыехала на «сесію» разам з Апейкам і Башлыковым. І сказала (нібыта сказала) тое, што хоць і не застэнаграфавана проста ў тых дакументах «сесіі», але што ўсё-такі адчувалася і ў прамове хітрага старшыні калгаса з Палаччыны, і ў некаторых іншых выступленнях «людзей з месц» (і пра што думае, пра што мог бы сказаць, калі б ён выступіў, і камуніст Апейка). Аніся сказала самае простае: «Але справа не толькі ў колькасці, але і ў якасці калекціваў. Не трэба спяшыць, штоб нарабіць іх вялікую колькасць... Трэба штоб яны былі добрыя... І тады калекцівы будуць арганізоўвацца амаль што самі».

І адразу ўсё як бы апусцілася на рэальную глебу, у Курані, у тысячы Куранёў, дзе жывуць рэальныя людзі і дзе ўсё правяраецца і адлюстроўваецца на лёсе жывых людзей—правільнае і няправільнае, добрае і дрэннае. Куды вяртаецца і Апейка—з усімі сваімі думкамі і нявырашанымі пытаннямі. З сумненнямі ў самім сабе.

Вось тут мы і вернемся, ужо спецыяльна, да лёсу, кампазіцыйнай ролі вобраза Васіля Дзятла ў рамане. Як і шолахаўскі Грыгорый Мелехаў, герой І. Мележа жыве, існуе ў пэўным сялянскім асяроддзі, і сацыяльнае яго становішча вельмі пэўнае. Але ж і Мелехаў—серадняк, аднак «Ціхі Дон»—гэта не толькі пра лёс серадняка альбо «серадняка-казака» ў рэвалюцыі, як пісалі ў свой час. Гэта— *і пра лёс сялянства*, і працоўнага народа, і наогул чалавека на гарачай ад бітваў і страсцей планеце.

Не, не ўсе Курані, куды вяртаемся мы з Апейкам *пасля* «сесіі», не ўсю вёску, сялянства тых гадоў убачыш праз Васіля Дзятла. Яно вельмі рознае, сялянства, у яго многа абліччаў: *і Міканор, і Хоня, і Зайчык*, а з другога боку—кулакі Хвашчы, гэта таксама сялянства.

Але многае, вельмі многае сабрана і ў Васілю—у гэтым асабліва ёмістым вобразе рамана. І таму, «апускаючы» думкі і сумненні Апейкі на куранёўскую рэальнасць, мы ўслед за аўтарам павінны асабліва ўважліва ўглядвацца ў паводзіны, псіхалогію менавіта Васіля Дзятла.

Аднак не будзем лішне паддавацца спакусе аналізаваць вобраз Васіля як пацвярджэнне праўды Апейкі. Так яго можна ператварыць і ў голую ілюстрацыю (чаго, дзякуй богу, няма ў Мележа).

Васіль не ілюстрацыя, а жывы, эстэтычна самацэнны характар, надзвычай багаты, складаны, ёмісты—столькі «сілавых ліній» самога жыцця, наэлектрызаванага, як паветра перад навальніцай, пранізвае гэты вобраз.

Васіль жыве перш за ўсё пачуццём, хоць можа і здацца вунь якім своекарыслівым рацыяналістам—той жа Ганне, ды і чытачу. Ён увесь у разліках, у падліках: якой бы яму зямелькі прыдбаць, ды што важней—Ганніна каханне, яе гатоўнасць усё кінуць і пайсці-паехаць з ім хоць на край свету ці гаспадарка, зямля «за цагельняй», якую ён здабыў, ажаніўшыся з нялюбай Маняй Пракопавай дачкой.

«Не кіне ён ніколі поле гэтае, якім не нацешыўся, хату, у якой не жыў яшчэ; не кіне—каб і хацеў! Не можа кінуць; як не можа сам сябе загубіць!»

Але і ў сваіх разліках-падліках Ва-

сіль—чалавек страсці. Яна кіпіць у ім, калі ён хапае Міканора загрудкі на сваёй паласе. З-за яе, побач з ёю нікне і нібы гасне і яго любоў да Ганны. Ганну ён можа пакінуць, неяк лёгка паверыўшы плёткам, нагаворам, і нават потым знойдзе суцяшэнне ў халодных і таксама нібыта карыслівых разважаннях, што «не суджана», што «вось і добра!», і можна аддацца нечаму галоўнаму—другой страсці.

Так ходзяць толькі да каханай на спатканне, як Васіль ходзіць да сваёй «паласы» глядзець на ўсходы, радавацца і трывожыцца за іх! І так пакутуюць ад рэўнасці, ад падазрэнняў вялікія раўніўцы, спадзеючыся і баючыся застаць саперніка, як пакутаваў Васіль, калі на досвітку, амаль ноччу, бег да «цагельні», каб першаму захапіць, заараць зямлю, пра якую столькі марыў.

«Марыў, а сам паліў сябе, прадракаў упэўнена, як бы ведаў загадзя: «Аге, чакай, так табе і дадуць яе. Пабачыш, як свае вушы!..» Ён амаль на свае вочы бачыў, як гэты—такі жаданы, даўно-даўно аблюбаваны—кавалак пераходзіць у нечыя іншыя спрытныя, хітрыя рукі...

Трывожачыся, поўны лютасці да лаўцоў, праз якіх ніколі не абярэшся ад крыўды, Васіль як бы чуў дзедава павучанне, якое яшчэ больш гарачыла, падбівала на смеласць: «Не папускайся! Няхай знаюць, што і ў цябе зубы е!»

...І раптам пахаладзеў: а можа, пакуль ён думае попусту, той кавалак хто-небудзь ужо і прыбраў! Не аднаму ж яму пастанавілі даць зямлю! «Устаў от поначы—і захапіў! І чакае толькі, калі падыдуць другія—каб паказаць!»

Как молодой повеса ждет свиданья
С какой-нибудь развратницей лукавой
Иль дурой, им обманутой, так я
Весь день минуты ждал, когда сойду
В подвал мой тайный к верным сундукам...

Што ў іх агульнага—у скупога рыцара, голас якога даносіцца з неба пушкінскай паэзіі, і палескага селяніна, для нас такога рэальнага і «зямнога»? Бадай нічога, акрамя вось гэтай апантанасці, страснага жадання валодаць сваім багаццем: бачыць, дакранацца, ведаць, што яно—тваё!

Але толькі «багацце», да якога Васіль ірвецца без аглядкі,—асаблівае. Гэта не мёртвае багацце куфраў, з вышыні якога скупец «глядзіць на ўсё, што яму падуладна», упіваючыся ўсведамленнем сваёй сілы, якое тым



вастрэйшае ў ім, што ён сілай гэтай не карыстаецца. І гэта не багацце «Карча»—куранёўскага кулака, які жыве сярод людзей, а не ў падвалах, і карыстаецца людзьмі, іх працай, гатовы (каб дазволілі) свой «талент гаспадара» і ўсё накопленае ператварыць у новыя гектары зямлі, малатарні, а суседзяў—у батракоў.

Што ж, Васіль мог стаць і тым, і другім. І нават можа. Асабліва «Карчом». Пры пэўных умовах.

Але чым толькі чалавек ні можа стаць! Дык адразу яго за гэта судзіць і караць? Ніводзін кодэкс чалавека за гэта не карае. Хіба што хрысціянства—за «першародны грэх».

Вось чаму сапраўдная вялікая літаратура («Ціхі Дон», «Краіна Муравія», «На Іртышы»), па-марксісцку разумеючы, што прыватнаўласніцкая вёска нараджае капіталізм штогадзінна, штохвілінна і ў масавым маштабе, літаратура гэтая, тым не меней, не прапаведуе недаверу альбо непрыязнасці да самога селяніна і да тых якасцяў яго псіхалогіі, якія яго селянінам, земляробам і робяць.

Так, мы шмат разоў бачым і адчуваем, як памыляецца селянін Васіль Дзятлік у сваіх учынках, жаданнях, пачуццях. Аўтар рамана нам пра гэта гаворыць. Тое, што робіцца ў яго Куранях, па ўсёй краіне, робіцца і дзеля яго, Васіля, як рабілася сацыялістычная рэвалюцыя і дзеля Грыгорыя Мелехава, хоць вунь як люта, шабляй Грыгорый сячэцца з ёю! Але праўда і тое, што і Міканор гэтага таксама не зусім разумее, і Башлыкоў не разумее—што ў імя Васіля, вось гэтага канкрэтнага, куранёўскага, нават калі ён паводзіць сябе і не «ідэальна» з іх пункту гледжання, рабілася наша рэвалюцыя.

Васіль памыляецца ў нечым вялікім, важным. Але яго адрозненне ад загібшчыка Ярашчука і Башлыкова ў тым, што памылкі свае аплочвае ён сам, а не другія. І ўсё, што ён гаворыць, робіць—усё аплочана страсцю, кіпеннем яго пачуццяў і душы.

На тым жа полі, дзе ён схапіўся загрудкі з Міканорам, прысутнічае малады землямер, дзіўна чужы ўсяму, што адбываецца каля яго і навокал. Вобраз эпізадычны, безыменны, але праз яго адкрываецца вельмі многае і ў Башлыкову, і ў тым далёкім Ярашчуку: чалавек ходзіць па полі, адмярае Васілю, Хоні, усім куранёўцам—каму радасць, удачу, каму—слёзы, бяду, а сам—вунь які чужы і абыякавы і да тых, і да другіх, сам ён нічым не плоціць за тое, што робіць—ні адным сваім нервам...

Васілёвы недахопы, няхай і немалыя, з'яўляюцца прадаўжэннем яго вартасцяў—таксама сялянскіх і таксама немалых. Успомнім, як умее ён, яшчэ кволы, яшчэ падлетак, працаваць (сцэна касьбы ў пачатку рамана). Колькі душы, цяпла ён укладвае ў кожную раслінку, якую вырошчвае! Хто ведае, ці не гэтым цяплом сялянскіх рук і дыхання земляроба ды праменнямі сонца, з якімі цяпло гэтае спалучалася, адагрэта была, зазеленела зноў наша планета пасля ўсіх абледзяненняў!

Ну а калі без паэтычных перабольшванняў, а прыпомніць рэальную гісторыю і рэальнае жыццё тысяч і мільёнаў такіх упартых, улюбёных у зямлю-карміцельку сялян, дык можна і Васілёў лёс уявіць далей зусім рэальна (хоць гэта, магчыма, і не супадзе з сюжэтам, раманным лёсам канкрэтна гэтага Васіля).

Не проста і не таму, што ўзрадаваліся «аграгарадам-гігантам», і нават не пад «напорам» Міканора і Башлыкова, а таму, што паклікала ўсё тая ж сацыялістычная рэвалюцыя, якой працоўны селянін глыбока давяраў,—вось чаму сталі на незнаёмы шлях калектыўнага жыцця сяляне ўсёй масай, уцягваючы і самых упартых, недаверлівых. І зрабіў гэта, рашыўся на гэта селянін-земляроб з нечаканай прастатой—як гэта ўмее рабіць, рашаць толькі народ на паваротах сваёй гісторыі. (Гэтая думка ў рамане прысутнічае ў саміх аўтарскіх адносінах да сялян-куранёўцаў, у масавых, групавых сцэнах куранёўскіх сходаў,—да яе, да гэтае думкі, вядзе ўся логіка падзей першых дзвюх кніг Івана Мележа.)

А потым—вайна, найцяжэйшыя выпрабаванні для народа, краіны, грамадскага ладу, і з яе мы выйшлі пераможцамі дзякуючы і тым якасцям, якія народ пранёс праз усе стагоддзі працоўнага жыцця і вялікіх гістарычных выпрабаванняў. І дзякуючы тым новым якасцям, якія ў людзей выхавала гісторыя, рэчаіснасць ужо савецкая.

А потым—пасляваенныя цяжкасці ў вёсцы. Ох, як патрэбны быў у тых умовах поўнага разбурэння, абязлюдзення нашых вёсак Васіль, той, які ад зямлі не ўцячэ! З гэтымі яго трапяткімі адносінамі да ўсяго, што корміць чалавека на зямлі, са злоснай упартасцю ў рабоце. Нават калі ты галодны на ёй, на гэтай зямлі, таму што вораг усё знішчыў, разрабаваў, спаліў...

Як многа значыла ў гэтых найцяжэйшых умовах пачуццё земляроба! Успамінаецца, як у цяжкім сорак дзевятым ці пяцідзесятым годзе старшыня калгаса ў былой партызанскай вёсцы пайшоў па хатах і нічога не абяцаў людзям, а толькі гаварыў: «жыта асыпаецца, асыпаецца жыта!» Заходзіў у хату, гаварыў толькі гэта і, ні аб чым не просячы, выходзіў за парог. І выходзілі з хат бабы, дзяды, якія і на вуліцу ўжо не паказваліся з-за старасці ды хвароб, і доўга шукалі сярпы, косы...

**Іван Мележ з жонкай Лідзіяй Якаўлеўнай.**



А побач з Васілём у рамане—Ганна. Самы паэтычны вобраз. Але вельмі рэальны, зямны. Спалучэнне паэзіі з куранёўскай рэальнасцю праяўляецца ўжо ў тым, што І. Мележ пра сваю Ганну расказвае, бачачы адначасова і суседак-кумачак куранёўскіх, назіральных і прыдзірлівых, як і ўсюды, якія раптам пачалі здзіўляцца гэтай «Чарнушкавай дзеўцы». Здаецца, яшчэ ўчора была гарэза, падлетак, а вось ужо, глядзі ты! І косы чорныя, густыя, аж блішчаць, бы намочаныя, і з твару такая, як маці, смуглявая, і шчокі таксама ж выпінаюцца. Вось толькі «грудзі ў Ганны малаватыя, як кулачкі: чым толькі дзіця карміць будзе, калі давядзецца?»

Суседкі параўноўваюць Ганну з яе маці—калі тая была маладая. Як усе суседкі.

Ну а Мележ, аўтар, не пашкадуе для Ганны і такіх фарбаў, такіх параўнанняў:

«Усё лета перад хатай Чарнушкаў ціха грэлася на сонцы маладзенькая, з тонкім, як дубец, камлём рабіна... Дні за днямі цікаўна, але нясмела глядзела яна на вуліцу, на ўсіх, хто праходзіў міма,—сціплая, непрыкметная за нязграбным плотам, блізка ад вялікіх дрэў...

І неспадзявана адбылося незвычайнае: ціхая, нявідная, у жнівеньскім росквіце рабіна заружавела, зазырчэла яркім, кідкім харастсвом, гарачым полымем агністых гронак».

У жыцці, відаць, гэта было заўсёды, а ў літаратуры пачалося з коласаўскай Ядвісі і з Алесі Купрына — ох, і калючыя яны, гэтыя «ружы Палесся!» Вось і Ганна: бедныя тыя хлопцы куранёўскія (Васіль і Яўхім), якіх яна «прысушыла». Васіля яна любіць і таму — «чубіць», дапякае калючым слоўцам за тое, што ён такі сталы, сур'ёзны, «гаспадар» (хоць такога яго яна і любіць). Ну а Яўхіма за тое, што ён не такі, як Васіль і не як усе ў Куранях, што лічыць сябе «першым хлопцам» і ходзіць пеўнем. Ды і калі вось такая Ганна пачуе сябе вольнай, вясёлай, ні ад кога, нават ад таго, каго кахае яна і хто яе кахае, не залежнай, як не ў свае дзявочыя гады?..

Любіць сваю Ганну Іван Мележ, як любіць сваё Палессе! І вось такую — у цвеце, як рабіна. І яшчэ болей, мусіць, тую, што стала сур'ёзнейшай, глыбейшай і яшчэ больш прыгожай, калі прыйшла да яе жаночая доля — цяжкая і нялітасцівая, прыйшло ужо жаночае яе каханне да Васіля — такое пякучае і трагічнае.

Калі гаварыць пра форму прыгожага ў рамане І. Мележа, пра тую «абалонку», у якой яно існуе, праяўляецца, то ў Васілю яно (прыгожа-чалавечае, народнае) усё-такі знявечана Васілёвай адасобленасцю ад людзей, ад усяго свету, замкнёнасцю ў той самай «страсці да зямлі».

Ён жа і агідным бывае, гэты самы Васіль, калі, напрыклад, пашкадаваў Грыбку мёду — хвораму дзіцяці.

«Ласы на чужыя кілбасы! Мёду захацеў! Але ж, ідзі!.. Надаешся вам усім!»

Ганна заўсёды застаецца па-чалавечы прыгожай — нават тады, калі робіць памылковыя, фатальныя для сябе ўчынкі, згаджаецца на жаночую долю, такую не адпаведную яе натуры — становіцца жонкай Яўхіма, «Карчыхай», як абзывае яе Васіль.

Перш за ўсё няма ў гэтым яе ўчынку халоднага разліку: маўляў, багаты ён, Яўхім, за ім «як у Хрыста за пазухай» жыць будзеш! Было пачуццё. Не, не каханне, яна не кахала Яўхіма, але хто і калі ў Куранях сур'ёзна ставіўся да гэтага самага кахання? Хіба што ў песнях. А так, у жыцці, глядзяць, як на маладую забаўку, і толькі. Яна, Ганна, па-іншаму хацела, але нават Васіль не памог ёй, а наадварот. Ён і пакрыўдзіў яе, абразіў яе пачуццё больш чым хто, калі так хутка і ахвотна паверыў у брудную плётку пра яе.

Выбару Васіль ёй не пакідае. Дык што ж, таму яна і рашае «прыляпіцца» да Яўхіма? Таксама не. Праўда, яна думае і пра халодную, бедную старасць бацькі, якога так любіць. (Мачаха тут хітра падагрэла і яе жаласлівасць, і яе дабрату), але рашаецца пайсці за Яўхіма па сваіх меркаваннях, кожнае з якіх — зусім чалавечае.

Так, і інерцыя вясковай маралі («А як жа ў другіх: сцерпіцца-злюбіцца!»), але і дзявочы ўсё-такі гонар, што Яўхім — вунь які фарсісты і нават нахабны, нават гвалтоўнік, цяпер такі нясмелы і паслухмяны перад ёю, перад сваім да яе пачуццём (з гэтага ён і сам нямала дзівіцца). Ну і, відома, тая самая жаласлівасць, дабрата яе да бацькі, да сваёй беднай сям'і...

Але раман, але вобразы Мележа не мелі б той шырыні і паўнаты, калі б псіхалогія герояў была замкнёна толькі куранёўскімі маштабамі, толькі вясковым вопытам.

У тым і асаблівасць, у тым і вялікая гуманістычная праўда такіх сапраўдных твораў, як мележаўская «хроніка», што няма ўсё-такі непраходнай сцяны паміж пачуццямі куранёўскай Ганны і, напрыклад, пецярбургскай Анны Карэнінай. Калі гэта сапраўднае каханне. Усё па-іншаму ў той і другой — знешне, але і ўсё так па-чалавечы падобна — калі глядзець у самую глыбіню.

Колькі разоў гэта было, што жанчына карае крыўдзіцеля свайго, распінаючы, топчучы сябе! Разумеючы, што няма «яму» большай кары, чым гэтая, такая!

Ёсць тут і гэта. Пэўна ёсць. Але і другое, таксама ўсёчалавечае, ёсць, наколькі Ганна і Васіль у адрозненне ад Анны і Вронскага — гэта ўсё-такі юнацтва, юнае ўпачатку каханне. А яно, юнацтва, і кахае, і памыляецца, і карае і сябе, і другога па-асабліваму.

І Васіль, і Ганна робяць памылку, якую юнацтва робіць (і будзе рабіць), калі пра «сваю» зямлю, пра багацце і ўспаміну няма. Толькі таму, што яно — юнацтва. Жорсткае, неспрваядлівае яно бывае (да сябе і да другога) — часта па нявопытнасці, ад жадання пакараць другога за сваю, магчыма, няўпэўненасць, салодкую пакуту смутку, залежнасці душэўнай — і ўсё гэта з неразумнай надзеяй, што нішто канчаткова не зменіцца, затое ён (ці яна) «будзе ведаць!», «зразумее!..» Нешта такое, што засталося ад дзяцінства: «Вось памру, і ўсе будзеце шкадаваць, што не ўзялі мяне ў кіно!»

«Злая была я тады на цябе! Не паверыў! Другім паверыў, а мне дык — не!..»

Але жыццё карае за гэта часам вельмі сурова, не толькі не даючы чалавеку «двойчы ўвайсці» ў той жа паток, вярнуць усё, але часам наогул выкідвае са свайго «патоку». І чалавек так каля жыцця і дажывае свой век, хоць здаецца, што ён — як усе.

Такое магло быць і з Ганнай. У яе ж не было хоць бы таго, што ёсць у Васіля — другой страсці. І, магчыма, таму яна так хваравіта ўваходзіць уся ў свой мацярынскі клопат пра дачушку — цяпер сваю адзіную любоў. Пра ўсё астатняе стараецца не помніць.

Але смерць, асабліва страшная тым, што яе можна было абысці, забірае дзяўчынку. Таму толькі, што старому Глушаку шкада было траціць «рабочыя рукі» — везці дзяўчынку да доктара ў самую касьбу, а там, маўляў, і Ганна застанецца пры малой. Дасць бог, без лішніх затрат паправіцца!..

Не даў бог, памерла Ганніна дачушка — адзінае, што прымірала яе з тым жыццём, якое яна неасцярожна, не папытаўшыся сур'ёзна ў самой сябе, выбрала. Гэтыя сцэны, старонкі — бадай найбольш драматычныя ва ўсёй дылогіі. Тут — вяршыня трагедыі Ганны, трагедыі нязбытнага яе прымірэння з жыццём, якім жылі і маткі, і бабулі, а Ганна не змагла. І не захацела пасля таго, што адбылося і што адразу паставіла высокую і ўсё ўзрастаючую сцяну паміж ёю і Глушакамі, сцяну, якая вось-вось рухне і некага (як у вершы Багдановіча) «пад сабой пахавае».

«Калі выгнала кароў, сярод вуліцы, хістаючыся, пацягнулася да могілак. На свежай горцы пясчаністай зямлі пад зараснікам маладзенькіх акацый быў яшчэ халаднаваты цень — села каля ўзгорачка, гарбацілася нерухомая, як раней, перад калыскай, калі малая спала».

Але і ў Васіля жыццё адбірае тое, чым ён гатовы быў «запоўніць» упушчаную сваю і Ганніну любоў, лёс. І ён таксама застаецца, вось-вось застанецца ні з чым.

Лёс Ганны і Васіля, жыццё іх абаіх выстройваецца па «сілавых лініях» складанага супярэчлівага часу — паміж двума полюсамі. Гэтыя напружаныя «лініі» трымаюць іх (Васіля — каля зямлі, гаспадаркі, дома) ці, наадварот, клічуць некуды, адводзяць ад ранейшага (Ганну). І, магчыма, жыццё развядзе іх яшчэ далей адно ад аднаго: вунь ужо з Куранёў ад Яўхіма ўцякае Ганна. У вялікі свет. Насустрач невядомаму, неспазнанаму. Але гэта раман 60-х — 70-х гадоў, і такі лёс не можа заканчвацца, як у літаратуры 20-х ці 30-х гадоў — проста ўцёкамі ў «новае жыццё», дзе ўсё занава і лёгка вырашаецца. Там, куды ідзе Ганна, няма яе праклятых — Глушакоў з іх домам і бязлітаснай кулацкай гаспадаркай, з нялюбым каханнем і цяжкімі кулакамі раўніўца-Яўхіма... Але там свае праблемы, канфлікты, сітуацыі, таксама няпростыя, нялёгкія.

Чалавечая прыгажосць, якую нясе ў сабе Ганна,— гэта «чысцейшай вады» паэзія, якая б'е з самых глыбінь народнага жыцця. Народ заўсёды пранасіў і выносіў з мінулага ў сучаснае духоўныя і маральныя каштоўнасці, якія, здавалася, ніяк не адпавядалі ўмовам жыцця простага чалавека. Вялікае гэта шчасце чалавецтва і чалавека, што самае, здавалася б, непатрэбнае для практычнага жыцця, «малакарыснае», «лішняе» народ не кідае ў самых што ні ёсць жорсткіх выпрабаваннях, а нясе, пранosіць далей. Вунь якія высокія прыклады чалавечай дабраты, самаахвярнасці, любові, прыгажосці чалавечай захавала народная творчасць — гэта «вынеслі» да нас песні, легенды, казкі з самых змрочных часоў! Вось ужо сапраўды, як сказана ў Дастаеўскага,— каб не прапала, не пагасла «сама ідэя».

Ёсць і людзі, якія са свайго часу выносяць і нясуць далей самае добрае, што заўсёды было, ёсць або толькі зараджаецца ў глыбінях народнага жыцця. Такая Ганна ў дылогіі І. Мележа.

Імклівa ідзе час, ужо наш час — другая палова XX стагоддзя. А з мінулага, даганяючы, абганяючы яго і ўжо ідучы насустрач яму, разразаючы яго бурныя хвалі, высокія валы, ідзе літаратура. Вялікая літаратура. У якой сама «традыцыйнасць», як мы стараліся паказаць на прыкладзе мележаўскай «хронікі», гучыць па-сучаснаму і нават па-наватарску. Таму што погляд на свет, на грамадства і чалавека ў такіх «традыцыйных» па стылі творах — гэта погляд нашага часу. Ён і вызначае наватарскія рысы такой прозы.

**Алесь АДАМОВІЧ.**

Фота **У. Крука.**






**В. КАВАЛЕНКА, М. МУШЫНСКІ, А. ЯСКЕВІЧ.**
**«ШЛЯХІ РАЗВІЦЦЯ БЕЛАРУСКАЙ САВЕЦКАЙ ПРОЗЫ».**
**Мінск, 1972.**

# ДАСЛЕДЧЫК — ТАКСАМА ІНДЫВІДУАЛЬНАСЦЬ




**М. А. ЯНКОЎСКІ.**
**«ПАЭТЫКА БЕЛАРУСКІХ ПРЫКАЗАК».**
**Выдавецтва «Вышэйшая школа». Мінск, 1971.**

Тры вядомыя нашы даследчыкі В. Каваленка, М. Мушынскі і А. Яскевіч напісалі манаграфію «Шляхі развіцця беларускай савецкай прозы», прысвечаную нацыянальнай прозе ў яе агульных ідэйна-мастацкіх тэндэнцыях, пачынаючы з 20-х гадоў і канчаючы нашымі днямі. Калі чытаеш гэтую грунтоўную кнігу, адразу заўважаеш, што даследчыцкі «трыпціх» пісаўся трыма рознымі мастакамі, хаця і была ў іх адна ясна акрэсленая задума. Трыо ў сэнсе «музычнай гармоніі» — нівеліроўкі асаблівасцяў кожнага даследчыка — не атрымалася. І не таму, што нечы голас вырываецца з агульнага хору: аўтары ў сваёй калектыўнай працы свядома імкнуліся не падладжвацца адзін пад аднаго. І гэта добра. Бо для кожнага з іх важнейшым было правільна вырашыць праблемы свайго перыяду, аб'яднаўшы потым іх у адзіны бесперапынны літаратурна-гістарычны працэс...

Ісці ў навуцы там, дзе былі пракладзены ўжо дарогі, — справа нялёгкая. «Мы вучымся, не толькі спасцігаючы новае, — піша выдатны савецкі вучоны Б. Бурсаў у сваім рамане-даследаванні «Асоба Дастаеўскага», — але і набываючы ўменне па-новаму зірнуць на вядомае нам... Ісці пратаптанымі дарогамі, пры гэтым адкрываць невядомыя галіны, бадай яшчэ цяжэй... За ўсім тым, што відаць, бачыць тое, чаго ніхто не бачыць, — вось прынцып вялікага мастацтва». І далей: «Чаго нам, літаратуразнаўцам, больш за ўсё нестае, дык гэта пачуцця першаадкрывальнікаў. Адкрываць новае ў даўно вядомым — гэта так цяжка. Але і абсалютна неабходна».

З гэтага пункту гледжання ўсе тры аўтары паказалі сябе сапраўднымі першаадкрывальнікамі. Маючы за плячыма немалы даследчы вопыт, не адну выдадзеную кнігу, В. Каваленка, М. Мушынскі і А. Яскевіч па многіх закранутых праблемах сказалі сваё, новае слова. І нам здаецца, што калі б нават гэтыя раздзелы (зразумела, дапоўненыя) былі выдадзены асобнымі кнігамі, яны маглі б стаць прыкметнаю з'яваю ў сучасным беларускім літаратуразнаўстве. Пастаўленыя побач, якія яны непадобныя, аўтары гэтага даследавання!

Імкненне да паўнаты фактаў, удумлівая спакойная разважлівасць без навязвання сваёй думкі вылучае М. Мушынскага; глыбокі аналітызм і грамадзянскі пафас, свой погляд на літаратурныя з'явы характарызуе В. Каваленку; спрасаванасць думкі і эмацыянальнасць вызначае А. Яскевіча. А. Яскевіч тонка адчувае мастацкі твор і дакладна вылучае істотныя рысы творчага метаду таго ці іншага пісьменніка. Сцісла і трапна акрэслена ім ідэйна-мастацкая сутнасць «Вайны пад стрэхамі» А. Адамовіча: «Раман больш чым фабульна знітаваны, эмацыянальна прасветлены лірычным поглядам на падзеі аднаго з галоўных, шмат у чым біяграфічнага героя Толі Корзуна — і ад таго падзеі такія «асабістыя», дзеянне ахутана «паветрам» настрою, вельмі дакладна перададзены рытм жыцця. Апрача вобраза Толі, у рамане ёсць яшчэ другі, магчыма, нават галоўны цэнтр. Гэта вобраз маці, адзін з самых яркіх і глыбокіх жаночых характараў у нашай літаратуры. Невымерная мера пакут, любові і мужнасці святога матчынага сэрца ў суровай «вайне пад стрэхамі», «у найцяжэйшых умовах партызанскага падполля, калі штодзённа і штомінутна за кожны твой крок былі заложнікамі дзеці...»

Даследчыкі слушна наракаюць на нівеліроўку індывідуальнасці многіх пісьменнікаў, на іх безаблічнасць, але ж не ў меншай ступені базаблічнасць пануе часам і ў навукова-даследчай літаратуры. Тут нярэдка шырока бытуюць моўна-стылёвыя трафарэты — як у будаўніцтве жалезабетонныя стандарты.

Ці не таму філалагічнымі працамі шырокі чытач цікавіцца мала. Ён ахвотна возьме ў рукі новы раман, аповесць, томік вершаў, зборнік песень, з цікавасцю будзе знаёміцца з тлумачальнымі, этымалагічнымі, фразеалагічнымі ці сінанімічнымі слоўнікамі, і не часта пацягнецца яго рука да кнігі пра гэтыя раманы, аповесці, вершы, песні і слоўнікі.

Непапулярнасць навукова-даследчых прац прызнаецца як зусім заканамерная з'ява, якой дадзена, лічыцца, слушнае тлумачэнне: маўляў, гэта спецыяльная літаратура, таму, натуральна, не можа разлічваць на шматлікую чытацкую аўдыторыю. Аднак адкрыйце сёння любы філалагічны трактат — і ў анатацыі абавязкова прачытаеце, што ён адрасуецца і шырокаму чытачу.

Чаму ж тады гэты шырокі чытач не сябруе з кнігамі нашых вучоных, даследчыкаў і крытыкаў? Нам здаецца, таму, што нашай навукова-даследчай літаратуры бракуе яшчэ самага важнага — умення пра складаныя рэчы гаварыць агульнадаступнай, агульназразумелай мовай, інакш кажучы, пісаць папулярна ў добрым сэнсе гэтага слова.

Пануе дзіўная думка, што пісаць папулярна — значыць спрашчаць складаныя рэчы. Аднак выдатныя вучоныя І. Мечнікаў, А. Тарле, К. Ціміразеў не баяліся гаварыць пра навуку папулярнай моваю і пакінулі нам непераўзыдзеныя ўзоры спалучэння глыбокага навуковага зместу і бліскучай папулярнай формы. Дарэчы, той жа К. Ціміразеў адной з прычын таго, чаму навука не займала месца, якое ёй належыць, лічыў тое, «што людзі, якія прысвяцілі сябе навуцы, за малым выключэннем, да таго загразлі ў сваім жаргоне, што страцілі здольнасць выказвацца ясна, проста і зразумела для грамады».

Гісторыя навукі бадай, мала ведае прыкладаў такой даўгавечнасці, якую лёс даваў ціміразеўскаму «Жыццю раслін». Вось ужо амаль сто гадоў гэтая кніга выдаецца і перавыдаецца і не страціла сваёй актуальнасці. І гэта ў той час, калі любая галіна навукі старэе з кожным днём, з кожным новым адкрыццём.

Ёсць асобныя, хоць і нешматлікія прыклады шчаслівых удач і ў літаратуразнаўстве, мовазнаўстве. На жаль, наша беларуская філалогія вельмі мала мае такіх даследаванняў, якія можна было б паставіць у адзін шэраг з лепшымі здабыткамі айчыннай навукова-пупулярнай спадчыны. Вядома, і кнігу В. Каваленкі, М. Мушынскага, А. Яскевіча «Шляхі развіцця беларускай прозы» можна разглядаць толькі як адну з першых спроб такога падыходу да гэтай праблемы.

Тое ж самае можна сказаць і пра кнігу М. А. Янкоўскага «Паэтыка беларускіх прыказак». Ёсць у ёй нешта такое, што выгадна вылучае яе сярод сённяшняй філалагічнай прадукцыі, — гэта страсная ўсхваляванасць, захапленне, пераканаўчая, экспрэсіўна-эмацыянальная арыгінальная падача матэрыялу моваю жывою, вобразнаю, якую мы расцэньваем як удалую спробу адысці ад акадэмічнага закасцянелага шаблону. Ужо з першых радкоў вас захопіць пранікнёнае і ўзрушанае слова аўтара: «Прыказкавая паэзія... Яна прыходзіць да нас разам з дзедавай казкай і ласкавым павучаннем маці. Яна раскрывае таямніцы жыцця, яго мудрасць і хараство ў дні маленства, калі мы няўмела перагортваем буквар і слухаем сваю першую настаўніцу. Прыказка вучыць думаць і разважаць, даказваць і паказваць, стрымлівацца ў хваляваннях, радавацца першай веснавой зеляніне, любіць і шанаваць росныя сцяжынкі дзяцінства, бацькаўшчыну. У прыказцы жыве і дыхае, скардзіцца і смяецца, упікае і пратэстуе жывая душа і натура чалавека».

Гэта не знешняе эфектна-прэтэнцыёзнае апісанне прадмета, а своеасаблівы ўнутраны маналог, што раптам выліўся вонкі і выявіў аўтарскае ўспрыняцце з'явы. І гэтае ўспрыняцце авалодвае вамі, і вы гатовы разам з аўтарам адправіцца ў захапляючае падарожжа — у цудоўны свет прыказкі. Вы будзеце разам з ім адкрываць хараство прыказкавай паэзіі, як і ён, захапляцца, здзіўляцца, задумвацца і шукаць адказ на пакутлівае адвечнае

пытанне: хто і калі ўзгадаваў гэты чароўны паэтычны сад, імя якому — народная прыказка?

Мікола Янкоўскі разглядае прыказку як адну з форм праяўлення мастацкага вобразнага мыслення чалавека і спрабуе ўнікнуць у спецыфіку гэтага вобразнага мыслення. У працах вялікага фізіёлага І. П. Паўлава ён знаходзіць ключ для правільнага разумення мастацкай прыроды чалавека.

Найвялікшым дарам кожнай асобы з'яўляецца здольнасць вобразна асэнсоўваць рэчаіснасць. Па-мастацку вобразнае мысленне праяўляецца пастаянна ў людзей у працы, у іх штодзённым побыце, у мове. У пошуках разгадкі таямніцы творчага акту даследчык сам неаднойчы быў сведкам таго, як звычайны чалавек незнарок, бессвядома, між іншым у размове кідаў часам такія трапныя слоўцы, перасыпаў сваю мову такімі крылатымі выразамі, якія мог стварыць хіба толькі прафесійны словатворца. Усё гэта магчыма таму, што «звычайны чалавек тыя ці іншыя факты жыцця «прапускае» праз уласную мастацкую лабараторыю. Няхай яна часам прымітыўная, не такая абжытая і ўтульная, як у кампазітара, жывапісца ці пісьменніка, але яна ёсць. Яна працуе і здабывае плён».

Пры даследаванні прыказкавай паэзіі аўтар перш за ўсё выяўляе спецыфічныя мастацкія прыёмы жанру, дзякуючы якім прыказка «прыводзіць у рух усё наша духоўнае жыццё, увесь запас нашых ведаў і сіл». Сапраўды, чым нас вабяць прыказкі тыпу: «На роднай зямлі, як на камлі», «На работу — цяляты, на яду — коні», «Прыбяры свінню хоць і ў золата, а яна ўсё роўна ў хлеў пойдзе»? Відаць, тым, што тут прадметы і з'явы пастаўлены ў такія сувязі, у якіх яны яшчэ не былі ў нашым уяўленні. Такім чынам, парушана нашае стэрэатыпнае мысленне. Нечаканасць супастаўлення надае прыказцы мастацкую сілу ўздзеяння.

Прыказка — найкарацейшы з фальклорных жанраў. Таму сродкі мастацкага выяўлення ў ёй павінны быць надзвычай сціслымі, эканомнымі. Даследчык падрабязна спыняецца на «здольнасці» прыказкі ў некалькіх словах паказаць цэлую з'яву. «Бачыш, дружа, як гарую: з аднае карчмы ў другую», «Помніць свякруха свае маладыя гады і нявестцы не верыць». Чалавеку, не пазбаўленаму фантазіі, гэтыя прыказкі даюць магчымасць намаляваць цэлую карціну, напоўніць яе зместам з усімі прычыннымі абставінамі.

М. Янкоўскі пазбягае аналізу фактаў відавочных і пранікае ў глыбіню твора, раскрываючы яго падтэкст. І дзіву даешся: добра вядомую прыказку, тысячу разоў чутую і перачутую, ён прачытвае як бы нанава, вылушчваючы патэнцыяльнае ядро зместу, схаванае ў прыказкавым падтэксце.

Аднак як бы дэталёва ні даследаваў аўтар структуру прыказкавага вобраза ва ўсіх яго аспектах, як бы ні раскладваў па палічках усе кампаненты яго, мы ніколі б не адчулі ўсёй чароўнасці прыказкі, калі б ён не паказаў найістотнейшы момант — бытаванне яе ў мове. Ужыванне прыказкі ў гутарковай мове М. Янкоўскі называе моцным і актыўным сродкам зносін паміж людзьмі. Адна і тая ж прыказка (напрыклад, «Дурню і сем вёрст не крывулькі», «Вялікі дуб, ды дупляняты», «Радзілася цялятка з лысінкай і з лысінкай памрэ», «Вялікаму каню — вялікі хамут») у залежнасці ад кантэксту выяўляе індывідуальныя адзнакі і якасці свайго вобраза, яго непаўторна-характэрныя ўласцівасці. І ці не ў гэтым тоіцца заўсёдная свежасць і маладосць прыказкі: ужытая ў новым кантэксце, яна гучыць па-новаму, адкрываючы новыя эмоцыі і новую эстэтычную напоўненасць. Кантэкст даследчык называе першаснай умовай для прыказкі як з'явы мастацтва.

Грунтоўна прааналізаваны ў манаграфіі і такія складаныя пытанні паэтыкі прыказкі, як суадносіны слова і вобраза, інтанацыя, рытм, рыфма і гукапіс, якім прысвечаны цэлыя раздзелы.

Нельга не адзначыць выключна каштоўны ілюстрацыйны матэрыял манаграфіі — прыказкі ўзятыя не з друкаваных крыніц ці архіваў, а сабраныя даследчыкам. Амаль кожная прыказка тут — сапраўдны дыямент вуснай паэзіі.

На прыкладзе разгледжаных даследаванняў відаць, што і пра сур'ёзныя... здавалася б, не зусім займальныя рэчы можна пісаць цікава — так, каб гэта было зразумела шырокаму чытачу. Вядома, кнігі, пра якія ішла гаворка ў артыкуле, не вырашаюць усёй гэтай складанай праблемы, але іх з'яўленне, як і самую спробу аўтараў спалучыць папулярнасць выкладання матэрыялу са складанасцю тэмы, не страціўшы сваёй індывідуальнасці, варта толькі вітаць.

**Іван ЦІШЧАНКА.**

■ ■ ■

## ● Папытай у кнігарні ● Папытай у кнігарні ●

**«ВЕРНЫ ДА КАНЦА».** Гэта другое выданне кнігі мемуараў Героя Савецкага Саюза Васіля Іванавіча Казлова — выдатнага партыйнага і савецкага дзеяча, аднаго з арганізатараў і кіраўнікоў партызанскага руху на Беларусі ў гады Вялікай Айчыннай вайны.

Першая частка мемуараў, «Пачатак шляху»,— успаміны Васіля Іванавіча пра гады маленства, што прайшло на роднай Рагачоўшчыне, пра пачатак працоўнага шляху, пазначанага памятнай падзеяй — сустрэчай з М. І. Калініным. Выступленне «ўсесаюзнага старасты» ў чыгуначным дэпо станцыі Жлобін (пад час прыезду ў Беларусь у 1930 годзе) маладыя беларускі рабочы, будучы Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР, запомніў на ўсё жыццё...

Шчыра і проста расказвае аўтар пра гады напружанай працы, вучобы, пра сваю работу на адказных участках сацыялістычнага будаўніцтва, куды яго накіроўвала партыя.

Як другая, самастойная частка, у мемуары ўключаны «Людзі асобага складу» — шырока вядомы твор В. І. Казлова аб тым, як пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі нараджалася і разгаралася партызанская барацьба на Міншчыне. Са старонак яго паўстаюць мужныя вобразы народных мсціўцаў — партызанаў, камандзіраў, партыйных і камсамольскіх работнікаў. Змешчана шмат фотаздымкаў ваеннага часу.

**Выдавецтва палітычнай літаратуры, Масква, 1973 г. На рускай мове.**

**«ІШЛА ВАЙНА НАРОДНАЯ».** Гераічныя старонкі партызанскай барацьбы ў акупаваных раёнах Беларускага Палесся ўзнаўляе ў сваёй кнізе былы сакратар Мазырскага падпольнага райкома партыі М. І. Ільінкоўскі. Выкарыстаўшы уласныя запісы, зробленыя ў той суровы час, успаміны сяброў па зброі, аўтар ярка і праўдзіва расказвае пра баявыя справы палескіх партызанаў, пра дзейнасць мазырскага падполля. У кнізе ўзнаўляюцца эпізоды з баявой дзейнасці Яна Налепкі, легендарнага сына славацкага народа, якому пасмяротна было прысвоена званне Героя Савецкага Саюза. Перайшоўшы ў пачатку 1943 года на бок партызанаў, батальён славакаў пад камандаваннем капітана Яна Налепкі ваяваў менавіта ў складзе Мазырскай партызанскай брыгады, камісарам якой быў М. І. Ільінкоўскі.

**Выдавецтва «Беларусь», Мінск, 1973 г. На рускай мове.**

**«ТВОРЧАСЦЬ І ПОШУК МАЛАДЫХ».** Аўтар кнігі сакратар ЦК ЛКСМ Беларусі Аляксандр Сакалоўскі на шматлікіх фактах і прыкладах раскрывае вялікую ролю, якую адыгрывае камсамол і моладзь рэспублікі на ўсіх участках камуністычнага будаўніцтва. У сацыялістычным спаборніцтве за датэрміновае выкананне пяцігодкі прымаюць удзел тысячы камсамольска-маладзёжных калектываў. Звыш 160 тысяч камсамольцаў ужо заваявалі ганаровае званне ўдарнікаў камуністычнай працы, звыш 410 тысяч змагаюцца за гэтае званне.

Кніга мае багаты фактычны матэрыял. У ёй шырока адлюстраваны вопыт арганізацыйнай і палітычнай работы камітэтаў камсамола рэспублікі з рабочай, сельскай, навуковай і студэнцкай моладдзю. Падаюцца цікавыя лічбы аб росце адукацыі моладзі, павышэнні яе прафесійнага майстэрства.

Кніга адрасавана камсамольскім работнікам і актывістам, работнікам сістэмы партыйнай і камсамольскай асветы, а таксама масаваму чытачу.

**Выдавецтва «Беларусь», Мінск, 1973 г. На рускай мове.**

**«ДЗЕНЬ ЗА ДНЁМ».** Роздумам аб дні сённяшнім, аб высокай грамадзянскай адказнасці маладога чалавека перад Радзімай прасякнуты старонкі гэтага дзённіка. Напісаны ён камсамольскім работнікам Уладзімірам Ліпскім як вынік яго ных сустрэч з цікавымі людзьмі. Лепшыя старонкі кніжкі вызначаюцца шчырасцю і непасрэднасцю. Выйшла яна ў серыі «Юнацтва ў вялікім паходзе» і разлічана на камсамольскіх актывістаў, а таксама на самае шырокае кола чытачоў.

**Выдавецтва «Беларусь», Мінск, 1973 г.**

**«ПАРОГІ».** У новую кнігу прозы Алеся Асіпенкі ўвайшло дзесяць апавяданняў. Сярод іх «Пастка», «Маці», «Сцежка да хаты», «Дзед Кузьма, Антон Пакоша і Любка Вадзянец» і інш. Героі гэтых апавяданняў — звычайныя людзі, на парозе малых або вялікіх жыццёвых выпрабаванняў. У адных творах пісьменнік звяртаецца да блізкай ягонаму сэрцу партызанскай тэмы, другія — пра сённяшні дзень, пра вялікую маральную адказнасць чалавека на парозе сталасці.

**Выдавецтва «Мастацкая літаратура», Мінск, 1973 г.**

Папытай у кнігарні ● Папытай у кнігарні ●

● Папытай у кнігарні ● Папытай у кнігарні ●

# ВЯСЁЛЫ ТАЛЕНТ НАСТАЎНІКА



**ДА 90-ГОДДЗЯ ЯНКІ МАЎРА**

Два няпоўныя гады не дажыў ён да гэтай значнай падзеі: сёлета 11 мая яму споўнілася б дзевяноста.

Усе, хто ведаў яго—пісьменніка, педагога, грамадзяніна,— добра памятаюць, як і на схіле жыцця ён заставаўся чуйным да сваіх юных сяброў, быў шчаслівы, што жыве ў свеце вясёлай казкі, у свеце маленства і юнацтва.

Калі вы сустракаліся з ім, слухалі, як ён гаварыў са сваімі чытачамі, нельга было не здзівіцца яго душэўнай даступнасці, непасрэднасці, нават нейкай сарамлівасці, якая заўсёды ўласціва шчырым і добрым людзям.

Без людскога асяроддзя, без сяброў ён не мог абысціся. У ім жыла няўрымслівая, нястомная душа дзіцяці, здольная заўсёды захапляцца, здзіўляцца ўсяму новаму, невядомаму.

Праз суровыя цяжкасці і пакуты прабіваўся ён да святла. Але нават маленькі хлопчык Янка з аўтабіяграфічнай аповесці «Шлях з цемры» ў галоднай сірочай хаце са шчырай даверлівасцю, поўны шчаслівага ўзрушэння, адкрывае для сябе свет сваіх першых радасцяў.

Пісьменнік іранізуе над сваімі далёкімі душэўнымі адкрыццямі, ён не хавае добрай усмешкі. І ў гэтай шчырасці бачыш праўду жыцця, бачыш той аптымізм, які не пакідаў яго нават у самыя цяжкія хвіліны жыцця.

Ужо на восьмым дзесятку гадоў Янку Маўра спасцігла вялікая бяда. Ён пачаў слепнуць. Усе мы з болем у душы бачылі, як з кожным днём слабее яго зрок. Без праважатага ён ужо не мог перайсці вуліцы, а сваіх знаёмых пазнаваў толькі па голасе. Мы са страхам думалі аб яго няшчасці, і толькі сам ён кожнаму спакойна тлумачыў, што поўная слепата ўратуе яму вочы. Упэўненасць, з якой гэта гаварылася, не дапускала ніякіх сумненняў. Будучы зусім сляпы, ён ні на хвіліну не паддаваўся адзіноце. Як і раней, мы бачылі яго і на сходах, і на творчых сустрэчах. У лютым 1955 года ён з дапамогай праважатага ездзіў у Маскву на дэкаду беларускага мастацтва і літаратуры.



Ёсць здымак: сустрэча беларускіх пісьменнікаў з Маршаком. Побач з з Самуілам Якаўлевічам стаіць Іван Міхайлавіч—у чорных акулярах, абапіраючыся на кій, і... усміхаецца.

Ён шчыра радаваўся сваім сябрам. Маўрава вытрымка і ўпэўненасць перамаглі і на гэты раз. Пасля складаных і тонкіх хірургічных аперацый пісьменнік, як ён сам сцвярджаў, «зноў нарадзіўся на свет». І як нанава народжаны, зноў цешыўся жыццём.

Васьмідзесятую вясну яго нараджэння мы адзначалі разам з ім. Іван Міхайлавіч, як заўсёды, быў дасціпны і нечаканы ў сваіх жартах. Мне выпаў гонар адкрыць і весці ў Тэатры юнага гледача гэтую ўрачыстасць. Даклад аб творчасці юбіляра рабіў яго даўні друг, паплечнік і рэдактар Алесь Іванавіч Якімовіч. Вясёлае і незабыўнае было гэтае свята. Большасць з нас, сяброў юбіляра, ужо дзяды, дзяціліліся, як малыя. І мабыць, таму, што такі тон і настрой задаў юбіляр. На свяце свайго любімага пісьменніка дзеці адчувалі сябе большымі імяніннікамі, чым ён сам. Гэта было ў яго натуры. Вясёлая містыфікацыя, розыгрыш, жарт—яго найлепшыя спосабы абыходжання з сябрамі. Гэта адчулі ўсе, хто віншаваў яго ў той вечар. Забываючыся на паважнасць паўнамоцтваў, усе стараліся не выбівацца з агульнага настрою.

Памятаю, большасць прывітанняў былі не ў выглядзе адрасоў у аксамітных папках, а якія-небудзь смешныя сувеніры з неспадзяванкаю. Нават дэлегаты ад пісьменнікаў—салідныя дзядзькі і цёткі—прыкінуліся выхаванцамі дзіцячых садоў, называючы сябе Сашамі, Васямі, Эдзікамі, Леначкамі, і гаварылі свае прамовы калектыўна, як мага звонкімі, а то і піскліявымі галасамі. «Прапішчаў» і я сваё павіншаванне:

Івану Фёдараву многа год,
А Янку Маўру—трыццаць восемь.
Мы, падначалены народ,
Удзячнасць Вам сваю прынosім.

З маленства адкрывалі свет
Па вашых кнігах капітаны,
Што сёння пракладаюць след
Праз космас і праз акіяны

Да непазнаных таямніц,
Што вабілі людзей спрадвеку.
Вы—адкрывальнік тых крыніц,
Што так патрэбны чалавеку.

Наш слаўны, мудры Дзед-Ўсявед,
Патрабавальны, строгі, колкі,
Паклон, пашана і прывет
Вам ад усіх сяброў «Вясёлкі».

Сам—завадатар гэтай гульні—юбіляр быў задаволены. І ў рэстаране, куды запрасіў усіх нас на пачостку, ён не пакінуў свайго дзівацтва: памяняўся са швейцарам на шапкі, пасадзіў яго, як аказалася, свайго аднагодка, побач і не адпускаў увесь вечар: «Сядзі, браце. Можа якраз тут тваё месца, а маё там»,—паказваў ён на гардэроб. І калі хто з гасцей не ўпраўляўся сам адзецца, быў нагатове памагчы.

У другі раз быў я сведкам вясёлага блазенства дзядзькі Янкі пасля ўжо яго васьмідзесяцігоддзя, калі яму часцей пачало нездаровіцца і дактары загадвалі ляжаць. Але яго гарэзлівая натура не магла ўтаймавацца. Хацелася быць у гурце, у жывым асяроддзі. Ён уцякаў з дому і тайна паяўляўся ў Саюзе пісьменнікаў, балазе—недалёка, перайсці толькі вуліцу. І вось ужо паміж сваіх субяседнікаў у адным з пакояў Саюза ўцякач раптам пачуў з калідора знаёмы голас нашага доктара Якава Уладзіміравіча.

— Ціха!—даў знак дзядзька Янка і на вачах здзіўленай кампаніі, як яму ні цяжка было, сагнуўся і ўціснуўся між тумбаў канцылярскага стала. Мы засланілі стол. Доктар адчыніў дзверы:

— Ці мне здалося, ці сапраўды я чуў голас Маўра?

— Здалося, здалося!—дружна пацвердзілі мы.

Доктар пайшоў. Іван Міхайлавіч, крэкчучы, вылез з-пад стала. Ён радаваўся, што яго «не застукалі»...

Пра Маўравы прыгоды можна было б напісаць прыгодніцкую кнігу. Але каб яна была такая ж, як маўравы кнігі, патрэбен пісьменнік яго таленту, яго вясёлай, гарэзлівай натуры.

Па майму апісанню ў тых, хто не бачыў і не ведаў Янкі Маўра, можа скласціся ўражанне, што гэта быў няўрымслівы непаседа, трапяткі і мітуслівы весялун. На дзіва, яго ўнутраны тэмперамент, яго душэўная экспансіўнасць не супадалі з паважнасцю і строгасцю аблічча, з усёй мажной паставай, звычайна маўклівага, павольнага, нават маруднага ў сваіх рухах і жэстах чалавека. Але да глыбокай старасці ў ім заставаліся невычэрпныя запасы дзіцячай нястомнасці. І на схіле гадоў ён захапляўся свавольствамі. Яго рабочы кабінет быў поўны неспадзяванак. Хто прыходзіў сюды ўпершыню, вельмі лёгка трапляў на кручок чарговай маўравай забаўкі. У кожным кутку падсцерагала небяспека: то на вас паўзла змяя, і ад нечаканасці вы не маглі пазнаць, што яна несапраўдная, то, сядаючы ў шырокае, мяккае крэсла, вы раптам

падскоквалі траха не да самай столі... А паважны гаспадар, задаволены ўдалым фокусам, пацішу ўсміхаўся, робячы выгляд, што нічога не заўважае.

Яшчэ часцей і, можа, болей з'едліва любіў пажартаваць ён з самога сябе. Пад уласным партрэтам напісаў самаэпіграму на трох мовах:

То не Эзоп, філосаф грэцкі,
И не француз—бунтарь Вольтер,
То белорусский автор детский,
Котрий поки ще не вмер.

Дарэчы, самае любімае яго захапленне, якое зрабіла яму, як пісьменніку, добрую паслугу, была мова эсперанта. Ён валодаў ёю дасканала, вёў перапіску з многімі сваімі сябрамі і карэспандэнтамі з тых далёкіх экзатычных краін, пра якія пісаў свае кнігі.

Янка Маўр—пісьменнік і настаўнік—вучыў весела, лёгка, займальна. Ніколі змрочныя, злыя таленты, нават геніі, якія дамагаліся права вучыць людзей, не рабіліся любімымі настаўнікамі—ні пад прымусам, ні пад страхам, ні тым больш з дапамогай сродкаў інквізіцыі.

Імкнучыся стаць дарослымі, дзеці гуляюць у дарослых. Вучыць дзяцей можа толькі той, хто сам здольны вучыцца ў іх.

Маўрава маленства і юнацтва, як і ўсё яго жыццё, навучылі пісьменніка ўсяму самаму лепшаму, што ён аддаў людзям у сваіх кнігах.

Цікаўны і дапытлівы, нястомны даследчык і шукальнік, ён не змарнаваў ніводнага дня, каб не спазнаць нешта новае, не ўзбагаціць сваіх душэўных запасаў. Усім, хто чытае яго кнігі, ён шчодра раздае багацці, здабытыя нялёгкім жыццём.

Чалавек моцнай загартоўкі, непрымірымы да несправядлівасці, няшчырасці, фальшу, ён прайшоў праз самыя пакутлівыя выпрабаванні, але ніколі і нідзе не адступіўся ад сваіх перакананняў.

Юнака, якому яшчэ не было дваццаці гадоў, выключаюць з настаўніцкай семінарыі і заносяць у спісы палітычна ненадзейных. Гэта было найцяжэйшым ударам не толькі для яго самога, але і для гаротнай удавы-маці, што столькі надзей ускладала на сына, які неўзабаве павінен быў стаць настаўнікам.

Колькі клопату і турбот каштавала і ёй, і яму, каб паступіць сіраце вучыцца на казённы кошт! І вось яго выганяюць з апошняга курса. Паліцыя бярэ з яго падпіску, што ён не будзе сустракацца са сваімі былымі сябрамі-студэнтамі. Праўда, семінарскія і паліцэйскія чыны прабавалі і іншымі спосабамі абрахманіць небясьпечнага для іх юнака: угаворвалі адумацца, узяцца за розум. Але яго гордае сумленне, вядома ж, не магло пайсці на такую ганебную капітуляцыю.

Студэнт Фёдараў пакідае семінарыю, хоць і не скончыўшы яе, але ён ужо добра ведае, што выходзіць з яе сцен зусім іншым чалавекам, які цвёрда ўпэўнены ў сваёй праваце. Тут ён пазнаёміўся з рэвалюцыйна настроенай моладдзю, стаў чытачом ленінскай «Искры».

Як жыць далей, чым уцешыць самага блізкага яму чалавека—маці, якая выбівалася з апошніх сіл, каб вывучыць сына—сваю адзіную надзею?

Юнак ужо меў спецыяльнасць, што магла б пракарміць яго і маці. Яшчэ да паступлення ў семінарыю, ён скончыў рамеснае вучылішча, стаў падмайстрам слясарнай справы, але работы знайсці не ўдалося. Цяпер жа, калі за плячыма быў ужо вопыт семінарскага навучання і радасць спазнання тых высокіх ідэй, якімі жыла перадавая моладзь, уражлівы і прагны да новых ведаў, новых адкрыццяў, ён, церпячы голад і нястачы, не адступаецца ад мэты вучыцца далей. Не парывае са сваімі сябрамі. У яго цесным пакойчыку, як і раней, тайна збіраюцца студэнты, разважаюць, спрачаюцца, мараць пра будучыню. Цяпер, каб пракарміць сябе і маці, ён дае прыватныя ўрокі, вучыць «недарасляў»—дзяцей купцоў, гандляроў, мяшчан, для якіх навука—не самы важны клопат.

У свае дваццаць гадоў Іван Фёдараў экстэрнам здае экзамены і атрымлівае права быць настаўнікам пачатковай школы. Спачатку вучыць дзяцей у вёсцы пад Панявежам, потым у Бытчы непадалёк ад Барысава.

Не спалохаўшыся паліцэйскіх наглядчыкаў, малады настаўнік становіцца яшчэ больш актыўным удзельнікам рэвалюцыйнага падполля.

На першы пагляд, гэта як бы ўсім вядомыя звесткі з біяграфіі пісьменніка, якія цяпер можна прачытаць у школьных падручніках. Пры жыцці самога Янкі Маўра мы, яго сучаснікі, рэдка калі і задумваліся над гэтымі выдатнымі вехамі жыццёвай дарогі нашага старэйшага сябра, таго, хто сваімі кнігамі пачынаў савецкую літаратуру для юнакоў і дзяцей, тую літаратуру, у якой пісьменнік вучыць чытача не толькі сваімі творамі, а і прыкладам уласнага жыцця.

З гордасцю і пашанай гаворым мы пра нашага Янку Маўра як пра пісьменніка грамадзянскай мужнасці, той мужнасці, што вымяраецца высокай самаахвярнасцю ў імя будучыні.

Сустрэўшыся ў 1906 годзе на падпольным з'ездзе беларускіх настаўнікаў з Якубам Коласам, ён стаў яго выпрабаваным другам на ўсё жыццё.

Гэта зусім не выпадкова, што пачынальнікамі дзіцячай літаратуры ў Беларусі з'явіліся народныя настаўнікі—Якуб Колас і Янка Маўр. Асновы гэтай літаратуры, закладзеныя імі, моцна трымаюцца на вопыце мудрай народнай педагогікі, на вопыце народнай творчасці, хоць, здавалася б, Янка Маўр—гісторык, географ, нястомны вандроўнік—знешне нідзе і не карыстаўся сродкамі ні дарослага, ні дзіцячага фальклору, аднак асноўная яго асаблівасць як мастака ішла, вядома ж, перш за ўсё ад казкі, ад фантазіі, ад загадкавасці, ад той адвечнай здольнасці здзіўляцца, захапляцца, імкнуцца да яшчэ не адкрытага і не спазнанага, што заўсёды было і будзе ўласціва дзіцячым і юнацкім гадам, развіццю і ўдасканаленню чалавека як асобы.

«Чалавек ідзе»—так называўся першы твор, напісаны Янкам Маўрам для дзяцей. Гэтая задушэўная, даверлівая гутарка пісьменніка са сваім чытачом, якая адкрывала яму таямнічыя старонкі далёкай гісторыі, і зараз будзіць фантазію, мацуе ўпэўненасць у сілу і розум чалавека.

Чалавек ідзе. Усё даўжэйшым становіцца яго шлях. Колькі мільёнаў гадоў ён ужо ідзе? Як ён з'явіўся на зямлі, як жыў і як стаў тым магутным волатам, што дастае да іншых планет?

Новым чытачам кнігі цікава будзе ведаць, што аповесць «Чалавек ідзе» была надрукавана ў 1926 годзе на старонках часопіса «Беларускі піянер». Так Янка Маўр стаў адным з першых піянераў савецкай літаратуры для юнацтва.

Часопіс, у якім упершыню выступіў пісьменнік, быў невялікі і адразу цалкам не мог змясціць усю аповесць. Яна друкавалася ў некалькіх нумарах. Прачытаўшы апублікаваны раздзел, чытачы не маглі дачакацца наступнага. Патрабавалі, каб рэдакцыя хутчэй друкавала працяг, звярталіся да самога аўтара, каб ён хоць у пісьме паведаміў, пра што будзе расказваць далей.

Пісьменнік-педагог добра разумеў сваю задачу выхаваццеля-інтэрнацыяналіста. Пасля сваёй першай аповесці—гістарычнай—ён бярэцца за творы на зусім новую ў беларускай літаратуры тэму—аб жыцці дзяцей у каланіяльных краінах. Ідэя міжнароднага брацтва прыгнечаных народаў праходзіць праз яго многія творы. Цяпер, сабраныя разам, яны ўжо складаюць цэлую бібліятэку: «Слёзы Тубі», «Лацароні», «Незвычайная прынада», «Звяры на караблі», «У краіне райскай птушкі», «Сын вады», «Амок».

Аповесць «Палескія рабінзоны» паказала новыя творчыя магчымасці пісьменніка. Любімы юнымі чытачамі прыгодніцкі сюжэт будуецца Маўрам ужо не на падзеях у далёкіх заморскіх краінах. У гэтым творы ва ўсім характаве раскрылася свая, яшчэ не спазнаная рамантыка. Незвычайнае падарожжа юных герояў па родным Палессі поўнае нечуваных прыгод і нечаканых адкрыццяў.

Выдатным дасягненнем Янкі Маўра—майстра не толькі ў літаратуры, а, напэўна, і ў слясарнай, тэхнічнай справе (нездарма ж ён канчаў рамеснае вучылішча!)—была аповесць «ТВТ» (Таварыства ваяўнічых тэхнікаў). На Усебеларускім конкурсе на лепшую дзіцячую кнігу ў 1934 годзе яна атрымала першую прэмію. Аповесць зацікавіўся А. М. Горкі. Ён папрасіў аўтара перакласці яе на рускую мову і прысланць яму. Гэта было якраз напярэдадні Першага з'езда пісьменнікаў СССР. Горкі прачытаў кнігу і, аддаючы С. Я. Маршаку, сказаў: «Здаецца, нешта цікавае». У сваім дакладзе аб дзіцячай літаратуры Маршак адзначыў яе як цікавую школьную аповесць. Маўраўская «ТВТ» была слаўнай папярэдніцай вядомай гайдараўскай кнігі «Цімур і яго каманда».

Ужо некалькі пакаленняў людзей, успамінаючы сваё маленства і юнацтва, не абмінаюць добрым словам пісьменніка, які адкрыў ім сваімі кнігамі цэлы свет—новы, таямнічы і захапляючы.

Першымі чытачамі Янкі Маўра былі нашы бацькі. Потым з цікавасцю чыталі яго кнігі мы, пасля—нашы дзеці. Цяпер яго чытаюць нашы ўнукі.

Гэта—верны і добры друг!

**Васіль ВІТКА.**



# АСВЕТНІЦА З ПОЛАЦКА

Вялікую ролю ў распаўсюджванні пісьменнасці ў Полацкім княстве і ў суседніх з ім краях адыграла князёўна Прадыслава (Прадслава), вядомая ў гісторыі пад імем Ефрасінні Полацкай.

Была яна ўнучкаю князя Усяслава Чарадзея, дачкою Святаслава-Георгія—малодшага з шасці князёвых сыноў. Нарадзілася Прадслава каля 1120 года. З маленства мела незвычайныя здольнасці і схільнасць да навукі. Прыгажуня-князёўна вельмі любіла чытаць. Гэтая нечаканая цяга дачкі здзіўляла яе бацькоў, якія лічылі, што чытанне—занятак не для жанчын. Дзяўчынка ж ужо тады марыла сама перапісваць кнігі.

Але зусім іншае жаданне было ў бацькоў. Яны надумалі заручыць дачку з самым прыгожым ды багатым суседнім княжычам. Калі Прадслава дачулася пра гэта, яна ўцякла з дому, у жаночы манастыр, дзе жыла яе цётка. Князёўна зрабілася манашкаю, прыняўшы імя Ефрасінні.

Праз некаторы час Ефрасіння ўпрасіла япіскапа Ілію дазволіць ёй пасяліцца ў келлі пры Полацкім Сафійскім саборы. Тут яе мары, яе жаданні паступова пачалі набываць акрэсленасць, здзяйсняцца. Яна была ў пустэльніцтве, часцей за ўсё толькі сам-насам з кнігамі. Іх можна было чытаць колькі захочаш, а потым перапісваць сваімі рукамі на чыстыя аркушы, каб іх чыталі іншыя.

Колькі кніг за сваё жыццё перапісала Ефрасіння, мы не ведаем. Але нам добра вядома, якой вялікаю і надзвычай карпатлівай працай была перапіска старажытнага твора. У тыя далёкія часы не існавала іншага спосабу «выдаць» кнігу, акрамя таго, як перапісаць літару за літарай, радок за радком, старонку за старонкаю...

Кнігі былі вялікія і цяжкія. Яны дорага каштавалі, і таму іх вельмі бераглі. Часцей за ўсё кнігі перапісваліся па заказу багатых людзей.

Перапіска кніг—справа складаная і цяжкая. Яна патрабавала ад перапісчыка не толькі пісьменнасці і адукаванасці, але і не абы-якіх мастацкіх здольнасцяў—перапісчык быў адначасова і мастаком і мастацкім рэдактарам кнігі.

Рукапісы пісаліся чарнілам, якое рабілі з адвару дубовай і альховай кары. Найбольш якаснае чарніла падрыхтоўвалі з нарасцяў на месцах паражэння дубовага лісця шкоднымі насякомымі. Рабілі чарніла таксама з сажы...

Пісалі пераважна гусінымі пёрамі, зрэдку выкарыстоўвалі лебядзіныя і нават паўлінавыя. Каб птушынае пяро было прыгодным для пісьма, яно папярэдне праходзіла досыць складаную апрацоўку.

Кожная літара пісалася паасобку, паміж літарамі захоўвалася аднолькавая адлегласць, як і паміж радкамі. Захоўвалася пэўная геаметрычная форма літар. Іх пісалі ў XI—XIII стагоддзях прама, без нахілу. Літары як бы ўстаўляліся ў радок. Адсюль назва пісьма — устаў.

Тэкст пісьма на словы не падзяляўся. Ён быў суцэльны. Кожны абзац пачынаўся загаловачнай літарай (ініцыялам), якая была ў некалькі разоў большай за радковыя літары. Загаловачныя літары часта размалёўвалі мудрагелістымі ўзорамі. Для іх упрыгожвання, акрамя чарніла, ужываліся розныя фарбы, асабліва кінавар з ярка-чырвоным вогненным адценнем. Адсюль і назва «чырвоны радок»—ён пачынаўся з літары, якая размалёўвалася чырвоным кінаварам.

Фарбамі размалёўваліся ў старажытных кнігах арнаменты, загалоўкі, застаўкі, мініяцюры, канцоўкі і ўсё іншае дэкаратыўна-мастацкае афармленне рукапісаў. Для аздаблення асабліва каштоўных рукапісных кніг выкарыстоўвалася золата...

Перапіска аднаго толькі рукапісу патрабавала вялікіх фізічных і духоўных сіл, займала шмат месяцаў працы. Дзень заканчэння перапіскі кнігі надоўга помніўся перапісчыку, быў вельмі шчаслівым у яго жыцці.

«Як радуецца жаніх, пабачыўшы сваю нявесту, так радуецца пісец, убачыўшы апошнюю старонку»; «як вызваліцца вол ад ярма, так пісец, кнігу закончыўшы»,— так характарызавалі сваю нялёгкую працу самі перапісчыкі.

Перапіска кніг лічылася справаю высакароднаю, карыснаю людзям. Яна садзейнічала развіццю пісьменнасці, літаратуры і тагачасных ведаў. Разам з іншымі кнігамі ў манастырах перапісваліся летапісы. Пры цэрквах і манастырах арганізоўвалася «вучэнне кніжнае». Гэтай справе і прысвяціла сваё жыццё полацкая асветніца Ефрасіння.

Яна перасялілася з келлі Сафійскага сабора ў загараднае сяло япіскапаў каля Полацка. Тут заснавала свой жаночы манастыр, пры якім адкрыла невялікую школу. У гэтай школе Ефрасіння вучыла грамаце сваіх сясцёр, пляменніц і іншых дзяўчатак.

У манастыры была пабудавана царква Спаса—выдатны помнік старажытнай архітэктуры. Будаваў яе па заказе Ефрасінні мясцовы дойлід Іаан. Гэтай царкве яна падаравала каштоўны крыж. Затым Ефрасіння заснавала яшчэ і мужчынскі манастыр.

Асветніца карысталася вялікай павагай сярод сучаснікаў. Да яе звярталіся за парадамі па многіх пытаннях. Яна прымала непасрэдны ўдзел у грамадскім жыцці Полацка. Нават у Ноўгарадзе знайшлі пячатку, што Ефрасіння прывешвала да дакумента, які яна туды паслала.

Ефрасіння заклікала да спынення бясконцых княскіх міжусобіц, яна «не хацела бачыць у стане вайны князя з князем, ні баярына з баярынам».

Пад канец свайго жыцця яна адправілася ў далёкае і небяспечнае падарожжа ў Палесціну. Яе суправаджалі сястра Еўпраксія, дзядзька Давыд, слуга Міхаіл. У Іерусаліме яна захварэла і памерла 23 мая 1173 года, маючы ад роду каля 53 гадоў. Цела яе было перавезена ў Кіеў і пахавана ў Кіева-Пячэрскай лаўры.

У канцы XII ці пачатку XIII стагоддзя невядомы аўтар апісаў жыццё асветніцы ў творы «Жыціе Ефрасінні Полацкай», які дайшоў да нас. Гэта была незвычайная для свайго часу жанчына, энергічная і валявая. Яшчэ ў юнацкія гады Прадславы разышліся чуткі «па ўсіх гарадах аб мудрасці яе».

Ефрасіння вучыла людзей, клапацілася пра распаўсюджанне кніг і пісьменнасці. Вышэй «за ўсякую маёмасць» цаніла яна кнігі, «імі ж уцяшаецца... душа і сэрца весяліцца». Яна, адукаваная жанчына, асветніца з Полацка, была «небапарным арлом», як сказана ў старажытным творы, гордасцю сваёй зямлі.

**Георгі ШТЫХАЎ,**
**старшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі АН БССР.**

## • Папытай у кнігарні

**«ЗЯМНЫ АКІЯН».** Імя французскага паэта пачатку XX стагоддзя Гіёма Апалінэра добра знаёмае аматарам паэзіі. Наватар па сваёй сутнасці, тонкі лірык, ён напісаў нямала вядомых у свеце твораў. Цікавая радаслоўная паэта. Продкі яго па лініі маці — Кастравіцкія — паходзілі з Беларусі. Жылі яны ў маёнтку Дарашковічы, пад Навагрудкам і сябравалі з сям'ёй вялікага польскага паэта Адама Міцкевіча.

«Зямны акіян» — першае асобнае выданне твораў Гіёма Апалінэра на беларускай мове. У кнізе сабрана ўсё лепшае, што напісаў паэт за васемнаццаць гадоў творчасці. Тут вершы і з першага ягонага зборніка «Бестэрыяй, або картэж Арфея», і са зборнікаў «Алкаголі», «Каліграмы», а таксама паэмы «Зона», урыўкі з «Вандэм'ера» і інш.

Усе пераклады для кнігі «Зямны акіян» зрабіла Эдзі Агняцвет.

Многія з твораў Апалінэра перакладзены ў нашай краіне ўпершыню.

**Выдавецтва «Мастацкая літаратура», Мінск, 1973 г.**

•

**«ЛАЎРЭНЦІЙ ЗІЗАНІЙ».** Педагог, асветнік, філосаф, грамадскі дзеяч — такім паўстае перад намі з кнігі Марата Бацвінніка вобраз выдатнага беларускага вучонага другой паловы XVI — пачатку XVII стагоддзяў Лаўрэнція Зізанія Тустаноўскага. «Азбука» і «Граматыка» Л. Зізанія, выдадзеныя ім у Вільні ў 1596 годзе, былі першыя і доўгі час адзіныя дапаможнікі, па якіх вялося навучанне ў праваслаўных школах на Беларусі, Украіне, Літве. «Азбука» ўключала «Лексіс», першы тлумачальны слоўнік, а ў «Граматыцы» былі змешчаны кароткія правілы вершаскладання. Прадаўжальнік асветніцкай справы Скарыны, Зізаній перакладаў з грэчаскай мовы, выдаў «Катэхізіс».

Гэтыя каштоўнейшыя помнікі беларускай пісьменнасці — вялікая бібліяграфічная рэдкасць. Вельмі мала, на жаль, захавалася і матэрыялаў пра жыццё і дзейнасць выдатнага беларускага асветніка. Таму, нам здаецца, многіх чытачоў зацікавіць кніга М. Бацвінніка, у якой даследуецца дзейнасць Лаўрэнція Зізанія, эпоха і асяроддзе, у якіх ён жыў і тварыў.

**Выдавецтва «Навука і тэхніка». Мінск, 1973 г. На рускай мове.**

• Папытай у кнігарні

# НАШ ПРАКТЫКУМ

### ФІЗІКА

Форма ўступнага экзамена па фізіцы для абітурыентаў, якія паступаюць на фізічны факультэт Беларускага ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна, застаецца нязменнай на працягу шэрагу гадоў, нягледзячы на тое, што самі правілы прыёму змяняюцца даволі часта.

Абітурыентам прапануецца адказаць на тры пытанні білета, якія складзены ў строгай адпаведнасці з праграмай, і рашыць задачу, якая арганічна дапаўняе білет. Пытанні білета і задача ахопліваюць чатыры розныя раздзелы курса фізікі. Калі, напрыклад, першае пытанне білета ўзята з раздзела механікі, другое — з малекулярнай фізікі і цеплыні, а трэцяе — з оптыкі і будовы атама, то задача адносіцца да раздзела электрычнасці. Калі пытанні, якія ўнесены ў білеты, для абітурыентаў не з'яўляюцца новымі, паколькі яны даслоўна ўзяты з праграмы, то задачы заўсёды маюць пэўны элемент нечаканасці, бо іх умовы абітурыентам загадзя не вядомыя. Вось чаму ўменне рашаць задачы з'яўляецца зарукай паспяховай здачы ўступнага экзамена па фізіцы. Для медалістаў, якія здаюць толькі адзін уступны экзамен па фізіцы, уменне рашаць задачы з'яўляецца рашаючым фактарам пры паступленні ва ўніверсітэт.

За апошнія гады з'явілася мноства розных дапаможнікаў па фізіцы для паступаючых у ВНУ. Кожны з іх адлюстроўвае той узровень патрабаванняў, які прад'яўляецца да абітурыентаў, што паступаюць у адпаведную ВНУ.

Натуральна таму, што «Дапаможнік па фізіцы для паступаючых у ВНУ» пад рэдакцыяй Г. С. Кямброўскага, С. І. Галко і Л. І. Ткачова, выдадзены ўніверсітэтам, дае ўяўленне аб тых патрабаваннях, якія прад'яўляюцца да абітурыентаў, што паступаюць на фізічны факультэт універсітэта.

Можна таксама рэкамендаваць кнігу В. К. Кабушкіна «Методыка рашэння задач па фізіцы» (выдавецтва Ленінградскага ўніверсітэта), якая выйшла ў 1972 годзе і «прысвечана непасрэднаму падыходу да самога рашэння задач з магчыма большай строгасцю». У кнізе прыводзіцца прыкладная схема рашэння задач, методыка абгрунтавання абранага спосабу рашэння, а таксама аналіз рашэння даволі вялікай колькасці задач.

Варта адзначыць, што на ўступных экзаменах па фізіцы ў БДУ імя У. І. Леніна не падбіраюцца «звышцяжкія» задачы. Галоўная ўвага надаецца таму, як абітурыент разумее фізічную сутнасць з'яў і ўмее выкарыстаць тэарэтычныя веды на практыцы, у прыватнасці, пры рашэнні задач. Каб пацвердзіць сказанае, прыводзім некалькі тыповых задач з тых, якія прапаноўваліся абітурыентам, што паступалі на фізічны факультэт універсітэта ў 1972 годзе.

#### Задача № 1

Матэматычны маятнік, г. зн. невялікі шарык на тонкай бязважкай ніцы, першапачаткова знаходзіцца ў гарызантальным становішчы (мал. 1). Даўжыня ніткі маятніка роўна l. На адлегласці $H=\frac{l}{2}$ пад кропкай падвеса маятніка размешчана гарызантальная плітка.

На якую вышыню h узнімаецца шарык пасля ўдару аб плітку, калі ўдар лічыць выключна пругкім?

**Дадзена:** $l$;

$$H=\frac{l}{2};$$

h—?




Мал. 1.

**Рашэнне.** Выходзячы з закона захавання энергіі, хуткасць шарыка ў момант удару роўна



$$v=\sqrt{2gH}=\sqrt{gl}$$

З геаметрычных меркаванняў вугал $\alpha=30°$. Тады $v_1=v\cos\alpha$. Паколькі ўдар выключна пругкі, то складаючая хуткасці $v_2$ не змяняецца, а $|v_3|=|v_1|$ і максімальная вышыня ўздыму шарыка роўна:

$$h=\frac{v_3^2}{2g}=\frac{l\cdot\cos^2\alpha}{2}=\frac{3}{8}l;$$

Варта звярнуць увагу на тое, што шарык маятніка ва ўмовах дадзенай задачы, нягледзячы на выключна пругкі ўдар, не ўзнімаецца на ранейшую вышыню $\frac{l}{2}$.

#### Задача № 2

Да канцоў каромысла, масу якога можна не прымаць пад увагу, прымацаваны два аднолькавыя аднародныя шары (мал. 2). Маса кожнага шара — m, а адлегласць паміж іх цэнтрамі — $l$. Пад адным з шароў змешчана аднароднае шарападобнае цела масай M, адлегласць паміж іх цэнтрамі h.

Які перагрузак неабходна змясціць на другі шар, каб раўнавага каромысла не парушалася?

**Дадзена:** m
$l$
M
h
$\Delta m$—?




Мал. 2.

**Рашэнне.** Выкарыстоўваючы правіла момантаў для выпадку раўнавагі, можам запісаць:

$$\gamma\frac{mM}{h^2}\cdot\frac{l}{2}=\Delta mg\frac{l}{2}+\gamma\frac{(m+\Delta m)M}{h^2+l^2}\cdot\frac{l}{2}\cos\alpha$$

$$\text{дзе: } \cos\alpha=\frac{h}{\sqrt{h^2+l^2}}$$

Такім чынам, момант сіл прыцягнення $f_1$ паміж масамі m і M правага пляча ўраўнаважваецца момантамі сілы цяжару перагрузка $\Delta m$ і сілы прыцягнення $f_2$ паміж масамі M і $(m+\Delta m)$ левага пляча.

Паколькі моманты сіл цяжару шароў з масамі m ураўнаважваюць адзін аднаго, то на чарцяжы і ва ўраўненні яны не адлюстраваны.

Далейшае знаходжанне велічыні $\Delta m$ асаблівых цяжкасцяў не выклікае:

$$\Delta m\left[g+\gamma\frac{Mh}{(h^2+l^2)^{3/2}}\right]=\gamma mM\left[\frac{1}{h^2}-\frac{h}{(h^2+l^2)^{3/2}}\right]$$

Улічваючы, што $g\gg\frac{\gamma Mh}{(h^2+l^2)^{3/2}}$

$$\Delta m=\frac{\gamma mM}{g}\left[\frac{1}{h^2}-\frac{h}{(h^2+l^2)^{3/2}}\right]$$

#### Задача № 3

Два дастаткова аддаленыя адзін ад другога шары (мал. 3), радыусы якіх роўныя $R_1$ і $R_2$ $(R_1>R_2)$, маюць аднолькавыя дадатныя зарады q.

Шары злучаюцца дротам, ёмкасць якога можна не прымаць пад увагу. У якім напрамку будуць перамяшчацца зарады? Якая колькасць электрычнасці перамесціцца з аднаго шара на другі? Якімі будуць агульны патэнцыял φ і зарады шароў $q_1$ і $q_2$ пасля злучэння?

**Дадзена:** $R_1$
$R_2 (R_1 > R_2)$
$q$
$\Delta q$—?; $\varphi$—?
$q_1$—?; $q_2$—?




Мал. 3.

**Рашэнне.** Да злучэння патэнцыялы шароў былі:

$$\varphi_1 = \frac{q}{4\pi\varepsilon_0 R_1} \text{ і } \varphi_2 = \frac{q}{4\pi\varepsilon_0 R_2}.$$

Відавочна, што $\varphi_2 > \varphi_1$.

Пасля злучэння шароў электрычныя зарады будуць перамяшчацца з меншага шара на большы да ўстанаўлення аднолькавага для абодвух шароў патэнцыяла $\varphi$. Так як агульны зарад захоўваецца, то для зарадаў $q_1$ і $q_2$ можна запісаць:

$$2q = q_1 + q_2 = 4\pi\varepsilon_0 R_1\varphi + 4\pi\varepsilon_0 R_2\varphi = 4\pi\varepsilon_0\varphi (R_1 + R_2);$$

Адкуль патэнцыял $\varphi = \dfrac{2q}{4\pi\varepsilon_0 (R_1 + R_2)}$;

$$\text{Тады } q_1 = C_1\varphi = \frac{2qR_1}{R_1 + R_2}$$

і

$$q_2 = C_2\varphi = \frac{2qR_2}{R_1 + R_2}.$$

Змяненне зарада на кожным шары

$$\Delta q = q_1 - q = q - q_2 = q\,\frac{R_1 - R_2}{R_1 + R_2}.$$

### Задача № 4

На адлегласці 60 см ад увагнутага люстра на яго аптычнай восі змешчана кропкавая крыніца святла S (мал. 4). На якой адлегласці ад увагнутага люстра трэба змясціць плоскае люстра, каб промні пасля адлюстравання ад увагнутага, а затым плоскага люстра сабраліся ў кропцы S? Ці зменіцца становішча кропкі сустрэчы промняў, калі яны спачатку будуць адлюстроўвацца ад плоскага люстра? Радыус увагнутага люстра 80 см.

**Дадзена:** $a = 60$ см
$R = 80$ см
$l$—?




Мал. 4.

**Рашэнне.** Так як крыніца S знаходзіцца паміж фокусам і цэнтрам сферычнага люстра, то яго адлюстраванне $S_1$ павінна атрымацца за цэнтрам сферычнага люстра на адлегласці

$$b = \frac{aR}{2a - R},$$

што вынікае з формулы ўвагнутага люстра.

Плоскае люстра павінна падзяліць адлегласць $SS_1$ папалам, г. зн.



$$l = \frac{a + b}{2} = \frac{a^2}{2a - R} = 90 \text{ см}.$$

У выніку абарачальнасці аптычных промняў становішча кропкі сустрэчы не зменіцца.

### Задача № 5

На галоўнай аптычнай восі тонкай лінзы дыяметрам $d_1 = 10$ см на адлегласці ад яе $l =$ м змешчана крыніца святла сілай $J = 10$ свечаў. Па другі бок лінзы перпендыкулярна аптычнай восі размешчаны экран на такой адлегласці, што на ім утвараецца светлавы кружок дыяметрам $d_2 = 4$ см.

Чаму роўна асветленасць у цэнтры экрана?

**Дадзена:** $d_1 = 10$ см;
$d_2 = 4$ см;
$l = 1$ м;
$J = 10$ св.;
$E$—?




Мал. 5.

**Рашэнне.** Асветленасць лінзы

$$E_1 = \frac{4\Phi}{\pi d_1^2},$$

дзе $\Phi$ — светлавы паток, які падае на лінзу.

З другога боку, улічваючы, што $l \gg \dfrac{d_1}{2}$

$$E_1 \approx \frac{I}{l^2}$$

Асветленасць экрана

$$E = \frac{4\Phi}{\pi d_2^2}$$

Тады

$$E = \frac{I}{l^2}\left(\frac{d_1}{d_2}\right)^2 = 62{,}5 \text{ лк}.$$


**А. ЛАБУДА,**
**нам. дэкана фізічнага факультэта БДУ імя У. І. Леніна, дацэнт;**
**С. ГАЛКО,**
**старшы выкладчык кафедры агульнай фізікі;**
**Г. НОВІК,**
**старшы інжынер навукова-даследчага інстытута прыкладных фізічных праблем.**




# ЦІКАВА ВЕДАЦЬ, ШТО...

## АЙСБЕРГ — У ПУСТЫНЮ

Наша планета адчувае ўсё большую смагу: запасы пітной вады на ёй змяншаюцца з году ў год. У розных краінах ідуць пошукі рашэння гэтай важнай для чалавецтва праблемы. Многія вучоныя выношваюць ідэю буксіравання айсбергаў да ўзбярэжжаў засушлівых раёнаў. Гэта не ўтопія. Можна, напрыклад, буксіраваць айсбергі Антарктыды ў краіны паўднёвага і, мусіць, паўночнага паўшар'яў. Падлічана, што буксіроўка айсберга да паўночна-заходняга ўзбярэжжа Аўстраліі зусім рэнтабельная. Пры выкарыстанні аднаго буксірнага судна, якое дазваляе перасоўваць айсберг з хуткасцю крыху меншай за адзін кіламетр у гадзіну, усё падарожжа зойме каля 250 дзён. Гэты разлік зроблены для айсберга, які змяшчае 207 мільярдаў галонаў вады. Многа гэта ці мала? Галон — 3875 літраў, а насельніцтва Аўстраліі (не лічачы астравоў) 10 мільёнаў чалавек. Калі весці вылічэнне па маскоўскіх нормах ужывання вады, айсберг дае (нават пры страце ў дарозе з Антарктыды 25 працэнтаў яе) 0,75 мільярда тон вады, г. зн. 75 тон на аднаго жыхара Аўстраліі, а гэта паўгадавая норма. Два такіх айсбергі ў год забяспечаць вадою ўсю Аўстралію! Каштаваць жа гэтая вада будзе ў 8—10 разоў танней, чым *апрэсненая з мора*.

## ПАСКАРАЛЬНІК РОСТУ РАСЛІН

Даследаванні амерыканскіх і канадскіх вучоных паказалі, што апрацаванае промнем рубінавага лазера насенне бобу, радыскі, гарбуза і люцэрны прарастае хутчэй. У адным з доследаў абпраменены высокай дозай боб (50 дж/см$^2$) даў парасткі праз сем дзён пасля пасадкі, а кантрольныя высевы без абпраменьвання ўзышлі на дзесяты дзень; для поўнага развіцця абпрамененаму бобу трэба было 16 дзён, кантрольным раслінам — 26 дзён.

## ГАЗЕТЫ — КАРОВАМ

Што рабіць са старымі газетамі? Вучоныя з Пенсільванскага ўніверсітэта (ЗША) сцвярджаюць, што самае лепшае — карміць газетнымі лістамі жывёлу. Газеты здрабняюцца і змешваюцца з патакай. Эксперымент, які працягваўся 56 дзён, паказаў, што цяляты, «адкормленыя» газетамі, больш прыбаўлялі ў вазе і менш хварэлі, чым цяляты на звычайным рацыёне.

## КАЛІ ПАЧАЎСЯ ДРЭЙФ КАНТЫНЕНТАЎ

Паводле думкі многіх спецыялістаў, Афрыка і Паўднёвая Амерыка ў вельмі далёкую геалагічную эпоху былі адным пракантынентам, які потым раскалоўся. Закончыўшы аналіз палеамагнітных узораў парод, якія належаць юрскаму перыяду і сабраны ў розных раёнах Паўднёвай Амерыкі, аргенцінскія вучоныя прыйшлі да вываду, што працэс расколу вялікага пракантынента пачаўся ў ніжнеюрскую эпоху, г. зн. 175—195 мільёнаў гадоў таму назад.

## ЖЭНЬШЭНЬ У КОЛБЕ

У Інстытуце фізіялогіі раслін АН СССР праведзены доследы па вырошчванні культуры тканак жэньшэню. Прырост культуры тканкі жэньшэню складае 5—6 грамаў за месяц, што значна перавышае хуткасць прыросту гэтай расліны ў лесе ці на плантацыі. Праверка прэпаратаў, атрыманых з культур тканак жэньшэню, паказала, што яны не горшыя за прэпараты, атрыманыя з кораня самой расліны. Больш таго, пры вырошчванні ў цемры культура тканак пераўзыходзіла расліну па фармакалагічнай актыўнасці. Цяпер праблема пастаўкі жэньшэню амаль цалкам зводзіцца да чыста тэхнічных праблем: стварэння ўстаноўкі для бесперапыннага вырошчвання вялікіх колькасцяў клеткавай масы.

●

**...калі цюлень плыве па паверхні, яго сэрца б'ецца з частатой 100 удараў у мінуту, але як толькі ён нырне, рытм сардэчных скарачэнняў змяншаецца ў дзесяць разоў, а патрэбнасць у кіслародзе паменшваецца ў пяць разоў;**

●

**...у *некаторых рыб*, якія жывуць у арктычных морах, з набліжэннем зімы рэзка змяняецца кроў — павялічваецца ўтрыманне соляў, якое набліжаецца да канцэнтрацыі іх у марской вадзе. «Зімовая» кроў замярзае толькі пры 1,8°, а летняя — пры 0,8°;**

●

**...у спальным мяшку з гагачага пуху можна спаць нават пры 50-градусным марозе. Пуху з аднае гагары хопіць на невялікую коўдру;**

●

**...у Цэнтральным інстытуце гематалогіі і пералівання крыві нядаўна створаны штучны гемаглабін — галоўны пераносчык кіслароду ў нашым арганізме. Гэты прэпарат уяўляе сабой спалучэнне малекул палімераў з лекавымі сродкамі;**



## ЛАК ЗАМЕСТ БАТАРЭЙ

Адна англійская фірма пачала выпрацоўваць лак на сілікатнай аснове, які замяняе батарэі цэнтральнага ацяплення. Да пафарбаванай лакам сцяны падключаюць алюмініевыя пласціны, злучаныя з электрасеткаю праз трансфарматар, які змяншае напружанне да 40 вольт. Прапускаючы электрычнасць, лак выдзяляе цеплыню. Да лаку можна дакранацца, не баючыся ўдару токам. Ён неадчувальны да змен тэмпературы, можа быць любога колеру, прыемнага для вока.

## 0,0001 СЕКУНДЫ!

З такой дакладнасцю вымярае рэакцыю нервовай сістэмы на ўздзеянне розных раздражняльнікаў прыбор, сканструяваны венгерскімі інжынерамі. Ім можна карыстацца пры вызначэнні прафесійнай годнасці шафёраў, лётчыкаў і людзей іншых прафесій, дзе патрэбна вельмі хуткая рэакцыя.

## БАЧУ... ЖЫВАТОМ

Калі чалавек зусім сляпы, ён павінен прывучыцца бачыць скураю — так лічыць прафесар Вітальд Старкевіч, загадчык клінікі Шчэцінскага медыцынскага інстытута (ПНР). Ён стварыў новы электрафталм — апарат для штучнага зроку. Сляпы адзявае на галаву аптычную сістэму са «штучнаю сятчаткаю», якая складаецца з мноства фотасупраціўленняў. Светлавы сігнал, што трапіў на фотасупраціўленне, прымушае спецыяльныя прыстасаванні націскаць на лоб у адпаведным месцы і такім чынам «малюе» на лбе прыблізны малюнак акаляючага. Пасля трэніроўкі пацыент навучаецца расшыфроўваць малюнак і ўжо без староннай дапамогі адрознівае простыя рэчы. Напрыклад, ён «бачыць» дзверы на фоне сцяны, вокны і г. д. Цяпер Старкевіч рашыў прыёмнае аптычнае прыстасаванне ўманціраваць у акуляры, а сістэму перадачы сігналаў на скуру схаваць на жываце ці на грудзях пацыента.

## МОВА ПЧОЛ

Назіраючы за жыццём і паводзінамі пчол, энтамолагі прыйшлі да думкі, што для перадачы інфармацыі адна адной пчолы маюць дзве «мовы». Адна з іх названа «танцам пчол». Пчала «танцуе», г. зн. круціцца на месцы, і па характары гэтага «танца» яе родзічы вызначаюць, у якім напрамку трэба ляцець па ўзятак. Другім сродкам з'яўляюцца гукі, якія ўтвараюцца і ўлоўліваюцца «антэнамі», што на галаве пчалы. Нядаўна была знойдзена іх трэцяя «мова»: мова пахаў. Пахі з'яўляюцца як быццам бы другараднай інфармацыяй і апавядаюць пра якасць знойдзенай ежы, у той час як першыя дзве «мовы» служаць толькі для вызначэння месцазнаходжання пчалы.

●

**...урачы рэкамендуюць даваць дзецям невялікую колькасць рэдкага элемента селену — надзейнага сродку для ўмацавання зубоў. Раней меркавалі, што толькі недахоп фтору ў вадзе прыводзіць да разбурэння зубоў. Цяпер даказана, што нават пры недахопе фтору селен папярэджвае зубы ад карыёзу;**

●

**...на Камчатцы — звыш 400 леднікоў, хаця лёдам пакрыта ўсяго толькі паўпрацэнта яе тэрыторыі. Даўжыня многіх з гэтых леднікоў дасягае некалькіх кіламетраў;**

●

**...толькі за апошнія гады ў Прыбалтыцы адкрыты тры месцанараджэнні нафты. Геолагі ацэньваюць плошчу нафтаносных зямель у прыбалтыйскіх рэспубліках у 90 тысяч квадратных кіламетраў;**

●

**...хвалі і цячэнні штогод адрываюць ад узбярэжжа мораў і акіянаў да 1,5 кубічных кіламетраў сушы. Рэкі ж штогод выносяць у мора не менш як 12 кубічных кіламетраў цвёрдых часцінак.**

# А ТРАДЫЦЫІ ЁСЦЬ!

З даўніх часоў захапляліся ў Беларусі шахматамі. Але сапраўды народны характар гэта старажытнейшая гульня набыла пасля Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі. Масавасць парадзіла і майстэрства. Яшчэ ў пачатку 30-х гадоў на ўвесь голас прымусіў гаварыць пра сябе тады зусім юны шахматыст Г. Верасаў, адзін з ветэранаў беларускай шахматнай кагорты, які ў 1972 годзе адзначыў сваё шасцідзесяцігоддзе. Дэбютуючы на IX чэмпіянаце СССР у 1934 годзе, Верасаў паказаў сябе як выключна стойкі і бескампрамісны баец: з 21 партыі, згулянай ім, не было ніводнай з нічыйным вынікам! І хаця выйграў ён «усяго» дзевяць партый, а ў дванаццаці аказаўся пераможаным, дэбют быў бліскучы, і яму, 22-гадоваму першакатэгорніку (звання кандыдата ў майстры тады яшчэ не было, а для атрымання звання майстра трэба было мець у фінале 50 працэнтаў выйгрышных партый), дазволілі ўдзельнічаць у адным з першых нашых міжнародных па значэнні турніраў, які праходзіў у Тбілісі ў тым жа 1934 годзе. У турніры прымалі ўдзел мацнейшыя маладыя савецкія майстры, вядомы аўстрыйскі міжнародны майстар Ганс Кмох і іншыя. І зноў Верасаў гуляў з вялікім творчым напалам.

Вось адна з яго цікавых партый.

**Раузер — Верасаў,** абарона Каро-Кан (Тбілісі, 1934 г.): 1. e4 c6, 2. d4 d5, 3. Кc3 de, 4. К : e4 Кbd7, 5. Кf3 Кfg6, 6. К : f6+ К : f6, 7. Кe5 Сf5, 8. Сc4 e6, 9. g4?!

Партнёрам Верасава быў адзін з самых папулярных тэарэтыкаў, чыё імя зрабілася сінонімам шэрагу сістэм, актуальных да гэтага часу. Раузер сцвярджаў, што ход 1. e2 — e4 (!) з'яўляецца самы моцны і амаль што вядзе да стратэгічна выйгранай пазіцыі для белых. У гэтай партыі аднак Раузер ужывае небяспечны эксперыментальны ход.

9. . . . Сe4, 10. f3 Сd5, 11. Сd3, Сd6!

Імкненню белых «абкружыць» слана «d5» чорныя процістаўляюць вострую контратаку, звязаную з ахвярай фігуры.

12. c4 c : e5, 13. de К : g4, 14. Сf4.

Дрэнна 14. cd? Ф : h4+, 15. Кpd2 К : e5, 16. Фe2 К : d3, 17. Ф : d3 0—0—0 з яўнай перавагаю ў чорных.

14. . . . g5!

Моцны, паступова падрыхтаваны контрудар! Пазіцыя белых распадаецца.

15. cd

Кепска і 15. Сg3 Кe3, 16. Фe2 Фa5+, 17. Кp f2 К : c4, 18. С : c4 Фa7 і г. д.

15. . . . gf, 16. fg Ф : d5, 17. 0—0 0—0—0, 18. Лf3 Лhg8, 19. ЛЗh 3b5!, 20. Л : h5 Ф : d3, 21. Ф : d3 Л : g4+!, і белыя здаліся.

Пасля цяжкіх гадоў вайны шахматнае жыццё ў рэспубліцы год ад году набывае імклівасць і шырыню. Беларусь наведваюць многія славутыя шахматысты, некаторыя з іх назаўсёды звязваюць сваё творчае шахматнае жыццё з Беларуссю. Так, у пачатку 50-х гадоў пераязджаюць на жыхарства ў Мінск грасмайстар І. Баляслаўскі, заслужаны майстар спорту К. Зварыкіна, сяміразовы чэмпіён БССР В. Сайгін. Іх партыі ўзбагацілі скарбонку шахматнага майстэрства, на іх вучылася маладое пакаленне беларускіх шахматыстаў.

Вось некаторыя незабыўныя партыі гэтых майстроў.

**Баляслаўскі — Холмаў,** іспанская партыя (XXIII першынство СССР, 1956 г.): 1. e4 e5, 2. Кf3 Кc6, 3. Сb5 a6, 4. Сa4 Кf6, 5. 0—0 Сe7, 6. Лe1 b5, 7. Сb3 d6, 8. c3 0—0, 9. h3 Кa5, 10. Сc2 c5, 11. d4 Фc7, 12. Кbd2 cd7, 13. Кf1 Лe8, 14. Кe3 Сf8(?).

Апошні ход чорных прызнаны тэарэтычнай недакладнасцю і з таго часу не ўжываецца ў сур'ёзных партыях. Правільна 14. . . . g6. Але ў той час гэта была недаследаваная творчая праблема.

15. b4! cb, 16. cb Кc6, 17. Сb2 Фd8, 18. a3 cd, 19. К : d4 К : e4?, 20. Кd5 Фh4?, 21. Л : e4! Л : e4, 22. Кf3!, і чорныя здаліся, таму што вялікія матэрыяльныя страты непазбежныя.

**Грэчкін — Сайгін,** сіцыліянская абарона (паўфінал XVI першынства СССР, 1947 г.): 1. e4 c5, 2. Кf3 Кc6, 3. d4 cd, 4. К : d4 Кf6, 5. Кc3 d6, 6. Сe2 g6, 7. Сe3 Сg7, 8. Фd2 0—0, 9. Кb3 Кg4, 10. Сf4?

Натуральней 10. С : g4 С : g4 з прыкладна роўнай гульнёю.

10. . . . a5!, 11. a4 ce6, 12. h3 Кf6, 13. 0—0—0?

Тыповая стратэгічная памылка: кароль белых робіцца толькі зручным аб'ектам атакі чорных.

13. ... Лc8, 14. Кpb1 Кb4, 15. Кd4 (Менш небяспечным было б 15. f3) Л : c3, 16. Ф : c3 (Дрэнна і 16. bc К : e4, 17. Фe1 Кd5, 18. Сd2 С : d4, 19. cd Фb6+ і г. д.) Сa2+, 17. Кpc1 e5, 18. Сe3 К : e4, 19. Фe1 ed, 20. С : d4 Фg5+, 21. Сe3 Фe5, 22. Сd4 Сh6+!, 23. Сe3 Лfc8, 24. Сd3 Сg7, 25. c3 К : c3, і белыя здаліся.

Для аўтара гэтых радкоў гады, пражытыя ў Беларусі (з 1953 па 1968), таксама з'яўляюцца самымі запамінальнымі ў творчай шахматнай біяграфіі. Менавіта тут мне давялося спачатку стаць гросмайстрам СССР (1964 год), а потым міжнародным гросмайстрам (1965 год). Перагортваючы старонкі партый гэтага перыяду, бачу адну за адной сустрэчы ў тым або іншым буйным турніры, дзе я абараняў ці свой асабісты гонар, ці гонар калектыву спачатку на другой, а потым на першай дошках. Асабліва запомніўся поспех на III Спартакіядзе народаў СССР у 1963 годзе, дзе наша каманда заняла трэцяе прызавое месца, перамогшы ва ўпартай барацьбе такія каманды, як ленінградскую і ўкраінскую. На гэтых спаборніцтвах я змагаўся з асаблівым уздымам і, магчыма, з гэтага якраз пачаў рашучы штурм гросмайстарскіх «вышыняў».

Апошні тур спартакіяды. Гуляем з камандай Ленінграда. Асабіста я—з «самім» Барысам Спаскім. Тур рашаючы: хто выйграе — возьме бронзавыя медалі. Наша ж асабістая сустрэча вырашае лепшы вынік на дошцы. Вось гэта памятная і важная для поспеху зборнай Беларусі партыя.

**Спаскі—Суэцін,** прыняты ферзевы гамбіт: 1. d4 d5, 2. c4 dc, 3. Кf3 Кf6, 4. e3 e6, 5. С : c4 c5, 6. 0—0 a6, 7. Фe2 b5, 8. Сb3 Сb7, 9. Лfd1 Кbd7, 10. Кc3 Фc7, 11. e4 cd, 12. e5? (Няўдалы эксперымент. Мацнейшае 12. К : d4, або нават 12. Кd5!?) dc, 13. ef К : f6, 14. Кe5 Сc5, 15. Сf4 Фb6, 16. К : f7?!

На гэты ўдар белыя вельмі спадзяваліся, але іх чакае расчараванне.

16. ... 0—0 (Але не 16. ...Кp : f7?, 17. Лd6!!, і белыя выйграюць), 17. Кg5 cb, 18. Лab1 Лae8, 19. Л : b2 Фc6!, 20. Кf3 Кe4, 21. Сg3 Кc3!

Чорныя пераходзяць у рашучы контрнаступ.

22. Фd3 К : d1, 23. Ф : d1 Лed8, 24. Фe2 Фe4!, 25. С : e6+ Кph8, 26. h4 Ф : e2, 27. Л : e2 С : f3, 28. gf Л : f3, і праз некалькі хадоў белыя здаліся.

Намаганні ветэранаў у перадачы вопыту моладзі далі свой плён. Менавіта ў канцы 60-х гадоў, у перыяд найбольшых поспехаў беларускай шахматнай каманды на ўсесаюзнай і міжнароднай арэне, вылучаюцца такія вядомыя цяпер беларускія майстры, як Альберт Капенгут (нарадж. 1944 г.), Віктар Купрэйчык (нарадж. 1949 г.), Тамара Галавей (нарадж. 1943 г.), Галіна Арчакова (нарадж. 1939 г.).

З юначых гадоў А. Капенгут вызначаўся веданнем самых тонкіх дэталяў сучаснай тэорыі шахмат. Вось адзін з прыкладаў.

**Постлер — Капенгут,** сіцыліянская абарона (матч БССР—ГДР, 1964 г.) : 1. e4 c5, 2. Кf3 Кc6, 3. d4 cd, 4. К : d4 g6, 5. Кc3 Сg7, 6. Сe3 Кf6, 7. f3? 0—0, 8. Сc4 Фb6!, 9. Сb3 К : e4, 10. Кd5 Фa5+, 11. c3 Кc5, 12. Сc4?

Трэба было задаволіцца роўнай гульнёю пасля 12. К : c6 dc, 13. К : c7+ Кph8, 14. К : c8 (Фішар — Пано, 1958 год).

12. ...e6, 13. b4? Фd8, 14. bc ed, 15. С : d5 Лe8!, 16. Кpf2 Л : e3!, 17. К : c6 bc, 18. С : c6 Сa6, 19. С : a8 Лe2+, 20. Ф : e2 С : e2, 21. Кp : e2 Ф : a8, 22. Лad1 С : c3, і белыя здаліся.

А вось асаблівасць Купрэйчыка — выдатнае камбінацыйнае бачанне. Наступная партыя сыграна ім ва ўзросце шаснаццаці гадоў. Партнёрам жа быў масціты майстар.

**Купрэйчык — Эстрын,** цэнтральны дэбют (Ленінград, 1965 г.): 1. e4 e5, 2. d4 ed, 3. Ф : d4 Кc6, 4. Фe3 Кf6, 5. Кc3 Сb4, 6. Сd2 0—0, 7. 0—0—0 Лe8, 8. Сc4 d6, 9. Кh3!? Кe5 (Мацнейшае 9. ...Сe6), 10. Сb3 Сe6, 11. f4 Кc4, 12. С : c4 С : c4, 13. e5 Кd7?, 14. Кe4 Сd2+, 15. Л : d2 Сb5, 16. Фb3 Сc6, 17. Кg5 d5, 18. К : f7!

Такія моманты Купрэйчык ніколі не ўпускае. Атака белых належным чынам завяршаецца.

18. ... Кp : f7, 19. Кg5+ Кpf8, 20. Л : d5!! h6.

Дрэнна і 20. ... С : d5, 21. Ф : d5 К : e5, 22. К : h7+ Кpe7, 23. Ф : e5 Кpd7, 24. Лd1+ і г. д.

21. Кh7+ Кpe7, 22. f5 С : d5, 23. Ф : d5 Фc8, 24. f6+ Кpd8, 25. f7, і чорныя здаліся.

У апошнія гады беларуская шахматная школа перажывае нейкі застой. Сведчыць пра гэта тое, што ў двух апошніх камандных першынствах краіны (1969 і 1972 гадах) каманда Беларусі задаволілася толькі восьмым месцам. Што гэта — змена пакаленняў ці адсутнасць сапраўдных талентаў? Адказ на такое пытанне не можа быць адназначны. Але відавочна адно: шахматнай моладзі Беларусі трэба сур'ёзна і глыбока вывучаць шахматныя традыцыі сваіх папярэднікаў. А такія традыцыі ёсць, і яны маюць усе адзнакі сапраўднай школы шахматнага майстэрства.

**Аляксей СУЭЦІН,**
міжнародны гросмайстар.



● Георгі **ЮРЧАНКА**

# ПАРОДЫ

## *Пытанне*

Якія мы з табой цяпер, якія?
Такія як раней, ці не такія?

Сяргей ПАНІЗНІК

**Брынявай ранню крохкі ветрастаў**
**Касу жульвіцы кратае гулліва.**
**Узбудны певень адгаляцаваў,**
**І здзіклы конь пратэпаў спахапліва.**

**Напіцца я хацеў бы з капяжа,**
**Счуць вокліч расяновасці нявіннай,**
**Пакуль не адсякерыла мяжа**
**Тваю павінну ад маёй павінны.**

**Хачу я знаць, дальбог, не без падстаў:**
**Ці верыш ты ў нясказаныя словы!**
**Чаму ўсяліўся ў грудзі сэрцадаў!**
**Куды твае кіруюцца вызновы!**

**Мяне ў палон пытанні узялі:**
**Каму адважыць рэўнасці астанак!**
**Нашто вяселле!**
**Хрэсьбіны калі!**
**Кім ты была!**
**А я кім заўтра стану!**

**Мал. С. ВОЛКАВА**

## *Звонкі верш*




Я зраблю свісток вярбовы,
Я зраблю свісток вясновы —
Звонкі, як верш мой.

Яўген КРУПЕНЬКА

**Аднакласніцу ля студні**
**Цалаваў я ў святы, ў будні —**
**Звонка чмок ды чмок.**
**Раз прыходжу да пастою,**
**Адчуваю — штось не тое:**
**Дзверы — на замок,**
**Ой, дзверы на замок!**

**Сумаваў я досыць мала,**
**Бо ўва мне бы ўсё зайграла,—**
**Зазвінеў, як звон.**
**Падсвішчу сабе на дудцы —**
**Падыходзьце слухаць, людцы,**
**Чуеце: дзінь-дон,**
**Ой, ды дзілінь-дон.**

**Прылягае к слову слова,**
**Верш выходзіць адмысловы,**
**Як жаўрук, звініць.**
**Верш трапеча, верш лунае,**
**Ажно сам я ўжо не знаю,**
**Як сябе спыніць,**
**Эх, як сябе спыніць.**

## *Па дровы*

Пегас, што памчыць да Парнаса,
Дровы у двор валачэ.

Казімір КАМЕЙША

**Пегас парою вечаровай**
**Зацята просіцца ў гужы.**
**Хто на Парнас, а я — па дровы:**
**Хай палка лішняя ляжыць.**
**Уціснеш воз, напяўшы спіну,—**
**Нішто выбоіны і пні.**
**Што стаў,**
**парнаская лубіна!**
**А ну-тка — но, бяры, цягні!..**



